**СУСТРЭЧЫ З ЛЕНІНЫМ**

**ПЯТРУСЬ БРОЎКА ПРА ЧАС І ПРА СЯБЕ**

**ПАДЗЕІ АДНАГО ДНЯ, НАЗІРАНЫЯ ВАЛЯНЦІНАМ МЫСЛІЎЦОМ**

**ДЭБЮТУЕ ПАЭТ УЛАДЗІМІР СКАРЫНКІН**

**РАСКАЗ БЫЛОГА СЕМІНАРЫСТА**

**УСПАМІНЫ ПРА ЗМІТРАКА БЯДУЛЮ**

**РАЗМОВА ПРА ПАЭЗІЮ ПОШУКІ І ЎПЛЫВЫ МОДЫ**

**АБРАЗКІ З ЖЫЦЦЯ МІКРАСВЕТУ**

**РЭПАРТАЖ З БОРТА САМАЛЁТА-ЛАБАРАТОРЫІ**



**4**

**КРАСАВІК**

**МІНСК 1966**

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

**Заснаваны ў 1953 годзе — № 4 КРАСАВІК 1966**

**Выдавецтва «Звязда»**

## У НУМАРЫ:

Вокладка **І. Капеляна.**



**Пятрусь БРОЎКА**



# З ДЗЁН МАЛЕНСТВА

Калі ударыла «Аўрора»
Кастрычніцкім асеннім днём,
Пайшло і ў нас гудзець над борам,
Бы скалануў вясновы гром.

Разгаманіліся гушчары
Сярод узгоркаў і нізін,
Зара развесіла штандары
На гollях сосен і ялін.

Прыйшлі з вайны дамоў салдаты,
Сказалі: «Мы ўжо не рабы!»
І паўздымалі нашы хаты
Ўвысь саламяныя чубы.

І з імі камісар з'явіўся.
Казалі з Балтыкі, здалёк.
І даўні стражнік калаціўся
І браў яму пад казырок.

Пайшлі ў нас новыя парадкі,
Пакраталі таго-сяго,

Наш пан дык так намыліў пяткі —
За ноч ні следу ад яго.

Не бачыў я сялян-суседзяў,
Каб хто па пану сумаваў,
А хто ды што ў двары прыгледзеў,
Дык з тым да хаты шыбаваў.

Я помню, як прывёў мой бацька,
Нібы хароміну, вала,
І я прынёс з палаца цацку,
Усю адлітую са шкла.

Я цешыўся здабыткам гэткім —
Такі празрысты шар адліць,
Яшчэ ў сярэдзіне і кветка,
Ды як жа гэткае зрабіць?

Але нядоўга закаханы
Я ў гэтыя дзівосы быў,
Вінтоўкі, шаблі і наганы
Тады найболей я любіў.

Найбольш, найбольш, да сэрца
жару,
Мне падабаўся, хлапчуку,
Той грозны кольт у камісара,
Які матляўся пры баку.

Быў камісар на рост адменны,
Падлога гнулася пад ім,
Ён гаварыў — дрыжалі сцены,
І думаў я тады аб тым:

Што недзе ў Петраградзе вольным,
Які відно з усіх краін,
Палац, які завецца Смольны,—
Са смольных сосен ці ялін.

І мне здавалася ўсё проста,
Калі наш камісар такі,
Напэўна — ўсе вялікі ростам,
Каго завуць бальшавікі.

У іх жа плечы па сажэні,
Бо ўсе паны баяцца іх,
А больш за ўсіх, вядома, Ленін,
Бо ён галоўнейшы за ўсіх.

Наш камісар раскрыў нам тайны,
А я не мог узяць у толк,
Што Ленін ў кепачцы звычайнай
І ў простым чорным паліто.

Бо ён сказаў такія словы,
Што ажно свет ўвесь задрыжаў,
І мы, як ёсць, усе гатовы
Пайсці, куды б ён ні пазваў.



А бор гудзеў, палі гудзелі,
Да ўсходу сонца людзі йшлі,
Мы ж хлапчукамі памужнелі,
За дзень той многа падраслі.

# ВАЛРЭЎКОМАЎСКІ КУР'ЕР

Многа што сышло ў былое,
Незабыўны ж і цяпер,
Як жывы, перада мною
Валрэўкомаўскі кур'ер.

Сарамлівы, не прамоўца,
І на выгляд не герой,
У пацёртае ватоўцы,
З карабінам за спіной.

А ватоўка пры рабоце
І як схоўнік і пасцель...
Валрэўкомаўскае пошце
Не патрэбны быў партфель.

На кані сваім, як ветрам,—
Праз палі, лясы скакаў,
Ён загады ў сельсаветы
Побліз сэрца ўсе трымаў.

Не было машынак. Мала
Дзе іх собіла спаткаць,
Як магла загад пісала
Камісарава рука.

Часу наш кур'ер не траціў,
Ён вадзіў няспынны рэй.
Перад ім была задача
Ўсё даставіць як хутчэй.

Да загадаў быў уважны,
Хай, што познія часы,
Ён праз ноч скакаў адважна
Цераз пушчы і лясы.

А не дзіва ў тых мясцінах
І бандытаў напаткаць —

Выпадалася хлапчыне
Карабін з пляча здымаць.

Ды заўсёды адбіваўся
І ў сяло шпарчэй, наўскач...
Да сялян ён заяўляўся,
Як дарадчык і тлумач.

Хтось пытае, хтосьці крые,
На чым свет стаіць, зямля:
— Камуністы, хто такія?
— А такія вось, як я!

— О, брат, добра балабоніш,
Вельмі соладка пяеш!..
— Так жывем пакуль
сягоння,
А, напэўна, будзе лепш!

Гаварылі з пылам, з жарам
І між тых суровых дзён,
Думалі — за камісарам
Найважнейшы гэта ён!

Растлумачыць і разважыць,
Што ні зробіць, па плячу,
А па шчырасці, як кажуць,
І цяпер я так лічу.

Ў маёй памяці нястомна
Ён любы бярэ бар'ер —
Скача ўдзень і ноччу цёмнай
Валрэўкомаўскі кур'ер.

## ШЧАСЛІВАЯ ГАДЗІНА

І дзень і ноч праходзяць,
Так суткі і знікаюць.
Шчаслівая гадзіна,
Калі ж яна бывае?

Тады, калі захоча,
Яна сама прыкрочыць,
Бывае, што на ранку,
Бывае апаўночы.



Ніхто не адгадае,
Як вырашыць з'явіцца,
Бывае, ў сон глыбокі,
Бывае, як не спіцца.

Сама свае сцяжынкі
Яна шукаць умее —
То прыйдзе ў красаванні,
То ў лютыя завеі.

Часцей да маладога,
А часам да старога...
Шчаслівае гадзіне —
Адкрытая дарога!

## БУДЗЬ ВЕРНЫ

Увесь, як ёсць, да кроплі сілы,
Бацькам, цябе што нарадзілі,
Будзь верны!

У дзень пагодны і ў навалу
Зямлі, цябе што ўзгадавала,
Будзь верны!

Палям, узгоркам і лагчынам,
Шляхам, дарожкам і сцяжынам
Будзь верны!

Барам, галля зялёным хвалям,
Табе прытулак што давалі,
Будзь верны!

Азёрам, рэчкам-чараўніцам
І той, з якое п'еш, крыніцы
Будзь верны!

За кут свой больш няма багацця.
Святлейшай ў свеце роднай хаце
Будзь верны!

Сяброўцы шчырай і каханай,
Сябрам, таварышам адданым
Будзь верны!

Кірунку, што ты ў сэрцы маеш,
Кавалку хлеба, што трымаеш,
Будзь верны!

І што б ні трапіла з табою,
Ты сцягу, што над галавою,—
Будзь верны!

# БЕЛЫ РАМОНАК

Белы рамонак —
Сонца маленькае і трапяткія, кволыя крыллі,
Помніш, ў юнацтве як мы з табою ўсе гаварылі.

Белы рамонак,
Думалі гэтак, што ты да шчасця адкрыеш нам дзверы,
Кожны таемна ў сілу тваю надзвычайную верыў.

Белы рамонак,
Помню, калісьці я ў хваляванні крыллі зрываю,
Падаюць долу... Хай не выходзіла, думаў: кахае.

Белы рамонак,
Я не крыўдую. Светлая, ранняя мара збылася,
Бо пакахала хай і не тая, хай і па часе.

Белы рамонак,
Зноў цябе бачу, бо навакол вас болей і болей...
Толькі сябе я, таго маладога, не стрэну ніколі.

# ГОРА — ГОРЫ

Не заўсёды з намі радасць, сустракаецца маркота
І бяда жыве яшчэ,
Калі гора напаткае, горш няма за адзіноту,
І яно расце, расце...

Засланяе гора вочы, і ўжо ты не бачыш сонца,
Пад нагамі толькі жвір...
Уздымаецца да хмараў і яшчэ вышэй, бясконца,
Як Эльбрус альбо Памір.



Разгудзецца штормам гнеўным, разліецца несціхана,
Што не хочаш часам жыць,
Не, відаць, лягчэй Калумбу плыць было праз акіяны,
Чым мне гора пераплыць.

Сэрца тахкае ад болю, у вушах ад тлуму звоніць,
Дзень ад чорнага чарней,
Але вось прыходзіць сябар, памяркуе, пагамоніць,
Гора робіцца цішэй.

І калі як след разважыш, не такім страшным здаецца,
Цемру зрушыла зара,
А другі прыходзіць сябар, з твайго гора пасмяецца,
Гора — ўзгорак, не гара.

Ты мужней сябе адчуеш, ачуняеш, зварухнешся,
Нікне ўзгорак, быццам дым...
А калі ўжо ты прыходзіш ды да сэрца прыхінешся,
Дык яго няма зусім!

□□□

Валянцін МЫСЛІВЕЦ



# САКАВІК — МЕСЯЦ ВЯСЕЛЬНЫ

## ПАДЗЕІ АДНАГО ДНЯ З ЛІРЫЧНЫМІ АДСТУПЛЕННЯМІ

Мал. **В. Шрамякова**

**ДОСВІТКАМ МНЕ СНІЛАСЯ:** я выступаю на сходзе. Крытыкую начальніка за тое, што ён маўчун і не гаспадар у цэху. Упарта даказваю, што не хачу ведаць пра жонку, якая ўцякла ад яго,— гэта не павінна замінаць справе. У мяне пакалечана рука — не маеце права пасылаць на работу... А калі хто з адміністрацыі будзе чапляцца, дык папрашу Толіка Нахімава і — такое напішам у газету, што не паздаровіцца ні начальніку, ні майстру...

Толік не хоча нават слухаць, а я кажу, каб не забываўся, што мы разам паступалі на завод. Ён упарта даказвае, што і сваіх клопатаў хапае, што ён ледзь дабіўся, каб аддалі яму пакойчык у інтэрнаце, які пуставаў блізка года, што цяпер ён хоча спакойна жыць і вучыцца.

Тут Антон, кантралёр у нашай змене, крычыць з праходу, каб падышоў да кантрольнай пліты. А здаецца, рука мая здаровая і сам я вясёлы... Пасля Антон усміхаецца і гаворыць, што трэба зняць паўміліметра па вышыні, бо гэта серыйная работа.

Нясу да варштата корпус, а з-за калоны на мяне глядзіць і ўсміхаецца Коля Максімаў, які сёлета заканчвае інстытут, а таму, мусіць, заўсёды вясёлы. Спрабуе іншы раз гуляць у начальніка.

Вось гаспадыня, Ларыса Кірылаўна, ганяе з пакоя ў пакой рыжую кошку Муру, хоча ўдарыць яе панчохаю.

Аб сваёй пляменніцы, якая ўчора прыехала ў горад, у Ларысы Кірылаўны не баліць галава. Бо навошта ж было сцяліць Ніне ў маім пакойчыку, калі нават і маеш намер сасватаць нас? Я нікому не гаварыў, акрамя Воўкі, нашага брыгадзіра, што ніколі не вазьму замуж Ніну, хоць яна маладая і прыгожая,—яна толькі і робіць, што пазяхае ў чытальнай зале ды штурхае мяне ў бок, падбіваючы прайсціся па праспекце...

Варочаюся ў ложку і адчуваю, што з'ехаў на падлогу стары кажух, якім укрываюся ў марозныя ночы, і цягне холадам ад сцяны, але я не магу падняць кажух, бо гляджу на Ніну, якая таксама раскрылася ў сне.

Гучна і роўна б'е гадзіннік у зале, мне пара ўставаць, а я не магу расплюшчыць вочы. Раптам нешта мільгае перад вачыма і святлее кругом, чуецца голас Ларысы Кірылаўны:

— Сяргей, пара ўставаць...

Некалькі хвілін я ляжу ў пасцелі, успамінаю сон і пераконваюся, што на канапцы нікога няма, бо ў пятніцу Ніна ніколі не прыязджала.



**ГАДЗІНА ВОСЬМАЯ: я галіўся. Ларыса Кірылаўна расказвала сто разоў мной чутае і гатавала чай, а пасля я ішоў да трамвая і гаварыў з зямлячкаю Юнонаю, а потым мы з Антонам ехалі да завода.**

Рука мне не вельмі і баліць, але так забінтавала яе чорнавалосая сястра з хірургічнага кабінета, усю з пальцамі, што нічога не ўзяць. Таму і перавялі на пяць дзён на лёгкую работу. Вельмі не хочацца прасіць Ларысу Кірылаўну, каб заслала ложак. Яна ж сама, не паспеў я агледзецца, ужо складвае на крэсла кажух, падушку, пасцілкі. Гаспадыня ўсё войкае, ківае галавою і просіць, каб я не падыходзіў больш да пілы. Я абяцаю рабіць усё толькі нажоўкай: Ларыса Кірылаўна ўсё роўна не зразумее, што такое вытворчасць, хоць пятнаццаць гадоў жыве ў горадзе. Яна ніколі не была на заводзе.

Смех і гора, але не магу адною леваю рукой управіцца і прашу гаспадыню, каб памагла. Ларыса Кірылаўна смяецца і абедзвюма рукамі трымае мыльніцу, а я кручу памазком. Яна паглядае на бінты з плямамі ад крыві, усё бядуе пра маю рану.

— Каб плаціць, дык бы грошай не набраўся,— гаворыць Ларыса Кірылаўна.— Гляджу, дык кожны дзень голішся...

— Расце ж шчаціння, бачыце. Няёмка халасцяку...

— Мой Міхась таксама часта голіцца. А свёкар, скажы, і стары, а тры валасіны на барадзе...

Пакуль я пагаліўся і прыклеіў сліною кавалачак паперы на самым кадыку — парэзаўся, Ларыса Кірылаўна расказала, як некалі яны з Мішам, маім гаспадаром, сустракаліся, хвалілася, што ён добра ездзіў вярхом на конях. Неяк быў зламаў ключыцу, бо жаработ у полі спудзіўся жаўрука. Хапіла тады перажыванняў: яны дамовіліся распісацца да сёмухі, каб летам паспець справіць вяселле. Ды яшчэ ж і свёкар не хацеў яе ў нявесткі.

Было ўжо дваццаць тры хвіліны на восьмую. Я надзеў сваё паўпаліто, якое нашу трэцюю зіму і вясною ўжо адвязу бацьку. Ларыса Кірылаўна ўсё яшчэ вінаваціла свёкра. Я ўпусціў у хату кошку, якая, чуваць было, даўно драпала дзверы на верандзе, выйшаў.

Надвор'е за ноч зусім перамянілася. З учарашняй адлігі толькі і засталіся доўгія ледзяныя стрэлкі на стрэхах ды слізгата пад нагамі. Каля вуглоў завывае вецер і гоніць крупінкі сухога снегу, які балюча шчыпле твар. Тэрмометр паказвае ніжэй за дваццаць, хоць ідзе другая палавіна сакавіка, і мне холадна. Неба над галавою сіняе і светлае, а над пасёлкам, за балотцам з ручаінай, хутка мчацца, падрумяненыя першымі промнямі, хмаркі. На высокай грушы, на доўгай тычцы, шуміць драўляны ветрачок. На плоце стукае мёрзлая пасцілка. Я хутчэй адчыняю брамку, каб не спазніцца на работу, бо ўжо і так каторая пара.

Не паспеў ступіць і два крокі, як даганяе Юнона, хапае мяне за рукаў і, усміхаючыся, расказвае, што ўжо другі тыдзень жыве на нашай вуліцы, а працуе ў ліцэйцы, дзе пыльна, але весела.

Юнона рослая і здаецца вышэйшай за мяне, калі ідзе адна. Але мы з ёю роўныя, і я на хаду заглядаю Юноне ў вочы, бо не магу на яе не глядзець. Успамінаецца, як некалі гэтую дзесяцікласніцу я пераносіў цераз грэблю на руках, і яна абнімала мяне за шыю, а я не адважыўся яе пацалаваць.

Тады ў наш калгас на практыку заявіўся нейкі Арнольд. Вучыўся ён на апошнім курсе ў тэхнікуме, а бацька яго быццам быў генерал. На другі тыдзень пасля знаёмства з Юнонай яны распісаліся, а мне доўга не спалася начамі пасля гэтага.

— Бачыў Арнольда твайго,— гавару я, абы не маўчаць.— На зборцы ў нас працуе. І чаму ты яго прагнала?

— Сам падумай: па спецыяльнасці, як размяркоўвалі, не паехаў,— адказвае Юнона.— Пайшоў слесарам на завод. Там жа рабіць трэба. Цяжка здалося. Перавялі фрэзероўшчыкам. Зноў — больш за шэсцьдзесят не прыносіў чыстымі. А бацькі яго старыя. Добра, мама мая блізка — памагала... Дык на чорта ж такі мужык, падумай? Сарочкі яму мыць?

— Ты ж хацела стаць генеральшай...

— Дурная была, дык і хацела. А мама мая такая — нічога не скажа... Праўда, Арнольд прыгожы. Тады вельмі спадабаўся.. Але ж і ты не цаніў майго кахання. Пакіне на месяц — што хочаш думай...

— Прагнала, а разводу не даеш... Сама б шукала чалавека...

— Атрымаю кватэру, як маці-адзіночка, а там пагляджу... А яму не дам разводу. Каб другую так абкруціў? Можа адумаецца — паедзем куды-небудзь у свет, будзем жыць. Навошта ж было вучыцца яму? А тут вельмі многа пра мяне званілі — спакою не будзе.

— З-за дыпломаў жыццё губіць? Дыпломы даражэй за каханне? Што ты гаворыш, Юнона?

— Ну яго тады, Арнольда... Прыйдзі сёння ў госці... Прыйдзеш? — кажа Юнона і штурхае мяне ў бок локцем.— Прыйдзі, пагаворым... А руку глядзі — будзь асцярожны...

— Сёння заняткі. У дзесяць трыццаць канчаем, а пакуль даеду...

— У дванаццаць самы раз. Я таксама пайду на заняткі... Смела заходзь на двор — сабака прывязаны. У акно пастукаеш... Да вечара!

Юноне было блізка да прахадной, і яна звярнула на сцяжынку, пасыпаную жвірыстым пяском. Я паправіў каўнер паўпаліто і заспяшаўся да трамвая. Ішоў подбегам, і ўспаміналася, як тады, калі прачытаў пісьмо ад Юноны, хапаў зубамі падушку і штохвіліны варочаўся ў ложку, а пад раніцу, як пасля расказвала гаспадыня, голасна некага прасіў, каб аддаў мне Юнону.

На прыпынку сустрэліся з Антонам, і не паспелі пагаварыць пра надвор'е, як з-за паварotку паказаўся і хутка падышоў трамвай. Мы селі, едзем. Вось на пераездзе паравоз падаў тры гудкі: працяжны, кароткі, вельмі працяжны, а Антон ляпае мяне па калене і смяецца. Тады гаворыць, што паравозныя гудкі трывожаць яго душу.

— У армію ў сорак чацвёртым адыходзіў, дык нічога не помню. Станцыі не было, толькі будачка. Сабраліся мы ў полі, лічы, паўэшалона...— расказвае Антон і пазірае то ў твар маладзенькай дзяўчыны, што сядзіць насупраць нас, то на яе ногі. Тая чырванее і адварочваецца ад замёрзлага акна.— А вось з паненкаю сваёю пазнаёміліся — даліся ў памяць гудкі. Ужо сержантам быў, але ж не пускалі з казармы. Вырвешся калі, адзін ротны старшына ведае, і паедзеш да яе за пятнаццаць кіламетраў ад гарадка... Слова за слова, а якая там ноч летам... Праўдзе да станцыі, прытуліцца галавою да грудзей, не хоча адпускаць. Іншы раз паязды чатыры прапусцім. Дасць гудок каторы — у сярэдзіне ўсё ные... А мне ж трэба было ў казарму да пад'ёму паспець...

— Доўга ездзіў?

— Тры гады. Ну, не кожны выхадны...

— Жывеш добра?



— Нічога не скажу, добра жывём. Паненка з паўслова разумее. І я ва ўсім стараюся разабрацца, не тое, каб толькі гаварыць. Учора дакладвае, што ў інстытут хоча паступіць. Хай паступае, неяк будзем глядзець дзяцей... Трыццаць шосты ёй. Хоча вучыцца.

З пярэдніх сядзенняў пачуўся мужчынскі голас: нехта прасіў, каб Пеця надзеў рукавічкі. Я паглядзеў у той бок.

— Тата, тата, а чаму няма малюнкаў, як на дзедавых вокнах? — пытаўся маленькі хлопчык з пухленькімі чырвонымі шчочкамі, шкрабаючы пальчыкамі светла-сінявату наледзь на шыбе.— Чаму, тата?

— У дзеда двайныя вокны,— ласкава адказаў бацька.— І там, сынок, дзед Мароз, мусіць, лепшы мастак...

Пецю надзелі рукавічкі, але ён цягнуўся тварыкам да шыбіны і лізаў іней, а бацька, высокі мужчына ў карычневым паліто, абяцаў сказаць пра гэта маме.

Да пачатку работы заставалася некалькі хвілін, і мы з Антонам заспяшаліся да выхаду.

ГАДЗІНА ДЗЕВЯТАЯ: **я прашу лёгкую работу ў майстра, сяджу ў канторы, а Коля Максімаў гаворыць з нарміроўшчыкам пра дабаўку.**

Мой майстар Аляксандр Іванавіч якраз дзяжурыць у раздзявалцы. Характар яго я добра ведаю — не адразу зразумееш, калі ён сур'ёзны, калі жартуе. Я стараюся завязаць шнуркі і не магу адною рукою. А ён падганяе, каб хутчэй выходзіў.

— Аляксандр Іванавіч,— пытаюся ўжо на калідоры,— а чым мне заняцца сёння?

— Канчай мадэль,— сур'ёзна адказвае майстар і глядзіць мне ў вочы.— А што ты яшчэ хацеў?

— У мяне справка на лёгкую.

— У яго, глядзіце, справка,— голасна пачынае майстар і закідае ўгору галаву.— Мадэль трэба здаць!..

— Аляксандр Іванавіч, не жартуйце.

— Якія жарты? Мадэль аварыйная, паглядзі ў графіку.

— Што мне графік? Рука, бачыце, якая...

— А што мне рука? Было не сунуцца з такой загатоўкаю. Уяўляеш, пяць тысяч абаротаў у мінуту! Зусім магло адарваць! І запомні: ёсць хоць невялікая дуга на плоскасці — пілуй нажоўкай.

— Там не гэта. Проста піла тупая... Парвалася...

— Гавары мне казкі! Сёння на сходзе пагутарым. Ідзі наверх.

У канцы калідора сустракаю Толіка Нахімава, ён завязвае мне шнуркі і расказвае, што ўчора ледзь справіўся падбегчы і падхапіць мяне, калі я страціў прытомнасць...

— Ідзі да начальніка, можа дамоў адпусціць,— гаворыць Толік, зірнуўшы на гадзіннік.— Смела там: ён з усіх — чалавек. А я канструктару пакуль што пазваню, каб падглушыў там у барабане.

З цэха бяжыць па калідоры і дробна стукае вострымі абцасікамі чырвоных боцікаў Зіна, наша табельшчыца і касір. Прыпынілася каля нас, ледзь дакранулася тонкім мезенчыкам да бінтоў на маёй руцэ, пытаецца:

— Баліць?

— Цярпець можна...

— Можна цярпець...— засмяялася Зіна, зірнула на Толіка і зноў пабегла ўверх па прыступках.

На другім паверсе я стаў каля акна на сонцы, думаю, што сказаць начальніку. Гляджу на хлопцаў на двары каля цэха — яны ў вялікіх сівых валёнках. Старанна складваюць дошкі ў штабель. Ходзяць ціха і час ад часу мацаюць рукамі чырвоныя ад марозу вушы.

У канторы я так моцна пытаю, ці ў кабінеце начальнік, што ажно Зіна падняла галаву. Стукаюся ў кабінет да Аляксея Пятровіча.

Ужо месяцаў каля пяці я не заходзіў «наверх». Цяпер мне здаецца, што начальнікаў пакойчык паменшаў, бо пасярэдзіне стаіць прадаўгаваты чырвоны стол і дванаццаць крэслаў — па шэсць абапал, каля яго. Аляксей Пятровіч курыць папяросу і глядзіць у акно. Я расказваю, што ўчора парвалася стужкавая піла і параніла мне руку. Аляксей Пятровіч толькі ківае галавою — маўчыць. Я пастаяў некалькі хвілін і выйшаў.

Дыспетчар цэха, лысы, у вайсковым кіцелі, некуды звоніць па тэлефоне, а там — усё занята. І ён злуецца, паўтарае за кожным разам:

— Чорт вазьмі, сувязь!

За сталом сядзіць нарміроўшчык Сямён і, як заўсёды пасля рыбалкі, часта кашляе ў кулак. Вось ён абапёрся локцямі на чарцёж, што займае ледзь не ўвесь канцылярскі двухтумбавы стол, і малюе жаночыя постаці. Пасля паказвае іх Зіне, якая ў другім куце канторы нешта піша і сама сабе ўсміхаецца.

Вось рыпнулі дзверы ад кабінета начальніка, і ў кантору выйшаў Аляксей Пятровіч.

— Трэцяя катэгорыя складанасці... Семдзесят гадзін па трэцяму,— у тую ж секунду голасна пачаў разважаць Сямён і ўглядацца на табліцу тарыфаў, што выпісана вялікімі чорнымі знакамі і вісіць на сцяне над Зінаю.— Дваццаць восем дзевяноста адна. На пяць дзён...

Дыспетчар ужо восьмы раз падыходзіць да тэлефона, усё просіць, каб тэрмінова перадалі кладаўшчыку падысці «наверх» і, палажыўшы трубку, гаворыць:

— Чорт вазьмі, служба...

— Дзвесце сорак чацвёрты корпус запусцілі ў работу?— пытаецца Аляксей Пятровіч у дыспетчара.— Аварыйны. Абавязкова сёння ў работу...

— У восем дзесяць, Аляксей Пятровіч, аддаў цаніць,— хутка адказаў дыспетчар.

— А што там цаніць — тры памеры...

— Я адзін, Аляксей Пятровіч, і не машына,— спакойна сказаў Сямён і закашляўся.— Не схапіць жа аднаму ўмомант...

— Трое было — і той самы з вас толк,— махнуў рукою начальнік. — Кніжкі чыталі на рабоце... Выпісвайце нарад і чарцёж запускайце ў работу. Па нашай віне і капейкі не павінна трапіцца. Усё ў тэрмін.

Начальнік папярэдзіў Зіну, каб з абеду ішла палучаць грошы, і з дыспетчарам яны выйшлі з канторы. Сямён адкладвае ўбок аловак, дастае цыгарэту, прыкурвае і самазадаволена ўсміхаецца.

— Што, Сярога, піла пальчык укусіла?— кажа ён да мяне.— І сачок ты, Сярога! Умудрыцца — каля станка заснуць... Рэакцыя ў цябе запавоЛеная. Людзі вунь рукою струмень расплаўленага жалеза перабіваюць.

— Хіба праўда?— перапытала Зіна і ўздрыгнула.

— Глупства,— сказаў я.— Тут проста выпадак. За шэсць гадоў работы ў цэху...





— Воўка вунь семнаццаць гадоў працуе і нічога,— не сунімаецца Сямён.— Эх ты, мадэльшчык!..

У кантору зайшоў дыспетчар, а Сямён усё жартуе, рады што я злуюся.

— Так і на пенсію не доўга,— гаворыць Сямён.— Добра, што піла была тупая, а так бы пальцы шахнула...

— Вось іменна, што тупая. Калі б вострая, дык бы не парвалася. Тэхніка бяспекі часцей на паперы. Колькі гадоў тырчалі пажарныя краны на праходзе ў калідоры! Пакуль Воўка на бюлетэнь не пайшоў. А да свідравальнага і цяпер няма ключа, каб заціскаць патрон. Толік церпіць, а каб напісаў у газету...

— Нахімаў ужо абпёкся,— прыжмурыўшы вочы, махае галавою Сямён.— Хваліць Антона, а што ён зрабіў для цэха?

— Толік правільна піша,— ціха сказала Зіна.

— А ты б маўчала!— крычыць нарміроўшчык.

— Сямён, стукну!..— адказала Зіна і цяжка ўздыхнула.— А Толік правільна піша..

— Ціха, дзеці,— спакойна сказаў дыспетчар.— Папружка на вас трэба, чорт вазьмі.

Усе змоўклі, а я чытаў кніжачку, дзе значылася, што рабочы па просьбе адміністрацыі мае права заставацца на вытворчасці пасля змены не больш за дзве гадзіны. Сямён пісаў нарад і так часта цягаў цыгарэту, што закашляўся нават дыспетчар над чарцяжамі. Мне не цярпелася пачуць, хто ж з іх парушыць маўчанне. Раптам шырока расчыняюцца дзверы ў кантору, і заходзіць Коля Максімаў: без шапкі, ад поту блішчыць лоб. Зіна ні з таго, ні з сяго засмяялася, міргнуўшы мне. Коля трымае чарцёж у руках, не можа даўмецца, з чаго смех, чырванее.

— Вось, малайчына, зашыўся...— гаворыць Коля да мяне і глядзіць на вокладку кніжачкі.— Прафсаюзнае жыццё вывучаеш?

Мне захацелася піць, і я ступіў да акна, дзе стаяў графін. Прайшоў так блізка каля Зіны, што адчуў цеплыню яе цела. Коля паляжыў чарцёж нарміроўшчыку на стол.

— Сямён, трэба расцэнку перагледзець,— ціха сказаў ён, і рукі яго дрыжалі.— Па тры рублі за дзень не выйшла.

— Будзем глядзець.

— Сто шэсцьдзесят восьмы барабан...

— А, барабан... Нічога, Коля, не будзе. Усё правільна. Ужо з Аляксандрам Іванавічам па кнізе правяралі. Яна дырэктарам зацверджана, гэтая расцэнка...

— Глядзі, колькі работы...— гаварыў Коля.— Схілы, радыусы. Усё ўручную.

— Расцэнкай улічана. Думаеш, на неба гляджу, як цаню?

— Сарочка ад поту мокрая.

— Ёлкі-палкі, прыстаў! Расцэнка правільная! Рады быў бы, а не маю права раскідвацца дзяржаўнай капейкай.

Коля нервова згроб са стала чарцёж і выйшаў.

— Дзівак, сарочка мокрая...— глядзіць на дзверы Сямён.— Не можа зразумець...

— Чорт вазьмі, а расцэнку трэба праверыць,— глыбока ўздыхнуўшы, сказаў дыспетчар. — Так і кадры разгонім. Усё роўна ж сярэдні выведзеш яму ў канцы месяца.

— І вы яшчэ вучыць!— раптам крыкнуў Сямён і выйшаў з-за стала.— Нахімаў такі самы, страшыць газетаю. Чхаць мне на ўсіх... У мяне нарматывы.



— Сёма, што з табою? Такое надвор'е,— сказала Зіна,—на рыбалку ў нядзелю паедзеш?

— І ты хочаш? Толіка прасі, ён і сёння падвязе. У мяне жонка...

— Сямён, стукну,— сказала Зіна, а блакітныя вочы яе блішчалі. Яна часта міргала.— На мяне гавары. А што Толік... Ён добры.

— Ад такога добрага аловак і паперу хаваць трэба,— смяецца Сямён.— Напісаў пра Антона...

Зноў я гартаю кніжачку прафсаюзнага работніка і выпадкова чытаю, што ўсе маладыя спецыялісты, якіх накіроўваюць на работу, у першую чаргу забяспечваюцца жыллём. Дыспетчар уздыхае і гаворыць сваё злюбаванае:

— Чорт вазьмі!

Ён глядзіць на вуліцу, а я заўважаю, як ад правага вуха дугою спаўзае па шыі за каўнер кіцеля шырокі шрам, і ўспамінаю, што некалі дыспетчар цэлы год чакаў кватэры, а Сямён атрымаў адразу, як паступіў на работу.

— Сяргей, не ў службу,— ласкава глядзіць на мяне дыспетчар.— Перадай пісульку Касьяну: усе галоўкі да абеду падаць у цэх.

— Ёсць,— аўтаматычна кажу я і выходжу з канторы.

**ГАДЗІНА ДЗЕСЯТАЯ: я глядзеў на двор з другога паверха, а потым у курылцы знайшоў Касьяна.**

Снег ужо трохі пачарнеў, зырка свеціць сонца.

Гляджу на грузчыкаў, што сядзяць за кантэйнерам выцяжной вентыляцыі. Успамінаецца, як Барыс, адзін з грузчыкаў, прасіў летась, каб яму дабавілі паўаклада, і яму такі дабавілі. Сямён бы адразу сказаў, што грузчыкаў трэба адно падганяць, каб рабілі і не думалі пра грошы.

Прыслухоўваюся да гамонкі ў калідоры. Сямён, мусіць, нешта чытае...

«Ужо на хаду я ўскочыў у аўтобус і з дзвярэй памахаў рукою Антону. Скураною пальчаткаю працёр замерзлае акно і глядзеў на тратуар, якім пайшоў кантралёр, на шэрыя дамы паўз вуліцу. Ужо ўсё патанула ў белай завірусе, а нечага ныла ў грудзях пад посвіст замеці, трапятала сэрца — здавалася, што часцінка душы пайшла з Антонам».

— Каму трэба такая лірыка?— не без гумару ў голасе пытаецца нарміроўшчык.— Паэзію і гной у кучу змяшаў Нахімаў.

— Ды ідзі ты, Сямён, у сваю кантору. Дай нам пагаварыць,— кажа Касьян.

Я ціха спусціўся па прыступках і падаў Касьяну запіску дыспетчара. Ён паправіў акуляры, паднёс паперку да носа, і нервова ўздыгнулі яго маршчыністыя шчокі. Усе маўчалі, і мне так шкада стала старога кладаўшчыка, што захацелася самому прывезці ў цэх галоўкі — такая пакута чыталася на яго твары. Касьян устаў з лаўкі, азірнуўся і хутка пакульгаў па калідоры: у яго ныла, як ён казаў, левая нага, якую, яшчэ хлопцам, пакалечыў у лесе. Гэта не проста так, калі ўжо самы ціхі чалавек у цэху раззлаваўся на Сямёна...

Усе маўчаць.

Я стаю збоку, прыпёршыся да калоны плечуком. Вось бачу, як Толік глядзіць у падлогу, а пасля ўстае з лаўкі і ціха ідзе ў цэх. Антон запірае цыгарэту, кідае яе ў сметніцу і таксама вылятае ў калідор. Я пастаяў некалькі хвілін і следам за імі пайшоў у цэх.

**ГАДЗІНА АДЗІНАЦЦАТАЯ: «малакроўны» Лёнька расказваў пра сваё каханне да Алкі з хімлабараторыі, брыгадзір Воўка паказваў выразку з часопіса, і мы гаварылі.**

У канцы калідора, перад самым выхадам у цэх, усім целам адчуваю шум вентыляцыі і прыпыняюся, бо ўяўляецца мне нейкая знаёмая, чыстая мелодыя. Прыслухоўваюся хвіліну, другую, і прыгадваецца родная пушча, што падковаю агінае сяло, сухая і свежая на сонцы. Вось мроіцца, як бяжыць за мною фашыст, хапае мяне, малога, за каўнер і таўчэ лбом у каравы ствол дуба...

Добра запомніў цябе, фашыст, вечна буду помніць! У тую цёплую чэрвеньскую раніцу нечакана з'явіўся ты на выгане, лютым зверам вынырнуў з туману і строкатам аўтамата прымусіў мяне, шасцігадовага пастушка, прыпасці ўсім целам да зямлі і паўзці паміж купін да лесу, не звяртаючы ўвагі на страляніну. Твой паганы бот, якім ты прытаптаў мяне да зямлі, вісеў нада мною праз гады. Я казаў табе, фашыст, вылучаючы сваю карову з чарады, што ў нас дома вялікая сям'я, што зусім хворая двухгадовая сястрычка, а ты, вылюдак, так стукнуў мяне нечым па галаве, што я страціў прытомнасць... Пасля гэтага я прахопліваўся начамі ад страху ды спрасоння прасіў аддаць нашу карову...

Толькі я выткнуўся з-за дзвярэй, як убачыў Лёньку: ён стаіць на пліце з узнятаю пудоваю кувалдаю ў руцэ, смяецца. На сонцы ён такі чырвоны, што з выгляду можна прызнаць за п'янага. Лёнька заўсёды такі, можа таму, што стараецца на рабоце і многа смяецца, і хлопцы празвалі яго — «Малакроўны». І цяпер усе ведаюць гэтую мянушку. Здаецца, што Лёнька нават ганарыцца ёю!

Вось ён паварочвае шпянёвую скрынку ў другі бок, каб пыркі клею пападалі на сцяну, некалькі разоў ударае зверху і кліча мяне. Расказвае, што аднойчы незнарок Аляксею Пятровічу ўвесь пінжак запырскаў, але начальнік нічога не сказаў. Лёнька гаворыць, што трэба старацца, каб звязаць чатыры скрынкі за дзень. Ён ужо стругае фуганкам днішча да шпянёвай скрынкі, прыкладвае лінейку і глядзіць, як шчыльна яна прыстае да паверхні. Зноў стругае. Мы не заўважылі, як да нас падышла Алка з хімлабараторыі. Яна тузае Лёньку за фартух, усміхаецца. Ён кідае работу, глядзіць на лабарантку і з ласкавай іроніяй гаворыць:

— Прывет, дарагая!

Алка смяецца, а я адыходжу да варштата і, абыякава разглядаючы чарцёж, чую, як Лёнька з Алкай гавораць:

— Лёнька, сёння прыйдзеш?

— Дарагая, не магу,—адказвае той і рагоча.— У школу сёння. Хімічка ў нас ненармальная. Спазніўся ў панядзелак на сорак хвілін. Пастукаўся, усё, як трэба. Дазволіла ў клас зайсці. Я зняў шапку і прашу прабачэння, што ледзь-ледзь не спазніўся. Хлопцы смяюцца. А яна нечага журналам аб стол як стукне: «Зноў насмешкі!»

— Ты выведзеш з цярпення каменнага. А вечарам прыйдзеш? У кіно сходзім...

— Знаеш, дарагая, вяселле. Сяргей просіць, не магу адмовіцца.

— Мне так сумна. Не ведаю, куды дзецца...

— Схадзі на каток. Надвор'е сёння. Мароз і сонца, як сказаў паэт.

— Няёмка адной. Збяжы з апошніх урокаў.

— Хочаш, каб на трэці год пакінулі ў дзесятым?



— Зіма праходзіць, а не выбераш ніяк часу...

— Заняты, дарагая. Працую. Вучуся.

— Прыйдзі пасля заняткаў. Калі паспееш...

— У адзінаццаць без мінут канчаецца. Загляну дамоў, каб мама не хвалявалася. Дарога ж... Так і быць, у гадзіну ночы.

— А дзе сустрэнемся?

— Як заўсёды, на Цэнтральнай плошчы.

— Глядзі — не прыйдзеш, заб'ю.

— Дошак хапае, пахаваюць!

Алка пайшла.

Лёнька глядзіць на мяне, выцірае рукавом потны лоб і гаворыць, што яму цяжка. Не пойдзе ён на сустрэчу з Алкай: скажа, што не хадзілі аўтобусы. Другая б даўно здагадалася: на гадзіну ночы сустрэч не прызначаюць. Аднойчы Лёнька сказаў ёй: давай не будзем сябраваць. Яна парвала на сабе джэмпер і хацела кінуцца з моста ў рэчку. Лёнька шкадуе яе і ходзіць з ёю тады-сяды...

— Чаго ты, Лёнька? Яна ж прыгожая, характар залаты.

— Прыгожая, ды не зусім. Сама ўсё расказала, як аднойчы ў турысцкім паходзе... А для мяне гэта — смерць.

— Можа пажартавала, а ты паверыў адразу...

— Сямён там быў... Мне таксама казаў.

Лёньку, мусіць, не хацелася гаварыць пра гэта, і ён пайшоў да Колі Максімава. Я іду да брыгадзіра Воўкі, які схіліўся над лістом фанеры і нешта чэрціць.

— Ну, жывы?— пытаецца Воўка і глядзіць на руку.— Забінтавалі не шкадуючы... Сказаў начальніку, каб сетку металічную паставілі спераду. Згадзіўся. Будуць заказваць...

— Праз тыдзень прыёмы працы трэба перадаваць маладым,— уздыхнуў Лёнька.— Што гаварыць? Толіку дык лёгка праводзіць такія гутаркі: раскажа пра пісьменнікаў, пра кнігі. На тое і вучыцца чалавек.

— А ты раскажы, як сам вучыўся. На чым больш усяго памыляўся.

— І то праўда! У пятнаццаць год паступіў вучнем мадэльшчыка. Першую зіму сушыльныя камеры загружаў з такімі ж падшывальцамі, як і сам. Вядома, няправільна. За гэта і вымову былі далі начальніку. Лета ў ліцейцы прабегаў. Таксама не мелі права пасылаць... Да службы навучыўся крышачкі рабіць,— смяецца Воўка.— Усё правільна...

— Раскажы, можа, пра якую кнігу...

— Кнігі яны самі чытаюць,— гаворыць Воўка.— А вось мастацтва не разумеюць многія. Скульптура, жывапіс... Прасцякі мы! Паказаў у цэху вось такую фатаграфію помніка воіну-вызваліцелю ў Берліне. Пагаджаюцца: выдатна! А што выдатна — ніхто не сказаў...

— І Толік?

— Ну, Толік... У газету чалавек піша, на трэцім курсе ўніверсітэта вучыцца... Гэты ведае!

Воўка яшчэ доўга гаварыў. Пра свайго сына, якому пяты гадок, а ён ужо ўмее лічыць да дзесяці. Пра жонку, якая пойдзе сёння на рэпетыцыю хору, і яму з дзіцём давядзецца гуляць, і ўсё хваліў Толіка. Я слухаў і ківаў галавою, але думаў пра сваё.

Мне ўяўлялася Юнона: яна бярэ мяне пад руку і просіць, каб прыйшоў вечарам. Тут успамінаецца, як пісаў пісьмы са службы ёй, яшчэ пятнаццацігадовай вучаніцы, пра горны Каўказ, які толькі і бачыў з палубы карабля, пра Чорнае мора. Не думаў тады пра каханне.

Юноне было шаснаццаць, калі прыехаў у водпуск. Я адкрыта цалаваў сястрычку Юнону, бо бацькі нашы прыходзіліся далёкімі сваякамі... Праз год я зноў прыязджаю дамоў, нясу Юнону цераз грэблю. А тады сустрэчы, сустрэчы... I вось Юнона зноў побач...

Воўка лёгка штурхае мяне ў бок, просіць адысціся ад пліты і жартуе, каб на хаду не спаў. Я смяюся, гляджу на блішчастыя мадэлі, што за праходам з другога боку, на мадэльшчыкаў, якія снуюць па цэху, кожны са сваімі клопатамі. Думаю пра гэтых людзей, якія ў розныя гады і дні сабраліся пад высокім дахам і прывыклі ўжо да шліфавальнага круга і да пілы, якая так лёгка стругае загатоўку любой таўшчыні.

**ГАДЗІНА ДВАНАЦЦАТАЯ: Толік расказаў мне сваю біяграфію, гаварыў пра каханне да Зіны, а пасля я пайшоў да Колі Максімава.**

У цэху многа сонца, і я стаю на праходзе, любуюся блакітнымі ад пылу пукамі праменняў, што падаюць зверху, гляджу на Толіка, які стругае рэбры да стойкі. Міма праходзіць Аляксей Пятровіч. Мне хочацца пачуць ад яго хоць слова, але ён моўчкі ўглядаецца нешта ў падлогу. Параўняўшыся са мною, крывіцца. Цяпер ён здаецца ніжэйшы, бо левае плячо неяк звісае, быццам начальнік прыгнуўся. Ён нічога мне не гаворыць.

Я падыходжу да стойкі на пліце, мацаю леваю рукою абвязку, ці гладка пагаблявана. Толік прымярае рабро, правярае вугольнікам фармовачны схіл, зноў вяртаецца да варштата. Заціскае клінаватую дошку і стругае тарэц: галава яго з кожным рухам уздрыгвае, і на лоб спадаюць парыжэлыя на сонцы светла-русыя валасы. Ён зноў прыстаўляе загатоўку і не звяртае, бачу, увагі на мяне. Я кажу яму, што яшчэ не прыстала рабро шчыльна да абвязкі. Толік усміхаецца, жартам замахваецца ўдарыць рабром па хворай руцэ, зноў адыходзіць да варштата і габлюе.

Потым ён прыбівае рабро, а я азіраюся ў думках далёка назад і расказваю яму, як некалі ў вайну паказаў маме пальцам на нямецкую машыну: шафёр убачыў гэта, тармазнуў, агледзеў усё знізу, вылезшы з кабіны, а потым стрэліў некалькі разоў угару. А я ўткнуўся тварам у матчыну спадніцу, рукамі абхапіў яе за ногі. Было вельмі страшна.

— Мне страшней было,—гаворыць Толік, выціраючы габлюшкамі клей каля рабра.— Бацька раніцаю вяртаўся ў пушчу з чыгункі, зайшоў дамоў і лёг спаць. А тут налёт фашыстаў. Кулямёты строчаць з шашы, загуменнямі бягуць фрыцы, шныраюць па хатах. Уцякаць няма як. Выцягнуўся бацька каля сцяны на ложку, а мама заслала хуценька пасцель, падушкі паставіла... Заходзяць у хату двое ў чорных шынялях. Паліцэйскія. Адзін, вялізны, дае мне цукерак, каб сказаў, ці ёсць у мяне тата і дзе ён цяпер. Я маўчу, суслю гасцінец, а мама ўсё загаворвае наперад, што мой тата бог ведае дзе, бо ён служыў у арміі. Раптам падыходзіць другі, з залатымі зубамі, аддае мне ў рукі аўтамат і зноў пытаецца, дзе мой бацька. А мне так хацелася страляць, бо тата ніколі не даваў вінтоўку...

— Карацей ты!.. Што далей?

— Мама разгубілася — у хаце падмятае. Я аберуч абхапіў аўтамат, у падлогу гляджу і маўчу, а тады — заплакаў. Большы паліцай палажыў руку мне на галаву ды так ціскануў, што я паваліўся і яшчэ мацней заплакаў... Яны выйшлі. Мама падхапіла мяне на рукі, цалуе, цалуе. А бацька з-за падушак гаворыць, што я малайчына...

Промні сонца падаюць на вугал абвязкі, і расінкамі блішчыць дробнае пілавінне на гладкіх дошках. Толік глянуў на насценны гадзіннік. Узяў трэцюю загатоўку на пліце і адышоў да варштата. Я азірнуўся на праход. Недалёка ад нас стаяла Зіна, неяк міла жмурылася, прыглядаючыся, відаць, шукала некага з хлопцаў.

— Зіна, я тут! — крычу ёй.

Яна пакрывілася, махнула рукою, ступіла некалькі крокаў далей ад мяне і зноў азіраецца кругом. Мне ж так хацелася дагнаць яе і шапнуць на вуха, каб не прыходзіла ў цэх у гэтай, што так аблягае цела, сукенцы, каб не знімала джэмпер.

— Што, прыгожая? — сказаў Толік, а мяне страсянула, як ад нечаканага ўколу.— Пытаюся, прыгожая Зіна?..

Я не адказаў і пайшоў да Колі Максімава.

— Усё ходзіш па цэху? — гаворыць Коля і смяецца.— Табе прэміяльныя з фонду майстра падавай, а мадэль сама зробіцца...

Раніцай я так і не зразумеў майстра... «Канчай мадэль і ні водступу!» А рука сморгае... А ты чаму на рабоце? Ты ж дыпломную пішаш.

— Нудна ўсё ў кніжках корпацца, выбіраць цытаты. Ды грошы трэба, вясна на носе.



— З расцэнкай схадзі да Аляксея Пятровіча. А то ў Сямёна адзін адказ: «Дзяржаўнай капейкай не кідацца».

— Ні да кога не пайду. Сорамна неяк прасіць... Ты не паправіш заўтра мадэль, калі Антон што на ёй знойдзе? Дамоў пайду з абеду.

— Мне не цяжка, калі рука не будзе балець. Але ж сёння сход — застанься паслухаць. Майстар мяне страшыў.

— Правільна, сход... Грошы палучу. Ды і мадэль сам здам... Пайшлі рукі мыць. Абед.

Коля хутка сабраў інструмент у шафу, змахнуў габлюшкі з варштата, абцёр шчоткаю пылінкі з плячэй на сарочцы, а я прыпыніўся каля Лёнькі, з якім заўсёды абедаем, як ні смешна, у дыэтычнай зале.

**ГАДЗІНА ТРЫНАЦЦАТАЯ: мы з Лёнькам ішлі на абед, у сталоўцы чыталі кнігу скаргаў і прапаноў, а па дарозе ў цэх «Малакроўны» расказваў пра вячэрнюю школу і школьніц.**

У цэху ціха і неяк пуста — нават вентылятар не шуміць. Каля пліты, насупраць майго варштата, на загатоўках сядзяць хлопцы, чалавек сем, стукаюць костачкамі ў даміно, палуднуюць.

Мы з Лёнькам выбягаем з цэха. На двары такі свежы і сухі ветрык, што нас працінаюць дрыжыкі.

На хвілінку прыпыніліся ў прахадной, каля паліцы, на якой заўсёды ляжыць свежая пошта. Лёньку, добра ведаю, ніхто ніколі не дасылаў на завод пісьмы і тэлеграмы, але ён кожны раз, куды б ні спяшаўся, пераглядае ўсе паперы. Вось і цяпер уважліва чытае адрасы на канвертах, не звяртае ўвагі на мяне, хоць я здаровай рукой настойліва тузаю яго за рукаў курткі. Раптам ён прысядае на месцы, ускрыквае ад радасці, узнімае руку з пісьмом над галавою і моцна, націскаючы на складах, гаворыць:

— Варта, смірна! Мадэльшчыку прыйшло пісьмо!

Малады чырванашчокі вартаўнік ускопліваецца з крэсла, злосна буркае:

— Што, любая прыслала? На нагах не ўстоіш? Не загараджвацы праход...

— Сказаў бы табе...— глядзіць на яго Лёнька і жмурыць вочы.— Толіку, разумееш, журналісту нашага цэха, з Далёкага Усходу пішуць. А табе — любоў...

Мы выйшлі на тратуар, і я чакаю, каб прайшлі трамвай і машыны. Лёнька ж шмыгнуў перад самым мазам, ажно шафёр прытармазіў. Мне ўспомнілася, як летась на гэтым прыпынку, што супраць прахадной, адрэзала нагу маладому фрэзероўшчыку з дзесятага механічнага, які спяшаўся на футбол і даганяў трамвай. З гарачкі ўжо на адной назе скакаў ён за шапкаю, якую гнаў па асфальце вецер.

Успомніцца гэта, і я баюся перабягаць дарогу, заўсёды аглядаюся...

Хутка ідзём па тратуары. Я прыслухоўваюся да голасу ветру, які праз галінкі таполяў нясе свой нудны, ціхі свіст і, здаецца, вошчыць доўгую, доўгую нітку.

— Харомы нашы,—гаворыць Лёнька і паказвае рукою на сталоўку.— Во каб паглядзелі Барма і Поснік на гэтую архітэктуру. Ніякай фантазіі, ніякага ўзлёту не адчуваецца. Светла-шэрая мазанка, ды і толькі...

— Яно можа і не варта сабор Васілія Блажэннага будаваць для рабочай сталоўкі,— не пагаджаюся з Лёнькам.— Між іншым, Барма Поснік — гэта адзін чалавек... Мне тая гармонія часта і цэлага адпавядае, якая прасцей і дзешавей.

— На касірку, нябось, глядзіш і рукі паціраеш...— гаворыць Лёнька і заглядвае мне ў твар.—Заікнуўся я неяк, каб так высока не садзілася і не выстаўляла калені на агляд пралетарскай публіцы. Смяецца, каб ёй добра было...

— Не бачыў ты дзяўчат! Сёння пасля заняткаў пайду да Юноны. Некалі ў маладосці вытваралі... Куды там касірка ў параўнанні з ёю!..

— Па старых адрасах, значыць, ходзіш...— здзівіўся Лёнька.— А я не магу. Алка падабаецца, а замуж не вазьму. І нічога цяпер не хачу ад яе. Можа зразумее — адчэпіцца.

Лёнька адчыняе дзверы і прапускае, як заўсёды, мяне першага ў сталоўку. Жартам, вядома, напамінае, што старым у нас усюды пашана. Я служыў на флоце і старэйшы за яго на чатыры гады. Цяплом у твар дыхнулі калярыферы, на момант стала цёмна ў вачах і адчуўся густы прыемны водар кухні. Ідзём прама ў дыэтычную залу, направа ад уваходу, хоць Алка гукае нас з лесвічнай пляцоўкі на другі паверх. Яна дробна тупае на месцы, гаворыць, што зусім блізка чарга і ў буфеце ёсць піва. У зале ўсё зіхаціць ад сонца: алюмініевыя трубчатыя ножкі сталоў і крэслаў, буфет з халоднымі закускамі, нават ад цёмна-карычневай касы адбіваюцца яркія промні. У мяне нехаця жмурацца вочы — не была б вясна!

Мы адразу бяром падносы і ставім на іх па капусце з цыбуляй. Лёнька чытае меню, мігае пасля мне, каб глянуў на дзяўчыну з раздачы, у белым халаце ледзь не да пят. Яна маленькая ростам, вельмі маладая і, відаць, нядаўна працуе ў сталоўцы. Лёнька сур'ёзна просіць чарнавокую, каб падала «тэхналогію», і дзяўчынка глядзіць яму ў вочы, хоча ўсміхнуцца, але раптам чырванее і пытаецца ў касіркі слабым, ласкавым голасам, куды яна дзела меню.

Касірка ўстала, лена пацягнулася,— кvяцістая сукенка з вялікім выразам на шыі ледзь не трашчала на поўных грудзях,— паглядзела цераз галовы людзей у чарзе на шыльдачку з меню, і быццам лопнула што ў яе ўсярэдзіне...

— Слухай ты ненармальнага...— сказала яна сіплаватым голасам і села на месца.— Лячыцца трэба чалавеку...

— А чаго ж да вас прыйшоў? Вядома — лячыцца паравымі катлетамі,— адказаў Лёнька.— А ты пра сябе думай... Гарачая, дык хоць бы калені трохі прыкрыла.

У зале засмяяліся.

— І не прыкрыю!— усхапілася і закрычала касірка.— Калі вочы мазоляць кожнаму калені...

— Хворая сёння ці так дурышся?— сказаў Лёнька і сумна паківаў галавою.

Дзяўчынка з раздачы паглядзела на нас, ціха спытала, што даваць. Мы ў адзін голас папрасілі гарохавы суп з мясам і паравыя катлеты з бульбяным гарнірам. Сёння Лёнька не жартаваў, што яму мала мяса палажылі і не далілі масла ў гарнір, бо няма бацькоўскіх клопатаў аб «малакроўных». З касіркай таксама не абазваўся ні словам. Мы моўчкі сёрбалі суп — за сталом і раней ніколі не гаварылі.

У зале настала цішыня. Мне ўспаміналася, як некалі на флоце абедалі на верхняй палубе, трымаючы ў руках белыя алюмініевыя міскі. А над кацерам, пачуўшы пах варыва, белыя чайкі кружыліся так нізка, што, здавалася, выхапяць хлеб з рук. Пасля яны кі-

даліся цэлаю стайкаю на астаткі ежы, калі выкідалі за борт, скігаталі і дзяўблі адна адну чорнымі дзюбамі, ненасытна глыталі спажыву, якую ўдавалася выхапіць з вады.

— А пюрэ, паспрабуй, якое халоднае,— гаворыць Лёнька.— Запішам скаргу, калі злосная...

— Яны ж не вінаватыя. Талеркі бляшаныя, вось і стыне хутка.

— Так заўсёды: душыцца скалелаю бульбаю? Дырэктар няхай мазгуе.

Лёнька больш не слухае мяне. Павярнуўся да касіркі і просіць кнігу. Куды і злосць дзелася ў дзяўчыны! Яна так хораша ўсміхнулася і паказала залатыя зубы. Была такая мілая і добрая! Лёнька не адступаўся. Тады касірка адказала, што кніга ў дырэктара. Сама выйшла з-за касы і павольна падышла да нас — такая маладая, прыгожая, як гэты сонечны дзень. Касірка села на крэсла і захінае халатам калені. Ад яе пахне духамі, пудрай, і ў мяне неяк святлее на душы, радасна б'ецца сэрца; нават у Лёнькі на твары, бачу, з'явілася ласкавая ўсмешка. Спачатку касірка просіць у Лёнькі прабачэння, а потым прыносіць кнігу скаргаў і прапаноў.

Лёнька гартае лісты, чытае, а касірка міргае дзяўчынцы з раздачы, каб падышла да стала. Маладая работніца зусім разгубілася, павольна падышла да нас. Абаперлася на спінку крэсла. На вачах слёзы. Яна гаворыць мне (мусіць, хоча спачування ад старэйшага), што працуе ў сталоўцы часова і ў яе няма гарадской прапіскі, што летась закончыла дзесяцігодку і не паступіла ў інстытут.

— А чаму ў калгасе не застацца?— буркнуў Лёнька.

— Не выпала мне. Дома сястра старэйшая з маці... У нас хата добрая, дык мама хоча прымака сястры. А хто ж пойдзе, калі дзве дзеўкі ў хаце? Машы трыццаць другі год. А так я хацела ў калгасе працаваць.

— Цябе ж і адсюль хутка папросяць,— гаварыў Лёнька, гартаючы кнігу.— Без прапіскі, без спецыяльнасці...

— Дырэктар сказала, калі будзе старацца,— перабіла касірка,— дык прапіша нашу малую. У дырэктара паўгорада знаёмых.

— Дваццаць добрых водгукаў у кнізе,— гаварыла дзяўчынка,— тады прапіша. Спачатку за дзесяць абяцала, а цяпер — дабавіла.

— Пакуль усяго тры запісы,— сказаў Лёнька.— Яшчэ семнаццаць! А там кніга памяняецца...

Ён дастаў аўтаручку з кішэні пінжака, страсянуў яе на падлогу, паглядзеў на маладзенькую дзяўчынку. Моўчкі піша. Перагортвае старонку, зноў хутка піша. Твар яго не выказвае ніякага пачуцця. Чарнавокая дзяўчынка асцярожна бярэ кнігу са стала, і рукі яе трасуцца, і ўся яна дрыжыць. Уважліва чытае і хліпае ўсё носам, а пасля глядзіць на Лёньку, бясклапотна і доўга смяецца, як дзіця, якому купілі даўно абяцаную лялька, і кажа:

— Вялікае дзякуй!

Я паглядзеў на гадзіннік: да канца абедзеннага перапынку заставалася пятнаццаць хвілін, і мы, спяшаючыся, развіталіся з дзяўчатамі, выйшлі на вуліцу. Усё на свеце здаецца мне прыжмураным ад промняў веснавога сонца. Неба над намі сіняе і чыстае, толькі на поўначы, высакавата ад гарызонта, з'явіліся ўжо белыя, рэдкія хмары. Мне прыгадваецца рыбалавецкі порт і сеткі на сонцы, што прасушваюцца перад адыходам на вялікі промысел у акіян. Я кажу Лёньку, што нанач зноў будзе мароз.

Вось чутно, можа са скверыка, што пачынаецца за заводам, вясёлае «дзінь-дзінь-дзінь-сені» — няхітрая песня аўсянкі, якую летам



ніколі б не пачуў з-за жаўрукоў і салаўёў. Мне думаецца, што гэта да нас стукаецца вясна, хоць яшчэ холадна і ляжыць цемнаваты снег ля тратуара.

Лёнька аглянуўся нешта, але я не ведаю, якімі думкамі цяпер ён заняты. Ці чуе першы спеў вясны? Ці ўсё ніяк не забудзецца пра дзяўчыну без прапіскі? Ці хоча ўбачыць Алку? І ён раптам пачынае расказваць, як весела яму ў школе...

— Знаеш, так цікава ў школе! Слухай: сядзім неяк з Танькай на алгебры і пішам мне ў сшытак... Гэта яна прыдумала, што каханне — гэта бясканечная прагрэсія з дадатнымі членамі. Чым больш сустракаюцца закаханыя, тым большая любоў спеліцца. Яна, любоў, перавышае любыя пачуцці, якія б шчырыя і гарачыя яны ні былі ў пачатку...

— А што ў цябе з Алкай будзе?— пытаюся.— Рашыў зусім не хадзіць? Падумаеш, памылілася дзяўчына. А можа, наогул, Сямён выдумаў?

— Страшна думаць пра гэтую памылку,— гаворыць Лёнька і нагою збівае лядзяк з дарогі.— Памылка дорага каштуе... Не ведаю сам, як быць... А гэта не выдумка. Хаджу з ёю, дык ведаю.

— Начальнікаў жа брат жыве з Мартаю, былой братаваю. Дзіця ад Аляксея Пятровіча гадуюць,— кажу я.— Калі б Юнона пагадзілася і паабяцала ніколі не ўспамінаць пра мінулае, ні на што не паглядзеў бы... Вядома, пачуццё не тое...

— Ты можаш не глядзець, а я гляджу.

Дыспетчар сустрэў мяне ў калідоры, перад самымі дзвярыма раздзявалкі, і папрасіў, каб я зараз жа схадзіў у склад і знайшоў мадэль галоўкі.

**ГАДЗІНА ЧАТЫРНАЦЦАТАЯ: я адправіў мадэль галоўкі на рамонт у цэх, чытаў у ленінскім пакоі запіскі незнаёмага мне тэхнолага, аднёс іх Толіку.**

Апрануўся ў рабочае і хутка ішоў па цэху. Мне ўжо хацелася заняцца чым. Радасна было на душы ад думкі, што мадэль галоўкі стаіць (бачыў тры дні таму назад) злева ў куце пад шпянёвымі скрынкамі. Я хутка дастану яе, а Касьян пасля раскажа пра сваю Кацярыну, што яна не ўмее эканоміць капейку.

Склад жыў сваім жыццём. У адрозненне ад шумлівага цэха, ён дыхаў калярыферамі дзень і ноч на працягу многіх гадоў, і ўсё тут было адно і тое ж: пад'ёмны кран, які павольна і мерна перамяшчаўся ўгары па рэйках і крактаў неяк трывожна пад грузам і ўлегцы; пажарная сістэма, якая глядзела ўніз дзесяткамі трубачак і ў любую хвіліну гатова была пусціць лівень; разумныя калярыферы, якія падтрымліваюць зададзеную тэмпературу і вільготнасць; і рознакаляровыя мадэльныя камплекты.

Мне ніколі не ўяўляўся склад без сутулаватай фігуры Касьяна, які, як і цяпер, ужо многія гады прыглядаецца праз акуляры да мадэлей на паліцах і крывіцца, плюе на падлогу, калі не натрапіць на патрэбную, і лаецца на сваю «нестраявую каманду».

Рабочыя склада,— тры ліцейшчыкі, часова спісаныя пасля хваробы на папраўку ў «дом адпачынку імя Касьяна»,— падымалі кранам падмадэльныя дошкі, састаўлялі іх каля сцяны ад цэха. Кладаўшчык, як толькі я сказаў, што мадэль чацвёртай галоўкі ляжыць у кутку пад шпянёвымі скрынкамі ад станіны, не па гадах увішна

крутануўся, свіснуў у пальцы — слаба гэта выходзіла ў яго — даваў знаць, каб хутчэй падагналі пад'ёмнік. Касьян буркнуў нешта сабе пад нос на падначаленых, пасля павярнуўся да мяне, асцярожна ўзяўся за локаць забінтаванай рукі і расказваў мне на хаду, што тры дні хварэў ён, балела горла. Цяпер баіцца прастуды і асабліва скразнякоў. А «нестраявая каманда», кіўнуў ён галавою назад, заваліла тут усё. Кладаўшчык пакрывіўся і плюнуў далёка ў бок.

Хлопцы падымалі кранамі, па адной, шпянёвыя скрынкі, а я чытаў усе надпісы на ад'ёмных частках у сярэдзіне, усё непатрэбнае адкладваў у бок, як сказаў Касьян. Апошняя, чацвёртая, скрынка была з зямлёю, і я правёў палкаю па днішчы, дзе мільгануў перад вачыма замурзаным лубком блакноцік. Я ўзяў яго ў руку. Касьян глянуў на чорны блакноцік, пакрывіўся і пачаў лаяць прыбіральшчыцу цёцю Дусю, якая другі месяц ужо ніяк не можа выкінуць гэтыя паперкі. Кладаўшчык працягнуў руку да блакноціка, каб выкінуць яго ў смецце. Я хацеў быў аддаць яму, але незнарок кінуў вокам на першую старонку:

*«Мама! Ты і толькі ты ва ўсім вінаватая! Давала мне цукерку, а на папружку забывалася. Шкадавала капітанскай папружкі майго бацькі... Калі б яго не забілі пад Берлінам, ён быў бы палкоўнікам...»*

Я засунуў блакноцік у кішэню, паабяцаў Касьяну, што ніколі ўжо на складзе ён не знойдзе гэты чарнавік, і хутка пайшоў у ленінскі пакой. Зачыніўся там і пачаў чытаць:

*«У цэху, мама, пыл! Забяжыш у канторку майстроў, а цябе кожны ў шыю гоніць на ўчастак. У цэху ўсе на мяне, што я бракароб, што за мяне ўсім даводзіцца старацца, каб выканаць план. Цэх, вядома, дае план, але мне так няёмка... Не спіцца начамі! Раніцай я прахопліваюся і крычу, лаю ўвесь свет. Тут, мама, усе такія разумныя людзі, такія настойлівыя, працавітыя! А што я... Яны былі рабочымі, былі салдатамі! Яны вучацца вечарамі — ім усё лёгка. А ты кінула мяне ў інстытут, каб увесь свет з мяне насміхаўся. Але да цябе гэта не дойдзе. Ты цёмная, як наша ліцейная справа!»*

*«Мама, вось мая матэрыяльная база! Сорак атрымаў у аванс. Вылічылі падаходны і халасцяцкі. Вылічылі за брак... Засталося дваццаць адзін рубель трыццаць восем капеек. Але і гэта нічога, бо мог бы ў даўгу застацца. Пашкадавалі...»*

*«Дыплом на руках! Мама, ты знойдзеш ціхае месца ў родным гарадку...»*

*«Мама, ты просіш падумаць пра сэнс жыцця, пра кар'еру. Смешная ты, цёмная. Тут няма калі думаць пра гэта. Увесь дзень бегаеш па цэху...»*

*«Мама, я хачу дамоў!»*

*«Вось дажыў. Ні табе цёплага слова ў дарогу, ні двух тыдняў, як усім, на роздум. У начальства так: ты толькі бегай, старайся. А з табою што — прападай... Еду да мамы! У яе пенсія — будзем спяваць. Добры дзень, дарагая мама! Твой сын з дыпломам! Напрацаваўся!»*

*«Ура, пераводзяць нарміроўшчыкам у мадэльны!»*

Я перагортваю некалькі разоў блакноцік, тое-сёе нават перачытваю. Вось ужо гляджу праз акно на вуліцу, дзе снуюць у розныя бакі машыны і адсвечваюць сонцам ад шыбаў кабінак і фараў мне ў вочы. Па тратуарах ідуць людзі, відаць, са сваімі вечнымі думамі аб жыцці. Твары такія сур'ёзныя. А галінкі дрэў усё пагойдваюцца, быццам ад людскога дыхання.



**ГАДЗІНА ПЯТНАЦЦАТАЯ: я чытаў пісьмо ад Максіма, былога мадэльшчыка цэха, думаў пра Юнону, а Воўка папрасіў схадзіць з ім у ліцейны.**

Толік даў мне пачытаць пісьмо, тое, што забраў у прахадной Лёнька.

*«Добры дзень, Толік!*

*Прабач, дружа, за ўсё прабач. Перад ад'ездам хацелася з табою пагаварыць, але ўсё рабілася так спешна, што на развітанне не хапіла часу. Паверыш, неба было такое чыстае і такія поўныя зоркі мільгацелі ў той вечар, што не вытрымаў, забег да Раі. Усё помніў, што ты мне гаварыў, і парушыў твой запавет — пайшоў па былым адрасе.*

*Мужык яе быў на рыбалцы. Мы позна гаманілі. Выпілі трохі. Душою адчуў, што няма для мяне іншага шчасця. З многімі сустракаўся, ды ўсё не тое.*

*Толік, сёння ў мяне асабліва трывожны дзень. Уранні жонку хуткая дапамога забрала. У радзільны дом. А мы з сынам гуляем удваіх. Не ведаю, ці правільна, але я нікому не кажу нават, што сын не мой. Што дзіцяці да нас... Яму бацька патрэбен!*

*Скажу табе, Толік, што пра Раю ўжо сотні разоў перадумана. Я ніколечкі яе не вінавачу. Спатыкнулася яна! Некаторыя дзяўчаты і цяпер так разважаюць, што за вялікім партфелем можна шчасліва жыць. Гэта і Раю зманіла. Хацелася свята на кожны дзень. Пазнавата, але адумалася. Не збаялася холаду. Ад праспекта, кватэры з газам сышла.*

*І я не лепшы. Помню, Рая мне пра хімію, а я тым часам цалую яе. Рая пра жыццё пачне, а я смяюся. Цяпер прызналася, што я быў у яе ўяўленні нейкім Алёшкам з кінафільма. Вось так можна ў пачатку карціны замурзаць свой твар, што ніякія светлыя кадры пасля не выратуюць становішча. Дзяўчатам падабаюцца зухаватыя хлопцы — маракі ў цяльняшках!*

*Запомні, усякая жанчына пойдзе за другім, калі ты не будзеш дзяліцца з ёю сваімі думкамі. Рая расказвала, што яе мужык, канструктар аднаго з вашых заводаў, быў добрым рыбаком і паляўнічым, але толькі два разы за чатыры гады яны былі ў тэатры. Яна вельмі не любіла, калі ён моўчкі праглядаў вечарамі часопісы і кнігі.*

*Яшчэ ўспомніў! Толік, а пра Аляксея Пятровіча пісаў нарыс? Аляксей Пятровіч, здаецца, маўчун, а дзелавы чалавек. Ніколі не быў цэх без сухога піламатэрыялу. Усіх студэнтаў-вячэрнікаў перавёў у першую змену. З людзьмі трохі не ўмее, але ж яго не вучылі педагогіцы. Дыплом інжынера атрымаў, а ў душы — рабочы.*

*Аляксандр Іванавіч і цяпер разносіць чарцяжы на варштаты мадэльшчыкам? Помніш, Лёнька не хацеў браць крышку ў работу? Майстар прымусіў, паказаў свой характар, але ж Лёнька два дні «пракурыў» у калідоры. У мадэльнай справе не тое, што каменні малатком таўчы, — мадэльшчыку, ды і кожнаму спецыялісту, неабходны настрой і натхненне для творчасці. Перадавай усім маё шчырае прывітанне! Твой сябар Максім.*

*Далёкі Усход, Лясны гарадок».*

— Што вычытаў? — пытаецца майстар, прыгладжваючы рэдкія, чорныя валасы.— Ідзі мадэль канчай. Мадэльшчык мне!..

— Табе смешкі, а думаеш не страшна цяпер да пілы падыходзіць?— кажу я.— Давай паведамім пра гэтую траўму на завод, які выпускае стужкавыя пілы?

— Глядзіце, не хапала там нашых прапаноў,— смяецца майстар.— Серыйная вытворчасць...

— Пры чым тут гэта серыйнасць,— паглядзеў я на майстра.— Хай бы ведалі. Можа што прыдумалі б. У форме рацпрапановы напісаць.

— Праблема... За тры гады адна траўма,— сказаў Аляксандр Іванавіч, прыкурыў цыгарэту і замахаў перад сабою запалкай у руцэ.— Мудрэйшым за ўсіх на свеце хочаш... Там сядзяць прасцячкі... Патрэбны ім твае прапановы, як зайцу стопсігнал... Серыйная ж вытворчасць...

Майстар перакладваў нарады, пускаў дым праз нос і жмурыў левае вока, а я глядзеў на канверт, думаў, што Юнонін сын можа гадавацца ўвесь час на вёсцы ў яе маці. І ніхто не будзе ведаць, што ўзяў замуж жанчыну з дзіцем, а хлопцы будуць мне зайздросціць.

Да мяне падыходзіць Воўка.

— Чаго ты хацеў? — пытаюся я.

— Сходзім у ліцейны,— гаворыць Воўка і лёгка бярэ мяне за левы локаць.— Там размер адзін трэба прыкінуць. З тэхбюро званілі.

— Мне і самому хацелася схадзіць,— кажу я і зашпільваю каўнер у сарочцы.— Паглядзець на «намнама», як увіхаецца.



**ГАДЗІНА ШАСНАЦЦАТАЯ: мы з Воўкам ідзём у ліцейны. Мералі шпянёвую скрынку, брыгадзір гаварыў з Маркам Гарасімавічам аб вытворчасці, а ліцейны цэх мне ўяўляўся казачнымі харомамі.**

Воўка адчыняе варотцы і прапускае мяне першага на вуліцу. Кідаецца ў вочы яркае белае сонца. Перад варотамі цэха настаялася лужына талай вады, якая збіраецца маршчынкамі ад зыркага паўночнага ветру, быццам захінаецца якой цёмна-сіняй адзежынаю ад холаду. Мне думаецца: вось ідуць дні, а ўсё не могуць адолець адна адну плыні цяпла і холаду. За цэхам, куды зімою бульдозеры ссоўвалі снег з дарожак, цямнеюць кароткія цені. Яны, гэтыя цені ад слупкоў, здаюцца мне дзядамі, што прыселі адпачыць, знялі шапкі і адсвечваюць прыгладжанымі сівымі валасамі на галовах.

Раптам я неяк страпянуўся, прыпыніўся і трымаю Воўку за рукаў, слухаю ледзь чутныя, слабыя пасля зімы галасы знаёмай птушкі. Я кажу брыгадзіру, што, мусіць, у скверыку каля завода, прыгрэўшыся дзе на суку, спявае лясны жаўрук. Воўка нічога не чуе. Раптам недзе недалёка выбух...



— Гэта я чую,— смяецца Воўка.— Лёд рвуць каля плаціны. Помню, пасля вайны старэйшыя хлопцы з нашага пад'езда так рыбу глушылі. Я меншы быў, але зрэдзь бралі з сабою...

Нас з Воўкам ліцейны цэх сустрэў шумам вентылятараў. Воўка шлёгае лінейкай па калашыне і першым ідзе на ўчастак буйнай фармоўкі. Я прыпыняюся на праходзе, доўга не магу адарваць позірку ад дзяўчыны, што ў кабінцы пад'ёмніка, на дванаццаціметровай вышыні, шчоўкае пераключальнікамі. Цёмна-сінія промні сонца, прабіваючыся праз вокны з-пад перакрыццяў, асвятлялі яе высокі лоб і адбіваліся нейкім прадаўгаватым пучком святла ад яе кароценькага носа. Дзяўчына глядзіць уніз. Адразу неяк падаецца ўперад яе цемнаваты ад пылу кулачок. Яна нешта гаворыць, хоць нічога не чутно. Прыстаўляю руку да скроні, і яе пальчыкі прасвечваюцца на сонцы. Толькі ніхто не звяртае ўвагі на пагрозу дзяўчыны, і ліцейшчык завучаным узмахам рукі над галавою дае каманду, дзе ставіць апоку. Кранаўшчыца спакойна апускае апоку на металічную пліту, падцягвае крукі на блішчастых канатах. Узняла галаву. Шчокі яе чырвоныя і круглыя. А на верхняй губе відаць чарнаватыя ад пылу вусікі.

Падышоў Воўка і лёгка тузануў мяне за фартух.

— Пайшлі, памераем шпянёвую скрынку,— гаворыць брыгадзір, ідучы побач,— а то намнам не пагаджаецца, што зроблена правільна.

— Праверым,—кажу я і думаю пра дзяўчыну.

— Знаеш, цяжкавата на самакантролі. Іншы раз упэўнены, што правільна, а ўсё роўна пераправяраю. Чатыры гады назад станіну былі зрабілі на цэлы метр даўжэй. Шпянёвыя скрынкі сталі прамяраць, агледзеліся... З рабочых адзін Толік ведаў, але ён нікому ні слова. Ноччу перарабілі — ніхто і не ведае.

— Гамонкі было б пра вашу брыгаду...— кажу я.— Першай жа прысвоілі званне камуністычнай...

Мы прыпыніліся каля шпянёвых скрынак ад станіны. Ужо відаць было, як Марк Гарасімавіч, стоячы на каленцах, спрабуе прыкінуць лінейкамі даўжыню адной з іх. Але меркі то выгінаюцца, то выпадаюць з рук. Ён злуецца, зноў робіць тое самае, і зноў марна.

— Марк Гарасімавіч, мы хуценька прыкінем,— гаворыць Воўка і дае мне ў рукі лінейку.— Не можа быць, каб няправільна...

— Не павінна быць,— папраўляе былы намнам,— а ўсё можа быць... Няўжо расплыўся стрыжань?

— Тое і будзе, Марк Гарасімавіч, што вырас стрыжань,— сказаў Воўка, усміхнуўшыся.— Было міліметр у міліметр і ў мяне... А пасля спецыяльна званіў у тэхбюро, каб мінус далі па даўжыні.

— А, тэхбюро... Адна назва,— сказаў намнам ціхім, дрыготкім голасам.— Сядзяць людзі з дыпломамі. А што толку? Лянуюцца пераразлік зрабіць. А бракоўку на іх не выпішаш. Закону, бачыш, няма... З цябе, з мяне можна вылічаць. А ў іх цвёрды аклад...

Марк Гарасімавіч расказваў брыгадзіру, што яго ўсюды кідаў лёс, і ён усюды стараўся. І калі б была вышэйшая адукацыя, а так пяць класаў, быў бы цяпер у міністэрстве. Я слухаю і гляджу на фармоўшчыцу з участка дробных дэталей. Увесь я ў нейкім зачараванні. Я ледзь пераадольваю жаданне, каб не падысці і не памагчы гэтай жанчыне яшчэ хутчэй трамбаваць сумесь. Яна ж лёгка пераварочвае шпянёвую скрынку, каб дастаць стрыжань. Я ўсё неадступна гляджу на яе, і мне ўяўляецца нейкая казачная багіня, уся ў алмазах.

Воўка крычыць на вуха, каб даў праехаць электракары, а поўная, бялявая з твару жанчына ўсміхаецца, глядзіць на мяне. Я знарок адскокваю ўбок, ад чаго ўсе смяюцца.

Прыглядаюся да Марка Гарасімавіча. Мне здаецца, што ён памужнеў з твару. А чорная ад пылу верхняя губа вельмі ж стасуецца да яго не дробнай фігуры. Не верыцца вачам, што так сардэчна і ласкава, ляпаючы час ад часу Воўку па плечуку, гаворыць той самы, некалі з крутым норавам Марк Гарасімавіч, што ўсім без слова падпісваў заявы на звальненне, нікому не даваў пераводу ў другія цэхі. Марк Гарасімавіч, чую, скардзіцца ўжо на цэхавае начальства, што не хочуць пераймаць вопыт і слухаць старэйшых, што ліцейшчыкаў не заўсёды знаёмяць з чарцяжамі на адліўку... Слухаю ўсё гэта, і думаецца мне, якім бы фантанам біла крыніца новых ідэй і разумных думак, калі б усе рабочыя былі такімі ж дапытлівымі і дасціпнымі, як перадавікі!

Марк Гарасімавіч глядзіць на гадзіннік, круціць галавою і падсыпае земляную сумесь у апоку. Мы з Воўкам развітваемся з ім, спяшаемся ў свой цэх.

Воўка перадаў мне паперку, каб я паказаў Толіку. Я сабраў хуценька інструмент у шафу і іду мыцца. У калідоры каля раздзявалкі аддаю Толіку пісьмо і паперку і чую, як Лёнька абяцае некаму прывучыць маладых да армейскай дысцыпліны.

Кірпаты Валерка стаіць у кутку, каля вадаправоднай трубы, усхліпвае і ўздыхае. Слёзы цякуць па нямытым яшчэ твары, а левая шчака — гарыць агнём.

Лёнька моўчкі выціраецца доўгім ручніком. Расказвае мне, што Валерка падключыў быў яму гарачую ваду, калі ён намыльваў твар. І шчасце, што вада папала толькі на руку.

— Малады ты, Валер,— сказаў кладаўшчык Касьян.— А думаць, браточак, трэба...

**ГАДЗІНА СЕМНАЦЦАТАЯ: пачаўся агульны сход, начальнік зрабіў кароткі даклад, выступалі дыспетчар, Антон, Толік і іншыя, а мы з Зінаю шапталіся каля акна.**

Амаль не першы сеў на крэсла, абапёрся локцямі на падаконнік і гляджу праз шыбы на вуліцу. Па тратуары спяшаюцца хто куды людзі. Мне думаецца: як хораша будзе тады, калі замест бетонных дарожак на вуліцах пракладуць гумавыя стужкі транспарцёраў. Ступіш, скажам, крок, а ты ўжо на чатыры метры бліжэй да завода. А стомішся на рабоце — бяры паходны стульчык з сабою, садзіся і чытай сабе кніжку да самага дому...

Прыслухоўваюся да гамонкі ў пакоі. Толік даказвае некаму, што Бальзак правільна сказаў: у мастацтве гора таму, хто ўсё гаворыць, а вось у каханні — наадварот...

— Што ты, Сярожа, задумаўся?— на самае вуха шэпча Зіна, а грудзі яе дакранаюцца плечука.— Каля цябе можна прысесці?

— Садзіся,— кажу я і паварочваюся да яе.— Надумалася прыйсці на сход?

— А што ж я! — усміхаецца Зіна і прыжмурвае вочы.— Хіба не рабочая? А чаму ж ты грошы не палучаў?

— Забыўся... Вось галава... А так я нічога.

На сход сабралася ўжо многа народу. Прынеслі крэслы з кабінета начальніка, з канторы і лаўку з курылкі. Для прэзідыума палажылі сасновую дошку на дзвюх кантовых загатоўках.

Першым, як заўсёды, з дакладам аб выніках работы за першае паўмесяца выступіў начальнік цэха...



— Па прадукцыйнасці ў нас таксама нармальны прырост,— сказаў Аляксей Пятровіч, і правае плячо яго апусцілася ўніз, ледзь заўважна ён пакрывіўся.— Асноўная большасць мадэльшчыкаў працуе добрасумленна... Бяда не ў нормах. Нормы ў нас, таварышы, высокія. А вось пераацэнкі гэтыя, дабаўкі. Нарміроўшчык, таварышы, у нас малады.

— Не суньцеся вы, Аляксей Пятровіч, куды вас не просяць! — усхапіўся з месца Сямён і закашляўся.— Сваё глядзіце...

— Спакойна, спакойна, таварыш! Будзе час, выступіце. Мы яго ўсё песцім, як маладога: кватэру далі ў першую чаргу, дзіцячы садзік сыну... А вось падумаць толькі, якую заяву піша ў цэхком! Малады спецыяліст, чалавек з сярэдняй тэхнічнай адукацыяй, нарміроўшчык цэха! «Дайце яслі дачцы... Выганю цешчу з кватэры». Кажу перад усімі — ніхто не задаволіць такую просьбу.

— Задаволіце, хай толькі з Масквы прыйдзе адказ...— сказаў Сямён і засмяяўся.— Паглядзім, хай толькі прыйдзе...

— Цешчу, дарагі таварыш, нікуды не выганіш,— зноў гаворыць начальнік, паглядзеўшы на Сямёна.— Хлопцы з адукацыяй у цэху ёсць. Відаць, прыйдзецца сур'ёзна пагаварыць з нарміроўшчыкам. Давайце, таварышы, пытанні.

— У цябе ёсць пытанне? — гаворыць Зіна, лёгка штурхануўшы мяне плечуком.— Давай... Ты не спіш?

— Адчапіся, а то гукну Толіка...— сказаў я і пачаў глядзець у акно.— Глядзі, вясна хутка. Заспяваем.

— Дзе тая вясна?— смяецца Зіна.— Кажух, каб быў, дык не скідай з плеч...

— Як парторг цэха, скажу,— гаворыць ужо дыспетчар з такой лысінай, аж блішчыць.— Чорт вазьмі, можа не заўсёды разбяруся ў складаным чарцяжы, людзей жа я ведаю. Сямён наш, сапраўды, вырас са сваіх штаноў. Ні з кім лічыцца не хоча. З усімі такое панібрацтва... Я вайну прайшоў, а каб такое з людзьмі, не бачыў... Аляксей Пятровіч мо і пагарачыўся, але, чорт вазьмі, трэба дружыць з людзьмі.

Дыспетчар хвіліну якую стаіць на трыбуне, выцірае хусцінкаю пот на лбе, працірае вочы і нічога больш не гаворыць. Салдацкім страявым крокам ідзе да месца. Я бачу naліты крывёю шрам у яго на шыі, калі ён, павярнуўшыся, садзіцца побач з Сямёнам. Нарміроўшчык з ухмылкай на смуглаватым твары пазірае на дыспетчара.

На трыбуну выходзіць Антон.

— Аляксей Пятровіч правільна гаварыў,— кажа кантралёр,— выпраміўшыся, як каля палкавога сцяга.— Я тут пра дробязі хачу дапоўніць. Зноў пра Сямёна. Канчаць трэба з вывадзілаўкай на члена сям'і. Глядзіце, як у нас робіцца! Скажам, спакойны чалавек. У яго двое дзяцей і жонка не працуе. Яму заўсёды: прэміяльныя з фонду майстра, яму за асваенне новай тэхнікі, яму рамонт у канцы месяца, каб на паўтары сотні нацягнуць. Чалавек прывык і — ледзь ногі перастаўляе каля варштата. Не хоча старацца. А вось другі на сходзе лішняе слова на адміністрацыю скажа — з яго і дзевяноста рублёў дастаткова. Так усякую цікавасць да работы адбіць можна...

— Правільна, правільна,— чуцен нейчы голас з кутка.— А то — грузіш цэлы дзень на марозе, а ніколі не ўспомняць...

— Раней я ніколі не задумваўся, чаму дзяўчаты часта спазняюцца на сустрэчу,— шапчу я Зіне.— Не вінаватыя тут ні тралейбусы, ні гадзіннікі, ні чарга за кавай. Дзяўчаты хочуць пазніцца, каб гаварыць пра гэта ўвесь вечар...

— Пачакай, гэта ж мне Толя гаварыў,— ціха смяецца Зіна.
— Хопіць, а то і не паслухаем Антона...
Але Антон скончыў. Начальнік прасіў усіх, хто жадае, на трыбуну. Толькі ніхто больш не ішоў. Тады Аляксей Пятровіч зноў даў слова Рыгору Андрэевічу, нашаму парторгу і дыспетчару.
— Чорт вазьмі, зноў пра Сямёна...— уздыхнуў дыспетчар,— можа яно і добра — паправім адразу чалавека... У партыйнае бюро завода, таварышы, прыйшло пісьмо з газеты. Нам неабходна разабрацца са скаргай таварыша па рабоце, даць адказ. Разабраўшы на бюро, мы вырашылі вынесці ўсё гэта на абмеркаванне калектыву. Хацелася Сямёна паслухаць, але паслухайце спачатку тэкст:
*«У газету «Правда» ад Сямёна Круглова.*
*Мы, ніжэй падпісаўшыеся рабочыя і інжынерна-тэхнічныя работнікі мадэльнага цэха, звяртаемся да Вас, дарагія таварышы, з вялікай просьбай: памагчы атрымаць яслі нашаму лепшаму нарміроўшчыку Сямёну Круглову, які хоча будаваць сапраўдную савецкую сям'ю. Але мы ведаем, таварышы па сумеснай рабоце, што гэтую задуму Сямёну не з'явіцца магчымым ажыццявіць да таго часу, пакуль з кватэры не выйдзе падпальшчык — яго цешча. А ў цэху ў нас такі парадак, што ніхто ўвагі не звяртае на маладых спецыялістаў. Просім Вас разабрацца і даць яслі Сямёну Круглову...»*
— Унізе трынаццаць подпісаў нашых рабочых. Думаю, таварышы, не варта называць прозвішчы. Самі выступяць, хто захоча.

### ГАДЗІНА ВАСЕМНАЦЦАТАЯ: мы абмяркоўваем пісьмо Сямёна; выступалі Воўка, як член цэхкома па пытаннях быту, Касьян, як інжынерна-тэхнічная хунта ў пісьме, і іншыя.

Рабочыя ўздыхаюць, чакаючы, хто першы выступіць, глядзяць суседзям у твары і моўчкі пыхкаюць папяросамі. Стала цемнавата ў пакоі, і Касьян уключыў святло, хоць сонца на вуліцы яшчэ асвятляла верхавіны таполяў. Тытунёвы дым слаўся, як раннія восеньскія туманы. Сямён хваляваўся, расчэсваў валасы, праціраў пальцамі вочы. Нарэшце, закурыў. Аляксей Пятровіч устаў за сталом прэзідыума і прапанаваў выступіць члену цэхкома па быту. Воўка выйшаў на трыбуну. Ён спытаў у Сямёна, як той сам лічыць: ці правільна ўсё ў пісьме?
— Самі разбірайцеся,— махнуў рукою Сямён.— Усё роўна не зразумееце. Што гаварыць...
— Злавацца тут не прыходзіцца,—разважліва кажа Воўка.— Выбрыкі твае, Сямён, таксама не памогуць. Тут праўды не схаваць... Усё мы далі Сямёну, што змаглі. І яслі яму трэба. Але ж і сумленне мець трэба. Некалі Рыгор Андрэевіч цэлы год жыў на прыватнай. На ўступкі пайшоў Сямёну. Малады спецыяліст — падтрымалі чалавека. А калі такая падзяка, дык, можа, хай Сямён паўгодзіка ў грузчыках паходзіць. Вось якая мая прапанова. Распусцілі мы чалавека клопатамі сваімі.
Воўка сеў на месца.
— Судзіць мы нікога не збіраемся. Тым больш — караць,— устае з месца і гаворыць Аляксей Пятровіч.— Адказ на пісьмо трэба даць. Давай, Сямён, можа сам што скажаш?
— А што казаць, Аляксей Пятровіч? Брыгадзір хай во судзіць, калі разумны,— крывіцца Сямён.— Пажылі б на маім месцы, ведалі б тады, як гэта дзвюх кошак у адным мяшку змірыць.



Зноў наступае цішыня. Потым устае з лаўкі і прыпіраецца спіною да шалёўкі Касьян. Прыкладвае, нібы перад абразом, рукі да грудзей, гаворыць ціхім голасам. Гэта ён і ўся яго «нестраявая каманда» падпісвалі пісьмо ў цэхком, а Сямён узяў ды паслаў у «Праўду»... Ён, Касьян, бярэ свой подпіс назад і просіць прабачэння ў калектыву.
Многія яшчэ выступалі. Сарамацілі Сямёна і ўсіх, хто паставіў подпіс, а Коля Максімаў сказаў, што такою пісанінаю адрываць людзей ад больш важных спраў — адно злачынства. Толік дабавіў, што пісаць у газету трэба толькі што-небудзь дзелавое.
Аляксей Пятровіч уносіць прапанову, каб даць такі адказ на пісьмо: Сямён Круглоў не меў падстаў для скаргі. Агульны сход пацвердзіў гэта. Усе адмовіліся ад сваіх подпісаў.
Мы з Зінаю выходзім ледзь не апошнія. Заходзім у кантору, я распісваюся ў ведамасці, вытрасаю чырвоныя дзесяцірублёўкі з канверта. Зіна хуценька апранае паліто, каб разам са мною ісці да трамвая.
На двары, за цэхам, Зіна кідае мяне, даганяе Толіка. Бярэ яго пад руку і нешта яму таропка расказвае. На мяне яна ўжо не глядзіць.
Ціха цягне сваю бясконцую песню вецер. Скрыпіць пад нагамі зашэрхлая сцежка.
— Куды цяпер? — наганяе мяне Антон.
— Вядома, на заняткі... Нямецкую, праўда, не пераклаў...
— А мне думаецца, як бы пляшачку вінца раскалоць,— смяецца Антон.— Усё-такі грошы атрымалі.... Па традыцыі — дзень мадэльшчыка. У мяне вечар свабодны. А то работа, вучоба, сям'я... А калі ж галаве адпачыць?.. Вось каму зайздрошчу,— Антон ківае галавою на Толіка з Зінаю.
Зіна махае нам рукою на развітанне. Толік чакае нас. Перакідваемся некалькімі словамі. Антон падае руку на развітанне. Без аглядкі ідзе на свой прыпынак, бо яму ж ехаць у працілеглы з намі канец горада. Толік агітуе мяне зайсці ў сталоўку, хоць і сам я да гэтага віду спорту не такі ўжо абыякавы. Згаджаюся. Мы ідзём тратуарам, і я гляджу на неба, якое неяк раздзяляецца на дзве палавіны: на ўсходзе цёмна-сіняе і чыстае, а на захадзе сонца ледзь прабіваецца праз белаватыя сакавіцкія хмары.

### ГАДЗІНА ДЗЕВЯТНАЦЦАТАЯ: мы моўчкі вячэралі, у трамваі гаварылі з Толікам аб прайдзісветах, а пазней, ва ўніверсітэце, ён знаёміў мяне з Юнонай.

У вокны трамвая зазіраюць раннія вячэрнія зоры. Мне думаецца, што няма цяпер на свеце вышэйшай навукі, чым астраномія. У кожнай жа зоркі, як у людзей, свая арбіта, сваё святло, свая прыцягальная сіла, свая скорасць, свая прыгажосць. На момант нават нуднавата становіцца за будучую прафесію. Закончыш інстытут, а ўсё роўна ліцэйшчык... Начальнік ці падначалены — гэта не вялікая розніца. Але тут жа ўспомнілася дзяўчына на пад'ёмніку на фоне цёмна-сініх ад пылу промняў сонца. Усё гэта, чорт вазьмі, як сказаў бы дыспетчар, здорава!
Перад намі ў трамваі шыльдачка з фатаграфіямі безбілетнікаў.
— Толік, а безбілетнік — прайдзісвет? — ні з таго, ні з сяго пытаюся ў журналіста.

— Вядома...

— Слухай, а што такое прайдзісвет? Не аддаў жонцы тройку з авансу — гэта прайдзісвет. Ці, скажам, палучаеш вялікую пенсію, а сам здаровы — таксама прайдзісвет... Прыдумалі б якую новую фармуліроўку, ну, хаця б — «адміраючая праслойка паміж працоўнымі класамі».

— А што такое «праслойка»? Вось людзі ваявалі на фронце. Аднаго ў першы дзень салдатам забілі. Другія, што салдатамі пачыналі, Берлін бралі ўжо ў чыне палкоўнікаў. Трэція салдатамі прайшлі ўсю вайну... Усе аднаго разраду — салдаты, калі можна так сказаць.

— Аднаго... Але падступіся да каторага...

— А ты думаў — чаму? Усё, брат, з нас жа саміх пачынаецца... Сямён толькі нарміроўшчык, а глядзі — які царок у сваёй бухгалтэрыі! Намнам займаў пасаду — не прыступіцца было... Мы вучымся па дваццаць гадоў за кошт дзяржавы. З народнай касы грошы выбіраем. А закончым — ужо геніі, без кукіша ні да носа...

— Па-твойму, навука спецыяльная трэба — у інстытутах?

— Не толькі ў інстытутах. Але і ў школах. На прадпрыемствах. Нават акадэмікам не трэба саромецца напамінаць, чыім хлебам кормяцца... Усе каб ведалі, што патрабуецца ад каго. Вось мы і прыехалі. Дык пойдзем на заняткі, га?..

— Так і быць, угаварыў...

У вестыбюлі Толік, не распранаючыся, падыходзіць да Юноны, якая, мусіць, толькі прыйшла і прыгладжвае стаўбун выбеленых валасоў на галаве. З люстэрка глядзяць на мяне яе вялікія блакітныя вочы.

— О, Юнона, добры вечар! — Толік падае дзяўчыне руку.— Сёння ты рана...

— Не ўсё ж спазняцца,—адказвае дзяўчына і прыгладжвае валасы.

Толік ківае мне галавою, каб падышоў. Я гляджу на Юнону, і мне ўспамінаецца прыезд з флоту на пабыўку. Тады Юнона была танейшая і, чамусьці здаецца, вышэйшая ростам. Яна ніколі не ўзбівала стогам валасы.

Я подыходжу да іх.

— З чалавекам вось пазнаёмся,— гаворыць Толік да Юноны і ляпае мяне па плячуку. — З маскоўскага да нас перавёўся...

— Гаворыш абы-што, і яшчэ лапу сваю сунеш...— яна працягнула мне белую руку з залатым пярсцёнкам на сярэднім пальцы і засмяялася, зірнуўшы на забінтаваную руку.— Інвалід нейкі...

— Гэта дробязь... Затое хлопец — глядзі!..— сказаў Толік і выставіў вялікі палец.— Не так малады, але ж флоцкі...

— Маўчы, міленькі. Ведаем гэты флот,— ударыла Толіка па руцэ Юнона.

Яна яшчэ раз павярнулася да люстэрка, хвілін колькі глядзелася ў яго, а тады, ні слова не сказаўшы, дробненька пайшла па бетоннай падлозе вестыбюля. Мы крыху пачакалі і пайшлі следам.

— Яна з табою на адным курсе вучыцца?— ціха спытаў я Толіка.— Глядзі ты, а я не верыў, нават, што паступіла!..

— Халастая дама курса...— усміхнуўся Толік.— Бітая кабеціна. Пагавары, калі хочаш...

— Пазней табе раскажу. Гэта ж мая былая любоў.

— Яна замужам была. Маладая, відаць, выскачыла...

— Раскажу табе ўсё.

Бягом па лесвіцы падымаемся на другі паверх. Толькі зайшлі ў аўдыторыю, як з'явіўся высокі, сярэдніх гадоў мужчына. Густым басам ён сказаў, палажыўшы на стол папку, што сёння будзем разглядаць біяграфію і творчы шлях Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага.



Я азірнуўся назад, у правы кутох, дзе, нізка схіліўшыся, адна за сталом, нешта чыркала на кавалку паперы Юнона. Мне здалося, калі пазіраў на Юнону, што ўся яе прыгажосць неяк знікла з-за гэтых падмаляваных губ на сонным твары, з-за стаўбуна валасоў, хоць яна час ад часу бліскала на выкладчыка і на нас з Толікам светлымі і вясёлымі, як дзённае неба, вачыма.

**ГАДЗІНА ДВАЦЦАТАЯ: я слухаў спрэчкі аднакласнікаў Толіка з выкладчыкам.**

На перапынку ўсе выйшлі з аўдыторыі, а я паглядзеў у той куток, дзе сядзела Юнона. Над сталом толькі тырчала купіна валасоў — галава Юноны ляжала на руках, тварам уніз. Мне стала няёмка, і я выйшаў.

У калідоры шыракаплечы студэнт усё дапытваўся ў выкладчыка, якога называў Іванам Іванавічам, чаму ў нас у сярэдняй школе не вывучаюць Дастаеўскага. Іван Іванавіч усміхаўся, абсыпаў на далонь попел ад цыгарэты і няпэўна адказваў, што цяжкаватыя для разумення школьніка раманы пісьменніка.

— Іван Іванавіч, а я з вамі не згодзен, што Дастаеўскі не ўмеў апісваць прыроду,— ужо гаворыць Толік.— У любым яго творы ёсць такія пейзажныя мазкі, што вартыя цэлай карціны іншага пісьменніка.

— Ёсць, ёсць мазкі,— адказвае Іван Іванавіч, прыжмурыўшы вока.— Але ж не гэтым Дастаеўскі нам блізкі. Псіхалогія эпохі адлюстравана ў яго творчасці.

— З гэтым пагаджаюся,— гаворыць Толік і чырванее.— Луначарскі, здаецца, нешта падобнае сказаў.

— Многія гаварылі і сёння гавораць,— усміхаецца Іван Іванавіч.— Дастаеўскі вялікі псіхолаг...

Выкладчык адыходзіць да ўрны ў канцы калідора, зацягваецца цыгарэтай некалькі разоў, кідае недакурак і страсае попел з далоні. Звініць званок. Студэнты разыходзяцца па аўдыторыях.

**ГАДЗІНА ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШАЯ.** Ужо ад самых дзвярэй гляджу на Юнону: яна пальчыкамі праціраe вочы і разгладжвае шчокі. На твары ў яе абыякавасць да ўсяго на свеце...

Іван Іванавіч гаворыць павольна і важка, што Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі вельмі шкадаваў свайго брата, які толькі лічыўся рэдактарам уласных часопісаў і рана памёр. Толік дастае нейкую кніжачку ў цёмна-карычневых лубках і пачынае чытаць.

Я паднімаю галаву, гляджу на Івана Іванавіча, які ўсё ходзіць па аўдыторыі і кажа, што Фёдар Міхайлавіч зрабіў вялікі ўклад у гісторыю рускай літаратуры, а сам думаю пра Ніну: як яна будзе прыбіраць мой пакойчык, глядзецца ў люстэрка і чарніць бровы ці прычэсваць валасы...

А то ўяўляецца раптам Алка... Спіць яна ўжо недзе, цяжка ўздыхае спрасоння. А сніць яна, можа, турысцкі паход і палатку над

рэчкаю. Да яе падбіраецца той хлопец. І вось яна адкідвае рукі, заплюшчвае вочы. Вечнасцю цягнуцца адна, другая секунда... Удар усіх званоў свету. Яна ўсхопліваецца і крычыць, што цяпер ёй не жыць на свеце. Тады лыпае вачыма і кідаецца ў падушку. Плача, злуецца на Лёньку, якога кахае, трымаецца за яго аберуч, а ён аддаляецца ад яе з кожным днём...

Прасцей за ўсё Зіне. Яна спакойна сядзіць у чытальнай зале, пакуль закончацца лекцыі. Упэўнена, што Толік не забудзецца яе клікнуць. Яны разам пройдуцца па вуліцы. Ды Зіне, можа, і не абавязкова чакаць Толіка. Калі б яна сустрэла другога чалавека, якога пакахала б — ёй можна смела хадзіць па вуліцы, нават у загс з ім ехаць, а тады смяяцца ад радасці за вясельным сталом, успамінаць увесь век сваю маладосць і Толіка...

Паварочваюся да Юноны, якая, відаць па твары, нешта думае, падпёршы рукою галаву, і глядзіць мне ў вочы. Пра што яна?..

Звініць званок. Іван Іванавіч усміхаецца, ківае на развітанне галавою і выходзіць з аўдыторыі.

Толік закладвае паперку ў кнігу, якую чытаў на лекцыі, кладзе яе ў стол і соладка пацягваецца. Я пытаюся, чаму ён не слухае Івана Іванавіча і чаго, наогул, ходзіць тады на лекцыі. Толік кажа, што ходзіць таму, каб не злаваць выкладчыка. Некаторыя ж ходзяць, каб весці канспект, куды запісваюць не надта новыя думкі выкладчыка. Іх бывае досыць, каб здаць экзамен. Іван Іванавіч большага і не патрабуе.

Мы заходзім зноў у аўдыторыю. Староста і дзяжурны прыносяць падшыўкі раённых газет з кабінета друку і раскладваюць на сталы.

**ГАДЗІНА ДВАЦЦАЦЬ ДРУГАЯ: я праглядаў у газеце зводку па надоях малака, чытаў чарнавік Толіка, а на перапынку сеў побач з Юнонай.**

І насупраць мяне староста курса кладзе на стол некалькі газет. Я праглядаю на першай старонцы зводку па надоях малака ў калгасах раёна і думаю: як многа яшчэ ў нас малака расходуецца на тэхнічныя мэты... Прыкідваю, што толькі на казеінавы клей для сталяркі, якую робяць у нас на заводзе, ідзе некалькі тысяч тон малака ў год. Праўда, наш цэх вось ужо восем месяцаў, як перайшоў да спецыяльнага клею з смалы і шчаўевай кіслаты. Усе толькі здзіўляюцца, як гэта раней ніхто ў цэху не мог даўмецца, што ёсць танная і выдатная замена малака. Дадумаўся да гэтага нехта з нашых хлопцаў.

Толік, адчуваю, штурхае локцем мяне пад бок і падае пакамечаны сшытак у жаўтавата-цёмных лубках, дзе ў левым куточку напісана буйнымі крывымі літарамі, што гэта чарнавы накід да будучага эпічнага твору.

На першым лісце чытаю, што «дзіцячая хвароба» ў кожнага з нас праходзіць з гадамі. Нават Лёньку, які не хоча браць замуж Алку, ужо не кладуць пад падушку ні плітак шакаладу, як некалі ў дзяцінстве, ні бутэлек з віном. Не кажуць яму, што ўсё гэта прынёс дзед Мароз...

Праз некалькі старонак Толік успамінаў, як некалі ў вайну хадзілі яны з маці ў фашысцкі гарнізон па яду, бо быў голад. Жылі ў падсуседзях, у зямлянцы старога Лукаша, які памёр, бедалага,



у сорак чацвёртым, на самым сконе зімы, не дачакаўшыся жаданых сваіх і сына-франтавіка...

Трывожна стала ад ваенных успамінаў. Я адлажыў сшытак убок, а сам гляджу ў акно, дзе адбіваюцца лямпачкі, партрэт на сцяне, цёмная праваліна дзвярэй і твары вячэрнікаў. Юнона нешта піша. Вось, бачу, моршчыцца і прыкладае рукі да грудзей. Потым бліскае вачыма на мяне, на выкладчыцу і ўсміхаецца. Але да мяне крадзецца трывога. Думаю, што цяпер недзе ў інстытуце хлопцы пераказваюць на нямецкай чарговы дыялог з падручніка. Высокая «немка» сядзіць на крэсле, ківае галавою і кажа ўжо каторы раз, што я слаба ведаю мову...

Ратуе мяне ад летуценнасці званок.

Павольна ідзём з Толікам у другі канец калідора. Ля кабінета машынапісу нас абмінае Юнона.

— Хоць бы на апошняй лекцыі пагаварыў з ёю,— шэпча Толік і ківае галавою.— Усё паглядае ў твой бок.

Зноў, бачу, уздрыгвае стрэлка гадзінніка над лесвічнай пляцоўкай, паказвае пачатак лекцыі. Звініць званок.

У аўдыторыю я заходжу першы. Іду да Юноны, пытаюся ціха, ці можна прысесці побач, каб паглядзець газеты. Яна спакойна ўздымае галаву, глядзіць на мяне і ласкава ўсміхаецца. Тады праводзіць далонню па сядзенні крэсла, нібы выцірае яго.

Я праглядаю газеты. Думаю, з чаго пачаць гаворку. Ад Антона я не раз чуў, што «паненкі» любяць слухаць праўду або завучаную хлусню.

Вось чытаю ў газеце, што ў калгасе «Перамога» ўжо каторы год кожны месяц авансуюць працаўнікоў і калгас першы ў раёне па вывазцы ўгнаенняў. Падкрэсліваю алоўкам і паказваю Юноне лічбу і шапчу ёй, што пяцьдзесят капеек на працадзень, акрамя там хлеба і да хлеба ў канцы года,— не малыя грошы. Юнона ўсміхаецца і кажа, што яна век бы не жыла ў вёсцы. Хоць бы там і па дзесяць рублёў плацілі. Выкладчыца робіць нам заўвагу, каб не перашкаджалі іншым сваімі шэптамі. Юнона піша вялікімі літарамі на лісце паперы: «Чаму ты не пайшоў сёння ў свой інстытут на заняткі?»

Такім жа спосабам я адказваю, што вельмі хацелася сёння прыйсці сюды. Юнона ўсміхнулася і зноў пытаецца, кім я буду пасля заканчэння інстытута. Адказваю, што ліцейшчыкам. На гэта яна пакрывілася і чмыхнула. Юнона не хоча верыць, што я люблю сваю будучую прафесію, а я пішу на лістах паперы, што хутчэй жонку кіну, чым сваю прафесію. Нам з Юнонаю так весела...

**ГАДЗІНА ДВАЦЦАЦЬ ТРЭЦЯЯ.** Мы з Юнонай і Толік з Зінаю ідзём па вуліцы.

Зыркі вецер падхоплівае сухія сняжынкі, сячэ імі твар.

— Людзі, а мне холадна...— гаворыць Юнона і захінаецца каўняром паліто.— Ух, холадна!..

— Сяргей, схаваў бы дзевачку ад ветру,— моцна кажа Толік.— Флот — мне называецца...

— Холадна? — пытаюся я.— Мне ж дык цёпла...

— Наш Толічак не ўмее без жартаў,— смяецца Юнона.— Хутчэй бы дамоў, пад коўдру... Ух, буду спаць...

— Юнона, а сніцца нічога не будзе? — пытаецца Толік.— Мне заўсёды які-небудзь раман на маральна-бытавую тэму не дае спакою.

— Што ты кажаш, хлопчык? — паглядзела Юнона ў твар Толіку.— Ты ж вечна заняты, таму раманы табе толькі сняцца... А я не буду акадэмікам — забылася пра сны...

Вось з бібліятэкі хутка выходзіць Зіна, падбягае да нас. Яна вітаецца з усімі за руку. Мы разбіраемся парамі — я ўзяў пад руку Юнону.

Пад нагамі на тратуары патрэсквае лёд, і сыплюцца долу каля сцен і труб сухія сняжынкі. Зіна азіраецца на нас, гаворыць нешта Толіку на вуха і смяецца.

Юнона напявае сабе пад нос незнаёмы нейкі матыў. Нічога не адказвае, хоць я гавару пра тыя веснавыя дні, калі апошні снег пакідае зямлю.

— Глядзіце, Лёнька з Алкаю!..— прыпыняецца наперадзе і гаворыць Толік, паказваючы рукою на другі бок вуліцы.— А заўтра памылкі будзе шукаць...

— Мне ж гаварыў, што не пойдзе на сустрэчу,— смяюся я.

— Ідзём, міленькі, ідзём,— гаворыць мне Юнона.— Было б на што глядзець! Знайшлі закаханых.

Ступілі можа дзесятак крокаў уперад, як проста на нас, бачу, ідзе былы муж Юноны з маладзенькай дзяўчынай. Вясёлыя такія, гамоняць. Мне так нудна зрабілася, што я адвярнуўся, каб яны не заўважылі нас. Юнона глядзіць на мяне, нічога не разумее. Мне ўжо нейкі мрой засцілае вочы: то кружыцца грэбля і яна, Юнона, у мяне на руках, то чутны ў вушах вясельныя спевы.

Ужо і Юнона заўважыла былога мужа. Ён жа не бачыць нас.

— Ідзём, міленькі, ідзём,— гаворыць Юнона, спрабуючы крануць мяне з месца.— Мая кватэра так блізка ад тваёй...

— Я, Юнона, дамоў пайду.

— Не шапчы, міленькі, нас не чуюць... Кватэра, кажу, блізка. Дурненькі.

«Смяецца яна з мяне? — думаю я.— Ці гэта помста мужу?»

— Пайду дамоў, разумееш! — кажу я знарок злосна і моцна.

Следам за мною ляціць: «Кавалеры мне!..»

**ГАДЗІНА ДВАЦЦАЦЬ ЧАЦВЁРТАЯ: я застаў на кватэры Ніну і Антона, даведаўся, што гаспадары паехалі на вёску, бо свёкар Ларысы Кірылаўны цяжка захварэў; мы з Антонам гаварылі.**

Вецер шуміць за спіною, так хутка іду я па завулках. І думаецца мне: хай сабе ў песні адыходзяць былыя дні, але на зямлі заўсёды так было. Рэдка каго абмінаў віхор кахання. Нікога не паіў ён толькі прахалодаю сяброўства. Гэты віхор хутка зносіў мармуровыя глыбы і будаваў харомы. І гэтак жа імгненна разбураў іх.

Ярка свеціцца вокнамі мой дом. Антон сядзіць на канапцы ў зале і чамусьці ўсміхаецца. Стаю ў неўразуменні. Праз фортку чуваць вясёлая прыпеўка з пласцінкі, а тады і Ніна з'явілася каля акна.

На момант заміраю на месцы, бо мне вельмі хочацца, каб гэтая дзяўчына вечна была са мною. Не абнімаў бы яе, каб не спужаць, а толькі б глядзеў, глядзеў ёй у чорныя вочы. Забываюся пра ўсё на свеце, як апантаны, убягаю ў пакой і з парога крычу:

— Добры вечар, Ніна!

Яна ўсміхаецца, падыходзіць да радыёлы. У секунду вясёлыя прыпеўкі змяняюцца вальсам. Антон жа гэтым часам міргае мне,





каб пашукаў чаркі раздзяліць віно. У нерашучасці стаю я каля шафы.

— Ніна, у нас сёння «Дзень мадэльшчыка»,— кажу я ціха.— Паглядзі, калі ласка, чарачкі...

— Дзед хворы, а мы — выпіваць,— пачырванеўшы, адказала яна.—Ды што за свята — «Дзень мадэльшчыка»?

— Аванс сёння,— адказвае Антон.— Традыцыя ў цэху такая... А дзед папраўіцца і вып'е сваё... Не лянуйся, паненачка, дай чарачкі...

— Мне не шкада,— адказала Ніна і выйшла на кухню.

— Дзед захварэў? — гавару я.— А летась яблыкі вазіў у горад, хату перасыпаў. Як у жыцці ўсё...

— Не бядуй па дзеду,— смяецца Антон.— Глядзі, во, якая дзяўчына!..

— Маўчы ты з паненкамі, з каханнем...— кажу я.— Я ўжо нікому не веру. Вось бачыў сёння: Лёнька з Алкаю па тратуары на прагулцы. А днём кляўся, што не пойдзе на сустрэчу... Толік з Зінаю, сам ведаеш, дружаць. Таксама было гаворак!

— На тое яно і жыццё, каб гаварыць... А што ходзяць разам, дык вясну маладыя чуюць. Яно разабрацца, дык сакавік — самы вясельны месяц...

— Якое там вяселле ў сакавіку? З веку не жаніліся ў разводдзе.

— Так здаецца, а ўся весялосць з сакавіка пачынаецца! Вось бяры заўтра Ніну ў таксі ды ў загс... Нікога не слухай, ніякіх гаворак.

— Ідзіце, усё гатова,— кліча нас з кухні Ніна.— Толькі закусі асаблівай няма: сала, капуста, хлеб. Такая з мяне гаспадыня...

— Нічога, мая паненачка. Усё ладам сыдзе!

Мы з Антонам доўга прасілі, каб Ніна прынесла трэцюю чарку, каб пасядзела з намі за сталом, а яна выйшла ў залу, мяняла пласцінкі. Я цягнуўся рукою зачыніць фортку, а Антон кажа, што да нас з двара толькі цяпло прыходзіць: сонца з неба, дровы з лесу, каханне з вуліцы. Ніякае там няма сырасці ў акне. Мы з Нінай смяёмся.

За акном завывае пацiху вецер. Усё сыплюцца па шыбах сняжынкі. Мне ўжо становіцца надакучлівым расказ Антона пра тое, як некалі быў ён у стэпе на вучэнні, як паліла сонца і чуліся звонкія стрэлы з карабінаў. А ў перапынках, як закон, спяваў жаўрук. Антон быццам падслухаў мае думкі, бярэ шапку, заходзіць у залу і доўга глядзіць на Ніну, на мяне:

— Чаго задумаліся, людзі? Не слухайце гаворак, не прыглядайцеся на вуліцу. Сакавік — месяц вясельны, кажу вам! Добрай ночы!

Антон пайшоў. Ніна выключыла прыёмнік, села на канапцы са мною побач і распытвала, якія фільмы ідуць цяпер у кінатэатрах, з кім я сябрую ў горадзе па-сапраўднаму, дабівалася ад мяне нейкай сур'ёзнай размовы. Потым усхапілася і пайшла слаць ложак. Я ж вярнуўся да сябе ў пакой.

— Слухай, Сяргей! — з-за перагародкі пыталася Ніна.— Праўду казаў Антон, што сакавік — вясельны месяц?

— Вядома, вясельны! Усе на свеце парамі, парамі. Толькі мы... Нешта не тое...

— Сярожа, я сплю-у-у!

А голас у яе радасны. І зусім не сонны...

◆ ◆ ◆

## Аляксей ПЫСІН



●

●

Далёкі тупат кананады.
Бягуць грымоты, як сланы.
Ідзём без строю, без каманды
Пад балалайку ў тры струны.

Патроны. Антрацыт махоркі.
Адстаў прастуджаны баян
З абозамі. Скарагаворка
Вясковай песні люба нам.

За ворагам нам доўга гнацца
З гранёнай ярасцю штыкоў.
«Сямёнаўну»
сяржант Ігнаццеў
Вядзе з смаленскіх бальшакоў.

З-пад хвояў выступае вёска,
Салёна пахнуць палыны.
«Сямёнаўну»
спявае войска,
Нібы вяртаемся з вайны.

Спяваем мы пакуль пяецца,
Спявае вецер і сасна.
Не ведаем, дзе абарвецца
Недаспяваная струна.

Сухі пясок. Сухія гаці.
Сухі туман балтыйскіх вод.

На дзюны ўпаў сяржант Ігнаццеў
Пад біўні зломленых грымот.

Чарнеюць спаленыя дзюны,
Чарнее глыба валуна.
Парваныя сцякаюць струны:
Сямёнаўна,
Іванаўна...

Яшчэ ў нас будзе гром і ціша,
Яшчэ не раз знямее ўзвод.
І хтосьці з нас, жывых, напіша
Свой рэквіем
праз дваццаць год.

●

На лугах зіма туманы сушыць,
У садзе злёт паўночных снегіроў.
Над пагостам чорны воран
кружыць,
Той, што помніць трох багатыроў.

Першабытны іней. Снег няталы.
У белых правадах стаіўся час.
Быццам людзі ў космас не ляталі,
Быццам сам іду у першы клас:

Вось вярнуся з школы — без абеду
Пабягу да птушак пад абрыў;
Кружыць воран... Папрашу суседа,
Каб з бярданкі ворана забіў.

## ВАРАЖСКАЯ БАЛАДА

Паўночныя воблакі ў леце,
Свіст рыжых разбойных вятроў.
Пад ворсам мурожнага ўзлесся
Падземнае царства кратоў.

Мы — босае племя падпаскаў —
Рабілі ў тым царстве падкоп
І ставілі чуйныя пасткі
У хадах першабытных эпох.

Пушніну з-пад дрэў здабывалі,
З-пад быстрых звярыных слядоў.
А неба звінела дубамі
І сыпала медзь жалудоў.

Хоць футры — без іскры пясцовай,
Па вартасці — не сабалі,—
Мы з гэтай валютай мясцовай
З варагаў у грэкі плылі.

●

На могілках, патомкамі забытых,—
І зелень дрэў, і чорныя сукі,
Паўзучы мох на адзінокіх плітах.
Тут «у вайну» гулялі хлапчукі.

Пасля баёў, усталяваўшы згоду,
Ламалі суччa, дыхалі ў касцёр.
Прынеслі бульбы з позняга гароду,
Здаля сыпнулі, быццам у кацёл.

Аж заскакалі іскры, дым вясёлы
Пачаў кружыцца на адной назе.
Хіснуліся мадонны і анёлы
У вапняковым шматвяковым сне.

Занадта жару. Бульба абгарэла,
Счарнелыя дымяцца круглякі;
Бяруць з агнём — і аб сырое дрэва,
І сыплюцца з далоняў светлякі.

Без солі смачна бульбу дзеці елі
У сухім святле недагарэлых дроў...
З-пад пліт, з-пад дрэў гусцей сышліся цені:
Даўно не грэліся каля кастроў.

———————— □□□

Аркадзь КАНДРУСЕВІЧ



# ДВА АПАВЯДАННІ

Мал. В. Кандзера

## КРАІНА МЕДУНІЦ

Ён ляжаў, грэўся на жоўтым, перамытым вадою пяску.

Яшчэ на досвітку трэба было перагнаць лайбу на той бераг Прыпяці і паставіць ніжэй Прымётаў, дзе з зімы ляжалі штабялі фашыны. На кацер было мала надзеі, бо яшчэ ўчора ён падчапіў два плыты і пабуксіраваў іх пад Канатоп. І ці вернецца сёння. Прыйдзецца абысціся неяк самому, інакш, калі не падаць лайбу пад пагрузку, рабочыя ўзнімуць гвалт, скажуць прарабу, і тады не чакай дабра.

Тым не менш Міколу было не да лайбы. Халера б іх пабрала — і тую пасудзіну, на якой ён весь ужо другое лета працаваў шкіперам, і тыя пукі лазы, што завуцца нейкім незразумелым словам «фашына»! Каб была яго воля, ён сёння кінуў бы работу. Вось так падняўся б і пакрочыў у вёску, да тых веснічак, ля якіх засталіся яго сляды. Цяпер Міколу здавалася, што самае галоўнае, самае важнае так і не было сказана і што, каб сказаць гэта важнае, яна, мабыць, перадумала б, і тады ўсё стала б на сваё месца.

Як добра было б кожную раніцу, ідучы на работу, азірнуцца і ўбачыць Настулю на ганку новай хаты, ведаць, што яна будзе чакаць увесь дзень... Але хата тая пакуль толькі ў Міколавых думках, а Настуля яму ўчора такое сказала, што лепш бы і не чуць.

...Яны сядзелі на прызбе Настулінай хаты. Праз акно прабіваўся пучок святла і малочнаю плямай падаў ім пад ногі. Цемрадзь і цішыня паступова апаноўвалі вёску. І толькі аднекуль з балота даносілася бязладнае крумканне жаб.

Настуля моўчкі пераграбала наском туфелькі пясок. Мікола зацята курыў адну цыгарку за другою.

— Мабыць, на дождж збярэцца...— не знайшоў нічога іншага, а так, каб распачаць гамонку, сказаў Мікола.— Бач ты, які грай учынілі. Адно знай — рэгчуць...

Настуля пырскнула нястрымным смехам, і ён адчуў, што сказаў, мабыць, нешта недарэчнае і што дзяўчына неўзабаве абсячэ яго. Ей заўжды карцела пакпіць з ягонай нязграбнасці. Здавалася, яна знаходзіла ў тым нейкую асалоду. А ён у такіх выпадках зусім губляўся, не знаходзіў слоў і толькі махаў рукою:

— Ну, хай сабе...

«Хай» у яго было, наогул, словам незаменным. І без таго негаваркі, Мікола ляпіў сваё «хай» дзе трэба, дзе не трэба, і тым самым наклікаў сабе мянушку. На вёсцы яго ніхто інакш не зваў, як Коля Хай. А Сцёпка Руль, яго аднагодак, пры кожнай сустрэчы дапякаў:

— Хай у градах, хай заспею, хай ламакаю прыб'ю...

Гэтак Мікола сказануў яшчэ ў дзяцінстве, калі памагаў свайму дзеду вартаваць калгасны агарод. Неяк ён узлаваўся на вясковых хлапчукоў і, запінаючыся, выказаў тое, што потым прыліпла да яго, як смала да кашулі.

Праўда, з гадамі Мікола выцягнуўся ў ладнага плячыстага хлопца, і ўсё менш і менш знаходзілася ахвотнікаў пачасаць язык. Наадварот, яго хвалілі на вёсцы за руплівасць і не раз ставілі ў прыклад другім.

— Увесь бацька,— гаварылі адны.— Каб жыў Юстын, не нарадаваўся б...

— Чыёсьці шчасце ходзіць...— дадавалі другія.

Старая Юстыніха моўчкі слухала іх, і светлыя, акаймаваныя густой сеткаю маршчын, вочы яе гарэлі затоенай мацярынскай радасцю.

— Дзівак ты, дзівак,— стрымліваючы смех, нарэшце, сказала Настуля.— Другія хоць зоркі лічаць, а ты ўсё пра жаб. Шкада, што курсаў не адкрываюць для такіх, а то б паехаў, падвучыўся.

Мікола адчуў, як твар яго зардзеўся. Але ратавала цемень, і хлопец быў рады, што хоць гэта не бачыць Настуля.

— Хай сабе, хай...— нібы шукаючы спагады, выціснуў ён і надоўга змоўк.

Маўчала цяпер і Настуля. Можа яна ўсё яшчэ смяялася з яго, а можа, наадварот, шкадавала хлопца і дакарала сябе за нястрымнасць, за свае бясконцыя кпіны. Толькі ці так? Настуля, напэўна, ужо забылася пра яго і прыгадвае нешта іншае, далёкае. Не аднойчы Міколу даводзілася слухаць Настулін расказ пра нейкую краіну медуніц, слухаць і здзіўляцца: адкуль толькі выдумка бярэцца ў дзяўчыны?

А ён так не можа. Ён жыве тым, што перад вачыма, з чым звязваюць яго работа, абставіны. Што ж зробіш! Не ўсім жа, сапраўды, быць рамантыкамі, не ўсім марыць пра палёты на Месяц. Нехта ж павінен і шкіперам працаваць, нехта — фашыну грузіць, камусьці трэба гаткі гаціць, каб не віхляла Прыпяць па кручах. Ды і сама Настуля, калі праўду казаць, зорак з неба не дастае. Перакідваць костачкі на лічыльніках і ён бы змог, каб была патрэба...

Так то яно так, а ўсё ж прыкра выходзіць, калі язык у цябе, як — калода. З якім нецярпеннем чакаў ён кожнага вечара, каб пры сустрэчы сказаць усё, што поўніла грудзі. І не мог.

Дзіва дый годзе! Ну хто яна, гэтая Настуля? Хто? Не з неба ж звалілася... Побач расла, разам з другімі басанож бегала ў лес па сыраежкі, разам пасвіла свіней за Бурчаком. І не аднойчы, бывала, Мікола торгаў яе за рыжаватыя пасмы валасоў. А выраслі, і сам не прыкмеціў, дзе і як пераступілі той рубеж, калі скончылася іх дзяцінства, калі Настуля стала для яго самым незаменным, самым блізкім чалавекам. І ў той жа час самым загадкавым і далёкім. Нават цяпер, калі сядзелі побач, ён здагадваўся, што і жывуць і думаюць яны па-рознаму.

— Заўтра канцэрт будзе ў клубе,— сказала Настуля, і Мікола адчуў, як балюча кальнула ў грудзях. Ён не любіў, калі Настуля выступала ў канцэртах. Не любіў таму, што спявала яна заўжды пад гармонік Сцёпкі Руля. І ад аднаго толькі позірку, які Настуля кідала на гарманіста, Міколу рабілася не па сабе, яго мучыла здагадка, што, мабыць, Настуля кахае Сцёпку, кахае таемна і горача.



— А ён... будзе?

І хоць не рашыўся сказаць, хто іменна «ён», адчуў, што Настуля зразумела, пра каго ідзе гаворка. Яна зноў, на гэты раз неяк наўмысна, засмяялася і ў сваю чаргу спытала:

— А табе што?.. Раўнуеш?

Раўнуеш... Значыць, яна ведала яго трывогу. Ведала і маўчала. Ён абіваў парог яе хаты, на нешта спадзяваўся. А спадзявацца зусім і не было на што. Сапраўды, што ёй ты, што ёй твой фашыннік, твае расказы аб гатках, перакатах і кручах, калі ў яе ёсць нейкая краіна медуніц, калі праважатым у гэтую краіну выбрала другога?..

— Хай сабе і так,— больш сам сабе, чым Настулі, адказаў Мікола.— А толькі...

Ён яшчэ нешта хацеў сказаць, але словы зблыталіся, набеглі адно на другое і, шукаючы паратунку, Мікола палез па цыгарку. Чыркнуў запалку, але яна зламалася і ўпала ў пясок.

— А толькі...— не без кпін закончыла замест яго Настуля,— толькі ёсць яшчэ на свеце і салаўі...

Што яна хацела гэтым сказаць?

... Мікола не прыкмеціў, як сонца выбралася з-за вербніку, павольна паплыло па небе, кідаючы безліч пякучых лушчынак на шырокі прасцяг ракі. А яна, магутная, дыхала цяплом, ласкава падмывала бераг. Кволы ветрык даносіў з расяністага лугу водар валяр'яны, перамешаны з гаркавасцю лазы, са свежым пахам вільготнага пяску. Сёння Прыпяць была спакойная і лянівая. Хто ведае, колькі стагоддзяў плыве яна, колькі бачыла на сваім вяку! Цікава ўсё ж, каб неяк аднойчы адкрылася і расказала сваю гісторыю... Напэўна, у гэтай гісторыі было б нямала сумнага, нямала слёз, бо ў кожнага чалавека, што жыў і жыве на яе берагах, спрадвеку былі і ёсць свае клопаты, свае нягоды.



І чаму, сапраўды, так бывае часам у жыцці? Можна, скажам, асадзіць на вось чатыры колы, і яны будуць суладна тарыць дарогу. Можна скласці адно да другога паўсотні бярвенняў, і яны стануць хатай. А паспрабуй, звядзі двух людзей, і не заўсёды будзе лад. Вось хоць бы і яны з Настуляй. Ён з раскінутымі рукамі, здаецца, кінуўся б да дзяўчыны. А Настуля? Яна думае пра другога. А той, другі? Ці пойдзе ёй насустрач?

— Ах, як добра было б, каб бачыць чалавека наскрозь! — уздыхае Мікола.— Ведаць кожную яго думку, добрую і злую... Куды менш тады стала б гора на зямлі... А можа нават і зусім яго не было б...

— Падай лайбу-у-у! — раскаціста пранесла рэха нечый голас па рацэ, і Мікола не адразу сцяміў, што гэта крычаць яму. Ён яшчэ нейкі час ляжаў нерухома, утаропіўшыся позіркам у чорны крыжык каршучка, што павольна кружыў у небе, потым спакваля падняўся з пяску і нетаропка пакрочыў да лайбы.

# ТРЭСКІ

Перасох Бурчак. Адбушаваў сваё вясною і ўгаманіўся. Цяпер толькі недзе ў верасні ажыве, калі пойдуць асеннія дажджы, перапоўняць балоты ў Блізкіх і Дальніх Прагноях, і, шукаючы выйсця, хлыне вада па вузкай ручаіне, падмываючы берагі, панясецца да Прыпяці.

А цяпер Бурчак вераб'ю па калена. Таму і баяцца загубіць гэты час дарожнікі. Таму і кіпіць зараз ля Бурчака работа. Сёння толькі пачалі будаваць новы мост, а ўжо, глядзіш, паўдзесятка паль ўзнялі. Праўда, ні «бабы», ні чакухі ля моста не бухаюць, а справа ідзе. Заганяюць бярвенні помпаю, пажарную машыну для гэтага прыстасавалі. Насмокча машына вады поўную цыстэрну і потым праз шланг вымывае ёю лунку пад па́ляй. Толькі роўна дзяржы ды з боку ў бок па́лю пакалыхвай, сама ў грунт лезе, як лыжка ў смятану.

Міхаль цюкае і цюкае сякерай па бервяне, сячэ абалонь на трэскі. Бярвенні вялікія, разлічаны якраз на ўсю даўжыню моста. Такіх прагонаў чатыры. Два брусуе Міхаль. Два — напарнік Хімак. Астатнія дванаццаць кароткія. Гэта — лагі. Іх пакладуць упоперак моста. І хоць над лагамі будзе меней работы, а ўсё ж папацець давядзецца. Ці ўправяцца яны за два дні ўсё да парадку давесці. А няблага было б сёння аббрусаваць бярвенні. Тады, лічы, заўтра засталося б прабіць гнёзды ў прагонах і лагах, зарэзаць пальцы на па́лях, а там і асадку пачынай. Гэта ўжо не іх клопат, маставікі самі зробяць.

Узмах у Міхаля шырокі, сякера ўзлятае вышэй пляча і важка падае ўніз.

— Гах! Гах! — тонуць удары ў марыве спякотнага дня. Русявы Міхалёў чуб то ўскінецца над галавою, як пеўнеў хвост, то ўпадзе, засціла́ючы ўзмакрэлы лоб.

Крокаў за пяць, з левай рукі ад Міхаля працуе Хімак. Уся даўгавязая Васілёва постаць гойдаецца, як калодзежны журавель, уперад-назад, уперад-назад. І здаецца, што не сякерай, а таўкачом гасіць ча-

лавек у нябачную ступу. Калі трэска адлятае далёка ўбок, Хімак нетаропка падбірае яе і кладзе ў кучу. Можа таму, што часта даводзіцца хадзіць па трэскі, і адстаў крыху Хімак ад Міхаля. Ён толькі над другім бервяном дзяўбецца, а ў Міхаля ўжо дзве лагі і прагон аббрусаваны.

Што ж, няхай ходзіць, няхай збірае. Міхаль свае потым падграбе, не пуховыя, ветрам іх не параскідае. Вось толькі, як іх потым дамоў даставіць. Хоць ты кашалём якім насі. Падумаў так, і засмяяўся з сваёй недарэчнай думкі. Ці ж блізкая дарога на плячах насіць гэткі цяжар. Іх вунь ужо можа з воз назбіралася, а яшчэ ж уся работа наперадзе! Але ж — паўбяды. Мабыць і Хімак сваіх тут на ноч не пакіне. Яму ў Цітка, брыгадзіра, валоў прасіць не трэба, залыгаў ды і ў ярэмец. Конюх сам.

Як там ні круці, а пашанцавала яму. Не так і часта ў Рагазянцы пабочны заробак падвернецца. А тут, як той казаў, дома і замужам. Можна будзе купіць сёе-тое, і дзецям на цукеркі застанецца. Міхаль так уруліўся ў работу, так затлуміў сабе галаву думкамі, што не прыкмеціў, як да моста падкаціў з двуколкаю Асон Кляпец.

— Памажы, божэ!..— агаліўшы палыселую галаву, прывітаўся стары.

— Дзень добры, дзед,— сказаў Васіль, уклюнуў сякеру ў палена і разагнуў спіну.— З твайго бога — слабая дапамога. Сам бы ўзяўся за сякерку, памог бы...

— Гэт, нябож, скажаш тожа! Які ўжо з мяне памагаты,— знарок зацята закашляўся Асон.— Лічы, што парахня з мяне сыплецца, як тая мука з дзіравага рэшата. Ад сяла вярста ўсяго якая, а во, ледзь дачоўп.

Скрыпучая вярба два вякі жыве, прыгадалася Міхалю, але не стаў крыўдзіць Асона. Выцяг з кішэні карабок «Прыбою» і таксама прысеў на канец прагону перадыхнуць. Ужо закурваючы, кінуў вокам на двухколку. Няходкая, праўда, гэта штуковіна па рагазянскай пяшчузе, а ўсё ж лепш, чым на плячах. Папрасіць ці што ў Асона двухколку, звярнуцца б разы тры, і, глядзіш, у двары былі б трэскі... Толькі не дасць Кляпец. Сам мо па які рэзнік свінням у Шышоўкі наважыўся. Ды і прасіць у Асона не вельмі хочацца. Не далюблівае Міхаль гэтага хітругу. Век свой Асон біў лынды, усё па цяньку ды па халадку бадзяўся. То ад раённай арцелі дубцы прымаць наймецца, то кашы на прыстані вартуе, а то з жонкаю шчаўе на базар возіць. Лічы, што з дармовай травы капейку збівае...

За ім і тут вось месца ніхто не перахапіў. Як завезлі ўзімку лес да Бурчака, так і Кляпец тут як тут вартаўніком уладкаваўся. Калі толкам разабрацца, дык смех адзін — якое можа быць вартаўніцтва каля дваццаці паляняк? Хто там возьме лічанае. І не вартуе іх Асон зусім, спіць ноччу дома на цёплай печы. А сёння вось прыцягнуўся, хоча паказацца перад прарабам: не дарма, маўляў, грошы атрымліваю.

— Не прыкідуйсе, дзед, кволым. Лепей расказаў-бу, як язёў лавіў,— пускаючы колцы дыму, смяецца Хімак.— Лізануў, кажаш, з чужое скаравады, аж язык у болбутні пайшоў...

— Цябе, чалавеча, хлебам не гадуй — дай зубу палызіць,— сярдзіта заёрзаў Кляпец на мастку двухколкі.— Як той вятрак, і завозу няма, а круцішсе.

Міхаль падвастрыў сякеру і прыняўся брусаваць палена. Няхай меле Ямеля, пакуль язык не забаліць. І Хімак таксама Асону ў пару трапіўся. Мо да вечара надумаў з Кляпцом пераліваць з пустога ў парожняе. З такім напарнікам не тое што заўтра, а і да канца тыдня не ўправішся. Ды і бярвенні засталіся, як на падбор — сук на суку.



Надзяўбешся з імі, пакуль да ладу давядзеш. Праўда, у яго адна паляняка яшчэ нічога сабе — чыстая, роўная. Але за яе Міхаль знарок зараз не бярэцца, на потым пакінуў. Як-ніяк стомішся за дзень, хай пад канец лягчэйшае будзе...



— Ты што робіш, дзед? Што ты робіш? — Міхаль разгінаецца і бяжыць да Асона. Ніхто і не заўважыў, як стары налажыў на двухколку добрае бярэма трэсак і цяпер уціскае іх вяроўкаю, каб не спаўзлі па дарозе.

— А што яны, твае?.. Твае гэта трэскі? Га — скоса паглядае Кляпец на Міхаля і працягвае закручваць вяроўку.— Знайшоў бацькаўшчыну... Казённы лес — казённыя і трэскі. Я іх тут з зімы... А ты...

— Васіль, ці чуў ты такое? — збіты з толку Кляпцавай нахабнасцю, азіраецца Міхаль. Але Хімака паблізу няма. Куды б гэта яго панесла? Можа адлучыўся да маставікоў? Так і ёсць. Вунь мільгае паміж паляў яго ліняла кашуля.— Васіль! Эге-эй! Ты гля, што тут стары вычварае...

Асон мітусіцца ля двухколкі, спяшаецца ўвязаць трэскі. Але яны, як на тое ліха, рассыпаюцца, падаюць у пясок. Кляпец зноў падхопліваe іх, засоўвае пад вяроўку.

— Не дам, нячысцікі!.. Мае! У мяне з начальствам...

Але Васіль не звяртае ўвагі на Асонавы словы і, ухапіўшы за вось, перакульвае двухколку ўверх коламі.

— Мае!.. Не дам! Кляпец поўзае на каленях, падграбае трэскі да сябе. Пальцы яго пакідаюць глыбокі след у пяску.

— Бязбожнікі... Не падыходзь, а то ахрышчу пацуркам!..

— Я це ахрышчу,—совае Васіль Кляпцу пад нос кулак.— Бач, што даўмеўся... На чужы каравай, знацца, га? Ні млеў, ні пацеў, а рот разявіў? Ух ты, кадзіло недарэкае! Гэта ты маіх нагроб? Маіх, кажы?..

Павалены на спіну Кляпец толькі хрыпіць і не кажа ні слова. Ён не можа ніяк зміryцца з тым, каб вось так уплыло з яго рук столькі дроў. Праўда, тады, зімою, ён не дамаўляўся з начальствам пра трэскі, палічыў, што і так не мінуць яго двара. Аж яно вунь як павярнулася. З-за гэтых злыдняў і адной каравай трэскі не возьмеш.

Узрушаны няўдачай, Асон падымаецца і ідзе да прараба: мо хоць

ён стане на яго бок? Але прараб адмахваецца ад Асона — не мая, маўляў, справа, як хочаце так і дзяліце.

Кляпец вяртаецца да Міхаля з Васілём, аддыхваецца, скоса пазіраючы то на аднаго, то на другога. Міхаль адчувае гэта, і ад таго аж нядобра робіцца ў яго на сэрцы. Не так няёмка яму, колькі брыдка. «І трэба ж было ўпароць такое,— дапякае ён сам сябе.— Не мела баба клопату — купіла парася. Цяпер гамонкі на ўсю вёску будзе, ад кпінаў не абярэшся...» Нанесла ж гэтага Кляпца на іх галаву.

Ды і сам ён, калі разабрацца, добрая цаца: узняў лямант, бы на пажары. Нібы яны з Васілём збяднелі б з-за таго бярэма. Праўда, каб не Васілёвых, а яго трэсак набраў Асон, можа б і не выйшла такога, можа б ён паўшчуваў старога, упікнуў бы за сквапнасць, ды на тым бы і канец. Хай бы вёз стары нягоднік.

І Хімак, як той боршч, гарачы. Сунуў старому кулаком пад нос, і хоць бы табе ў яго рука здрыганулася. Бухае цяпер сякерай, як бы нічога і не было. А ў Міхаля ўсё нутро гарыць. Не можа ён спакойна пераносіць сварак.

А што зробіш? Сам сябе не перайначыш. Вось выбіў стары з каляіны сваёю выхадкай, і — хоць ты сякеру кінь... Не ідзе як след работа. Быццам і спрыт не той, што быў, і рукі не тыя. Дзе б раз трэба ўдарыць, дык і за два разы тую трэску не адшчэпіш! А тут яшчэ гэты сук выпер рагулінаю ўбок. Пакуль яго, гада печанага, адбухаеш, без рук застанешся.

— Гах-ах! Гах-ах! Гах...

Асон таропка хрысціцца, ад нечаканасці нават заплюшчвае вочы.

— Божа ты мой праведны!..

Прама перад ім глуха войкае і хіліцца на трэскі Міхаль: сякера адскочыла на суку, распаласавала бот і ўпілася ў нагу.

— А-а... каб ты сказілася!..— скрозь зубы цэдзіць Міхаль і заціскае пасечаны абутак рукамі.— І як жа ето я?.. Ай-яй-яй...

— Што з табою, Міхаль? Што ты там? — яшчэ не разумеючы, што здарылася, разгублена то на Кляпца, то на Міхаля пазірае Хімак.— Мо ўдарыў чым?

Асон баязліва пасоўваецца за сваю двухколку, якая так дагэтуль і ляжыць уверх коламі.

— Што ты, Васілько? Бог з табою! Упасі і памілуй... Сам ён... сам. Адскочыла сякера... Сам...

Стары яшчэ нешта гаворыць, божкаецца, але ніхто ўжо яго не слухае. Васіль разам з маставікамі схіляецца над Міхалём, нешта яму памагаюць. З-за іх спін Асону нічога не відно, але ён і не мкнецца штонебудзь бачыць. Сам не можа зразумець, якая сіла прыкавала яго да зямлі і не дае зварухнуцца. Ён так і сядзіць ля двухколкі і глядзіць, як апантаны, у тое месца, дзе на смалістых трэсках расплыліся ружовыя плямы. Губы яго шэпчуць нешта ледзь чутнае, незразумелае. Ён і сам яшчэ нейкі час ні на што не можа рашыцца. Ён пачынае адчуваць, што яму нельга сядзець вось так, збоку, у той час, калі чужыя людзі мітусяцца над Міхалём. Трэба, мабыць, падысці, сказаць нешта суцяшальнае гэтаму злыдню. Хай не думае...

Але сказаць што-небудзь Кляпцу не ўдаецца. Двое маставікоў падымаюць Міхаля на рукі і нясуць да машыны.

— Дзімка! Свірыдаў! Валяй у Тульгавічы, у бальніцу... Ды жвавей жа ты, непаварота!..

І хоць не глядзіць у той бок Кляпец, здагадваецца, што гэта крычыць прараб. Каму ж яшчэ другому?

— Анцыпелі,— з нейкай крывою ўсмешкай шэпча Асон, і нельга



зразумець, які сэнс укладвае стары ў гэтае слова. Ці то ён лае прараба і маставікоў, што не заступіліся за яго тады, у часе сваркі, ці мо сказанае датычыць каго-небудзь другога. Потым нарэшце Кляпец падымаецца, пераварочвае назад двухколку і, не звяртаючы ні на кога ўвагі, пачынае збіраць параскіданыя трэскі.

А сонца па-ранейшаму пякло. Нават мятлюг, што зрэдку рос па-над Бурчаком, перасыхаў на корані і коратка патрэскваў. Размешаны капытамі кароў і авечак выган, што цягнуўся ад Бурчака да канцавых сяліб Рагазянкі, плаваў у спякотным марыве і дрыжаў, як у ліхаманцы.

Усе маўчалі. І толькі недзе высока над галавой чуўся перакацісты гул самалёта, што чырыў у паліналым небе ледзь прыкметную дугу.

— Бач ты, куды забраўся...— у роздуме сказаў нехта з маставікоў.— Рэактыўны, не іначай.

Але ніхто не адгукнуўся на яго словы.



**ЧЫТАЙЦЕ Ў БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ:**

**Навукова-фантастычны раман Аляксандра КАЗАНЦАВА**

**«ВІЛЕНА».**

**Апавяданні Міколы ГІЛЯ.**

**Пераклады твораў узбекскіх пісьменнікаў.**



Алесь СТАВЕР

# З НІЗКІ «ЯНТАРНЫ ПРЫБОЙ»

●

Мяне ты, мора, ўсім зачаравала:
І незвычайнасцю прастору усяго,
І хвалямі, што мкнуцца вал за валам
І пеняцца, кіпяць ля берагоў.

Ды зайздрасці не выкліча,— прызнацца,—
Ні хараство, ні велічнасць твая.
Ты век бушуеш, ты заўсёды ў працы,—
І толькі ў гэтым пазайздросціў я.

●

Я зноў ля мора. У далях шэрых
Яно іграе, нібы ртуць.
І хвалі на пясчаны бераг
То набягуць, то адбягуць.

Яны у вечным утрапенні,—
Бурляць,— дзе позіркам ні кінь,—
Янтар і рэдкія камені
Падчас выкідваюць з глыбінь.

І каля хваляў, гулам поўных,
Блукаюць людзі кожны дзень,—
Шукаюць морскую каштоўнасць
І на пяску і у вадзе.

Камені ў точаных узорах,
Янтар у водсветах зары.
Скажы мне: як змагло ты, мора,
Такое хараство стварыць?!

Так змог бы хіба геній свету...
А тут — вада... адна вада.
Паслухай, мора! Мне, паэту,
Хоць кроплю ўмельства перадай.

Тачыць радкі, як ты камені,
І шліфаваць, як ты янтар,—
Адны жыцця майго імкненні
І вузел дум маіх і мар.

Каб вынесла з жыццёвых хваляў
Маёй паэзіі радкі,
І людзі так каб іх шукалі
І праз гады, і праз вякі.

●

Чабарок, чабарок
Ды каля дарожкі...

З народнай песні.

Ізноў прыйшоў я на ускраек бору,
Я тут не быў пасля зімовых сцюж.
З прыемнасцю ўдыхаю пах чабору,—
Ён мне мілей, чым водар пышных руж.

Як тут хадзіў у зімнюю часіну,
То я такі ўсцешаны не быў:
Бор выглядаў сумлівай сірацінай,
Бо тут чабор так весела не цвіў.

Вось так і я: задумлівы, у скрусе,
Бываю незвычайнаю парой,

**Калі жыву ўдалі ад Беларусі,—**
**Ўдалі ад родных пушчаў і бароў.**

**І варта зноў мне ў Беларусь**
**прыехаць,**
**Акінуць вокам свой лясны**
**прастор,—**
**Душу напоўніць радасць і уцеха**
**І ўсмешка зацвітае, як чабор.**

●

Бывай, свабодная стыхія!

**А. Пушкін.**

**Пара дамоў. Да бурных хваляў**
**Прыйшоў апошні раз тужліва.**
**І хвалі ўміг мяне пазналі,**
**І ўсе бягуць ка мне шумліва.**

**Лаўлю іх, рад ім, як ніколі,—**
**Забыты хвілі ўсе ліхія.**
**Ды вусны шэпчуць мімаволі:**
**«Бывай, свабодная стыхія»...**

———□□□

Мікола
МІРАШНІЧЭНКА

# СВЯТАЯ ПАСТКА

РАСКАЗ
БЫЛОГА
СЕМІНАРЫСТА

Мы заседзеліся да позняй ночы. Гэта быў цікавы чалавек, за кожным словам якога адчувалася складанае, поўнае прыгод жыццё. Цяпер яго ведалі, як лектара-атэіста. Але што было з ім калісьці? Якое жыццё пражыў ён?

— Хочаце, я раскажу вам пра семінарыста Нікана?— спытаў ён.

— Гэта пра сябе?

— Так мне будзе лягчэй,— адказаў ён.

## I

У маці іх было трое. Міколка — старэйшы. Жылі галаднавата, цяжка. Дзень пры дні праца. І толькі ў нядзелю — адпачынак. Раніцай яны ішлі ў царкву. Там было шумна і ўрачыста.

Гэта ўсё і пачалося з царквы. Так, так, адтуль. Аднаго разу Міколка, апусціўшыся на калені, хацеў пацалаваць папоўскую рызу. Бацюшка, айцец Васілі, нахіліўся да хлопчыка, падставіў крыж, потым пагладзіў Міколку па галаве.

— Прыйдзі, отрак, да мяне сёння. Чаю пап'ем, пагаворым,— сказаў ён.

Міколка вярнуўся дахаты крыху збянтэжаны такім запрашэннем. Ісці або не ісці? Маці параіла схадзіць.

Вечарам Міколка сядзеў у папа за сталом, піў чай, пацеў. Айцец Васілі спадцішка сачыў за хлопчыкам, распытваў:

— Дык як цябе зваць, отрак?

— Міколка. А маці Мікам заве.

— Імя Міколы-цудатворцы носіш,—замілавана сказаў айцец Васілі.— А на якога ж ты Міколу нарадзіўся — на зімовага ці веснавога?

— Не ведаю,— адказаў хлопчык.

— Вось табе і на! Можа ведаеш, у якім месяцы нарадзіўся?

— А як жа! Пятага красавіка.

Айцец Васілі дастаў з паліцы нейкую кнігу, адгарнуў колькі старонак.

— Не, отрак, не Міколы табе імя насіць,— сказаў ён, пазіраючы ў кнігу.— Па закону божаму назваць цябе трэба было Нікан. Ды ты чаго надзьмуўся? Двух заступнікаў у бога маеш. А Нікан — імя харошае. Грэчаскае. Пераможца значыць па-нашаму.

— Навошта мне грэчаскае?— разгубіўся Міколка.

— А Мікола таксама грэчаскае імя. Яно азначае — пераможца народаў. І ўсе імёны

---

Друкуецца са скарачэннямі.

Мал. **А. Волкава**

ў нас або грэчаскія, або лацінскія ці яўрэйскія, за выключэннем некаторых. Хочаш, вазьмі і пачытай гэтую кнігу. Гэта, отрак, каляндар царкоўны. А ў ім запісана шмат старажытных гісторый, святых паданняў пра божых угоднікаў. Гэта ў нас цяпер людзі без бога жыць хочуць. А калісьці было не так. Таму людзі і перамагалі і пміралі лёгка. Не тое, што цяпер. Вунь і бацька твой на вайне загінуў ад цяжкіх ран і пакут. Шмат маліцца трэба, каб бог упадабаў яго ў царстве сваім. І ты пакутуеш, бо ніхто пра цябе, сірaціну, апрача бога, не падумае.

Айцец Васілі гаварыў, а сам чамусьці пазіраў на парэпаныя Міколкавы ногі. Потым ён дастаў з кішэні грошы, паклаў на стале.

— Гэта табе на чаравікі і кашулю,— сказаў ён.— Ды ты не саромейся — бяры. І заходзь заўсёды, бо мой дом — твой дом.

Бацюшкава дабрата расчуліла Міколку. Раней бы ён не прызнаўся, што быў у папа, а цяпер вырашыў узяць каляндар у школу, каб пахваліцца хлапчукам.

Каляндар выклікаў у вучняў зайздрасць. Кожны хацеў ведаць, што азначае яго імя і якое яно — грэчаскае ці лацінскае? Хлапчукі адштурхоўвалі дзяўчынак, крычалі:

— Міколка, а што азначае Васіль?.. А Пятрусь — гэта па-грэчаску ці па-лацінску?

Дзяўчаты крыўдавалі, але іх і блізка не падпускалі да Міколкі. Тым часам пачаўся ўрок, і вучні неахвотна садзіліся за парты. Наталля Пятроўна — настаўніца — ніяк не магла зразумець, чаму сёння ўсе такія ўзбуджаныя.

Недзе ў сярэднім радзе паднялася рука.

— Што ў цябе, Галя? — нецярпліва спытала настаўніца.

— Наталля Пятроўна, а як перакладаецца маё імя?

— Якое імя?

— Галіна...

— Галіна?— здзівілася настаўніца.— Так і будзе Галіна.

— А яно рускае ці замежнае?

— Вядома, рускае,— не задумаўшыся, адказала Наталля Пятроўна.— Усе імёны ў нас рускія...

Міколка хуценька адшукаў у календары імя Галіна.

— Няпраўда,— сказаў ён і спалохаўся, але адступаць не было як.— Галя — слова лацінскае. Кошачка значыць.

Смех, шум. Разгубленая настаўніца грозна спытала:

— Ты што, урок задумаў сарваць? Якая яшчэ кошачка?..

— А гэта ў кнізе напісана.

— У якой кнізе?— збянтэжылася Наталля Пятроўна.

Міколка неахвотна падаў каляндар. Настаўніца гартала яго, а прыціхлы клас сачыў за ёю: што будзе?

— Дзе ты ўзяў гэту кнігу?— нарэшце спытала яна.

— Бацюшка даў.

— Ты хіба ў царкву ходзіш?

Міколка пачырванеў, хацеў схлусіць, але не мог.

— Хаджу... У свята.

— І з папом сябруеш?

— Учора ён чаем мяне частаваў.

— Папы ўмеюць забіваць галовы...— Настаўніца яшчэ раз зірнула на каляндар, рашуча сказала:— Усё, што тут напісана — мана, выдумка папоў і манахаў. А цябе, Захарчук, папярэджваю: калі яшчэ раз прынясеш у школу такую кнігу — адпраўлю да дырэктара. І да папа каб не хадзіў. Усе яны п'яніцы і абдзіралы.



— Няпраўда,— не стрымаўся Міколка.— Айцец Васілі мне грошы на чаравікі даў.

— Бач ты, абаронца папоўскі! Марш да дошкі! Усе папы і манахі — зладзеі. І наш не лепшы...

— А вось і няпраўда,— стаяў на сваім Міколка.

— Захарчук, выйдзі з класа...

Міколка пастаяў крыху, а потым выйшаў. Моцна сціснула грудзі, хацелася плакаць, было балюча і сорамна. Ён прайшоўся паўз школу, пабрыў па вуліцы і неяк непрыкметна апынуўся ля папоўскай хаты. Колькі разоў падыходзіў ён да брамкі, але не хапала смеласці адчыніць яе.

— Міка! — пачуў ён голас бацюшкі.— Ты чаму такі пануры? Ці не пакрыўдзіў хто? О, ды ты ў новых чаравіках! Ну як, не ціснуць? А ўрокі хіба ўжо закончыліся?

«Прызнацца ці схлусіць?— падумаў Міколка.— Не, нельга, бог хлусні не даруе. Трэба прызнацца». І ён пачаў расказваць, што адбылося ў школе.

Поп слухаў моўчкі. А калі Міколка закончыў, падаў хустачку:

— Вытры слёзы і слухай, што я табе скажу. У календары не выдумка папоў і манахаў, як вам сказала настаўніца, а праўда. Хадзем, я табе яшчэ адну кнігу пакажу.

Яны зайшлі ў хату. Айцец Васілі дастаў з паліцы кнігу, падсеў да Міколы.

— Бачыш, напісана: «Дзяржаўнае выдавецтва, аўтар Успенскі». А вось і пераклад імён. Так што ты не хлусіў дзецям. А браць каляндар у школу табе не трэба было. Толькі ты не гаруй. Я табе другі дам. Добра, што сваё адстойваў і за веру нашу прыняў першыя пакуты. Бог бачыў усё і радаваўся. Вось так. А цяпер ідзі ў школу. Яна беды дае. А веды нам ой як патрэбны! Вучыся старанна, запамінай усё, чаму вучаць. І на настаўніцу крыўды не трымай. Скарыся. Папрасі яе, каб даравала. Пакорлівасць, сын мой, вышэй за ўсё. А настаўніца — што ж: яна пра бога не ведае. Слухаць жа яе трэба. Вось так, вучоная галава... Ідзі з мірам...

Міколка выйшаў ад папа супакоены. «Во які ён разумны... Кніг у яго шмат. І ўсё ведае. Больш за настаўніцу»,— думаў Міколка, ідучы дамоў.

Міколка вучыўся ў школе, сябраваў з папом. Быў ён паслухмяны, маўклівы, і ніхто ўжо не ўспамінаў пра той даўні выпадак з календаром. Аднойчы, калі Міколка заканчваў дзесяты клас, айцец Васілі завёў размову пра адэскую семінарыю. Міколка зразумеў, чаму ўзнікла гэтая гаворка. Было крыху няёмка. Адмовіць айцу Васілію ён не мог. А маці не хацела, каб Мікола стаў папом. Трэба было выбіраць. І Мікола згадзіўся, паслухаў папа.

Той нібы загадзя ведаў, што Мікола згодзіцца, дастаў з шуфляды канверт.

— Перадасі рэктару,— сказаў ён.— Але спачатку прачытай сам. І не зганьбі маю сівую галаву, Нікан. Вучыся добра і мяне не забывай.

На пяці старонках дробнымі прыгожымі літарамі была напісана характарыстыка. За сем гадоў іх дружбы айцец Васілі здолеў заўважыць у сваім вучню тое, пра што не задумваліся ні сам Міколка, ні тыя, хто вучыў яго.

«...Дзеянні яго чыстыя і думкі бязгрэшныя. Вучэнню Хрыста і святых апосталаў аддадзены. Схільны мудраваць, але небяспекі ў тым вялікай не бачу, бо ўсё ідзе ад дапытлівасці, а не ад лукавага. Прыемная знешнасць, напеўнасць гаворкі, рост і дасканалая постаць, пры наяў-

насці ўжо адзначаных мною добрых якасцей, кажуць за тое, што отрак гэты ў сценах Вашай богаўгоднай установы стане добрым пастырам статку Боскага...»

Дачытаўшы характарыстыку, Мікола задумаўся. Выходзіць, усе гэтыя гады айцец Васілі пільна сачыў за кожным яго крокам. Ён замяніў яму бацьку, навучыў вышэйшай справядлівасці, памог закончыць школу, і вось цяпер ён едзе ў Адэсу. Яму васемнаццаць. Наперадзе складанае, незвычайнае жыццё. Дык няхай памрэ назаўсёды мірское імя Мікола і ўваскрэсне отрак Нікан...

## II

Праз вароты вакзала Нікан выйшаў на шырокую плошчу. Прыкрыўшы вочы ад яркага сонца, ён паглядзеў угору, шукаючы царкоўны купал з крыжам. Пытацца пра семінарыю было няёмка.

Па той бок плошчы блішчалі саборныя купалы. Нікан рашуча пакрочыў туды і, здзіўлены, спыніўся перад прыбітай да будынка шыльдай: «Маскоўская патрыярхія. Адэская праваслаўная семінарыя». Брамка адчынілася, і перад Ніканам узнікла бабулька, мабыць, з тых, што і нараджаліся на свет божы дачасна састарэлыя. Невядома, ад бога ці ад чэргі дзяжурыла яна тут...

— Памаліцца прыйшлі? — спытала яна, спадылба пазіраючы на Нікана.

— Так... Вучыцца прыехаў... Паступаць у семінарыю,— збянтэжыўся Нікан.

— Семінарысцік,— палагаднела бабуля.— Хвала богу, царкоўнага палку прыбывае!..— і павяла яго ў інтэрнат.

У пакоі, куды яго прывяла бабулька, сядзела некалькі хлопцаў.

— А-а-а, новенькі! Здароў!— працягнуў Нікану руку сярэдняга росту хлопец.— Заварaў. Сашка.

Астатнія таксама пачалі працягваць рукі, знаёміліся. Сталі распытваць: хто, адкуль? Нікана прынялі, як свайго.

Ноччу Нікану прысніўся сон, быццам ён архіепіскап і вядзе богаслужэнне ў саборы. І раптам паяўляецца аднекуль цар цемры. Нікан падымае крыж. З рота д'ябла вылятае пякельны агонь. Крыж расплаўляецца, а Нікан падае вобземлю. Тады чорт нахіляецца над ім і шыпіць: «Уставай, не прыкідвайся. На камісію марш!..»

Нікан прахапіўся. Ля ложка стаяла ўчарашняя бабулька і тармасіла хлопца за плячо.

— На камісію, отрак, час ісці...

У інтэрнаце будучых божых служак размяшчаўся зусім зямны, добра абсталяваны медпункт. Крэслы і стол тут закіданы апранахай. Нікан тупаў на месцы, не адважваючыся скінуць з сябе астатнюю вопратку, без якой ён зусім бы не адрозніваўся ад прашчура свайго Адама. Але маладзенькая медсястра, што выглянула з кабінета ўрача, развеяла ўсе яго сумненні.

— Давай, давай, маладзёж, паварочвайся! Скідвай трусы, чаго напалохаўся?!

Пабліскваючы ягадзіцамі, як першы чалавек у раі, Нікан з другімі отракамі праціснуўся ў кабінет. Медыкі былі мужчыны, так што сорам хутка прайшоў. Нікана пастукалі малаточкам, паслухалі трубкай і нарэшце адправілі да айца Рамана Буціка. Той шчупаў кожнага з семінарыстаў тонкімі халоднымі пярстамі, каб праверыць прыгоднасць іх насіць рызы, бо сказана ў раздзеле дваццаць трэцім «Второзаконня», што, калі ў каго раздушаны ятры або адрэзан дзетародны член, той не можа ўвайсці ў акружэнне божае.





Дасканала выконваючы богаўгодную працу, святы айцец гучна расказваў анекдоты. І не толькі будучыя семінарысты, але і ўрачы рагаталі, як святыя блазнюкі, упершыню спазнаўшыя ісціну святой веры.

Калі отракі апраналіся, Заварaў сказаў Нікану:

— А гэты святы айцец, мабыць, добры ласун да гарачых слёз д'ябла. І на анекдоты — хват...

— Можа ён нашу веру правяраў,— усумніўся Нікан.— Хто рагатаў, як жарабец, таго і да экзаменаў не дапусцяць.

— Ну і хітрун... — здзівіўся Заварaў.

Удвух з Сашкам яны доўга гулялі па горадзе. Нікану падабаўся гэты хлопец са смелым позіркам чорных вачэй, але вялікай прыхільнасці да Заварава ён не адчуваў.

— Мой бацька ўсё жыццё богу служыць,— расказваў Заварaў.— Мяне ён таксама да рэлігіі прывучыў. Прыход у бацькі неблагі. І жывем добра. Толькі вось бацька выпіць любіць, а ўсё таму, што сумуе... Пісаць і чытаць мяне бязбожнікі навучылі. Ледзь было ў камсамол не зацягнулі. Я ўжо і заяву падаў...

— Агітацыя ў іх пастаўлена здорава,— перабіў яго Нікан.— Мяне таксама спакушалі. Ды я ў бога мацней веру, як у іхнія казкі. Яны камунізм чалавеку абяцаюць, а бог — вечнасць...

— Ты шчыра верыш? — спытаў Сашка.

— А як жа?— здзівіўся Нікан. — Чаму я ў семінарыю іду? Бо мне веды патрэбны. Час цяпер такі: атэістаў вунь колькі!..

— Калі не хітруеш, дык з цябе добры поп выйдзе,— усміхнуўся Сашка.

— Навошта мне хітрыць. Перад богам ісціны не схаваеш...

— Пажывем — пабачым,— адказаў Заварaў.— Заўтра экзамены, і зразумей, раб божы, што ў семінарыю не за веру, а за веды прымаюць.

І вось экзамены закончыліся. Адным аб'явілі, што яны павінны скіраваць стопы свае да дому свайго, а другім, што яны прыняты ў семінарыю, дзе будуць «постигать божью премудрость, в тайне сокровенную».

Адчуванне шчасця не пакідала семінарыстаў. Калі адзін з отракаў падаў на калені перад абразом, дык уся брацiя тут жа пачынала біць паклоны. Не пацалаваць абраз лічылася грахом. Семінарыст, які не прыкладаўся да абраза, нёс пакаранне. Яго прозвішча запісвалі ў кандуіт — журнал айца інспектара. У кандуіт запісваліся ўсе грахі семінарыстаў. Пасля заканчэння семінарыі запісы гэтыя мелі немалаважную ролю ў далейшым лёсе божых служак. Будучыя пастыры пабойваліся кандуіта.

— Не па душы мне гэты ўлік,— сказаў аднойчы Нікан Завараву.— Лепш за бога ніхто спраў чалавечых не ўлічыць.

— Што праўда, то праўда,— згадзіўся Сашка.— Толькі ўлічы, накіраванне ў прыход табе будзе даваць не ўсявышні, а яго зямныя намеснікі...

Нікана насцярожвала Сашкава іронія. Яму захацелася знайсці сябра, моцнага святым духам, адданага і прынцыповага.

— А ты яго не слухай, брат,— аднаго разу параіў Нікану высокі, хударлявы семінарыст.— Я ўчора бачыў, як ён пабрыдзіўся сваімі вуснамі да святога абраза прыкласціся... А яшчэ паповіч!

— Бач ты, яшчэ адзін руплівец божы паявіўся...— пажвавеў Завараў.— Можа і начальству данёс?

— На гэты раз не данёс,— спакойна адказаў семінарыст.— А пабачу *яшчэ* — данясу.

— Няўжо данясеш?..

— Вось табе крыж — данясу.

— Ну, далёка пойдзеш, калі ў бабскіх спадніцах не заблытаешся!— Завараў паляпаў семінарыста па спіне.

Пакуль семінарысты спрачаліся, Нікан паспеў добра разгледзець божага абаронцу. Быў ён вузкаплечы, на тонкай шыі няўпэўнена тырчала доўгавалосая, ледзь выцягнутая, галава. Сарамлівы позірк карых вачэй, невялікі нос, пульхныя ружовыя вусны надавалі хлопцу дзявочы выгляд.

— Іерамія,— працягнуўшы Нікану руку, сказаў ён.— Не люблю я гэтых паповічаў. Яны не дзеля веры ў семінарыю ідуць... Але бог шэльму меціць...

— Ты яго не ведаеш, а ганьбуеш. У бога ён верыць,— паспрабаваў абараніць Заварава Нікан.— Толькі, відаць, яго сумненні адольваюць.

— Да бога з малітвай свой позірк трэба часцей звяртаць,— абурыўся Іерамія,— а ён морду ад святых абразоў адварочвае.

Неўзабаве пачалося богаслужэнне, прысвечанае пачатку навучальнага года. Семінарысты пайшлі ў царкву. Там было ўрачыста, а прыбранае семінарскае начальства здалося Нікану не вельмі строгім.

Барадаты, моцны мужчына — архіепіскап — пасля кароткай абедні, дзякавання богу, выйшаў з алтара на амбон, загаварыў, нібы айцец нябесны, упэўнена і велічна.

— Вазлюбленыя ў бозе! Сёння сабрала нас сюды, у гэтае вучылішча, вера жыватворная — святая дабрадзейнасць бога нашага Ісуса Хрыста.— Ён глыбока ўздыхнуў і, перахрысціўшыся, працягваў:— Вы прыйшлі сюды, у гэтую духоўную школу, добраахвотна і свядома, каб успрыняць святло хрыстовага вучэння і па запаведзі Хрыста прапаведаваць яго ўсяму свету.



У царкве стаяла цішыня. Прамоўца трымаў слухачоў у сваіх руках, як вопытны пастух статак. Да Нікана даляталі ўсё тыя ж незразумелыя, але, як яму здавалася, напоўненыя святлом ісціны, словы.

— Прынцып, які ляжыць у аснове рэлігійных адносін да жыцця і свету і які вы павінны засвоіць,— непарушны, і ніякія довады адмоўнага характару не могуць яго пахіснуць. Таму што ён вынікае з патрэбнасці чалавечага духу — верыць у бога, як незвычайнага, мудрага і клапатлівага бацьку свету.

Тут архіепіскап прыпыніўся, нібы для таго, каб пераканацца, што прамова яго ўразіла слухачоў. Далей ужо ён гаварыў не такім суровым голасам.

— Між тым, мы бачым абвостраную цяпер у друку так званую барацьбу з рэлігіяй. Як аднесціся да гэтага нам? Перш за ўсё, не трэба здзіўляцца нападкам атэістаў. Праз усю гісторыю чалавецтва побач з людзьмі, якія верылі ў бога, былі і такія, якія не верылі ў яго.

Ён уважліва паглядзеў на семінарыстаў, быццам хацеў адшукаць сярод іх тых, што сумняваліся. Не знайшоўшы такіх, ён загаварыў далей:

— Людзі, што адмаўляюць рэлігію, заўсёды стараліся растлумачыць паходжанне і жыццё свету без удзелу бога, адны́мі толькі законамі прыроды. Але такое сцверджанне не мае ніякіх навуковых падстаў. Апалагеты нявер'я, наперакор логіцы, забываюць, што аднымі законамі прыроды ніколі не растлумачыць ні існавання свету або прыроды, ні існавання саміх законаў прыроды. Бо законы прыроды ўжо дапускаюць існаванне свету — прыроды, так як могуць дзейнічаць толькі тады, калі ўжо існуе свет або прырода. А растлумачыць існаванне законаў прыроды імі самімі,— значыць — нічога не растлумачыць...

Гэтая думка здалася Нікану вельмі мудрай.

— Ітак, навучальны год пачаўся,— перамагаючы зморанасць, аб'явіў архіепіскап.— Усе, хто ступіў у гэтыя сцены, пакліканы святым духам і абавязаны падпарадкоўвацца ўсім указанням семінарскага начальства.

Архіепіскап закончыў. Пачаліся заняткі.

У семінарыі выкладчыкі мелі прозвішчы і дзяліліся на «сваіх у дошку», «лібералаў», «дэспатаў», «букваедаў» і г. д. «Сваім у дошку» семінарская брацiя прызнала выкладчыка царкоўна-славянскай мовы Сакярдона Васільевіча Дубкова.

Сакярдону Васільевічу каля шасцідзесяці. Ён тоўсты, нізкі, шэрыя вочы маюць жаўтаватае адценне, падбародак двайны, твар тлусты, аж блішчыць. Барады няма, як і духоўнага сану. Сівыя валасы падстрыжаны пад «вожык», голас гучны.

На ўроках граматыкі амаль усе семінарысты рабілі памылкі ў такіх словах, як «бог», «багародзіца». Сакярдон Васільевіч, убачыўшы памылку, грукаў кулаком па стале:

— Дурань! Бог — гэта што за слова для вас? Гэта вам не тата або дзядзька, якія пішуцца з малой літары. Татаў і дзядзькоў у вас можа быць безліч, а бог — адзін. Зразумелі, балбесы? А багародзіца? Што гэта па-вашаму, ёлупы? Што гэта сірэч за слова? Вось «карова», «блудніца» — такія словы, абармоты, вы пішаце з малой літары, бо кароў, як і блудніц, шмат. А багародзіца, якая нарадзіла сына божага,— адна, таму і пішацца з вялікай літары. Дацямілі, доўбні бязмозглыя?

— Так точна, Сакярдон Васільевіч,— выскалялі зубы «ёлупы» і «бязмозглыя доўбні», а той, задаволены, бурчаў:

— Нічога вы, сабачыя дзеці, не дацямілі, бо мала яшчэ семінарскай кашы елі. Вось раней быў час, калі вашага брата дубцамі вучылі!.. Калі ён, скажам, навуку не хацеў успрымаць з параднага ўваходу, яму божую мудрасць з чорнага заганялі... Не рагачыце, аслы!

Інспектарам першага курса быў айцец Сергі, высокі, шыракаплечы манах. Чорныя праніклівыя вочы айца Сергія часта наводзілі на семінарыстаў жах. Пра яго гаварылі, што ён, як Ісаў, «нораву дзікага, панурага, да гневу схільнага і помслівага». Па тым, як рыпяць інспектарскія чаравікі, отракі беспамылкова вызначалі, з якой нагі падняўся айцец Сергі.

Аднаго разу, у самым пачатку навучальнага года, усіх семінарыстаў выклікалі ў актавую залу. Гісторыю, што паслужыла прычынай экстранага сходу, Нікан ведаў ад сяброў.

Перад гэтым отрак Завараў і двое першакурснікаў з акна на другім паверсе сузіралі чысціню божага неба. Занятак гэты хутка надакучыў, і вочы семінарыстаў зірнулі на грэшную зямлю.

І — о бог мой! — што яны там убачылі! Па вуліцы беглі легкавушкі. Ля магазіна насупраць тупалі стылягі. Усім вядомы лектаратэіст спяшаўся ў гарадскі сад на чарговую лекцыю. Піўная ледзьве стрымлівала напор тых, што прагнуць выпіць. Але не гэта прыцягнула ўвагу цнатлівых отракаў. Пад вокнамі непрыступнай крэпасці святой веры ляніва пахаджалі чароўныя спакусніцы — адэсіткі.

— Ну і кадрыцы! — свіснуў Завараў.

Дзяўчаты спрытна павярнуліся на тонкіх абцасіках і рушылі назад. Яны былі такія прывабныя, што отракі ледзь не сiганулі з акна ўніз. Але адумаліся. Спачатку паслалі дзяўчатам тройцу пацалункаў, а потым пачалі пісаць пасланні. Адно, другое, трэцяе...

І вось цяпер айцец Сергі ад імя і па даручэнню ўсявышняга ўгаворваў грэшнікаў бізуном славесным:

— Ці ведаеце вы, што дружба з мірам ёсць варожае выступленне супраць бога? — Чорныя вочы інспектара гарэлі гневам. — Між тым, мне стала вядома, што некаторыя з вас не выракліся мірской мітусні. Во да чаго мы дажылі! Да якога сораму! Веруючыя не могуць не бачыць, што робіцца пад вокнамі семінарыі. Яны прынеслі адну з тых агідных пісулек, якія нашы семінарысты кідалі з вокнаў. Вось адно з гэтых зусім непрыстойных пасланняў, напісанае Заваравым.

Семінарысты, як адзін, павярнуліся да Сашкі, каб разгледзець яго. А ў таго на твары спачывала ангельская невінаватасць.

— Зараз я прачытаю вам... гм, кхм... гэтае пасланне. Слухайце, хіба прыстойна будучаму пастыру гэткае непатрэбства стварацць? Гм, кхе.. значыць, так:

Миленькие крошки!
Что у вас за ножки?!
Что у вас за губки?!
Что у вас за шейки?!
Кто же вы, голубки,
Девы? Блудодейки?..

Айцец Сергі прапусціў самыя брыдкія месцы і перайшоў на прозу.

— Які сорам! Замест старанната вывучэння божай мудрасці яны прапануюць блудніцам «плотью насладиться».

Усе ахнулі ад захаплення, але, адчуўшы грозны позірк айца інспектара, замерлі ў пачцівым маўчанні.

— Усё гэта ад нячысціка, — грымеў айцец Сергі. — Дар божы — уменне тварыць рыфмы і вершы — Завараў скіроўвае не да Усявышняга, а да дзевак блуду і ганьбы. Кайся ж, отрак Завараў, у малітвах да бога замальвай грахі свае!.. Амінь!

Як толькі ён выйшаў, Завараў з кулакамі накінуўся на тоўстага, непаваротлівага семінарыста:



— Ах ты, даносчык! Я табе вока выдзеру, гаду!.. — крычаў ён.

— Не буянь, браце, не буянь, — адступаючы, упрошваў Заварава семінарыст.

«Брація» ўсхвалявана шумела, чакала чарговай бойкі. Семінарыст Сыравы супакойваў Сашку:

— Адпусці ты яго. Скардзіцца пойдзе. З семінарыі выпруць, дурань...

Пасля здарэння з Заваравым у семінарыі настала сякое-такое зацішша. Першакурснікі засвоілі вопыт сваіх старэйшых братоў у Хрысце і добранька авалодалі навукай крывадушша і падхалімства. Не ўсе выкладчыкі прыхільна ставіліся да новага вопыту сваіх выхаванцаў. Калі айцец Сергі заахвочваў падхалімаў і ўгоднікаў, дык айцец рэктар выганяў даносчыкаў з кабінета. Адны выкладчыкі падтрымлівалі Сергія, другія — айца рэктара.

Нікан неўзабаве пасябраваў з айцом Леанідам, які падтрымліваў рэктара. Айцец Леанід быў семінарскім прыгажуном. У часе богаслужэння набожныя прыхаджанкі не зводзілі з яго вачэй. Падабаўся ён і семінарыстам. Айцец Леанід часта заплюшчваў вочы, каб не бачыць іх пракуды.

Калі айцец Леанід дзяжурыў па семінарыі, яны з Ніканам пасля адбою хадзілі па сонным апусцелым горадзе. Айцец Леанід расказваў Нікану пра кнігі, пра сваю вучобу, пра жыццё. З ім было лёгка і проста. Скінуўшы рызы, ён мог пачаць валтузню з Ніканам або пабегчы навыперадкі. Была ў айца Леаніда вялізная бібліятэка, а ў ёй, апрача класікаў сусветнай літаратуры, працы Маркса, Энгельса, Леніна. Нікан гэтаму дзівіўся.

— Кожны хрысціянін, які паважае сябе, павінен ведаць іх працы, — растлумачыў айцец Леанід. — Я ненавіджу невукаў, якія адварочваюцца ад скарбаў розуму і жывой думкі.

— Але ж яны адмаўляюць рэлігію... — адважыўся запярэчыць Нікан.

— Тым больш. О, каб хто мог гэтак жа грунтоўна абвергнуць іх ідэалогію. На жаль, сярод нашага брата няма такіх. Ды і атэісты далей за сваіх настаўнікаў не пайшлі. Уся наша сучасная літаратура трымаецца на аўтарытэтах мінулага.

Нікана спачатку палохалі такія смелыя размовы. Яму здавалася, што айцец Леанід спецыяльна выпрабоўвае яго веру. Але ішоў час, і насцярожанасць знікала. Айцец Леанід крытычна ставіўся да многіх рэлігійных канонаў. Ён шчыра ненавідзеў фанатыкаў і прыстасаванцаў.

— І тыя і другія, — злосна казаў ён, — прыносяць нашай справе непапраўную шкоду. Першыя сваёй абмежаванасцю, другія — яшчэ горш — сваёй сапсаванасцю. Калі б на тое мая воля, я адлучыў бы ад царквы людзей дурнаватых і тых, хто хоча пажывіцца за яе кошт.

Уплыў айца Леаніда быў вялікі. Нікану хацелася быць такім, як яго настаўнік. І ён усё часцей у спрэчках займаў сваю прынцыповую пазіцыю, абараняў яе да канца.

Навучальны год пераваліў на другую палову. За выдатную вучобу і добрыя паводзіны Нікана выбралі старастам класа. Ён ганарыўся гэтым і стараўся навесці ў класе дысцыпліну. Можа і навёў бы, каб у групе не вучыўся отрак Сыравы. Семінарыст гэты быў для Нікана дзіўнай загадкай. Ён знарок рабіў што-небудзь супрацiўнае богу, а пасля падаў на калені перад абразом і слёзна маліў даравацць яго грахі.

Нікан не раз угаворваў Сыравога, стараўся абудзіць у ім павагу да

святых сцен семінарыі. Отрак размашыста асяняў крыжам шырокія грудзі і кляўся ўсімі святымі, што ніколі больш не возьме ў рот сатанінскага зелля. Нейкі час мір і спакой панавалі пад дахам асвянцонай крыжам і малітваю навучальнай установы. Потым у крыштальную душу отрака Сыравога заглядваў д'ябал. А прычынай грэхападзення звычайна быў, як гэта ні дзіўна, самы адданы богу выкладчык катэхізісу айцец Якаў.

Маленькі, худзенькі, з вялікімі, як у рака, вачыма, гэты святы муж з нянавісцю адносіўся да ўсяго жывога і здаровага, што стварала нявыгадны фон для яго нікчэмнай асобы. Яго зліnялыя шэрыя вочкі загараліся гневам, а ніжняя адвіслая губа згортвалася ў трубачку, калі айцец Якаў бачыў перад сабой магутную постаць семінарыста.

— Мусіць, кацялок твой юрлівымі думкамі набіты, — пачынаў распякаць семінарыста айцец Якаў.— Вунь які вымахаў!.. А богу якая карысць? Якая, я ў цябе пытаю? Няма яе, бо бог токма пра душу чалавечую клапоціцца, а не пра цела. А ты, мабыць, пра чырванагубых памышляеш...

Айцец Якаў рэшткамі састарэлай душы сваёй ненавідзеў жанчын. І гэта нядрэнна выкарыстоўвалі семінарысты, калі не ведалі ўрока.

— Толькі бог ды яго апосталы ведаюць, якой спакусе... — шаптаў які-небудзь семінарыст свайму суседу.

Айцец Якаў насцярожана лавіў кожнае слова, прыкладаючы нямоглую руку да вуха.

— Гэта ты пра тую чырванагубую? — знарок гучна пытаўся сусед.

— А як жа, пра яе. Запіску мне прынесла, а я катэхізіс якраз чытаў,— тут семінарыст пераходзіў на ледзь чутны шэпт.

Тады айцец Якаў, чалавек надзвычай цікаўны, падымаў семінарыста.

— Апавядай уголас, раб божы,— загадваў ён.— Няхай твая гісторыйка навукай для іншых будзе.

Отрак хлусіў, усяляк зневажаючы жаночы род, а айцец Якаў дадаваў ад сябе такое, пра што і гаварыць няможна, а ў заключэнне казаў:

— Усё нядобрае, усё варожае чалавеку, дзеці, ма́е жаночы род: злосць, зайздрасць, хлусня, хітрасць, подласць, дурасць. Асцерагайцеся жанчыны, отракі...

Сыравы з першага дня пачаў ненавідзець айца Якава і яго катэхізіс. У той дзень, калі ўсё гэта адбылося, Сыравы атрымаў па катэхізісу тлустую, вялізную двойку.

— Ну, пацук абгрызены, пачакай... — не вытрымаў Сыравы.

Ён грукнуў дзвярыма і знік. Вярнуўся ў семінарыю позна ўвечары. Хістаючыся, як Ной, што некалі пакаштаваў соку вінаграднага, Сыравы ўваліўся ў клас, дзе брацiя самастойна зубрыла божую мудрасць:

— З-з-д-да-р-р-о-ова, ай-ц-цы-ы!— гаркнуў ён на ўсё горла. — Зу́брыце, анафемы? Зубры́це, валяйце, бог убачыць і ваздасць...

Сыравы неяк дабраўся да сярэдзіны класа і заспяваў, як асіплы дзяк з сельскага амбону:

Брось, мамаша, бить поклоны
На поповское старьё:
Для попа — они иконы,
А для нас утильсырьё.

Большасць семінарыстаў разявіла раты. Хтосьці папрасіў паўтарыць прыпеўку. Толькі Іерамія шчыра абурыўся:

— Ты што, з глузду з'ехаў? Што ты вярзеш? Гэта ж грэх цяжкі, апамятайся, няшчасны! Браточкі! Айцы! Што ж гэта робіцца!

Рудабароды двaццацівасьмігадовы семінарыст з хрысціянскім провішчам Баламут абхапіў за плечы Заварава з Тугейкам і курчыўся ад смеху. У кутку, стараючыся заглушыць няўгодныя богу прыпеўкі, паўтузіна семінарыстаў заспявала царкоўны гімн. Іх закідалі малітоўнікамі.

— Дзе ён толькі навучыўся такіх прыпевак?— з зайздрасцю спытаў Завараў.— Слухай, Сыравы, спявай яшчэ! Толькі ціха, а то пачуюць. Ну і ночка, браткі! Антырэлігійная самадзейнасць у боскай кузні... Во, дзіва! Рэж, Сыравы, давай, мы слухаць будзем.

Сыравы ўзлаваўся:

— Ты мяне, папоўскі нашчадак, не чапай, чуеш? Я не для цябе, для ўсёй брацii спяваю...

Машет поп кадилою,
Сам глядит на стильную,
Эка баба модная!..
Во святые годная!..

Увесь клас так і грымнуў рогатам, нібы пекла, калі ў яго трапляе праведнік. А Сыравы спяваў:

Под столом стоит ведёрная,
Ну, теперя, братцы, дёрну я...
И хватил частицу некую:
Пьют же люди горечь экую!..

Напалоханы семінарысцік Гамен, які зубрыў святое пісанне, заткнуўшы вушы пальцамі, хацеў быў пабегчы па выхавальніка.

— А-а-а, так?— закрычаў Сыравы.— Ды я ж табе адзнаку на лоб пастаўлю, як бог Каіну. Усё жыццё з гузам хадзіць будзеш...

Гамен пусціўся наўцёкі. А брацiя пачала ўгаворваць Сыравога:

— Друг, апамятайся. Выхавальнік зойдзе, пападзе ўсім. Тупай у інтэрнат, праспіся.

«Друг» размяк, палез цалавацца з брацiяй.

— А ты куды сваю морду соваеш,— раптам узгарэўся ён.

— Я не сoваю, брат, — паспрабаваў апраўдацца семінарыст.

— Які я табе брат! — закрычаў Сыравы.— Я табе вораг. Думаеш, забыў, як ты мяне айцу інспектару прадаў, гад!

— Супакойся, брат...

— Не называй мяне братам, скаціна,— не мог супакоіцца Сыравы.— Я з цябе адбіўную буду рабіць...

Магутным ударам Сыравы збіў семінарыста з ног. Яго хацелі скруціць, але Сыравы раскідаў усіх.

— Гэта мяне? Мяне звязаць хочаце?— крычаў ён, схапіўшы табурэтку.

— У ім д'ябал пасяліўся...— прашаптаў Іерамія і выбег з класа.

— Ратуйся, брацiя! — залементавалі семінарысты.

Усе рынуліся ў калідор, бо ведалі, што Іерамія пабег па начальства. Хтосьці спатыкнуўся і грымнуўся ля парога. На яго навалілася яшчэ некалькі чалавек.

— Куды прэшся, ірад!

— У пыку яму, у пыку!..

— Вось табе, вось!..

Лаянка, валтузня і глухія ўдары нарасталі з кожнай хвілінай.

Нікан спачатку не хацеў лезці ў гэтую бойку, але хтосьці выцяў яго, і святое пачуццё помсты авалодала старастам. Выбіраючы тых семінарыстаў, што насалілі яму, Нікан разважліва штэмпеляваў кулаком ненавісныя твары. Ды і ўсе біліся шчыра, як да гэтага часу маліліся.

Зусім нечакана, нібы прывід, у калідорнай цемры мільганула постаць інспектара. Айцец Сергі смела рынуўся ў самую гушчу бою, але тут жа ледзь устаяў ад моцнай аплявухі.

— Чаго вы стаіцё, як бараны?— закрычаў ён на разявак, што це-



шыліся грозным відовішчам.— Памажыце разняць іх! Гэта ж сапраўднае Віфліемскае пабоішча.

На шум прыбеглі выкладчыкі і семінарысты старэйшых курсаў. Хтосьці пастараўся разбіць электрычную лямпачку, і цяпер бойка ішла ў цемры. Усё новыя і новыя сілы з розных класаў улазілі ў крывавае пабоішча. На волю вырвалася сіла маладосці, якая пакуль стрымлівалася пастамі і малітвамі. Семінарысты навобмацак шукалі сваіх ворагаў, асабліва з выкладчыкаў, і старанна дубасілі іх. Хутка отракі апамяталіся. Хітрэйшыя пад сховам цемры разбегліся па сваіх келлях. Астатнія спрабавалі выбрацца з бойкі. Недзе, як грэшнік у пекле, стагнаў айцец Якаў:

— Памажыце падняцца... вады дайце...

Семінарысты кінуліся падымаць айца Якава. Яны схапілі яго за ногі і, не разабраўшыся ў цемры, паспрабавалі паставіць на галаву. І толькі потым, агледзеўшыся, памаглі старому недарэку стаць на ногі.

— Чаго раты паразяўлялі? Марш па класах. Нічога вы не бачылі. Усё гэта насланнё д'ябла... — шумеў айцец інспектар.

Лёгка было сказаць, што бойка — насланнё, што яна толькі здалася семінарыстам. У многіх пад вачыма сінелі гузакі. Ды і сам айцец інспектар моршчыўся ад болю.

— Усё, што вам здалося, забыць і нікому не расказваць,— распарадзіўся інспектар.

Трэба ж неяк было ўтойваць такую ганьбу.

## III

Вясна была капрызная. Над горадам часта паяўляліся калматыя хмары, дробны, надакучлівы дождж гадзінамі барабаніў у шыбы. Потым неба нечакана выяснівалася, і яркае паўднёвае сонца прагна вылізвала лужыны на вуліцах.

Жыццё ў семінарыі не мянялася. Отракі ўвесь вольны час слібізавалі багаслоўскія навукі. Набліжалася веснавая сесія.

Дружба з айцом Леанідам паклала свой адбітак на думкі і паводзіны Нікана. Вучыўся ён добра, яго ставілі ў прыклад семінарыстам. Але чым глыбей забіраўся ён у бездань хрыстовай мудрасці, тым больш заблытваўся ў супярэчнасцях. Шмат спрэчак сярод семінарыстаў выклікаў першы палёт чалавека ў космас. Тлумачэнне айца рэктара, што ўсё адбылося не без божай дапамогі, не супакоіла Нікана. Ён пайшоў да айца Леаніда, і яны ўсю ноч гаварылі пра навуку, Цыялкоўскага і рэлігію.

Хутка Нікан надумаў вывучаць атэістычную літаратуру, вядома, употай ад семінарскага начальства. Рабіў ён гэта для таго, каб памагчы праваслаўнай царкве адстаяць хрыстова вучэнне ад крытыкі атэістаў. Ірамія, які аднойчы заспеў Нікана за антырэлігійнай кнігай, жахнуўся:

— Зноў ты абразлівую богу пісаніну чытаеш? — з абурэннем спытаў ён.— А святую малітву на сон, мабыць, забыўся богу данесці?

— Маліўся я, брат, — адказаў Нікан.— А кнігі гэтыя і табе варта было б прачытаць.

— Барані божа, — спалохаўся Ірамія,— не хачу браць грэх на душу.

— Разумееш, Ірамія, пра што я мару,— таямніча зашаптаў Нікан.— Хачу напісаць такую кнігу, каб атэісты ніводнага дрэннага слова супраць бога не маглі сказаць. Толькі глядзі, брацііне кажы

пра мае намеры. Смяяцца будуць. У аднаго Заварава язык, як брытва...

— Захаваю тайну,— супакоіў Іерамія Нікана.— Цяжка табе будзе. Я ведаю аднаго чалавека, які таксама хацеў паўстаць на абарону рэлігіі. Не выйшла. Стары ён быў і хворы.

— Хто ён?

— Сваяк мой. Я ў яго выхоўваўся. Чысты і адданы богу чалавек. Усё жыццё манахам пражыў. Бацькоў маіх бог да сябе паклікаў, царства ім нябеснае.

— Памерлі?

— У вайну ворагі праклятыя жывымі спалілі,— пасля нядоўгага маўчання сказаў Іерамія.

У пакоі настала цішыня. Назойлівы дождж ціха сіпеў за акном, а з суседняй келлі праз сцяну быў чуваць рогат семінарыстаў. «Як жа так, бог паклікаў?..— думаў Нікан.— Чаму паклікаў, калі ворагі іх забілі? Навошта праз ворагаў смерці іх захацеў? Жорстка гэта...»

— І дзе ж гэта нячысцік Заварава носіць?— абурана спытаў Нікан, каб пазбавіцца грэшных думак.

— У якой-небудзь маладзіцы начуе...— адказаў Іерамія.— Бабы і анекдоты ў ягонай галаве, набожнасць толькі для выгляду. За грошы ён і душу чорту прадасць.

— Бабнік ён, а кажа, што матушку сабе шукае,— падтрымаў Нікан Іерамію.

— Хлусіць. Маладых прыхаджанак абдурвае і спакушае, мабыць...

— Іерамія, а ты кахаў калі-небудзь?

— Бог з табой!.. — ускочыўшы на ложку, сказаў Іерамія.— Я ж ахвяраваў сябе богу. Як ты мог падумаць такое!

— Ну, а ў школе? Я адной дзяўчынцы нават вершы прысвячаў.

— Быў і ў мяне выпадак... — крыху счакаўшы, прызнаўся Іерамія.

— Няўжо загінула?

Іерамія шэптам маліўся, часта асяняючы сябе крыжам. Прачытаўшы малітву, загаварыў:

— Я яе ў доме лесніка сустрэў. Унучка яна ягоная. Мне тады семнаццаць мінула. А ёй, бадай, і семнаццаці не было. Тоненькая такая, як чарацінка. І нічога ў ёй асаблівага не было. Вочы хіба незвычайныя. Богам яны нейкай прыгажуні прызначаліся, а дасталіся ёй...

Іерамія ўздыхнуў і змоўк. А Нікан з сумам падумаў, што калі і ён ахвяруе сябе богу, дык ужо ніколі не пазнае таямніц кахання. «Тады, як у пастку трапіш,— падумаў ён.— Хоць мы і цяпер у пастцы. У святой пастцы...»

— У дзяцінстве я часта хварэў,— казаў далей Іерамія.— І мой выхавальнік адправіў мяне на лета да сябра свайго — лесніка. Той лячыў мяне травамі, а больш працай і паветрам. Апошнім летам прыехала да яго ўнучка, такая ж, як і я, хваравітая. Можа таму мы і пасябравалі. Не ведаю. І ніхто, апрача бога, не ведае, чаму людзям бывае добра. А нам было добра. Мы кожны дзень блукалі па лесе, збіралі ягады, любаваліся створаным богам прыгажосцю. Спачатку мы былі, як сястра і брат. Яна, праўда, не верыла ў бога, але веру маю паважала. А можа проста не разумела, як гэта я магу верыць. Дык вось... ага я забыўся назваць яе імя. Любай яе звалі.

Іерамія зноў змоўк. Нікан прыўзняўся, абапёрся на руку, чакаў, калі Іерамія зноў пачне расказваць.



— Недалёка ад хаты была рачулка. Люба любіла купацца. А я вады баяўся. І цяпер баюся,— прызнаўся Іерамія.— Пакуль яна плавала, я па лесе хадзіў: Люба саромелася мяне. Так вось і ішло. Але хутка ўсё змянілася. Ці, можа, бог ад мяне вочы адвёў, а можа, анёл мой куды адлучыўся, не ведаю, брат, што адбылося. Толькі без нячысціка тут не абышлося. Кветку я аднойчы знайшоў. Прыгажосці незвычайнай. Доўга я любаваўся ёю, а сарваць ніяк не рашаўся. Потым зламаў. Некалькі кропелек расы ўпала мне на руку. І такая туга ахапіла!.. Пабег я, зацiснуўшы кветку ў руцэ. Люба ляжала на беразе рэчкі. Я падбег, прысеў побач, і раптам... Не ведаю, брат, што сталася са мной. А толькі ні кветка, ні лес — нішто ўжо для мяне не існавала. Быццам не Люба гэта была перада мною, а штосьці такое, што цягнула да сябе, нібы вір які. Паклаўшы кветку на зямлю, я пайшоў дамоў. А перад вачыма стаяла Люба: валасы распушчаныя, твар рукой прыкрыты. Цяпер я баяўся сустракацца з ёю. Мне здавалася, што звер, які прачнуўся ў маёй душы, знявечыць дзяўчыну. І я стаў на калені, каб прачытаць малітву. Заплюшчыў вочы, каб выклікаць у памяці вобраз нябеснага суддзі, а вачам маім хацелася толькі Любу бачыць. Такога і знайшла мяне Люба ў лесе. Я спалохаўся, хацеў уцячы, але не мог.

— Што з табой?— спытала яна.— Ці не захварэў? Пойдзем дахаты.

Я стараўся не глядзець на яе. Адчуваў, што сапраўды захварэў.

Тры дні даглядала мяне Люба. А я змагаўся са зверам, што засеў у маёй душы. Гэтыя дні і нарабілі... Звычайна ўвечары я казаў Любе: «спакойнай ночы», а ў той вечар сказаў штосьці другое.

— Люба... прыходзь... прыйдзі да мяне...

— Добра,— адказала яна такім даверлівым голасам, што мне зрабілася кепска.

Люба пайшла. А мне стала так сорамна, брыдка, што я, сабраўшы ўсе сілы, выскачыў у акно і кінуўся ў лес. Дзед знайшоў мяне толькі праз дзень. А Любу я так больш і не ўбачыў. Паехала яна.

— Ты яе не сустракаў больш?

— Не... Яна памёрла...

«Можа ты для яе памёр,— чамусьці падумаў Нікан.— У святую пастку трапіў, таму зямное для цябе і недаступна».

Назаўтра дзень пачаўся, як і звычайна, з фіззарадкі. Семінарысты курчыліся ад холаду, успаміналі чорта, які выдумаў гэты занятак, лянiва махалі рукамі. Потым пачаліся заняткі. Нарэшце і яны скончыліся. Усе сабраліся ў спевачнай. Нейкі жартаўнік зайграў на фісгармоніі польку. Божы храм ледзь вытрымліваў магутную тупатню семінарыстаў.

— Цішэй там! Вы ж у храме божым,— закрычала прыбіральшчыца матушка Аляксандра. Яе крык прыцягнуў увагу семінарыстаў.

— Хлопцы, паглядзіце, як матушка храм прыбірае,— гукнуў Завараў.

Усе пабеглі да яго. Было і сапраўды цікава паглядзець, як матушка наводзіць парадак у божым доме. Вось яна пачала выціраць пыл з абраза Хрыста-Спасіцеля. Пацёрла Спасіцеля анучкай, пашкрабала пазногцем — пляма не адстае. Тады матушка плюнула на абраз, і сліна пацякла ў бога па барадзе. Матушка зноў пацёрла бога і, мабыць, адчуўшы грэх, упала перад ім на калені. Брація зарагатала, а матушка падхапілася, замахала кулаком і пачала смачна лаяцца.

Узяўшы кнігу, Нікан скіраваў стопы свае ў парк. Толькі пачаў чытаць, як перад ім узнік семінарыст Дудакоў.

— Паведамленне жадаю зрабіць,— сказаў ён, пашчыпваючы рыжую бародку.
— Выкладвай, калі яно нас з табой датычыць.
— Яно самога бога датычыць...
Дудакоў прысеў на лаўку, азірнуўся.
— Некаторыя отракі,— *пачаў ён,— пасля вячэрняй малітвы зялёнага змія задумалі пакаштаваць. Вось што...*
— З нашага класа?
— З класаў розных, а сэнс адзін...
— Прозвішчы можаш назваць?
— Усіх пералічыць цяжка. Дзверы былі зачынены, і я толькі голас Заварава пазнаў.
— Падслухоўваеш?
— Вось табе крыж — не! Выпадкова...
— Добра, я не дазволю ім,— адказаў Нікан.
— Калі будзеш па начальству дакладваць, дык пра мяне не забудзь напомніць,— сказаў Дудакоў.
Нікан сумеўся. «Чаму ж ён сам не далажыў дзяжурнаму,— падумаў ён.— Хоча чужымі рукамі жар заграбаць. Хітрун! Хоча мяне даносчыкам зрабіць. А па мне дык няхай п'юць. Не вялікая бяда. Бога яны не баяцца, дык туды ім і дарога. Каб толькі не ўсчалі біцца? Хаця і гэта не дрэнна. Вось такому Дудакову трэба было б морду надраіць...»
Нікан нават здзівіўся з такіх сваіх думак.
А тым часам семінарысты, памаліўшыся богу, накіраваліся ў «Гастраном». Святое шэсце ўзначальваў Сашка Завараў. Ён нёс маленькі чамадан, з якім звычайна хадзіў на заняткі. Отракі купілі гарэлкі, каньяку і ўрачыста рушылі назад. Як і кожная святая справа, усё было зроблена ціха, непрыкметна. Не драмалі толькі бог ды аднакурснік Заварава Колька Хлапчук. Пранюхаўшы пра выпіўку, Колька надумаў сатварыць цуд. Не доўга думаючы, ён паклікаў дзяжурнага выхавальніка, і, калі ўсе стаялі на малітве, яны ўдвух дасталі з чамадана паўлітэркі, а на іх месца паклалі біблію. Святое пераўтварэнне, на іх думку, павінна было нагнаць страх на багабоязных отракаў. Гарэлка ж была выпіта ў інспектарскай.
Завараў і не падазраваў, што ў семінарыі мог быць хтосьці, хто парушыў бы запаведзь Маісея «не ўкрадзі». Ён узяў чамаданчык, сеў на ложак і асяніў сябе размашыстым крыжам.
— Божа не прымі за п'янства, прымі за лякарства...— сказаў Завараў і адчыніў чамадан. На грэшнікаў адтуль глянуў пазалочаны праваслаўны крыж.
Усе знямелі. Запусціўшы пяцярню ў валасы, Завараў спытаў:
— Брація, можа гэта здаецца? Разуйце вочы, брація...
Брація «разула» вочы. Завараў дастаў біблію, шпурнуў яе на стол.
— Дзе ж выпіўка? — закрычаў ён і паваліўся на падушку.
Пад падушкай было штосьці цвёрдае. Завараў засунуў руку і дастаў бутэльку. Здзіўлена паглядзеў на яе: бутэлька была пустая.
— Вось хто гэта зрабіў, сволач! — раптам здагадаўся Завараў і, не доўга думаючы, запусціў бутэлькай у Кольку, які мірна дрыхнуў на ложку.
— Ай-яй-яй!..— залемантаваў той.
У пакой прыбег дзяжурны выхавальнік, але тут жа ўцёк, убачыўшы ў Сашкавых руках яшчэ адну бутэльку.
І зноў пачалася бойка. Ёю і закончыўся навучальны год. Семінарысты паехалі дамоў.



## IV

У часе канікул Іерамія пайшоў паслушнікам у манастыр, які знаходзіўся не вельмі далёка ад семінарыі. Нікан крыху сумаваў па сваім сябру і аднаго разу надумаў наведаць яго.
Па пыльных вуліцах ён выйшаў на ўскраіну горада. Манастыр стаяў на самым беразе мора. На яго агародах працавалі старыя манахі ў брудных падрызніках. Нікан мінуў агароды, вінаграднік і ля вялікага кветніку застаў Іерамію, які чытаў біблію.
Пацалаваліся.
— А я сюды прыйшоў надоўга,— пачаў Нікан.— Дзе можна пабачыць айца ігумена?
— Дык ты не мяне прыйшоў наведаць? — пакрыўдзіўся Іерамія.
— Чаму? Не толькі наведаць прыйшоў, але і падзяліць з табой крыж падзвіжніцтва.
— Бог табе паможа!..— узрадаваўся Нікан.— А ў нас перамены. Айцом ігуменам прызначылі айца Серафіма.
Нікан здзівіўся. Айца Серафіма ён добра ведаў.
— Правядзі мяне,— папрасіў Нікан.— Трэба папрасіць благаславення ў айца ігумена.
Убачыўшы Іерамію і Нікана, келейнік незадаволена паморшчыўся.
— Айцец ігумен адпачывае,— сказаў ён і зачыніў дзверы.
Сустрэўся Нікан з айцом ігуменам толькі назаўтра, калі той выходзіў з асабняка.
— Благаславіце, айцец Серафім,— падышоў ён да ігумена.
Той ленавата накрэсліў крыж у паветры і нечакана спытаў:
— Ці ты гэта, Нікан?
— Ваісціну так,— узрадаваўся семінарыст.
— Рад бачыць цябе. А якія дарогі прывялі цябе ў нашу ціхую затоку?
— Прыехаў правесці час да вучобы сярод божых падзвіжнікаў.
— Ну, ідзі ўладжвайся і адпачывай. Ды і да мяне заходзь. Дзверы мае для цябе заўсёды адчынены.
Кармілі ў манастыры дрэнна. Але Нікан хутка заўважыў, што не ўсе аднолькава нясуць паслушэнства. Радавая брація, непісьменная і забабонная, працавала да знямогі. Затое прывілеяваныя ўвільвалі і ад работы і ад малітваў.
У манастыры жылі два схімнікі: манах Ардальён і іераманах Сава. Ардальёна Нікан не бачыў. Казалі, што ён ляжыць у труне, галадуе, і да яго дабрацца не лёгка. Затое Саву Нікан бачыў часта. Той лічыўся святым. У яго было сваё месца ў царкве. Ля калоны стаяла крэсла, у якое святы часта садзіўся. Побач вісела бляшанка для грошай. Багамольцы цалавалі руку схімніку і за гэта плацілі грошы.
Схімніку прыслужвалі маладыя манахі Рафаіл і Уласі. Нікан неяк хутка зблізіўся з імі.
Аднойчы Нікан, зайшоўшы ў келлю Рафаіла, застаў там Уласія. Той сядзеў, разгарнуўшы тоўстую кнігу, і чытаў. Рафаіл ляжаў на ложку.
— Чытайце далей,— сказаў Нікан збянтэжаным манахам.— І я паслухаю.
— Давай, чытай...— загадкава падміргнуў Рафаіл.
Уласі неахвотна пачаў чытаць:
«Як я згубіла сваю дзявоцкасць і пачала нястрымана аддавацца распусце — пра гэта без сораму не магу нават успомніць, а не тое, каб падрабязна расказваць. Скажу коратка, каб ты ведаў пра маю ня-

стрымную распусту. Семнаццаць год і нават больш я распуснічала з усімі...»

«Ага,— здагадаўся Нікан,— гэта яны жыціе святой Марыі Егіпецкай чытаюць».

— Во баба! Сюды б такую,— вырвалася ва Уласія, але ён тут жа спахапіўся: — Барані божа...

— Чытай далей,— загадаў Рафаіл.

— Далей нецікава.

— Чаму? — спытаў Нікан.— Далей самае галоўнае. Марыя памёрла, пакаяўшыся, і дзікі леў выкапаў ёй магілу. Во дзе соль усяго. Звер і той зразумеў яе святасць!

— Соль не ў тым,— перабіў яго Рафаіл.— Чым больш грашыш, тым хутчэй атрымаеш вянок святасці.

— Як знаць...— адказаў Нікан.

— Памыляешся, семінарыст. У евангеллі ад Лукі што сказана? «На небе больш радасці будзе аб адным грэшніку, які раскайваецца, чым аб дзевяноста дзевяці праведніках, якія не маюць патрэбы ў пакаянні». Вось і іерасхімнік Сава, кажуць, быў вялікі грэшнік у маладосці...

Заблямкаў звон, і Нікан пайшоў на малітву. Але там яго пачалі трывожыць грэшныя думкі. Вось чаго, выходзіць, шукаюць манахі ў святых пісаннях! Захапляюцца разбэшчанасцю, смакуюць грахі. Але ж і праўда: чаму ў святых кнігах столькі спакуслівых апісанняў? Вось і жыццё Марыі Егіпецкай... Яна ж вялікая грэшніца. Але яна святая. А тыя, каго яна разбэсціла — грэшнікі. Нічога сабе малюначак! Марыя ў раі, а яе нявольныя любоўнікі — у пекле!.. Дык якая ж гэта святасць!..

Ён спалохаўся сваіх думак, шчыра пачаў хрысціцца.

Некалькі дзён манахі абыходзілі Нікана. Потым неяк увечары Рафаіл пастукаў у Ніканаву келлю.

— Не адмоўся, брат, раздзяліць з намі трапезу...

«Чаго гэта яны запрашаюць?» — падумаў Нікан.

У келлі сядзелі Уласі і Тарас. Стол быў накрыты. На ім дзве бутэлькі каньяку.

— Што за свята? — здзівіўся Нікан.

— Дзень нараджэння Уласія. Быў такі хлопец Уладзімір. Дык мы па ім трызну спраўляем.

Манахі зарагаталі. Выпілі па чарцы, другой. З-пад ложка Уласі дастаў яшчэ дзве бутэлькі.

— Добра жывяцё, брацця,— здзівіўся Нікан.

— А хто табе перашкаджае? Спадабаўся ты нам, хлопча. У ігумена ты на вачах. Ды і сам не дурань. Можа калі-небудзь і сам ігуменам станеш. Нас, грэшных, не забудзеш тады. Свае людзі ўсюды трэба.

— Хабар, значыць, на будучае,— усміхнуўся Нікан.

— Як хочаш, так і лічы. А з намі не прападзеш. І ў манастыры можна манету мець. Вось і нам ад святога Савы перападае. Хітрун, манах... Такіх толькі пашукаць. І каньячком ласуецца і яшчэ тымсім... Давайце вып'ем...

Нікан адмовіўся. Манахі выпілі.

— Я табе яшчэ адзін сакрэт адкрыю,— пачаў Рафаіл.— Бачыў могілкі нашы?

— Бачыў.





— А магілы схімнікаў? Вось тут, як кажуць, сабака закапаны. На жывым Саве трымаецца манастыр. Сава галовы багамольцам марочыць, а мы ім зямельку з магіл прадаем. Зразумеў?

— Здорава прыдумалі! А калі аканом даведаецца?

— Ён сваё мае... Ну, Нікан, а цяпер бліжэй да справы. Ты нам, а мы табе. Зразумеў? Ты, брат, часта багамольцам розныя гісторыйкі расказваеш. Ды вось закінь ім, што ў манастыры пахаваны «свяцільнікі веры хрыстовай», а целы іх, кажуць, нятленныя, і быццам зямля на тых магілах мае вылечную сілу. Багамольцы на гэта падкія. А нам, ведаеш, колькі перападзе...

— Цяпер зразумела, чаму вы на вячэру мяне паклікалі,— абурыўся Нікан.— Вось я раскажу айцу ігумену...

І ён пайшоў. Але пра той выпадак айцу ігумену так і не расказаў. На гэта былі прычыны.

Гуляючы па манастырскіх алеях, Нікан заўважыў святло ў вокнах ігуменскага асабняка.

«Зайду да айца Серафіма,— падумаў ён, адчуваючы патрэбу пагутарыць з кім-небудзь пра свае сумненні.— Запрашаў жа ён у любы час да яго заходзіць».

Дзверы былі адчынены. Нікан зайшоў у першы асветлены пакой. Кялейніка не было. Што за дзіва? Было няёмка стаяць тут, але і нязручна пайсці. Нікан стаяў, не ведаючы, што рабіць. У суседнім пакоі пачуўся голас айца Серафіма. Нікан рашыўся.

— Малітвамі святых айцоў нашых...— адчыніўшы дзверы, пачаў ён і збянтэжана змоўк.

Сярод пакоя за сталом сядзеў айцец Серафім, а насупраць яго — жанчына, манастырскі шэф-повар.

Айцец ігумен незадаволена глянуў на Нікана.

— Прабачце,— прамармытаў той, адступаючы за дзверы.

— Заходзь...— падняўся з крэсла ігумен.— Садзіся за стол. Бяры вунь крэсла і садзіся. Гэта семінарыст Нікан,— пазнаёміў ён отрака з жанчынай.

— Зіна... Зінаіда Ахрэмаўна,— падала тая руку.

«Такая давядзе да спакусы...» — падумаў Нікан.

Шэф-повар выглядала маладой. На ёй было плацце з глыбокім дэкальтэ. На грудзях — залаты крыж. На руцэ — залаты гадзіннік, пальцы ў залатых пярсцёнках.

— Бог любіць тройцу,— развёў рукі ігумен.— Пайду я зачыню дзверы, бо чацвёрты будзе ўжо д'яблам пасланы.

Пілі гарэлку, каньяк, віно. Айцец Серафім расказваў анекдоты. Зінаіда смяялася. Звінелі крыштальныя бакалы. Ігумен, аднак, не забываў кожную закуску асяняць крыжам.

Вярнуўшыся ў келлю, Нікан не мог заснуць. Ляжаў, думаў пра тое, што бачыў у манастыры.

«Дзе ж той дабратворны ўплыў рэлігіі, пра які гавораць у семінарыі? Мы любім гаварыць пра братэрства, пра любоў да бліжняга. Але гэтыя словы забыты нават тут. Схімнік Ардальён гіне з галаду ў труне. Сава абдурвае багамольцаў. А ігумен распуснічае ў асабняку. І ён вучыць другіх, як трэба жыць на свеце... Абяцаючы дараванне грахоў за адно толькі славеснае пакаянне, рэлігія адкрывае лазейку злачынцам. Нездарма ж у рай трапіў бандыт, які вісеў на крыжы з Хрыстом...— Нікан схамянуўся: «Штосьці са мной адбываецца такое, бо лезуць у галаву грэшныя думкі. Трэба чытаць святое пісанне і малітвы»...

Але ні святое пісанне, ні малітвы не засцерагалі яго ад думак. А падумаць было пра што.

— Іерамія, ці лічыш ты, што жыццё біблейскіх праведнікаў і прарокаў можа быць дастойным прыкладам для пераймання?

Нікан загарнуў біблію, палажыў на стол.

— А як жа, Нікан? Што з табой?

— Набярыся цярплівасці і паслухай мяне. Божа, пашлі прасвятленне маёй душы. Калі я на зямлі не магу знайсці веры, дык пашлі яе са старонак святога пісання. Я зайшоў у такія нетры...

Яны размаўлялі ў келлі. Нікан толькі што прачытаў дзесяць запаведзяў Маісея. Сумненні не давалі яму спакою.

— Кажы. Толькі ведай — твае размовы да выратавання не прывядуць.



Нікан, здаецца, не пачуў апошнія словы. Ён зноў узяў біблію.

— Ага! Вось чацвёртая Кніга царстваў. Памятаеш, як самарыйскі цар Ахазія захварэў і паслаў падданых сваіх да Акаронскага Вельзевула даведацца, ці застанецца ён жывы. Паслам сустрэўся прарок Ілья. Ён сказаў, што Ахазія памрэ, бо звярнуўся не да бога ізраільскага... Ага, памятаеш... А што было далей? Ахазія захацеў пабачыць Ілью і паслаў па яго пяцідзесятніка і яго пяцідзесятак. А што зрабіў Ілья? Ён сказаў: «Калі я чалавек божы, дык няхай сыдзе агонь з неба і спапяліць цябе і твой пяцідзесятак». І агонь спапяліў усіх. Пайшоў яшчэ адзін пяцідзесятак да Ільі. А ён і той спапяліў. За што? Невінаватых людзей! А чаму ж ён не выканаў запаведзь: «Не забі»!

У гэтай жа кнізе расказваецца пра другога прарока — Елісея. І вось адзін з яго цудаў. «Калі ён ішоў па дарозе, малыя дзеці выйшлі з горада і смяяліся з яго і гаварылі яму: «Ідзі, лысы, ідзі, лысы!» Ён азірнуўся і ўбачыў іх, і пракляў іх імем божым. І выйшлі дзве мядзведзіцы з лесу і разарвалі з іх сорак два дзіцяці».

— Падумай, Іерамія: дзеці, малыя і неразумныя, сказалі нешта, а прарок іх знішчыў. Дзе ж тут літасць божая?

— Яны таксама мелі чалавечыя слабасці,— пасля маўчання адказаў Іерамія.

— А навошта ж бог выконваў іх зладзейскія просьбы. Ён жа літаслівы?

— Шляхі божыя невядомы...

— Гэта лягчэй за ўсё сказаць. А ты растлумач мне, як можна святкаваць памяць Лота, ставіць яго ў прыклад веруючым, калі ён жыў са сваімі дочкамі і тыя нават дзяцей ад яго нарадзілі?

— Бачыш, Лот быў п'яны,— абараняў святога Іерамія.— Ён нават не ведаў, калі дочкі спалі з ім.

— Значыць, трэба так налізацца, каб страціць памяць і розум. Значыць, з п'янага і патрабаваць нельга?

— На такія пытанні я не буду адказваць. Гэта не ты — д'ябал у табе гаворыць.

— Не, гэта я гавару. А калі веруючы ў цябе спытае? Што ты адкажаш?

— А што, паводзіны Лота варты пераймання,— раптам пачуўся голас Заварава.— Эх вы, даследчыкі біблії! Сумнявацца ў святым пісанні нельга, бо гаворыцца ж у другім пасланні Пятра: «Сказалі гэта святыя божыя людзі, якімі кіраваў дух святы». А раз так, дык і Лот правільна рабіў...

— А я не сумняваюся...— апраўдваўся Іерамія.

Завараў не звярнуў на яго ўвагі. Ён гаварыў з той насмешлівасцю, якую не любіў Нікан.

— Поп і цяпер, калі вянчае, заклікае маладажонаў быць вартымі Аўраама і Сары.— Завараў зарагатаў.— Добра, што ні жаніх, ні нявеста не ведаюць, як жыла гэтая святая пара!..

— Вы здзекуецеся з святога пісання...— падскочыў Іерамія.

— Садзіся, айцец,— спыніў яго Завараў.— Ты лепш скажы, чаму бог пакараў Фараона, а не Аўраама? Гэта ж Аўраам штурхнуў сваю жонку на распусту. І не раз. Ён жа абдурыў і Авімілеха, цара герарскага. Выдаў жонку за сваю сястру, а калі той прывёў яе ў свой дом, бог сказаў Авімілеху праўду, ды яшчэ параіў даць ашуканцу жывёлу, грошы, рабоў і рабынь. Во што рабілі святыя! Дык і нам можна грашыць.

— А возьмем гісторыю з Давідам,— перабіў яго Нікан.— Саша, адкрый другую Кнігу царстваў.

Знайшоўшы патрэбны раздзел, Нікан перадаў біблію Завараву.

— Чытай,— сказаў ён.

«Аднойчы пад вечар,— пачаў чытаць Завараў,— Давід, падняўшыся з ложка, гуляў па даху царскага дома і ўбачыў з даха жанчыну, якая купалася, а тая жанчына была вельмі прыгожая. І паслаў Давід разведаць, хто тая жанчына. І сказалі яму: гэта Вірсавія, дачка Ялімa, жонка Урыі Хетціяніна. Давід паслаў служак узяць яе. І яна прыйшла да яго, і ён спаў з ёю».

— Зразумела,— зазначыў Завараў,— не запрашаў жа ён яе гуслі слухаць...

— Давай без каментарыяў,— узлаваўся Нікан.

— Можна і без каментарыяў,— уздыхнуў Завараў.— Ну, пасля Давід вярнуў Урыя з вайны, каб свой грэх на яго спісаць. А Урыя, як адданы воін, не стаў спаць з жонкай...

— Ты не пераказвай, а чытай!..— загадаў Нікан.

Завараў пачаў чытаць.

«Раніцай Давід напісаў пісьмо да Іова і адправіў яго з Урыем. У пісьме ён напісаў так: пастаўце Урыю там, дзе будзе самая моцная бітва, і адступіце ад яго, каб ён быў паражоны і памёр. Таму, калі Іоў асадзіў горад, то паставіў Урыю на такім месцы, пра якое ведаў, што там смелыя людзі. І выйшлі людзі з горада, і біліся з Іовам, і загінула некалькі з народа, з служак Давідавых; быў забіты таксама і Урыя Хетціянін...»

— Хопіць,— сказаў Нікан.— А што далей было. Бог пасылае да Давіда Нафана. Той расказвае цару прытчу пра багацея і беднага. Давід, не зразумеўшы намёку, выносіць багацею смяротны прыгавор. Сабе выносіць. А вось што напісана далей: «І паразіў бог дзіця, якое нарадзіла жонка Урыі Давіду, і яно захварэла... і памёрла». Дзе ж суд праведны? З Давіда бог знімае грэх, а дзіця карае.

— Давід яшчэ кажа, што ён ад запаветаў божых ніколі не адступаў,— зазначыў Завараў.

Нікан усё часцей успамінаў дом, маці. Спытаўшы на тое дазвол, Нікан паехаў дахаты.

У царкве цяпер правіў абедні новы бацюшка — айцец Серапіён. Мінулай зімой айцец Васілі раптоўна памёр. Увечары яшчэ хадзіў, а раніцай ужо не падняўся з ложка.

— Не вялікай любоўю карыстаецца ў сяле айцец Серапіён,— расказвалі маці Нікану.— І абедні правіць добра, але прагны бязмежна. А Прошка, званар царкоўны, здаў зусім.

— Малінавы звон ужо не выбівае?

— Дзе яму...

У Ніканавай душы пасялілася туга. Прыгадаў, як гэты самы Прошка з дазволу айца Васілія вадзіў яго, хлапчука, на званіцу, як прынёс яму кветкі, калі ён ад'язджаў у семінарыю.

— Пра што ты думаеш? — спытала маці.

— Ды так... На сэрцы камень.

У маці вочы наліліся слязьмі.

— Не трэба, мама...

— Мне боязна за цябе,— выціраючы слёзы, казала маці.— Ты пісаў, што хочаш пайсці ў манахі.

— Пісаў...

Маці ўздыхнула.

— Думала я, вырасце ў мяне сын, ажэніцца. Дзеці пойдуць, а я іх няньчыць буду.

— А ці думала ты, што я святарам стану?



— Няхай бы ты застаўся простым чалавекам.

Размова выйшла сумная. Нікан пайшоў на двор. Стаялі апошнія дні жніўня. З калгаснага гумна даносіліся песні дзяўчат.

«А я, як у пастцы...— падумаў Нікан.— Ні весялосці, ні маладосці».

Адпачынак закончыўся. Шчырай размовы з маці так і не адбылося. Малодшыя браты сароме́ліся Нікана, не хацелі паказвацца з ім на вуліцы. Усё гэта прыгнятала яго. І ён вырашыў вярнуцца ў семінарыю.

Падышоў аўтобус. Нікан абняў братоў, пацалаваў маці.

— Не хвалюйся за мяне,— сказаў ён.— Не гаруй. Можа яшчэ і ўнукаў няньчыць будзеш.

Маці ўважліва паглядзела на яго, і трывога адбілася ў яе вачах. А браты падштурхнулі адзін аднаго, зарагаталі.

## V

Да выпускнога класа дайшла толькі палова выхаванцаў. Многім надакучыў семінарскі рэжым, і яны, правучыўшыся гады тры, ажаніліся, прынялі сан святара і раз'ехаліся па прыходах.

Жыццё ў семінарыі ішло па старым рэчышчы. Раздаваўся званок. Семінарысты зацягвалі «Ойча наш», потым рассаджваліся за сталы, снедалі.

Неяк у сталовай на трапезе паявіўся новы святар. На яго пузе важна ляжаў крыж з упрыгожаннямі, што сведчыла пра высокі сан папа.

— Адкуль гэты баця? — спытаў Нікан.

— З таго свету,— выпаліў Завараў.

— Не грашы, Аляксандр,— упікнуў яго Гамен.

У пакоі паявіўся Дудакоў. Сагнуўшыся і асяняючы сябе крыжам, ён падышоў да стала, дзе сядзелі невядомы святар і выхавальнік, пацалаваў у іх рукі.

— Ты чаго фарысействуеш, ойча? — запытаў у Дудакова Нікан.

— Не хлебам адзіным жывы будзе чалавек, а ўсялякім словам,— пачаў быў Дудакоў, але Тугейка перабіў яго:

— Пра гэта бабкам у царкве скажы...

Нягледзячы на рашучую забарону гаварыць у сталоўцы, чамусьці менавіта тут знаходзілася мноства тэм для абмеркавання. Цяпер выхавальнік быў заняты з невядомым папом, і семінарысты спакваля разгаварыліся.

— Айцы, а што гэта за блудніца такая трапіла да нас на трапезу? — спытаў Завараў.— Вунь побач з бацям сядзіць.

Усе павярнулі галовы.

— Такія блудніцамі не бываюць,— голасам знаўцы адказаў Тугейка.

— Чаму? — здзівіўся Нікан.

— Ха,— усміхнуўся Завараў,— хто ж гэта пакваліцца на такую прыгажуню? Калі б усе Евы роду чалавечага былі падобны на яе, дык, вось вам крыж, я навекі застаўся б цнотным.

— Яна толькі для раю і жаніха нябеснага прыгодна,— дадаў Тугейка.

Семінарысты закрывалі твары далонямі, каб схаваць усмешку.

— Учадзеў ты,— зашыпеў Дудакоў.— Што ты мелеш? Святы Іоў што сказаў?..

— А ты памаўчы, анёл святы... Любіш цытатамі страляць. А ці даўно страляў інакш...— намякнуў на штосьці Тугейка.
Дудакоў змоўк, адвёў налітыя крывёю вочы. Нікан уважліва глядзеў на яго, думаў: што ён за чалавек?..

У клас Нікан прыйшоў апошні. Ля Тугейкі ў кутку сабралася некалькі семінарыстаў і аб чымсьці жвава гаварылі. Заварaў убачыў Нікана, паклікаў яго.

— Чуеш, стараста, вось абмяркоўваем адно важнае пытанне,— важней за ўсе ўсяленскія саборы. Быць хутка вяселлю ў семінарыі, а значыць, і выпівону грандыёзнаму. Ці добра ты разгледзеў тую прыгажуню ў трапезнай?
— Ну і што?
— Ды так, ойча, што ўсяліла яна ў душу спакусу вялікую...
— Няўжо?

— Тайну хаваюць ад нас, ойча. Морда гэтая прыехала ў наша прыстанішча падабраць сабе мужа. Спакуса вялікая... Пасаг — сто пяцьдзесят тысяч на кніжцы, двухпавярховы дом, а ў ім дабра ўсялякага. Не палічыць. Тлусты кавалак, айцы!..
— Во табе крыж, каб мяне спакушаў легіён д'яблаў, дык і тады я не лёг бы з ёю ў ложак,— гарачыўся Тугейка.

— Яно так,— уздыхнуў Заварaў.— Але ж пасаг. І трэба ж, каб ён такой вядзьмярцы дастаўся! Эх, а пажыць можна! Хіба ажаніцца, заплюшчыўшы вочы?!

— А пра што ты ў трапезнай казаў,— напомніў Нікан.
— Ну і што? Добрую маладзічку заўсёды знойдзеш, а грошы дзе?..
Увечары Заварaў зноў павёў размову пра багатую нявесту.
— А што, брація, пасватаюся да яе... Не дае спакою багацце. Ну, ажанюся, а там, бог дасць, яна таго... на неба.
— Развесціся можна,— падказаў Тугейка.
— Эге, а хто ж дазволіць другі раз ажаніцца? — спытаў Заварaў.
— На падставе здрады дазволяць другі раз ажаніцца, калі са старой жонкай цнатліва жыць будзеш, як брат з сястрой.

— А хто з ёй на здраду пойдзе? — няўпэўнена спытаў Заварaў.

— Дзівак, дасі ёй снатворнага. Падкупіш якога хлопца, ды і пакладзеш да яе ў ложак. Ну і застукаеш. Морду ёй размалюеш, і — аснова для разводу добрая. Вось, маўляў, святы айцец жыў з ёю, як з сястрой, а яна з другім спуталася.

Прайшло некалькі дзён. Заварaў усур'ёз загаварыў пра сваю жаніцьбу. Па тэлефоне ён пагаварыў з бацькам, і той не прымусіў сябе доўга чакаць. Прыехаўшы ў семінарыю, бацька пазнаёміўся з нявесткай і сватам, даў сваё бацькоўскае благаславенне на шлюб.

У Заварава паявіліся новыя клопаты. Будучы цесць цвёрда настойваў, каб маладых вянчалі ў семінарскай царкве. Заварaву гэта было не па душы.

— Во хрыч стары, што надумаў! — злаваў Сашка.— Разнясецца вестка па горадзе, прыпруцца знаёмыя... Сораму будзе! Скажуць: ну і морду выбраў...

Заварaў спрабаваў угаварыць цесця перанесці вянчанне ў ягоны прыход, але стары заўпарціўся. Вянчанне намячалася ў семінарыі. А пакуль шлюб зарэгістравалі ў загсе. Нявеста, бацька, цесць паехалі рыхтавацца да вяселля. У тую ж ноч пасля пропаведзі аб непатрэбнасці багацця і грахоўнасці дбаць пра яго, якая да слёз кранула багамольцаў, Сашка збег да сваіх сяброваk і вярнуўся толькі пад раніцу.



На апошнім курсе асаблівая ўвага надавалася гамілетыцы — мастацтву прапаведаваць. Семінарысты на ўроках гамілетыкі вывучаюць узорныя пропаведзі. Часам і самі складаюць казанні на зададзеныя тэмы. Пад выглядам навукі семінарыстаў вучаць майстэрству абдурвання веруючых, прыстасавальніцтву, хлусні, уменню вывернуцца ў розных сітуацыях.
Лекцыі звычайна чытаў рэктар.
— Руская праваслаўная царква першай з усіх цэркваў свету павінна была зразумець гістарычны працэс, які адбыўся, і правільна вызначыць сваё месца не толькі ў новых савецкіх умовах, але і ў новай чалавечай свядомасці,— казаў ён семінарыстам.— На жаль, не ўсе іерархі аказаліся на вышыні ў вырашэнні гэтай складанай задачы, нягледзячы на тое, што патрабаванне справядлівай сацыяльнай будовы вынікае з самой сутнасці хрысціянскага вучэння. Прапаведнік добра зробіць, калі раскажа сваёй пастве і ўкажа ёй, на чыім баку быў бы Хрыстос, каб ён прыйшоў на зямлю цяпер. Дарэчы, напомніце, што Хрыстос паходзіў з беднай сям'і. Яго зямны бацька быў просты цясляр, або, кажучы мовай сучаснасці,— пралетарый. Жыццё ставіць шмат розных пытанняў,— прадаўжаў рэктар.— Пастыр павінен адказаць на іх. А каб вы ведалі, што і як казаць, трэба добра ведаць не толькі святое пісанне, але і асновы хіміі, фізікі, астраноміі.
— Але ж, айцец рэктар,— спахапіўся Нікан.— Пісанне божае кажа: «У многай мудрасці — шмат гаркаты. І хто памнажае веды — той памнажае смутак».
Айцец рэктар паморшчыўся.
— Не час успамінаць пра гэта. У пропаведзях мы павінны перадолець песімістычны погляд на свет, які склаўся ў багаслоўскай літаратуры, абвясціўшай права чалавека на радаснае і шчаслівае жыццё.

«Але ж гэта — насуперак бібліі,— думаў Нікан.— Чаму ж рэктар хітруе і слова божае, непарушнае і адзінае, якое запісана ў святым пісанні, перайначвае па-свойму? Значыць, і ён разумее, што няма гэтага слова божага, а трэба жыць, прыстасоўвацца. І ён прыстасоўваецца...»
Тым часам рэктар вучыў далей сваіх выхаванцаў:
— Трэба памятаць, што на сённяшні дзень восемдзесят працэнтаў веруючых — жанчыны. І мы павінны не адштурхоўваць іх, а прыцягваць у царкву. Жанчына больш увагі аддае дзецям і больш уплывае на іх. Жанчына, брація, можа зрабіць для царства божага больш, чым некалькі мужчын.
— А як жа тады зразумець, што царква заўсёды пагардліва ставілася да жанчыны? — спытаў Нікан.
— Вы павінны помніць пра патрэбы царквы, а не разважаць,— заззлаваў рэктар.— Мы не можам губляць ніводнай авечкі. На тое вы і пастухі. Не трэба быць слепакамі. Добрая палова з тых, што наведваюць царкву, моляцца прыкладна так: «Божа, калі ты ёсць, ратуй маю душу, калі яна ёсць». Дзеля перастраховкі. Во якія цяпер веруючыя! Дык не палохайце іх словамі Еклесіяста, а то заўтра ў царкве нікога не будзе.
«Божа, чаму ён вучыць!» — думаў Нікан.
Ён, як і ўсе семінарысты, вучыў багаслоўе, зубрыў тэксты святога пісання, вучыўся прапаведаваць, але і шмат думаў над той духоўнай стравай, якую засвойваў.
— Чаму ты да ўсяго хочаш дакапацца? — пытаўся ў яго Іерамія.
— Шукаю тое, што трэба для выратавання.

— У гэтых мудраваннях я не твой саюзнік,— адказваў Іерамія.— Адыдзі ад мяне, сатана!..

...Аднаго разу вячэрня закончылася позна. Дачакаўшыся, калі апошняя прыхаджанка пакінула царкву, Нікан зачыніў дзверы. Іерамія з Грыгорыем Тугейкам прыбралі з прылаўка крыжыкі, свечкі. Хацелі ісці.

— Брацця,— паклікаў раптам Іерамія,—тут хтосьці яшчэ моліцца.

— Няхай ідзе, скажы яму.

Да Іераміі падышоў Тугейка.

— Эй, баця! — паклікаў Грыгоры таго, што маліўся.— Дамоў час ісці.

Замест адказу пачулася магутнае храпенне. Хтосьці спаў, як у бога за пазухай. Тугейка прыгледзеўся лепей і пазнаў — Раман Буцік, той, што правяраў некалі, ці прыгодныя яны стаць папамі.

— Нікан,— паклікаў Грыгоры,— гэта ж Буцік. Што рабіць будзем? Тут побач і бутэлька ляжыць...

— Свіння,— злаваў Іерамія,— у храме пад цудатворным абразом Хрыста заснуў!

— Не крычы,— папрасіў Нікан,— пачуе...

— Няхай чуе,— не супімаўся Іерамія.— Ад яго гарэлкай за вярсту нясе. Божа, пакарай яго! Няхай памрэ тут! Няхай агонь спапяліць яго, божа!

— Па-а-а-шла во-он! — захрыпеў Буцік.

Ён прыўзняўся, засунуў пустую бутэльку ў кішэню.

— Дзе я?

— У царкве вы,— растлумачыў Грыгоры.

— І праўда, у царкве,— здзівіўся айцец Раман.— Хочаце, анекдот раскажу...

Ён хацеў зрабіць крок, але не ўтрымаўся, упаў. Іерамія не сцярпеў.

— Перастань зневажаць бога, п'яніца няшчасны! Я заўтра айцу рэктару скажу. Паглядзі, дзе ты разлёгся —пад цудатворным абразом.

— Цудатворны...— зарагатаў Буцік.— Ды гэта ж я яго цудатворным зрабіў. Эх ты, святы! Хочаш, я яму хвігу пакажу? Што, баішся? Я не баюся. Мы яго з Сакярдонам, калі былі маладыя, у цудатворны ператварылі. Ну, што?..

— Нікан! — закрычаў Іерамія.— Я яму зараз язык адкушу.

Ён пачаў закрываць Буціку рот далонню. Той вырываўся, лаяўся, потым выхапіў бутэльку і замахнуўся на Іерамію. Той паспеў адскочыць, і бутэлька ўрэзалася ў абраз. Зазвінела шкло, на зямлю са звонам пасыпаліся шкляныя пырскі.

Нікан з Грыгорыем выпхнулі Буціка з царквы і адправілі на таксі дадому. Нікан вярнуўся ў царкву.

У ёй, перад абразом Хрыста, стаяў на каленях Іерамія. Шчокі яго былі вільготныя ад слёз, калені парэзаны аскалёпкамі шкла.

— Іерамія,— паклікаў Нікан,— падыміся, у цябе паранены ногі...

Іерамія маліўся. Вусны яго ледзь варушыліся. Доўгі чорны цень матляўся па сцяне. Было ціха і жудасна.

Калі Нікан ачнуўся ад страху, Іераміі ўжо не было. Перад абразом, успыхнуўшы, патухла свечка. Цемра ахапіла царкву.

— Іерамія! — паклікаў Нікан.

— Іерамія...— перадражніла цемра.

Семінарская царква прыбрана, як ніколі. Дывановая дарожка пасцелена ад парога да алтара. Гараць свечкі і панікадзіла.



Вянчае сам айцец рэктар і чатыры свяшчэннікі з дыяканам. На клірасе — лепшыя харысты семінарыі.

Абрад абручэння адбываецца на цвінтары, і пад спяванне хору маладажоны ідуць на сярэдзіну царквы.

— Імашаме, Аляксандр, праізваленіе благасці непрынуждзёнае, і крэпкую мысль пояці сабе ў жоны сію Варвару, тою жэ здзе перада табою відзешы? — спытаў айцец Васілі.

— Імам, чэсны ойча,— адказаў Завараў.

«Якая хлусня,— падумаў Нікан.— Божа, чаму ты спакойна глядзіш з неба на гэты кірмаш?»

Вянчанне тым часам ішло сваім парадкам.

Нікан на вяселле не пайшоў. Назаўтра яго сустрэў Завараў.

— Ты чаму мяне пакрыўдзіў? — спытаў ён.

— Справы царкоўныя затрымалі,— схлусіў Нікан.

— Дарма не прыйшоў. Гарэлкі шмат было. Вось і айцец учора добра наклюкаўся,— сказаў ён, паказваючы на Дудакова.

Той пакрыўдзіўся.

— Нашто марна словы кідаеш?

— Скаціна,— вылаяўся Завараў, калі Дудакоў адышоўся.— Прадажная шкура. Ведаеш, хто ён такі? У вайну верхаводзіў маладзёжнай фашысцкай арганізацыяй на Беларусі. Не адну душу адправіў на той свет.

— Што ты! — зжахнуўся Нікан.

— Дзесяць гадоў судзімасці мае.

— І такіх тыпаў у семінарыі трымаюць? — абурыўся Нікан.

Завараў толькі ўсміхнуўся.

З кожным днём Нікан па-новаму глядзеў на рэлігію. Сумненні яго раслі і мацнелі. Ён шмат чытаў, задумваўся над кнігамі. Цяпер ён быў перакананы, што ў евангеллях усё пераблытана, напісана туманна і супярэчліва.

— Мы яшчэ дзікуны,— сказаў ён аднойчы Завараву.— Задавальняемся фантазіяй, у якой зямныя сілы набылі форму незямных. Вазьмі хоць бы рай. Гэта ж копія двара любога дэспата. Тут табе і военачальнік Міхаіл, і сатрапы розных чыноў.

— Эх, Нікан... Святы Грыгоры Багаслоў пісаў: «Трэба больш выдумак, каб рабіць ураженне на натоўп. Чым менш натоўп разумее, тым больш ён верыць».

Насталі велікодныя канікулы. Нікан адпрасіўся паехаць у манастыр. І тут сумненні не пакідалі яго. Ён ужо добра разумеў, што біблейскія міфы, славутыя запаведзі бога Маісею не больш, як адлюстраваныя ў форме паданняў канкрэтна-гістарычныя ўзаемаадносіны людзей у часе распаду першабытнага грамадства і ўзнікнення рабства.

Пра гэта ён і расказаў Іераміі.

— Гора табе. Лепш бы ты не нарадзіўся, Нікан! Пакайся, дарагі,— пачаў угаворваць яго Іерамія.

— У чым я павінен каяцца?

— У нявер'і тваім.

— Эх, Іерамія, хрысціянства і пачынаецца з пакаяння... Трэба заглянуць у душу, пабачыць там бруд і прызнаць сваю вінаватасць. Але я не бачу ў сваёй душы бруду.

— Д'ябал авалодаў табой,— закрычаў Іерамія.— На калені! На калені станавіся!

Твар Ієраміі палаў гневам. Вочы зрабіліся цёмныя, вялікія. Нікан скарыўся яго волі.

— Паклоны бі! Трыста паклонаў!..— крычаў Ірамія, і Нікан паслухмяна біў паклоны, маліўся.

Потым увесь тыдзень быў, як у забыцці. У яго пачаліся галюцынацыі. Ён раптам валіўся на падлогу, у галаве гуло. Усё стала для яго абыякавае.

Але, на шчасце, зноў пачаліся заняткі. Паплылі семінарскія будні. Аднаго дня Нікана выклікаў інспектар. У яго кабінеце сядзеў і айцец рэктар. Нікан стаў перад сталом. Айцец інспектар, нарэшце, падняў галаву.

— Якая прычына прымусіла цябе ўзяць гэтую літаратуру, што сее смуту? — запытаўся ён, паказваючы атэістычныя брашуры, якія нейкім чынам трапілі яму ў рукі.

«Напэўна, хтосьці данёс. І айцец інспектар зрабіў вобыск»,— падумаў Нікан.

— Я так мяркую,— пачаў ён,— калі вера ў бога моцная і заснавана на неабвержных доказах існавання вярхоўнага быцця, якое распараджаецца Сусветам і лёсам чалавецтва, дык тварэнне смертнага чалавека не можа пахіснуць яе.

— Та-ак,— зусім другім голасам загаварыў інспектар.— Марксізм з'яўляецца згубным. Мы яго адмаўляем, таму што ён супярэчыць царкоўнаму вучэнню. Не забывай, што адносіны царквы да камунізма змяніліся па форме, але не па сутнасці.

«Дык вось як...— падумаў Нікан.— А чаму ж вы нас вучылі на ўроках прапаведніцтва? Ах вы, хамелеоны!»

У калідоры Нікана чакаў Іерамія.

— Пра што з табой гаварыў інспектар? — спытаў ён.

— Угаворваў.

— Якім чынам?

Нікан раптам убачыў, што за апошні час Іерамія пастарэў, твар зрабіўся бледны і нейкі безжыццёвы, і толькі вочы гарэлі дзіўным агнём. Нікан пачаў расказваць пра размову з інспектарам і ўвесь час спадылба назіраў за Іераміем. Той нервова ўздрыгваў, сціскаючы кашчавымі пальцамі крыж.

— Давай зойдзем у храм,— сказаў Іерамія.

У царкве было ціха і пуста. Праз шторы цадзілася рэдзенькае святло хмарнага дня. Змрок і цішыня халодным страхам ахапілі Нікана.

— Слухай, што я табе скажу, Нікан,— хвалюючыся, пачаў Іерамія. І раптам працягнуў угору рукі, закрычаў: — Божа! Навошта ты дапускаеш у храм нячысцікаў і вераадступнікаў? Забі іх, божа! Пашлі кару сваю на галовы тых, хто дзеяннем сваім або ў думках сваіх здрадзіў табе!

У пустой царкве голас Іераміі гучаў урачыста і пагрозліва. А Нікан, як загіпнатызаваны, слухаў яго і баяўся паварушыцца. Толькі тады, як яны выйшлі на вуліцу, ён падумаў:

«Вось так было заўсёды. Калі ў папоў не хапала слоў, яны праклінаді, забівалі, спальвалі нязгодных з імі».

На Іерамію ён не крыўдаваў. Моцна трымала гэтага хлопца святая пастка.

Тым часам у семінарскай царкве тэрмінова рабілі рамонт. Мастакі-багамазы, падсобныя рабочыя ўправіліся хутка. Атрымаўшы грошы, багамазы пайшлі ў піўную, каб замачыць шчодрую халтуру. Двое рабочых пачалі разбіраць рыштоўку, але таксама не вытрымалі, пайшлі, папярэдзіўшы інспектара, айца Сергія, што на рыштаванне ступаць нельга.

— А пылу колькі засталося,— сказаў айцец Сергі, як толькі рабочыя выйшлі.— Ну, хто з вас праявіць рэўнасць па бозе?

Ніхто не рашаўся.

— Я гатовы,— сказаў Іерамія.

— Пахвальна, сын мой,— ухваліў яго намер айцец інспектар.

— Куды ты? — зжахнуўся Нікан.— Айцец Сергі, вы ж чулі, што сказалі рабочыя!..

— Нічога... З божай дапамогай,— адказаў той.

Іерамія як бы хацеў даказаць Нікану, што ён пад абаронай бога, і ўсё вышэй узбіраўся на рыштаванні. Вось ён далез да самага верху, стаў на пляцоўцы, пачаў выціраць пыл. Потым перахрысціўся і пацягнуўся губамі да абраза. Раптам нешта затрашчала, і пад купалам разнёсся дзікі лямант. Нікан заплюшчыў вочы, а калі расплюшчыў іх, дык убачыў на падлозе разбіты кіёт і побач з ім Іерамію.

— Доктара! — закрычаў ён.— Доктара!

Нікан падхапіў Іерамію на рукі. Той быў ужо мёртвы.

Пачуўшы шум, у царкву прыбег айцец Сергі. Ён перахрысціўся і раптам накінуўся на Нікана:

— Якога доктара! Ён памёр... Пакладзі яго. Зямное жыццё яму было цяжарам, і бог паклікаў яго да сябе.

— Забойца! — не стрымаўся Нікан.— Забойца! Няма цябе, божа...

Ён выбег з царквы.

Назаўтра Нікан з Грыгорыем Тугейкам стаялі перад рэктарам. У кабінеце панавала злавесная цішыня. Рэктар уздыхнуў, заплюшчыў вочы.

— Гэта вынік узбуджанасці,— нарэшце сказаў ён.

— Не, айцец рэктар,— запярэчыў Нікан.— Да гэтага пераканання мы ішлі доўга. Залішне доўга...

У кабінет зайшоў айцец Сергі.

— Чаго яны тут? — запытаўся ён.— Заняткі пачаліся ўжо...

— Ды вось падалі заявы. Пакідаюць семінарыю.

— На прыход пацягнула...— заўсміхаўся інспектар.

— Ды не. Яны не толькі пакідаюць семінарыю, але і адмаўляюць бога і царкву.

Ён працягнуў інспектару заявы. Той, чытаючы іх, закалаціўся ад злосці і раптам прашыпеў:

— Хрыстапрадаўцы!.. Іуды! Кары божай на вас няма...

— Завошта, айцец інспектар? За праўду? — абурыўся Нікан.— Пагрозы, праклянцце... А дзе ж хрысціянскае міласэрднае ўсёдараванне? На паперы толькі?

— Наша рашэнне цвёрдае,— увязаўся ў размову Грыгоры.— Мы яго гатовы аб'явіць усім семінарыстам.

— Ну, не,— заскрыгатаў зубамі інспектар.— Не бываць гэтаму. Выматвайцеся адсюль прэч...

На гэтым і закончылася семінарскае жыццё семінарыста Нікана. Пачалося новае жыццё Мікалая.

Пераклад з рускай мовы **Алеся АСІПЕНКІ.**

◆ ◆ ◆



Уладзімір СКАРЫНКІН

●

# КАВАЛЬ

Не хустачкай ён, а рукою
спацелыя
Шчокі і лоб выцірае.
А молатам грукне —
адразу па целе
Магутная сіла зайграе.
Багата зямля мая
рослых,
плячыстых
Асілкаў, як ён,
нарадзіла...
Маленькім салютам
з-пад молата іскры
Ляцяць,
салютуючы сіле.

●

Люблю душою пасталелай
Я завітаць на тыдні тры
У родны край, дзе локці смела
На стол кладуць гаспадары.



Дзе я заўсёды госць жаданы,
Дзе я араць вучыўся, жаць,
Дзе ўсё, што мне, як бінт ад раны,
Ад сэрца цяжка адарваць.

Як сейбіты,
з галін таполі
Насенне сеюць у цішы —
І вершы новыя паволі
Усходзяць у маёй душы.

Ідуць дзяўчаты з танцаў —
песня
Гучыць над вёскаю пра лён.
І мімаволі маё сэрца
Ім падпявае ва ўнісон.

●

Да сонца ў госці раніцою
Узлятаюць дружна самалёты.
Наш лайнер, бы вазок зімою,
Трасе на воблаках-сумётах.

Якая прыгажосць навокал!
Аднак я больш за ўсё люблю
Знайсці прагаліну ў аблоках
І ўбачыць мілую зямлю.

●

Хоць язык
прыкусіў ты свой —
Дзе ты служыш,
па сівізне,
Па маўклівасці шчырай тваёй
Здагадацца не цяжка мне.

Ты маўчыш...
А ў душы, напэўна,
Зноў тайга ліхаманіць гнеўна.
Па загадзе апошнім зноўку
Пакідаеш ты стартпляцоўку.

А «яна» ўжо тараніць неба,
Растапырыўшы плаўнікі.

І вылізваюць без патрэбы
Стартпляцоўку
агню языкі.

Гулка стукае сэрца ў скроні...
І хай гэта крыху не так,—
Ты зайздросціш,
што я пагоны
Палажыў да пары ў рукзак.

Хоць язык прыкусіў ты свой —
Дзе ты служыш,
па сівізне,
Па маўклівасці шчырай тваёй
Здагадацца не цяжка мне.

## ДЗЯДЗЬКА ВАСЯ

Айчым мой родны, дзядзька Вася!
Я забываць не маю праў,
Як ты «Тараса на Парнасе»
На памяць з радасцю чытаў.

Я помню дзень той, калі, хілы,
Кіёк сціскаючы рукой,
Стаяў над Коласа магілай
Ты з непакрытай галавой.

Эх! Дзядзька Вася, дзядзька Вася!
Я ганарыўся ў час няўдач,
Што ты, як быў, так і застаўся —
Мой верны крытык і чытач.

Прайшлі гады — ізноў паэтам
Нясу я вершы паказаць...
Даўно паверыў у мяне ты —
Пара другіх пераканаць.

Мікола АЎСЕЕНКА



# МАЯ ЗОРКА

Апавяданне

Мал. В. Шрамякова

Вясной, калі луг залівае паводка, мяне цягне чамусьці на гэты ўзлесак. Я прыходжу сюды адзін. Урачыста-маўклівыя, стаяць і мрояць аб нечым волаты-дубы. Пад нагамі паблеклае і зляжалае за зіму лісце. Пахне прэлым і талай вадою. Ціха і трошкі як быццам самотна. Задумены, я стаю на ўзлеску і доўга, доўга ўзіраюся на той бераг. Мне здаецца, быццам там дзесьці яна, і вось так, як я, выйшла і чакае...

Яна жыла за Бесяддзю. Кожную раніцу я чакаў яе каля рэчкі. Яна выходзіла з першымі промнямі сонца. Я спяшаў да яе на чоўне, а яна гэтак хораша ўсміхалася мне, і здавалася, быццам ад яе ўсмешкі святлела і прыгажэла навокал. Потым я вёз яе на чоўне па ціхай ранішняй рацэ. Сонца і рэдзенькі туман над вадой — усё было нібы ў якой казцы. Ужо на беразе, памагаючы ёй сысці з чоўна, я адважваўся і браў яе за руку. Я хваляваўся, а яна, насцярожаная, глядзела мне ў вочы, быццам чакала чаго.

Мы ішлі па росным лузе, а за намі цягнуліся адзін ля аднаго два сляды. Толькі і было ў нас размовы, што аб уроках. І спяшаліся, нібы кожны з нас спяшаў хутчэй схаваць у школьным тлуме трывожны неспакой душы.

Вера на год раней скончыла дзесяцігодку і паехала. Прыслала аднойчы мне пісьмо, а ў канцы — о, дзіва! — напісала: «Цалую». Я быў сам не свой ад шчасця. А потым пісьмы ад яе прыходзілі ўсё радзей, і ўжо не было ў канцы таго жаданага слова. Я і дагэтуль не ведаю, што азначала яно ў тым пісьме. Ці то была звычайная дзявочая гарэзнасць ці, можа, сапраўднае парыванне?..

Стрэліся мы зноў праз два гады. У суседнім мястэчку быў кірмаш. Я наважыўся праводзіць Веру дамоў. Вера ўзяла з сабой яшчэ і сяброўку. Убрад перайшлі абмялелую за лета рэчку, падняліся па вузкай сцяжынцы на крутое ўзлессе. Тут прыпыніліся. Вера ўсё азіралася на сяброўку, якая, пакінуўшы нас адных, пайшла, хаваючыся за стромкімі соснамі. Мне пачало здавацца, што Вера не хоча аставацца са мною. Развітваючыся, сказаў ёй:

— Я прыйду да цябе ў нядзелю.

— Як хочаш,— спакойна адказала яна.

Апошнія словы разанулі па сэрцы. Адразу быццам памаркотнела сонца. Зрабілася



трывожна і трошкі боязна: здавалася, я страчваў штосьці непамерна дарагое.

— Ну, я пайду,— нібы просячы прабачэння, сказала Вера.

І яна пайшла, статная, у квяцістай сукенцы, якая туга абцягвала постаць. Дзве русыя косы звесіліся ніжэй пояса. Я доўга глядзеў Веры ўслед, аж пакуль яна не знікла за павароткам лясной дарогі. І тады мне стала вельмі сумна. Хацелася паклікаць Веру, спыніць яе. Але, я ведаў, гэта дарэмна. Значыць, не я — другі хтосьці ў яе сэрцы. Я не заўважыў, як мая рука ўчапілася за бярозавую галінку і як я з сілай таргануў яе. На стройным белым ствале бярозкі бліснула свежая рана — я вырваў галінку. Мусіць, такая ж рана шчымела ў маім сэрцы...

Мінулі гады. Цяпер, калі здараецца праходзіць паўз тую бярозку, я міжволі азіраюся на яе ствол, шукаю на ім той знак і не знаходжу — рана даўно загаілася. Часам і мне пачынае здавацца, што ў маім сэрцы таксама загаілася даўняя рана. Толькі адкуль тады гэты ўспамін і гэтае трывожна-шчымлівае пачуццё?

Я, утрапёны, стаю перад шырокай плынню веснавой паводкі. Заходзіць сонца. Зіхатлівыя барвы на вадзе паступова блекнуць. Лес, які відаць па той бок вады, пачынае цямнець. Высока над лесам запальваецца і пачынае разгарацца ярчэй вячэрняя зорка. Яе неспакойнае, фасфарычна-зялёнае святло нешта нагадвае мне. Як хораша глядзець на аксамітную плынь веснавой паводкі, на знаёмы і таямніча-новы ў вячэрніх змроках лес на крутым узбярэжжы. Так і хочацца, каб на ўзлессе выйшла яна і каб была яна ўсё тая ж — з чыстым, прамяністым позіркам вачэй, з доўгімі русымі косамі, перакінутымі за плечы.

А зорка свеціць, таямніча мігціць. Быццам кудысьці зманьвае, кліча мяне. Мая зорка...

Міхась ГУБЕРНАТАРАЎ



●

# МАЛЕНСТВА

Навыперадкі з рэхам
Пад сонныя дубы
Ты бегла па арэхі,
Па росныя грыбы.

На гонкую сасонку
Узбіралася парой,
Здавалася, да сонца
Дацягнешся рукой.

Хіліўся шар барвовы
Над завадздю ракі.
Ты несла у лазовым
Кашы баравікі.

Ажно рыпеў натужна
Паўнюткі кош стары...
А потым ты, як
птушка,
Згубілася ў бары.

●

Я дамаўляўся з цішай,
Я дамаўляўся з ветрам,
Каб мне з табой сустрэчу
Наладзілі ўначы.

Я дамаўляюся з росамі,
Калючымі і золкімі,
Каб болей не палілі
Ні ног тваіх, ні рук...

Ды толькі не паслухаі..
Мяне вятры калючыя.
І неба раскалолі
Маланкі папалам.

А ногі твае ў лужынах
Стапталі жоўты месяц,
Калі асенняй ноччу
Ты бегла да мяне.

*Восемдзесят гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка Змітрака Бядулі*

# ПРА ЗМІТРАКА БЯДУЛЮ

З успамінаў

**1926 год.**

Мінск — сталіца маладой рэспублікі — ціхі, спакойны горад.

Замест трамвая марудна паўзе конка. Аўтамашын у горадзе не больш дзесяці. Рамізнікі ёсць, але іх мала. Рух на вуліцах у асноўным пешаходны, без мітусні і напружання. Ніхто нікуды не спяшаецца. Па цэнтральнай вуліцы — Савецкай, якую часта яшчэ называюць па-старому Захар'еўскай, смела можна ісці пасярэдзіне бруку. Ніхто не пераедзе, ніхто не падаб'е, ніхто не задавіць. І штрафу баяцца не трэба.

На Інтэрнацыянальнай вуліцы нават і пешаходаў нямнога. Тут у невялікім доме з прыватнымі кватэрамі, недалёка ад Камсамольскай вуліцы, знаходзяцца на другім паверсе разам Галоўліт і Галоўрэпертком. Сюды я быў накіраваны на працу пасля ваеннай службы. У нашым агульным пакоі сядзеў за сталом насупраць мяне Ілья Гурскі, які быў у той час інспектарам Галоўліта.



У адзін з пахмурных снежаньскіх дзён зайшоў у наш пакой чалавек сярэдняга росту, у зімовым паліто. Светла-карычневыя вочы з цяжкімі, нібы прыпухлымі павекамі, таўставатыя губы.

Чалавек здаў Гурскаму нейкі рукапіс, пасядзеў трохі, расказаў пра літаратурныя навіны. Звяртала на сябе ўвагу яго жывая, трапная і выразная беларуская мова. Гутарыў ён лёгка, перасыпаючы сваю гаворку жартамі, народнымі прымаўкамі.

Калі ён пайшоў, я запытаўся ў Гурскага:

— Хто гэта?

— Змітрок Бядуля,— сказаў Ілья.— Пісьменнік. Рэдактар часопіса «Наш край».

Бядуля?.. Мне ён уяўляўся чамусьці зусім не такім. Я ведаў Бядулю завочна як «старога» пісьменніка-нашаніўца. Маладыя літаратары паважалі яго за майстэрства і за чуласць. Да яго часта звярталіся за творчай парадай, і пісьменнік заўсёды падтрымліваў маладых, ахвотна ім памагаў. Імя Бядулі называлі тады адразу за імёнамі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Разам з імі Бядуля быў у нашых вачах жывым увасабленнем і дарэвалюцыйнай, і сучаснай беларускай літаратуры, адным з яе заснавальнікаў.

Бядуля часта заходзіў да нас. І кожны раз я гутарыў з ім на розныя тэмы, звычайна этнаграфічнага і краязнаўчага характару.

У той час я вывучаў гісторыю, быт і фальклор беларускіх татар, працаваў над расшыфроўкай знойдзенага мною «Кітаба» — татарскай рукапіснай кнігі XVII стагоддзя, напісанай на беларускай мове арабскімі літарамі.

Бядуля заўважыў на маім стале раскрыты «Кітаб» з пажаўцелымі ад часу старонкамі.

— Што гэта ў вас за фаліянт? — спытаўся ён.— Адкуль? На якой мове? Гэта ж вельмі старадаўняя папера!

Я расказаў яму ўсё, што ведаў пра татарскія рукапісныя кнігі. Бядуля зацікавіўся маёй працай. Ён папрасіў, каб я напісаў што-небудзь пра «Кітабы» ў краязнаўчы часопіс «Наш край». З гэтага часу на старонках «Нашага краю» пачалі з'яўляцца мае першыя навукова-даследчыя працы. У далейшым Бядуля браў мае працы для друкавання і ў новым, толькі што створаным часопісе «Узвышша».

Змітрок Бядуля мне здаваўся вельмі пажылым чалавекам, але ў сапраўднасці, як я цяпер разумею, ён быў яшчэ даволі маладым. Было яму ўсяго сорак год. Мы яго высока ставілі як пісьменніка. Асабліва падабаліся яго празаічныя творы — рэалістычныя, на здаровай народнай аснове, напісаныя з трапным адборам мастацкіх дэталей, без лішніх слоў, з яркім нацыянальным каларытам, з глыбокім пранікненнем у душу простага чалавека працы.

Бядуля не толькі любіў, ведаў і разумеў фальклор, але быў звязаны з ім арганічна. Беларускі фальклор быў невычэрпнай крыніцай творчага натхнення Бядулі. Усе яго паэтычныя сродкі і прыёмы ішлі ад фальклору. Гэта — найбольш істотная рыса Бядулі як пісьменніка. Сувязь літаратурнай творчасці Бядулі з фальклорам — цікавая і ўдзячная тэма для асобнага грунтоўнага даследавання, за якое ніхто пакуль што яшчэ не браўся.

Праз некаторы час Бядуля падарыў мне другую сваю кнігу апавяданняў «На зачараваных гонях», якая выйшла ў 1923 годзе. З вялікай цікавасцю і ўвагай прачытаў я і этнаграфічныя працы пісьменніка — «Яўрэі на Беларусі» (1918), «Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных казках і песнях» (1924), а таксама вершаваны яго твор «Зачараваны край» (1922), прысвечаны міфалогіі палешукоў. «Матэрыялам для палескіх баек служыў мне багаты фальклор Палесся, сабраны рознымі этнографамі,— пісаў пра гэты свой твор Бядуля.— Непраходныя лясы і балоты, няведанне законаў прыроды спрыяла таму, што палешукі пад панскім бізуном і пад націскам рэлігіі стварылі своеасаблівы свет, своеасаблівую філасофію змагання дабра і зла».

Давялося мне прачытаць і першы зборнік апавяданняў — імпрэсій Змітрака Бядулі «Абразкі», надрукаваны лацінскімі літарамі яшчэ ў 1913 годзе ў Пецярбургу. Прачытаў і здзівіўся.

«Нуда мая», «Захаваю нуду сваю», «Як памру», «Снілася мне казка...» Не спадабаліся мне матывы ўпадніцтва, песімізму і роспачы ў імпрэ-





Якуб Колас, Янка Купала, Пятрусь Броўка, Змітрок Бядуля.

сіях з такімі характэрнымі назвамі. Хіба маглі яны ісці ў параўнанне з жыццёвымі, рэалістычнымі апавяданнямі Бядулі «Бондар», «Малыя дрывасекі», «Сорам», «Летапісцы», «Умарыўся» і іншымі? У іх такое глыбокае разуменне псіхалогіі людзей з народа, такая дэмакратычная накіраванасць! Здавалася, пісаў іх не аўтар «Абразкоў», а нейкі другі чалавек.

Пазней я зразумеў, што для Бядулі рэалістычны напрамак быў больш блізкі, таксама як і тэма народнага жыцця — у мінулым і сучасным. Бядуля быў чалавек эмацыянальны, уражлівы і няўстойлівы, схільны да мімалётных захапленняў. Уплывала і асяроддзе, у якім ён знаходзіўся ў той ці іншы перыяд яго жыцця. Дэкадэнцкія ўплывы праяўляліся пераважна ў ранняй творчасці Бядулі, а любоў да фальклору заставалася нязменнай пры ўсіх абставінах. Фальклор заставаўся для яго рамантычнай і сузіральнай натуры той гаючай «жывой вадой», да якой Бядуля звяртаўся на працягу ўсяго жыцця, у якой ён заўсёды знаходзіў пасля часовых і выпадковых блуканняў новыя сілы, новае высокае і чыстае натхненне.

Чалавек настрою, Змітрок Бядуля амаль кожны дзень быў не такі, як учора. Сёння ён ахоплены энтузіязмам і прадбачыць вялікія перспектывы ў літаратурным жыцці, а заўтра скардзіцца на свой лёс і шкадуе, што стаў пісьменнікам. Ці не лепей было б працаваць у «Лесбеле», ці «Заготжывёле», як яго брат, ці ў «Плодавінсаюзе»? То гэта быў непахісны бальшавік, «чалавек у скуранай куртцы», як тады казалі, з рашучымі і катэгарычнымі выказваннямі, то інтэлігент народніцкага тыпу, то «ветхазаветны» яўрэй, агорнуты сусветным смуткам, які глядзіць на ўсё навакольнае, як на «марнасць марнасцей і ўсялякую марнасць». Ён нібы пераўвасабляўся ў таго ці іншага персанажа з твора, над якім у гэты час працаваў.

Многія такія «метамарфозы» здзіўлялі, але большасць адносілася да

іх жартаўліва, бо ведала, што пры ўсёй гэтай чыста знешняй і бадай што несур'ёзнай «зменлівасці» Бядуля заставаўся лагодным, рахманым і мяккім чалавекам лірычнага складу, таленавітым мастаком, блізкім да народа. Такая была яго чалавечая і пісьменніцкая сутнасць.

У апошнія гады перад вайной (1935—1941) мне часта даводзілася сустракацца з Бядулем у Пухавічах, дзе пісьменнік жыў з сям'ёй у Доме творчасці кожнае лета. У гутарках на розныя тэмы Змітрок Бядуля праяўляў сябе як добры знаўца беларускага фальклору і народнага побыту. Ён ведаў сусветную і асабліва рускую класічную літаратуру. З нямецкай класікі любіў творы Генрыха Гейнэ. Ведаў Бядуля і рэлігійную літаратуру — яўрэйскую і каталіцкую. Афарызмамі з твораў гэтай літаратуры ён карыстаўся іншы раз у гутарцы, звычайна ў гумарыстычна-парадыйным плане.

Бядуля любіў прыроду Беларусі. Прыгажосць пейзажу, паэтычнасць і веліч з'яў прыроды выклікалі ў Бядулі асацыяцыі і параўнанні біблейскага характару. Можа ў гэтым праяўляліся ўражанні, успрынятыя ў маленстве і юнацтве, калі ён вучыўся ў хедары — яўрэйскай пачатковай рэлігійнай школе, а потым у ешыбоце — яўрэйскай духоўнай семінарыі, з якой уцёк на трэцім годзе навучання.

Трэба сказаць, што Бядуля не меў сістэматычнай адукацыі. Акрамя хедара і ешыбота, ён нідзе і ніколі не вучыўся. Усе свае веды пісьменнік набыў з кніг, у выніку настойлівай самаадукацыі. Рускай мовай і пісьмом Бядуля авалодаў толькі, калі яму было семнаццаць гадоў. Авалодаўшы рускай мовай, ён пачаў вывучаць самастойна свецкія навукі. Беларускую мову Бядуля ведаў дасканала, з усімі яе адценнямі. «У гэтай мове, знаёмай мне з маленства, можна сказаць, маёй роднай мове, я адчуў сваю стыхію»,— успамінаў ён потым.

Вялікае значэнне ў жыцці і фарміраванні кожнага пісьменніка мае прырода той мясцовасці, дзе ён нарадзіўся і вырас, тыя людзі, якія акружалі яго з маленства, і тая мова, на якой яны гаварылі. Бядуля нарадзіўся і вырас, як вядома, у Пасадцы, глухім і маленькім мястэчку сярод дрымучых лясоў, за 50 вёрст ад чыгункі. Мне давялося ў 1922 годзе быць у Жукаўцы, недалёка ад Пасадца. Мясцовасць там вельмі прыгожая і паэтычная — маляўнічыя ўзгоркі, пакрытыя лесам. Паводле сведчання самога пісьменніка, у Пасадцы жыло ўсяго 18—20 яўрэйскіх і беларускіх сем'яў. Амаль усе займаліся земляробствам. Стары меднік, дзед Бядулі, быў у мястэчку адзіным рамеснікам. Бацька пісьменніка працаваў возчыкам лесу, нейкі час ездзіў па вёсках і прадаваў дробны тавар, потым быў лесніком і дробным лесапрамыслоўцам.

Бядуля часта ўспамінаў пра сваё жыццё ў Пасадцы, у Іўі і ў Даўгінаве. Звычайна гэта былі гумарыстычныя эпізоды, зрэдку афарбаваныя журботнай лірыкай. Расказваў ён, як «еў дні» ў местачковых гаспадароўдабрадзеяў, калі вучыўся ў ешыбоце. Кожны з сямі гаспадароў карміў яго па чарзе адным абедам у тыдзень. «Панядзелак», «Аўторак» — так называў юнак у сваіх думках кожнага з гаспадароў, у якога ў той дзень абедаў.

Многія з эпізодаў свайго маленства, пра якія Бядуля расказваў нам у бярозавым гаі, каля старога памешчыцкага дома на беразе рэчкі Цітаўкі, увайшлі, як асобныя раздзелы-навелы ў аўтабіяграфічную аповесць «У дрымучых лясах» (1939).

Расказваў Бядуля і пра тое, як ён працаваў зімою на лесараспрацоўках, а ўлетку на руме, на сплаве лесу; расказваў пра жыццё возчыкаў, лесарубаў, плытагонаў, сярод якіх прайшло яго юнацтва.

Цікавымі былі ўспаміны Бядулі пра Максіма Багдановіча, калі той працаваў у Мінску і жыў разам з Бядулем у доме, дзе калісьці адбыўся Першы з'езд РСДРП. У гэтым жа доме, на другой яго палове, жыў у той час Янка Купала. Мы прасілі Бядулю, каб ён напісаў што-небудзь пра Багдановіча, і ў выніку гэтага з'явіліся ў газеце «Літаратура і мастацтва» ўспаміны Бядулі аб таленавітым беларускім паэце, які памёр так рана.

Як і яго бацька, Бядуля любіў часам іграць на скрыпцы, імправізуючы мелодыі, звычайна мінорныя. За скрыпку ён браўся часцей за ўсё раніцай, перш чым сесці за пісьмовы стол. Уставаў ён рана і працаваў да другой паловы дня.

З трывогай сачыў Бядуля за развіццём злавесных падзей у Нямеччыне, дзе гітлераўскія фашысты, якія прыйшлі да ўлады, рыхтавалі разбойніцкі захоп суседніх краін. Міжнароднае становішча з кожным днём пагаршалася, рабілася ўсё больш напружаным.

У чэрвені 1941 года пісьменнік знаходзіўся ў творчай камандзіроўцы ў Хойніцкім раёне Гомельскай вобласці. Там яго і застала вайна. У першыя дні вайны згарэлі ў Мінску кватэра і бібліятэка пісьменніка, многія яго неапублікаваныя рукапісы, у тым ліку і незакончаная аповесць пра вайну ў Іспаніі. Сам ён ледзь выбраўся з Хойнікаў і апынуўся далёка на ўсходзе.

Вайну ён успрыняў як вялікае няшчасце і адначасова як гераічную барацьбу за канчатковае знішчэнне фашызму ва ўсім свеце. Сэрца яго было поўна пякучага болю за родны край, акупіраваны гітлераўскімі захопнікамі.

Сям'ю Бядуля знайшоў у Новых Бурасах Саратаўскай вобласці. Там ён працаваў месяцы два ў планавым аддзеле райвыканкома. З надыходам восені Бядуля разам з сем'ямі беларускіх пісьменнікаў паехаў у Алма-Ату.

Пра гэтае падарожжа, якое стала для Змітрака Бядулі апошнім, расказвалі пасля жонка пісьменніка Марыя Ісакаўна Плаўнік і людзі, што ехалі ў тым жа вагоне.

Цягнік спыніўся недалёка ад горада Уральска. Тут не было ні станцыі, ні раз'езду. Вакол, куды ні глянь, адзін толькі шырокі, бязмежны стэп.

Бядуля выйшаў з вагона. Калі адышоў трохі ў бок, яму здалося, што цягнік раптам крануўся з месца. Змітрок кінуўся даганяць свой вагон. І тут выявілася, што адышоў другі цягнік, а яго стаіць на месцы. Падняцца ў вагон было нялёгка — вагон быў таварны.

Цяжка дыхаючы, Бядуля схапіўся за нары ў вагоне. Кучаравая галава знясілена схілілася.

— Маша, дай мне апошнюю папяросу,— звярнуўся ён да жонкі, бо ведаў, што ў пачку засталася толькі адна папяроса.

Папяросе гэтай суджана было стаць сапраўды апошняй у яго жыцці. Зацягнуўшыся, ён раптам упаў на падлогу. Хворае сэрца не вытрымала.

Гэта было 3 лістапада 1941 года. Цягнік пайшоў далей, да Уральска.

Усё сваё жыццё пражыў Змітрок Бядуля на роднай зямлі, з якой былі звязаны яго думкі, яго мары і летуценні. Нікуды не ездзіў ён далёка ад Беларусі, а смерць давялося яму спаткаць сярод казахскага стэпу, і месцам яго пахавання стаў высокі бераг ракі Урала.

**Віталь ВОЛЬСКІ.**

# ЧЫТАЙЦЕ ЛЕНІНА



**Старое грамадства было заснавана на такім прынцыпе, што альбо ты грабіш другога, альбо другі грабіць цябе, *альбо ты працуеш на другога, альбо ён на цябе,* альбо ты рабаўладальнік, альбо ты раб. І зразумела, што выхаваныя ў гэтым грамадстве людзі, можна сказаць, з малаком маці ўспрымаюць псіхалогію, прывычку, паняцце — альбо рабаўладальнік, альбо раб, альбо дробны ўласнік, дробны служачы, дробны чыноўнік, інтэлігент,— адным словам, чалавек, які клапоціцца толькі аб тым, каб мець сваё, а да іншага яму справы няма.**

**Калі я гаспадарнічаю на гэтым участку зямлі, мне справы няма да іншага; калі іншы будзе галадаць, тым лепш, я даражэй прадам свой хлеб. Калі я маю сваё месцейка, як урач, як інжынер, настаўнік, служачы, мне справы няма да іншага. Магчыма, патураючы, дагаджаючы ўладу маючым, я захаваю сваё месцейка, ды яшчэ змагу і прабіцца, выйсці ў буржуа. Такой псіхалогіі і такога настрою ў камуніста быць не можа. Калі рабочыя і сяляне даказалі, што мы ўмеем сваёй сілай адстаяць сябе і стварыць новае грамадства, вось тут і пачалося новае камуністычнае выхаванне, выхаванне ў барацьбе супраць эксплуататараў, выхаванне ў саюзе з пралетарыятам супраць эгаістаў і дробных уласнікаў, супраць той псіхалогіі і тых прывычак, якія гавораць: я дабіваюся свайго прыбытку, а да астатняга мне няма ніякай справы.**

З прамовы на III Усерасійскім з'ездзе Расійскага Камуністычнага Саюза Моладзі 2 кастрычніка 1920 года.



# ХВАЛЮЮЧАЕ, НЕЗАБЫЎНАЕ

Была вясна 1919 года.

Супраць маладой Савецкай краіны ўзмацнілася інтэрвенцыя. Партыя праводзіла мабілізацыю на Усходні фронт, на барацьбу з Калчаком.

Усе дваццаць пяць камсамольцаў нашай Клімавіцкай камсамольскай арганізацыі запісаліся добраахвотнікамі ў Чырвоную Армію. Але, вядома, не ўсе трапілі на фронт. Тыя, што засталіся на месцы, таксама былі на самых цяжкіх, небяспечных участках.

Яшчэ ішла грамадзянская вайна, калі ў кастрычніку 1920 года сабраўся ў Маскве III з'езд РКСМ. З франтоў, з Паволжа, Урала, з Сібіры, Украіны, Беларусі — з усіх куткоў Савецкай краіны дабіраліся, як хто мог, дэлегаты на свой камсамольскі з'езд.

Я крыху прыпазнілася і ўбегла ў залу, калі яна грымела бясконцай авацыяй. З усіх канцоў скандзіравалі: «Ленін! Ленін! Ленін!» Сядзелі на падаконніках, стаялі ў праходах, уздоўж сцен. І на сцэне было так многа людзей, што не разбярэш, дзе зала, дзе — прэзідыум. У сярэдзіне залы стаяў і ўсміхаўся Ленін. Толькі праз некалькі хвілін дайшло да свядомасці, што гэта быў ён — правадыр партыі, правадыр рэвалюцыі, кіраўнік Савецкай дзяржавы.

Перад намі быў жывы Ленін. Адну руку ён узняў угару, у другой трымаў гадзіннік і з дакорам звяртаў на яго ўвагу залы.

Уладзімір Ільіч загаварыў вельмі спакойна, нібы ён даўно ўжо гутарыў са з'ездам, і ў гэтай задушэўнай гутарцы кожны адчуў бацькоўскую прастату і ласку. Ленін звяртаўся да ўсіх дэлегатаў, да ўсёй камсамоліі, але кожны з нас адчуваў, нібы Ленін размаўляў іменна з ім. Колькі ў ім было абаяльнасці, чалавечнасці,



**У. І. Ленін і К. Я. Варашылаў у групе дэлегатаў X з'езду РКП(б) — удзельнікаў падаўлення Кранштацкага мецяжу. Масква, сакавік 1921 года.**

колькі любві да моладзі, якую ён аб'явіў будаўніком новага, камуністычнага грамадства! І як папрароцку Ленін прадказаў, што моладзь таго, першага пакалення стане ўжо будаўніком гэтага светлага грамадства!

Мы, камсамольцы, якія са зброяй у руках абаранялі сацыялістычную дзяржаву, цвёрда верылі ў блізкую перамогу сацыялізма і камунізма.

«... Якія асноўныя задачы Саюза камуністычнай моладзі і ў сувязі з гэтым — якія павінны быць арганізацыі моладзі ў сацыялістычнай рэспубліцы наогул,— пытаў Ленін і адказваў: — І вось, падыходзячы з гэтага пункту гледжання да пытання аб задачах моладзі, я павінен сказаць, што гэтыя задачы моладзі наогул і саюзаў камуністычнай моладзі і ўсякіх іншых арганізацый у прыватнасці можна было б выразіць ад-

ным словам: задача заключаецца ў тым, каб вучыцца».

Паўмільённая армія камсамольцаў успрыняла гэтыя словы як галоўную задачу камсамола.

Прамова Леніна пранікла ў сэрца кожнага камсамольца. У нас нібы крылы выраслі.

Прайшоў яшчэ год. Скончылася грамадзянская вайна. Увосень 1921 года клімавіцкія камсамольцы, выконваючы запавет Леніна, выпраўлялі сваіх пасланцоў у Маскву, на вучобу. Я па пуцёўцы камсамола трапіла ў Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт. Вучылася і выконвала розныя даручэнні ў райкоме камсамола. І там я атрымлівала пропускі ў тэатры, на лекцыі ў Політэхнічны музей, у Крэмль. Разам з райкомаўцамі я неяк атрымала білет на даклад Уладзіміра Ільіча Леніна на IX Усерасійскі з'езд Саветаў, які адбыўся ў снежні 1921 года ў будынку Вялікага тэатра.

Мы прыйшлі першыя — баяліся, каб не спазніцца. У тэатры было холадна і цемнавата. Глядзельная зала хутка запаўнялася. Седзячы ў першай ложы злева, я неяк загаварылася. Раптам тэатр здрыгануўся ад грому воплескаў. На сцэну выйшаў увесь склад Савецкага ўрада, кіраўнікі партыі і многія праслаўленыя камандзіры Чырвонай Арміі, якія толькі што з перамогай вярнуліся з франтоў грамадзянскай вайны. Між усіх быў і Уладзімір Ільіч. Усе стоячы віталі яго, з усіх бакоў чуліся воклічы: «Няхай жыве Ленін! Ура Леніну!»

Міхаіл Іванавіч Калінін прадаставіў слова Уладзіміру Ільічу.

Ленін быў так блізка ад ложы, дзе мы сядзелі, што я нават спалохалася. Ён здаўся мне невысокім, быў такі просты, родны і чалавечны.

Ленін падышоў да кафедры, але не ўзышоў на яе, а спыніўся побач, паклаў свае запісы і пачаў гаварыць. Прыемны голас, простая і зразумелая мова кранала і хвалявалі да слёз.

У часе выступлення ён расхаджваў па сцэне, часта падыходзіў да рампы і, нахіліўшыся крыху наперад, кідаў у залу смелыя заклікі.

На кафедры не было тады ўзмацняльніка, не было нават шклянкі з вадой. Тым не менш, на працягу двух гадзін голас Леніна гучаў чотка і ясна, і кожны, хто сядзеў у зале, зліваўся з дакладчыкам у адзіным парыве думкі.

Потым я чула многіх, прычым вельмі добрых, дакладчыкаў і прамоўцаў, але Леніна ні з кім нельга параўнаць. Кожнае слова Леніна гучала неяк асабліва, і кожнаму слову верылі.

Вось ён паклаў на кафедру запіску, узяў другую і перайшоў да характарыстыкі ўнутранага становішча, да пытання аб нашай эканамічнай палітыцы.

Ён падышоў да кафедры злева і стаў проста насупраць ложы. Здавалася, ён гаворыць толькі з намі. Вочы блішчалі, ён часта ўсміхаўся, перасцерагаючы аўдыторыю ад боязні прызнання сваіх памылак, паражэнняў і недахопаў.

Ленін падрабязна развіваў думку аб эканамічным саюзе рабочага класа і сялянства, як аснове нашай палітыкі, гаварыў аб неабходнасці развіцця металургіі, аб поспехах электрыфікацыі.

— Але ёсць яшчэ адзін бок новай эканамічнай палітыкі, — сказаў Ленін, — вучыцца. Вучыцца гандляваць, вучыцца гаспадарнічаць, вучыцца будаваць сацыялізм і камунізм.

Шмат гадоў прайшло з тае пары, а прамову Леніна на IX з'ездзе Саветаў я нібы чую і сёння, як пераклічку пакаленняў.

На працягу некалькіх дзён камсамольцы ездзілі па фабрыках і заводах, расказвалі аб прамове Уладзіміра Ільіча на IX з'ездзе Саветаў.

Студэнты МДУ выступалі і ў Крамлі, сярод курсантаў Крамлёўскага ваеннага гарнізона. Мы мелі над імі шэфства.

Аднойчы, гэта было ў студзені ці лютым 1922 года, курсанты запрасілі сваіх шэфаў з МДУ катацца на лыжах з горкі. А дзесятай гадзіне мы былі ў зборы. Цудоўнае сонечнае надвор'е. У Крамлі ў гэтую ранішнюю пару было мала людзей і стаяла незвычайная цішыня.

Дзяўчаты не ўмелі катацца на лыжах і часта падалі, выклікаючы смех курсантаў. Каталіся ў дзве чаргі, бо на ўсіх не хапала лыж. Расчырванелыя, стомленыя, але вясёлыя, мы стаялі на горцы, чакаючы сваёй чаргі, і раптам убачылі Уладзіміра Ільіча і Надзежду Канстанцінаўну. Яны ішлі да нас.

— Выйшлі з Надзеждай Канстанцінаўнай пагуляць і рашылі паглядзець, чым вы тут займаецеся, — сказаў Уладзімір Ільіч, быццам ён нас даўно ведаў.

Курсанты казырнулі.

Уладзімір Ільіч спытаў, хто мы. Перабіваючы адна адну, мы расказвалі пра сябе. Ленін вельмі цікавіўся нашай вучобай, распытваў, хто ў нас чытае лекцыі, што мы вывучаем, якая ў нас будзе спецыяльнасць.

Запомніўся яго твар. Ён быў у дробных-дробных зморшчынках, твар чалавека, які шмат перажыў. Леніну тады было ўсяго пяцьдзесят два гады. Апрануты ён быў вельмі проста: цёмнае зімовае паліто з чорным каракулевым каўняром, на галаве такая ж шапка.

Уладзімір Ільіч і Надзежда Канстанцінаўна прыняліся нас экзаменаваць і дружна смяяліся з нашых прымітыўных ведаў. Ленін цікавіўся, чым жывуць студэнты, які настрой, якія дыскусіі ў нас бываюць, па якіх пытаннях. Толькі потым я зразумела сэнс ягоных роспытаў. Вучылі ж нас вельмі дрэнна, спецыяльнасці не давалі ніякай, чыталі нам абы-што і абы-як. Але ж мы тады не разумелі і не ведалі пра гэта. Клопат і трывога была ў роспытах Леніна.

Раптам Ленін спытаў, чаму мы, дзяўчаты, так лёгка апранутыя. Мы былі ў скураных куртках, кепках і чаравіках без галош. Скураная куртка была запаветнай марай кожнай камсамолкі, але хіба ж пра гэта раскажаш Леніну і Крупскай — засмяюць!

Вакол Уладзіміра Ільіча і Надзежды Канстанцінаўны ўтварыўся даволі вялікі круг, бо і многія курсанты далучыліся да нашай гутаркі.

Ленін быў у добрым настроі, жартаваў і смяяўся. Курсанты прапанавалі Уладзіміру Ільічу пакатацца з горкі на лыжах, але ён жартам адказаў, што ў другі раз. Потым Уладзімір Ільіч і

**Першыя клімавіцкія камсамольцы. Сакратар павятовага камітэта камсамола Валодзя Ратнер** (стаіць у трэцім радзе трэці справа). **Аўтар гэтых успамінаў Аня Ліпкіна** (у чацвёртым радзе чацвёртая злева).





У. І. Ленін на адпачынку ў Горках. Жнівень—верасень 1922 года.

гаркоме КСМ амаль заўсёды ведалі і пасылалі туды сваіх актывістаў. Ніякага пропуску не патрабавалі.

Раскажу пра выступленне Леніна на XI з'ездзе партыі.

З'езд адкрыўся днём 27 сакавіка 1922 года ў Вялікім тэатры. Тэатр быў перапоўнены. У партэры сядзелі дэлегаты з рашаючым і дарадчым голасам, ложы ўсіх чатырох ярусаў і галёркі былі запоўнены гасцямі.

Нас, траіх сябровак-камсамолак, на з'езд правяла Роза Рошчына, якая працавала ў ЦК партыі. Мы прайшлі ў аркестр, дзе размясціўся сакратарыят з'езду, і сталі памагаць—прынеслі сталы і крэслы, перадавалі з партэра ў прэзідыум запіскі, налівалі графіны вадой.

З'езд адкрыў Уладзімір Ільіч.

Усе дэлегаты, госці і прэзідыум горача і дружна віталі Уладзіміра Ільіча. У гэты момант кожны быў прасякнуты пачуццём незвычайным, якое цяжка перадаць. І любоў, і гордасць, і шчасце, што ты—сведка такой гістарычнай падзеі! Нікому і ў галаву не прыходзіла, што Ленін апошні раз выступае на з'ездзе. Затым, пасля вырашэння арганізацыйных пытанняў, слова для справаздачнага даклада было прадастаўлена Уладзіміру Ільічу.

Леніна яшчэ раз горача віталі. Абаянне ўсяго вобліку Леніна, уменне зліцца з аўдыторыяй, вастрыня і вобразнасць прамовы—усё гэта давала магчымасць слухаць яго бясконца.

Раскажу яшчэ пра апошняе выступленне Леніна 20 лістапада 1922 года ў Вялікім тэатры на пленуме маскоўскага Савета і маскоўскага камітэта партыі. Без перабольшання можна сказаць, што палова прысутных у партэры і ложах тэатра была камсамольцы.

Усе ведалі, што Ленін цяжка захварэў, але неўзабаве стаў папраўляцца. Некалькі разоў адкладвалася пасяджэнне Пленума Массавета—усе чакалі, што паправіцца Ільіч. Нарэшце, гэты дзень настаў.

Уладзіміра Ільіча сустрэлі бурай апладысментаў, усе ўсталі і спявалі «Інтэрнацыянал». Прысутныя не маглі супакоіцца—так усе былі рады, што Ленін, родны і любімы, зноў выступае перад намі, што ён паздаравеў. Ленін быў таксама ўсхваляваны, як нам здалося, расчуліўся цеплынёю і любоўю да яго ўсіх.

Азіраючыся назад, я разумею, што Ленін выступаў праз сілу, не шкадуючы сябе. І ўсё ж ніхто і ў думцы не дапускаў, што хутка яго не стане...

Я сядзела вельмі блізка, у партэры, і бачыла кожную рысачку дарагога твару. Ленін вельмі змяніўся, гаварыў, не як заўсёды, і ўсё прасіў прабачэння, што праз яго хваробу некалькі разоў адкладваўся пленум. Быццам ён вінаваты, што захварэў...

Ленін гаварыў не больш 40 хвілін, прамова яго некалькі разоў перапынялася бурнымі воплескамі. А ў канцы прамовы, калі Ленін, падводзячы вынікі нэпа, сказаў, што «з Расіі нэпаўскай будзе Расія сацыялістычная», яму наладзілі бурную авацыю.

Ленін не любіў, калі яму доўга апладзіравалі, не любіў парадnasці і шуміхі.

Нас ніколі не пакідала жаданне ўсё глыбей і глыбей вывучаць працы Уладзіміра Ільіча і прапагандаваць яго вучэнне. Быць такім, як Ленін,—запаветная мара кожнага камуніста.

Ад усёй душы жадаю сённяшняй камсамоліі несці наперад і наперад эстафету будаўнікоў камунізма, быць стойкімі і перакананымі ленінцамі.

**Ганна ЛІПКІНА,**
**член КПСС з 1920 года.**

Надзежда Канстанцінаўна пажадалі ўсім нам шчаслівага жыцця і поспехаў у вучобе і працы.

— Старанна вучыцеся, добра працуйце,—сказаў Уладзімір Ільіч,—гэта галоўнае, і вы пабудуеце новае, камуністычнае грамадства... Вось тады вы свае скураныя курткі зменіце на цёплыя паліто і не будзеце зімой гуляць у чаравіках без галош. Расія—багацейшая ў свеце краіна і ўсё мае для таго, каб пабудаваць самае передавое і багатае ў свеце грамадства.

Убачыць Леніна, паслухаць яго даклад—было гарачым жаданнем кожнага камсамольца. Ленін выступаў даволі часта, і не цяжка было трапіць на яго выступленне. Трэба было толькі ведаць, дзе і калі Ленін выступае, а пра гэта ў



# СЫН КАМІСАРА

Лёня Бандаравец ішоў, не спяшаючыся, апусціўшы вочы, нібы што чытаў на зямлі.

— Гэй, чалавек!—выскаліўшы белыя зубы, крыкнуў з кабіны шафёр.— На той свет захацеў!..

Лёня даў машыне праехаць і падаўся да пляцоўкі, дзе завіхаліся мантажнікі.

— Мне брыгадзіра....—звярнуўся ён да чалавека ў іржавым брызентавым камбінезоне.

Той паказаў рукавіцай на бытоўку, а сам зноў уключыў сваю «шыкалку», і ярка-зялёны струменьчык агню пабег па жалезнай пліце. Лёня якую хвіліну пастаяў, пазіраючы на крутую спіну, якая так і выпірала з-пад адзежы: здаецца, каб не шырокі брызентавы пояс з абшморганым ланцугом, што перахапіў чалавека пасярэдзіне, трэснуў бы камбінезон.

Ужо адыходзячы, Лёня зірнуў уга-



Мантажнік Леанід Бандаравец.

ру і залюбаваўся: людзі, што былі там, на вышыні, з зямлі здаваліся вялікімі чорнымі жукамі. Яны абляпілі металічныя каркасы і смаляць іх агнём: аж тут, унізе, чуваць, як шыпіць жалеза, не жадаючы паддавацца чалавеку.

У памяці міжволі ўсплылі сцежажы, а на іх — вялізныя пухлыя папкі, перавязаныя шпагатам. Даўнасць пакінула на іх свае сляды: прыцерушыла пылам, пажаўціла некалі белыя лісты. Сюды, у пакойчык, дзе знаходзіўся раённы архіў, рэдка хто заглядваў. Хіба калі які дзядзька папросіць пашукаць даведку для пенсіі. Пакапаешся тады, наглытаешся пылу, пакуль знойдзеш, і зноў сам-насам застаешся. Адна назва — архіўнік... Не вытрымаў доўга Лёня, здаў папкі пенсіянеру ў акулярах, а сам сюды, на прастор, дзе вецер ды сонца.

Лёня ўздыхнуў, адагнаў тыя ўспаміны і патопаў у кірунку бытоўкі.

Скрыпнулі дашчатыя дзверы. Прыгнуўшы галаву, цераз парог ступіў волат. Лёню ўразіў яго лагодны дзіцячы твар і ласкавыя, як у маладой жанчыны, вочы.

— Мне брыгадзіра...— сказаў Лёня не надта каб смела.

Уладзіміру Аляксандравічу Ісаеню Лёня не спадабаўся — нізкаросльі, пераступае з нагі на нагу. Камечыць у руках накіраванне. «Нясмелы. Наплачашся з такім...»

— Залезеш на вышыню, а вецер падзьме, і ты на долс. Адказвай тады за цябе...

Убачыўшы, як набягаюць слязамі вочы хлопца, Ісаеня памякчэў, палажыў далонь на яго плячо:

— Добра, паказвай сваю цыдулку...

Чытаў, і твар яго ўвачавідкі мяняўся. Сыходзіла хмурасць, а з ёю і строгасць. Кранула вусны ўсмешка.

— Дык гэта твой бацька Мікіта Бандаравец?

— Мой. А што?

— Ды так, нічога...

Падышлі да капра. Ісаеня зірнуў угору, склаў далоні рупарам:

— Антон! Кацiся далоў!

Яркі сноп іскраў патух. Камлюкаваты Антон Герасімовіч з нечаканай спрытнасцю пачаў скочвацца ўніз.

— Прымай папаўненне!..— і паказаў на Лёню.

Лёня пачаў з «азбукі». Падыме, паднясе... Жалязяка глуха бразне аб зямлю, бы застогне, а яму здаецца, што гэта ўпала яго надзея забрацца на вышыню. Праз два месяцы ён ужо самастойна выконваў адказныя заданні. Сабралася камісія, прысвоіла яму другі разрад.

Гарачыя дні былі ў мантажнікаў. Ставілі чарговы капёр. Пакуль усцягнеш на вышыню дэталі, прыладзіш ды зварыш іх — часу процьма прападае... А тут начальства з усіх бакоў насядае, падганяе. Апошнія дні не ў настроі быў Ісаеня-брыгадзір. Занадта ўжо дапякалі яго. «Сам бачу, хлопцы. Усё маракуем, а толку мала...»

— Уладзімір Аляксандравіч,— Лёня стаў перад Ісаенем,— а што, калі паспрабаваць?..

— На зямлі капёр зманціраваць, — падхапіў яго думку брыгадзір,— а потым паставіць «на ногі».

— Ідэя!— сказалі мантажнікі.

— А як падняць?

— Дакумекаем...

Другі капёр збіралі па вузлах. Тут жа, на зямлі, зварвалі, а дзе і балтамі скручвалі дэталі. Шасцідзесяцітрохметровае цела сталёвага волата набывала дзень за днём пэўную форму.

Цяпер Лёня не адставаў ад сваіх былых настаўнікаў, «Выцягне», скажам, зваршчык Антон Герасімовіч паўтары зменныя нормы, столькі ж зробіць і Лёня Бандаравец.

Але, як сказаў мантажнікам Ісаеня, ягадкі былі яшчэ наперадзе. Чарговы капёр — аграмадзіна на дзвесце тон. Вырашылі ставіць яго «на ногі» з дапамогай высачэзных мачтаў і магутных лябёдак. Разлічылі ўсё да драбніц. Праверылі разлікі раз, другі, трэці.

За пультамі кіравання магутных лябёдак застылі ў чаканні каманды ўдзельнікі пад'ёму. Яны ведалі, што трымаюць экзамен не толькі перад салігорцамі, а перад рэспублікай, бо ўпершыню падымаць будуць капёр, зманціраваны на зямлі.

У паветры застыла рука Язэпа Язэпавіча Сцефановіча. Усе пазіралі толькі на яе. Узмах. Напяліся, як жылы, таўшчэзныя тросы, скалыхнулі, страсянулі магутнае цела капра. Ён здрыгануўся і пачаў паволі, ледзь прыкметна, уставаць з зямлі. Здавалася, што ўставаў казачны волат.

Тры гадзіны цягнуўся пад'ём. Тры гадзіны напружання нерваў і тросаў. Нарэшце капёр трывала і дакладна стаў на падмурак. Бетонныя апоры прынялі на свае плечы цела капра, каб ён стаяў вечна і служыў людзям.

Цяпер патрэбна было прыладзіць чырвоны сцяжок на самым версе. Ісаеня абвёў позіркам сваіх хлопцаў. «Любому дай — занясе і паставіць...»

— Трымай!— ён перадаў сцяжок Лёню Бандараўцу.

Замільгала ў перапляценнях капра шэрая куртка. Што ні ступіць, то ўсё вышэй і вышэй узнімаецца Лёня. Нарэшце, апошні крок,— і чырвонай птушкай узвіўся на вышыні сцяжок.






**У сакавіку 1929 года мяцявіцкія сяляне наладзілі чырвоны абоз са збожжам. Адным з арганізатараў абозу быў Мікіта Бандаравец** (стаіць другі злева).

— Ура-а-а!— даляцела знізу.

Лёня памахаў зверху рукой, а вачыма акінуў наваколле. Сэрца мацней застукала ў грудзях. «Эх, паглядзеў бы бацька, як высока я падняўся!..»

Адсюль, з шасцідзесяцітрохметровай вышыні, добра відаць родныя Мяцявічы. Лёня адшукаў сярод кучаватых бярозак сваю хату, убачыў мост цераз дрымотную Случ. Не раз, бывала, са сваімі аднагодкамі шмыгаў з яго ў празрыстую ваду, а потым, падставіўшы сонцу спіну, ляжаў на зялёнай траве і ўслухоўваўся, як сонца ўлівае ў цела свежасць.

Там, за мостам, дарога ўзбіраецца на пясчаны ўзгорак, зварочвае ўлева, агінае надрэчны луг і лажыцца напрасткі, ажно да самага Пагоста.

Раніцай у тую незабыўную для ўсяго свету чэрвеньскую нядзелю 1941 года Лёня крочыў з бацькам на гэты самы луг падыхаць духмянымі травамі. «Зазвоняць заўтра, сынок, косы. Глядзі не праспі!»

— Мікіта Іванавіч!— з-за пагорка, махаючы рукамі, бег сакратар сельсавета.— Бяда...

— Кажы толкам,— перапыніў яго бацька. А ў самога твар хмурны, дзе тая і ўсмешка падзелася.

— Вайна, Мікіта Іванавіч!..

Праз якую паўгадзіну бацька, а з ім і Лёня, былі ў сельсавеце. Тэлефон аж разрываўся. З ваенкамата загадвалі выпісваць позвы. Пад вечар многія з напакаванымі мяшкамі за плячыма пакідалі вёску. Сам старшыня сельсавета пайшоў без позвы. Перад ім былі лясныя сцежкі. Над галавой, дзе спляліся шапкі густых ялін, гулі самалёты з крыжамі на крылах. Цёмныя цені ад іх клаліся на сонечных палянах.

У Пагосце, што за сем кіламетраў ад Мяцявіч, некалі гаспадарыў нямецкі барон. Дыміў над Случчу бровар, грукатаў на ўсю ваколіцу млын, гойсалі на конях на палетках аканомы. Пра ўсё гэта людзі забылі і ніколі не думалі, што такое вернецца. А тут нейкі родзіч барона ўзяў ды і аб'явіўся ў Пагосце. Даваломся ж неяк з свайго Дойчлянда...

У будынку сярэдняй школы засеў нямецкі гарнізон — варта барона. Ён уводзіў «новы парадак». На поплаве перад броварам расстралялі сем'і пагосцкіх яўрэяў. Пачаліся аблавы на камуністаў і камсамольцаў. Партызаны рашылі знішчыць асінае гняздо гвалтаўнікоў.

Быў жнівень сорак другога года. Ноч выдалася цёмная, цёплая. Стаяла такая цішыня, што, здавалася, няма нікога жывога. З прырэчнага туману, які заслаў шырокі луг, вынырнулі постаці партызан і заляглі перад школай. Сачылі за агеньчыкам папяросы вартавога, чакалі: патухне — значыць, прыбралі... А тут стрэл, нечаканы і гулкі.

Заляскалі вінтовачныя затворы. Са звонам пасыпаліся шыбы. Загрукатаў чужы кулямёт, прыціснуў партызан да зямлі. Захапіць знянацку гарнізон не ўдалося. Бой разгараўся і зацягваўся.

— Дазвольце мне, таварыш камі-

сар!—пачуў Мікіта Іванавіч Бандаравец гарачы шэпт любімца ўсяго атрада камсамольца Івана Чуклая.

— Давай!—кіўнуў галавой камісар.

Чуклай папоўз, прыціскаючыся як мага шчыльней да зямлі. Праз колькі секунд—выбух... На момант кулямёт змоўк. Партызаны падняліся для атакі, ды лівень куль прымусіў іх зноў залегчы.

Чуклай падхапіўся, каб кінуцца да школы, але пад ногі яму паляцела граната. Ён на ляту падхапіў яе і шпурнуў у разбітае акно. Зноў выбух, але ўжо за акном. Там, унутры, паласнула маланка. І ўсё завалаклося дымам. Партызаны рванулiся ўперад і хутка расправіліся з гарнізонам. Узбуджаныя боем, акрылёныя перамогай, вярталіся яны з Пагоста. Наперадзе калоны нехта зацягнуў песню, яе падхапілі, але не дапелі: атрад наткнуўся на засаду.

Рассыпалася, залягла калона, прымаючы баявы парадак. Натомленыя, з невялікім запасам патронаў, яны вымушаны былі прыняць новы бой. Вораг, чакаючы падмацавання, хацеў, каб ён зацягнуўся. Гэта адразу зразумеў Мікіта Бандаравец.

— За мной!—крыкнуў ён, узняўшы над галавой наган, і тут жа схапіўся за сэрца. Да яго кінуўся Чуклай. Ён падхапіў камісара пад пахі, не даючы ўпасці, але тут жа адчуў, як моцна апякло грудзі. Цяжэла цела камісара: не ставала сіл і ў Чуклая, каб утрымаць яго. Так, моцна абняўшыся, як бацька з сынам, камісар Бандаравец і камсамолец Чуклай апусціліся на зямлю. Адпомсцілі партызаны ворагу за смерць сваіх любімцаў. Перамога і на гэты раз была на іх баку. Узыходзіла над зямлёй сонца, калі прагучаў апошні стрэл.

...Лёня спускаўся ўніз, паволі, па чарзе намацваючы нагой металічныя папярочкі. Ступаў цвёрда, па-гаспадарску, а сам усё пазіраў на купкі лазовых кустоў, якія параслі на пясчаных узгорках, дзе апошні раз бачыў сонца яго бацька...

Цяпер на капрах Першага калійнага няма сцяжкоў. Іх замянілі чырвоныя зоркі. Днём і ноччу іх яркае святло вабіць да сябе рамантыкаў, такіх, як Лёня Бандаравец. І яны з'язджаюцца сюды з усіх канцоў краіны, каб здабываць камень урадлівасці для той зямлі, па якой ходзяць жывыя, у якой пахаваны мёртвыя.

Я доўга хадзіў па пляцоўцы Другога калійнага, любаваўся велічэзным корпусам узбагачальнай фабрыкі, заглядаўся на высачэзныя капры. Усюды завіхаліся будаўнікі: здавалася ў эксплуатацыю першая чарга гіганта беларускай хіміі, ужо другога па ліку.

Лёню я знайшоў на дзесятай транспартнай галерэі. Са сваімі новымі сябрамі ён заканчваў мантаж транспарцёра, па стужцы якога сільвінітавая руда пацячэ ад склада ў размольны цэх.

— Бачыце, не толькі капры навучыўся хлопец ставіць,—з гонарам за Лёню сказаў брыгадзір Мікалай Фёдаравіч Зубкевіч,—але і складанае абсталяванне манціруе!..

Лёня, нібы не чуючы брыгадзіравых слоў, кажа:

— Работы хапае. Скора на трэці камбінат пяройдзем. На той, што пад Пагостам...

**Уладзімір НОВІК.**
Фота **С. Чырэшкіна.**

# ІВАН КАШУРА З САКОЛЬНІЧ

Сакольнічы—вядомая вёска на Крычаўшчыне. З Сакольніч паходзіў член партыйнай арганізацыі крэйсера «Аўрора» Павел Попель, а яго стрыечны брат Адам Попель быў камендантам Петрапаўлаўскай крэпасці.

У пачатку 1918 года ў Сакольнічах быў створаны камітэт сялянскай моладзі.

— Гэты камітэт,— расказвае старэйшы сакольніцкі жыхар Іван Ягоравіч Поклад,— у нас называлі камолам, яго арганізатарам быў Іван Кашура, якога вяскоўцы таксама празвалі Камолам...

Нарадзіўся Іван у беднай сялянскай сям'і. Калі яму было шэсць год, памёр бацька. У сям'і былі яшчэ два меншыя браты, якіх маці пакідала на Івана, калі ішла ў поле.

Жыла сям'я Кашураў у нястачы. Тым не менш, прага да вучобы ў дзяцей была вялікая, і Іван, як старэйшы, паступае ў Чэрыкаўскую гімназію. Калі ён, хударлявы хлапчук у зрэб'і і лапцях, увайшоў у клас, сынкі багацеяў сказалі: «Такі ў нас доўга не затрымаецца...»

Аднак Іван вучыўся на дзіва старанна і ўпорна, хоць жыў, як кажуць, у холадзе і голадзе. А надыходзіла лета, ён працаваў, не пакладаючы рук. І меншых братоў, Фёдара і Аляксандра, да працы прывучаў.

У 1917 годзе водгулле Кастрычніцкай рэвалюцыі данеслася і ў павятовы горад Чэрыкаў, і ў Крычаў, і ў родныя Сакольнічы, куды часта наведваўся гімназіст Іван Кашура. Неўзабаве дадому на пабыўку прыехаў Анісім Пузырэўскі, удзельнік рэвалюцыйнага руху на Заходнім фронце, а за ім — балтыец з падводнай лодкі «Кіт» Сцяпан Вяржбіцкі. З імі любіў пагутарыць Іван Кашура, ад іх ён упершыню пачуў пра бальшавікоў, пра Леніна.

Ужо і ў Чэрыкаве ўстаноўлена Савецкая ўлада. Іван Кашура адразу ж становіцца ў рады яе актыўных абаронцаў. У хуткім часе моладзь Сакольніч збіраецца вакол свайго земляка.

Іван Кашура начытаўся артыкулаў Н. К. Крупскай у газеце «Правда» пра тое, што ў вёсках трэба ствараць сацыялістычныя арганізацыі моладзі, і рашыў у Сакольнічах узяцца за гэтую справу — стварыць Камітэт сялянскай моладзі. Мэта і задачы Камітэта — выконваць даручэнні Саветаў, камуністаў. Галоўнае заключалася ў тым, каб як мага больш людзей уцягваць у рады свядомых змагароў за Савецкую ўладу.

Іван Кашура быў цудоўны прамоўца. Нават старыя захапляліся яго ўменнем гаварыць з людзьмі.

Камолаўцы часта наладжвалі вечары ў Сакольнічах. Звычайна ў праграме вечара былі даклад і канцэрт мастацкай самадзейнасці. Дакладчыкам часта выступаў крычаўскі настаўнік Аўхімень, а завадатарамі на самадзейнай сцэне — настаўніцы Варвара Барцэвіч і Зося Азарава.

Моладзь праяўляла сябе не толькі ў правядзенні мастацкіх вечароў. Хлопцам даручалі і больш адказныя заданні. Аніска Пузырэўскі стаў членам Крычаўскага камбеду ад Сакольніч, і яму на падмогу прыйшлі Іосіф і Кузьма Кашуры, Андрэй Вяржбіцкі, Іван Поклад, Марфа Сваткоўская і іншыя.

У камолаўцаў быў пазней і свой участак зямлі — дзесяціна. Яе моладзь апрацоўвала агульнымі сіламі. Часам здаралася, што праз гэта ўзнікалі спрэчкі ў сем'ях, дзе былі камолаўцы. Аднойчы хлопец з адной заможнай сям'і замест таго, каб араць сваё поле, паехаў на маладзёжную паласу і ўзараў яе. Дазнаўшыся пра гэта, бацька пабіў сына, аднак сын усё роўна прыходзіў з сябрамі на маладзёжны ўчастак, ураджай з якога здавалі дзяржаве.


Іван Кашура ў сярэдзіне 20-х гадоў.

Камолаўцы хадзілі па хатах, памагалі збіраць падаткі з заможных сялян, выкрывалі тых, хто хаваў хлеб, распускаў розныя плёткі пра Савецкую ўладу.

У хуткім часе Івана Кашуру паклікалі на работу ў Чэрыкаў. Спачатку, ён працуе членам павятовага камітэта камсамола, а потым становіцца на чале аднаго з аддзелаў павятовага камітэта батракоў, сельскагаспадарчых і лясных рабочых «Рабсельземлес». Яму тады было васемнаццаць гадоў.

А ў Сакольнічах яму на змену прыйшоў Іосіф Кашура, які потым узначаліў сакольніцкую камсамольскую ячэйку і шмат зрабіў для далейшага згуртавання вясковай моладзі.

У 1925 годзе ў Сакольнічах дзейнічаў першы ў раёне піянерскі атрад, створаны з дапамогай юных ленінцаў з Крычава і мясцовых камсамольцаў.

* * *

Па-рознаму склаўся лёс былых камолаўцаў, але ўсе яны пражылі цікавае жыццё. Актыўна ўдзельнічалі ў грамадзянскай і Айчыннай войнах Анісім Пузырэўскі і Іван Поклад. На пярэдніх рубяжах барацьбы за Савецкую ўладу заўсёды былі Іосіф Кашура, Андрэй Вяржбіцкі, Марфа Сваткоўская.

Перад вайною Анісім Пузырэўскі працаваў дырэктарам школы ў горадзе

Людзінаве Калужскай вобласці. У гэтай школе ў часе Вялікай Айчыннай вайны дзейнічала славутая падпольная камсамольская арганізацыя.

Васіль Гаўрылавіч Вяржбіцкі — ваенны гісторык, журналіст—жыве цяпер у Маскве. Ён з'яўляецца дырэктарам Цэнтральнага гістарычнага музея.

Іван Кашура — важак сакольніцкага камітэта сялянскай моладзі — пражыў нядоўгае, але слаўнае жыццё. Партыя накіравала Івана Цімохавіча ў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію на вучобу, а потым — на работу ў Горацкі райком партыі. Але ён прадаўжае і вучобу. Пазней вучыцца ў Маскве, у інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту. У часе летніх канікул Іван Цімохавіч прыязджаў у родныя Сакольнічы. Землякі бачылі яго і з касой, і з газетай.

У 1938 годзе, вяртаючыся з адпачынку, Іван Кашура па дарозе ў Горкі памёр у Оршы. Праз некалькі месяцаў, хворая на сухоты, памёрла і яго жонка, актыўная спадарожніца ў жыцці і барацьбе — Анастасія Васільеўна Касценіч. У іх застаўся дзевяцігадовы сын Лёва, круглы сірата, які пераехаў у Сакольнічы, да бабулі.

У 1942 годзе Леў Кашура разам з двума сябрукамі-школьнікамі пайшоў у партызаны, у дэсантную групу Качубея. Хлапчукі гераічна ваявалі, прымалі ўдзел у шмат якіх баявых аперацыях. Цяпер Леў Кашура жыве ў Крыме, працуе ў тэлевізійным атэльe.

Прайшло шмат год з таго часу, як Іван Кашура і яго сябры запальвалі ў Сакольнічах зару новага жыцця, але іх і сёння ўспамінаюць добрым словам.

**Міхаіл МЕЛЬНІКАЎ,**
**дырэктар Крычаўскага краязнаўчага музея.**

# ПА ПЕСНЮ

**З той далёкай пары, калі наша рэспубліка пачала вялікі паход за культурную рэвалюцыю, захавалася гэтае фота. Яго нехта здаў у Дзяржаўны гістарычны музей БССР. На ім ёсць надпіс: «Выезд артыстаў Першага беларускага тэатра па беларускія песні ў аддаленыя вёскі БССР. 1922 год».**

**Нам удалося ўстанавіць прозвішчы шасцярых, што на возе: Юлія Уладзіміраўна Хіраска (злева з кветкамі), Канстанцін Андрэевіч Алексютовіч (у капелюшы), Генрыета Іёсілева (без галаўнога ўбору), Ганна Кізіна (у цёмнай хустцы). Берта Кантаровіч (у белай хустцы) і Соф'я Пярлова (першая справа).**

**К. А. Алексютовіч — першы балетмайстар Першага Беларускага дзяржаўнага тэатра. Улетку 1922 года артысты тэатра накіраваліся ў нейкую далёкую вёску глядзець беларускія танцы і беларускія касцюмы, а таксама паслухаць новыя вясковыя песні. Пра гэта расказала нашаму карэспандэнту Юлія Уладзіміраўна Хіраска, якая жыве ў Мінску.**

**Між іншым, Юлія Уладзіміраўна сказала, што Генрыета Іёсілева цяпер жыве ў Ленінградзе, Ганна Кізіна — у Маскве, Соф'я Пярлова — у Рызе.**

**Невядома прозвішча мужчыны ў шапцы з белым верхам. Цікава, у якую вёску выязджалі артысты? Можа хто са старэйшых нашых чытачоў паможа нам сабраць яшчэ якія звесткі пра першых энтузіястаў будаўніцтва сацыялістычнай культуры ў Беларусі.**



*Дзень сённяшні — дзень заўтрашні*

# НОВЫ СТАРТ УЗЯТЫ



**Сяржант Мікалай Кралічаў і камбайнер калгаса «XX з'езд КПСС» Талачынскага раёна Іван Зароўкін выбраны дэлегатамі на XV з'езд ВЛКСМ. Сваёй радасцю дзеляцца яны з дэлегатамі форума беларускіх камсамольцаў.**

Фота **В. Ждановіча.**

Чарговы форум камсамольцаў Беларусі праходзіў сёлета ў знамянальныя дні, калі ўся наша Радзіма рыхтавалася да XXIII з'езду КПСС, што вызначыў новыя вехі на нашым гістарычным шляху.

Рэвалюцыйныя пошукі, творчасць у працы, у навуцы, у мастацтве, у кожным нашым кроку па шляху да камунізма вызначылі змест размовы на XXIII з'ездзе камсамола Беларусі. У дакладзе першага сакратара ЦК ЛКСМБ Г. М. Жабіцкага, у прамовах дэлегатаў з'езду былі падвергнуты крытыцы тыя камсамольскія арганізацыі, якія слаба ўдзельнічаюць у жыцці прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў, якім не хапае яшчэ глыбіні і баявітасці ў рабоце з моладдзю.

Камсамольцы Беларусі, натхнёныя поспехамі камуністычнага будаўніцтва, намецілі на сваім форуме шляхі для



**Дэлегата ад Драгічынскага раёна Любу Якуту, свінарку калгаса імя Кірава, выбралі членам ЦК ЛКСМ Беларусі.**

выкаранення недахопаў і вызначылі важнейшую задачу камсамольскіх арганізацый — рыхтаваць дастойных прадаўжальнікаў справы старэйшых пакаленняў рабочага класа і калгаснага сялянства.

Малады чалавек — гаспадар свайго завода, сваёй зямлі. Гаспадарыць ён павінен пісьменна і старанна. А для гэтага яму неабходны веды: навуковыя, тэхнічныя, палітычныя. Таму будзе павялічана колькасць навучальных устаноў, пашырана сетка палітгурткоў, больш увагі будзе ўдзяляцца фарміраванню духоўнай асобы. На адказную работу ў сельскую гаспадарку будуць рэкамендаваны лепшыя маладыя спецыялісты. З'езд вырашыў на працягу 1966—1967 гадоў скіраваць моладзь на ўдзел у добраўпарадкаванні гарадоў і сёл.

Стваральная праца нашага народа ахоўваецца савецкімі ўзброенымі сіламі. Аб іх гатоўнасці даць адпор ворагу гаварылі на з'ездзе дэлегаты — воіны Савецкай Арміі. Юнакі і дзяўчаты нашай рэспублікі заклікаsuccessfully з'ездам мацаваць дружбу з камсамольцамі Арміі і Флоту, свята захоўваць баявыя традыцыі сваіх бацькоў і братоў. Ратныя подзвігі слаўнага мінулага павінны натхняць маладых змагароў на подзвігі працоўныя, на выкананне планаў новай пяцігодкі, дырэктывы якой зацверджаны XXIII з'ездам партыі.

Новая пяцігодка ўзяла старт. Разам з усім савецкім народам у дарогу творчай працы рушыла і моладзь Беларусі.

# 320 НЕЗВЫЧАЙНЫХ СЕКУНД

## Рэпартаж з борта самалёта-лабараторыі

Як і ўсякі палёт на самалёце або касмічным караблі, маё падарожжа ў свет бязважкасці пачалося з тэарэтычных заняткаў.

Лепш за іншых маю просьбу зразумеў Іван Іванавіч Касьян. Вучоны-эксперыментатар, ён ахвотна адказваў на пытанні, расказваў пра некаторыя вывады і меркаванні вучоных. Ад яго я ўпершыню пачуў пра ўмоўны падзел усіх, хто лятаў на самалётах-лабараторыях, на тры групы.

— У аснову гэтага падзелу, — гаварыў вучоны, — пакладзена рэакцыя арганізма на кароткачасовае знаходжанне ў бязважкасці.

Са здзіўленнем даведваюся, што медыкі ў першым жа палёце могуць — зусім як пры даследаванні крыві — вызначыць і маю «групу бязважкасці». Якой жа яна будзе? Паводле слоў Івана Іванавіча, у тых, каго ўрачы адносяць да першай групы, рэакцыя арганізма на незвычайны стан амаль не выражана; у другой — адзначаюцца ілюзіі аб прасторавым становішчы цела, а ў трэцяй — яўныя прыкметы «марской», або, як яе тут называюць, «паветранай», хваробы.

Перш чым паехаць на аэрадром, дзе лётчыкі-касманаўты праходзяць трэніроўкі на самалётах-лабараторыях, паспрабаваў намеціць для сябе якія-небудзь дзеянні ў бязважкасці. Хацелася як мага больш узяць ад палётаў — іх дазволілі ўсяго два. Быць не пасажырам-назіральнікам, але актыўным удзельнікам палёту, калі хочаце, эксперыментатарам.

Прапанаваць нейкія новыя, непадобныя да трэніровак касманаўтаў, практыкаванні было бескарысна. Кіраўнік палётаў — былы лётчык-штурман, Герой Савецкага Саюза Уладзімір Сяргеевіч Сярогін — адразу ж параіў выкарыстаць вопыт першых пакарыцеляў касмічнай прасторы.

Спецыяльны двухмесны самалёт-знішчальнік вёў чалавек, з якім некалькі гадоў назад я сустракаўся на адным з аэрадромаў Ленінградскай ваеннай акругі.

У старой запісной кніжцы знайшоў такі запіс: «Ткачоў Іван Фёдаравіч, лётчык-знішчальнік. Скончыў 10 класаў сярэдняй школы і Батайскае ВАУЛ. Год нараджэння — 1928. У Савецкай Арміі і Ваенна-паветраных сілах з 1947 года. Капітан. Інспектар па тэхніцы пілатавання. Ваенны лётчык першага класа».

Іван Фёдаравіч прачытаў яго і ўсміхнуўся.

— Сёе-тое трэба памяняць, — сказаў ён, — стаў маёрам. Камандзір звяна.

Заданне на палёт было абмеркавана загадзя, і ўдакладняць яго не давялося. Начальнік штаба даў прачытаць інструкцыю членам экіпажа самалёта, якія выконваюць палёты на бязважкасць, прапанаваў у канцы яе паставіць подпіс. Прызнацца, было прыемна распісвацца там, дзе стаялі «рабочыя» аўтографы Юрыя Гагарына і іншых касманаўтаў.

Была ясная, сонечная раніца. Медыцынскі кантроль прайшлі, атрымана лётнае абмундзіраванне, займаю месца ў задняй кабіне самалёта. Усё тут незвычайна. Няма ручкі кіравання, на пярэдняй панелі замест навігацыйна-пілатажных прыбораў устаноўлена апаратура кантролю за станам здароўя лётчыка-эксперыментатара. Прама перад вачыма на нітачцы вісіць каляровы цэлулоідны шарык.



**Маёр І. Ткачоў расказвае першаму чалавеку Сусвету палкоўніку Ю. Гагарыну пра трэніровачныя палёты касманаўтаў.**

— Ён першы паведаміць нам пра пачатак бязважкасці, — гаворыць ваенны тэхнік першага класа Валянцін Аляксандравіч Самарын. — Цяпер прыступім да трэнажу.

Гэты ўважлівы і спакойны чалавек не прапусціў ні адной дэталі, калі расказваў пра будову кабіны. Ён паказаў, як карыстацца кожнай кнопкай, штурвальчыкам, рычагом. Падрабязна расказаў, як дзейнічаць «у асаблівых выпадках».

Здаю своеасаблівы экзамен па будове кабіны, імітую аварыйнае скіданне ліхтара і катапультаванне.

Да палёту ўсё гатова. Іван Фёдаравіч да таго часу паспеў ужо аблятаць суседні самалёт. Вось ён заняў месца ў пярэдняй кабіне і запрасіў у кіраўніка дазвол на запуск.

Мы ў паветры. Дзесьці за спіной роўна свішча рухавік. Хуткасць на вышыні не адчуваецца. У кабіне цёпла. У тэлефонах — разнагалоссе эфіру. У раёне аэрадрома знаходзіцца некалькі экіпажаў. Кожны робіць сваю справу і дакладвае пра гэта на зямлю.

— Вышыня зададзеная, — гаворыць лётчык, — прыступаем.

Зямля імчыцца насустрач. Лётчык увесь час паведамляе пра хуткасць. Калі яна набліжаецца да максімальнай, нос машыны ідзе

ўгору. На цела навальваюцца перагрузкі. Спрабую параўнаць іх з тымі, што адчуў на цэнтрыфузе. Многа агульнага, але ёсць і адрозненне. Апрача становішча цела, відавочна, адчуваецца і абстаноўка. Ва ўсякім выпадку, пры шасцікратнай перагрузцы блакнот і аловак узяць у рукі ўдаецца.

Але што гэта? Не паспеў па-сапраўднаму адчуць знікненне перагрузак, як мой цэлулоідны спадарожнік паплыў угору. Ва ўсім целе з'явілася нейкая лёгкасць.

— Увага! Бязважкасць, — звычайна і проста паведаміў камандзір экіпажа.

Стараюся разабрацца ў сваіх адчуваннях. Прывязныя рамяні не даюць целу адарвацца ад сядзення, ногі павіслі паміж падлогай і прыборнай дошкай амаль зусім без намагання мускулаў. Не маюць патрэбы ў падтрымцы мускулаў і рукі. Яны замёрлі на ўзроўні грудзей, нібы чужыя. Адпускаю аловак. Ну, вядома, ён не падае, а, куляючыся, плыве.

Адчуванне незвычайнай лёгкасці і навізны ўражанняў хвалюе. Хочацца нешта рабіць, рухацца, гаварыць.

— Выдатна! — крычу, націскаючы кнопку СПУ.

— Трыццаць пяць секунд прайшлі, — інфармуе лётчык.

Са здзіўленнем заўважаю, што зноў сяджу ў крэсле. Ногі стаяць на падлозе, а рукі ляжаць на каленях. Пераход ад бязважкасці да нармальнага стану адбыўся так плаўна, што я яго не заўважыў.

Так адбылося маё знаёмства з бязважкасцю, пачалося падарожжа там, дзе няма вагі, няма апоры і ёсць незвычайная лёгкасць.

Няма патрэбы падрабязна апісваць усе разгоны хуткасці і пераходы на палёт па парабале. На кожнай новай горцы маёр Ткачоў павялічваў перагрузкі, а значыць, павялічваўся і сумарны час бязважкасці. Да канца палёту ў агульнай суме ён дасягнуў ста сямідзесяці секунд.

Сто семдзесят секунд! Амаль тры мінуты! Але якія мінуты! На другой горцы, згодна заданню, паслабіў плечавыя прывязныя рамяні, разам з парашутам аддзяліўся ад сядзення і, каб не паясныя абхваты, пачаў бы плаваць у цеснаватай кабіне.

Перад вачыма міжволі паўстаў макет карабля-спадарожніка тыпу «Усход», што ўстаноўлены ў павільёне «Машынабудаванне» на ВДНГ у Маскве. Кабіна там крыху большая. А стан бязважкасці адрозніваўся толькі працягласцю. Што я паспеў зрабіць за 35 секунд? Напісаў тры радкі ў блакноце...

Колькасць парабал павялічвалася. Бадзёрасць не пакідала мяне ні на секунду. Аднак пры адным з пераходаў у пікіраванне адчуў, як майка прыліпла да спіны. Дзесьці пад «лыжачкай» пачаў завязвацца агідны клубок. Індыкатар кіслароднай сістэмы часцей звычайнага заміргаў сваімі белымі прадаўгаватымі вачыма.

Радасны настрой знік. Пераменныя перагрузкі і гарачыня вытруцілі яго канчаткова. Цела налілося стомай. Цяпер самае вялікае маё жаданне — адчуць пад нагамі цвёрдую зямлю.

Пасля пасадкі камандзір экіпажа адзначыў прыкметную бледнасць, а ўрач бязлітасна вызначыў «трэцюю групу».

Маёр Ткачоў выглядаў цудоўна. І тут я ўспомніў пра лічбу, якую мы з ім атрымалі, падлічыўшы час усіх яго палётаў на бязважкасць. У яго — адна гадзіна пятнаццаць мінут. Гэта ж цэлы віток карабля-спадарожніка вакол Зямлі! А ў мяне — менш за тры мінуты. Розніца істотная.

Так, гэта ўжо не той Ткачоў, якога я ведаў пяць гадоў назад. Вырасла яго майстэрства. Ён дасягнуў рубяжа, дзе цяжка адрозніць работу лётчыка і касманаўта.

— Не, розніца ёсць, — смяецца Іван Фёдаравіч. — На іх цела ставяць датчыкі, а мы лятаем без іх.

На суседнюю стаянку зарупіў самалёт. Міжволі шукаю на твары будучага касманаўта хоць якія-небудзь сляды палёту. Куды там! На яго нават гарачыня, здаецца, не дзейнічае! Вясёлы, усмешысты твар, вольныя рухі. Праз некалькі мінут ён зноў ідзе ў паветра. У яго першая група. І не толькі бязважкасці. Натрэніраванасці, вынослівасці, загартоўкі.

Праз некалькі дзён адбыўся другі палёт. Ён адрозніваўся ад першага. Прынамсі, у «басейне» мне была дадзена магчымасць не толькі адчуць бязважкасць у прывязаным становішчы, але і свабодна «паплаваць».

Знаёміць чытачоў з камандзірам экіпажа самалёта-лабараторыі, відаць, няма патрэбы. Яго імя добра вядома не толькі ў нашай краіне. Заслужаны лётчык-выпрабавальнік СССР, Герой Савецкага Саюза Анатоль Канстанцінавіч Старыкаў зрабіў не адзін выдатны палёт, унёс дастойны ўклад у развіццё савецкай авіяцыі. Цяпер ён памагае будучым касманаўтам рыхтавацца да новых рэйсаў у касмічныя далі.

Разам з ім крылаты прыгажунгігант уздымалі ў паветра выдатныя спецыялісты: весялун і гаварун, другі лётчык Ігар Маркаў; штурман Вілен Мураўёў, пра якога камандзір экіпажа коратка сказаў: «без пяці хвілін кандыдат тэхнічных навук»; маўклівы борт-інжынер Аляксандр Трусаў; сур'ёзны радыст Аляксей Сокаў і дружбак бортмеханік Васіль Бандарэнка.

— Ён у нас сапраўдны прафесар бязважкасці, — жартаваў другі лётчык, паказваючы на Бандарэнку. — З першага палёту ў «басейне». Усё бачыў: і галубоў, і кошак, і марскіх свінак.

Зноў — каторы раз — чую расказ пра вучоных, выпрабавальнікаў, якія ідуць наперадзе касманаўтаў. Толькі пасля таго, як тое ці іншае новаўвядзенне, эксперымент выпрабуюць на жывёлах, праверацъ выпрабавальнікі, яно паступае ў арсенал прыёмаў для трэніроўкі касманаўтаў.

Надвор'е — дрэнь; хвошча дождж. Па адным перабягаем ад парашутнага класа да аўтобуса. Не верыцца, што ў такую непагадзь мы будзем хоць бы сядзець у кабіне самалёта, а не тое што ўзлятаць. Камандзір экіпажа смяецца:

— Абавязкова паляцім. Людзі чакаюць.

Мы ў самалёце. У знішчальніку нас было двое, а тут — больш за дзесяць: урачы-эксперыментатары, вядучы інжынер, кіраўнік трэніроўкі, члены экіпажа будучых касмічных караблёў, кінааператары.

— Прымайце ў кампанію яшчэ аднаго Анатоля, — жартам прадставіў мяне камандзір карабля.

Усе засмяяліся. Аказалася, што на борце лабараторыі гэтае імя было самае пашыранае. Нехта з хлопцаў прытворна заўважыў аб прыкметах. Новы выбух рогату.

Пакуль Анатоль Васільевіч — інструктар па парашутна-дэсантнай падрыхтоўцы касманаўтаў — напамінаў правілы паводзін у басейне бязважкасці, самалёт вырупіў на ўзлётную паласу. Падарожжа ў свет бязважкасці працягвалася.

Першыя дзве горкі — так было абумоўлена ў заданні — мне давялося сядзець у крэсле. Працавалі і трэніраваліся будучыя касманаўты. Здзіўляла шырыня і разнастайнасць эксперыментаў, якія яны выконвалі пад кіраўніцтвам урачоў у стане кароткачасовай бязважкасці. Праверка сардэчна-сасудзістай сістэмы. Апрацоўка прасторавай арыенціроўкі і каардынацыі рухаў з расплюшчанымі і заплюшчанымі вачыма. Трэніроўка вестыбулярнага апарата на вярчальным крэсле... Тут прывыклі ад кожнага палёту браць максімум. Ні адна секунда не траціцца дарэмна. І ўрачы, і касманаўты, і кінааператары працуюць з гранічнай нагрузкай.

Перад трэцяй горкай надзяваю ахоўную каску з чырвонымі літарамі СССР, праходжу ў заднюю частку «басейна». Тут ёсць свабодны «пятачок», дзе па сігналу кіраўніка можна выканаць некалькі разваротаў вакол вертыкальнай восі, паспрабаваць «плаваць» ад сценкі да сценкі ў вертыкальным становішчы.

Па ўзмацненню гулу рухавікоў і перагрузцы адчуваю набліжэнне бязважкасці. Пра гэта ж папярэджвае і светлавое табло. І ўсё-такі яна прыходзіць раптоўна. Ногі аддзяляюцца ад падлогі. Рукі міжволі цягнуцца да стоек. Касманаўты ўмомант пачынаюць работу. Спрабую і я выканаць сваё заданне. Адзін з урачоў уважліва сочыць за мной.

Невялікім намаганнем рукі адштурхоўваюся ад стойкі. Цела павольна пачынае вярцецца ўправа.

*Далей гл. стар. 116.*

# ЧАС СОНЕЧНЫХ ФАРБАЎ

У горад прыйшла казка, сатканая са снегу, сонца і з той асаблівай цішыні, якая раптам перамагае мітусню вуліцы, людскія галасы, шум машын... Жэня доўга стаіць каля дому, углядаючыся ў гэтыя пераліўы святла і фарбаў, у снегавікоў, што пацямнелі і згорбіліся ў сваіх шапках з дзіравых вёдраў, любуючыся хлапчукамі, якія распачалі можа апошнюю снежную баталію.

Жэню цягне за руку сынок. «Тата, хадзем!» Сыну ўсяго два з паловай года, і для яго галоўнае пакуль што — гульня. Хутка вернецца са школы Андрэйка, і тады ён пагуляе з Дзімкам, а нам з Любай можна будзе папрацаваць.

Жэня міжволі ўсміхаецца: зноў усё пачнецца, як звычайна. Ужо шэсць гадоў, як яны працуюць разам з жонкай і пасля кожнай карціны зусім сур'ёзна заяўляюць адзін аднаму, што гэтая сумесная іх праца — апошняя. Яны вырашалі канчаткова размежавацца роўна столькі разоў, колькі ў іх сумесных работ. Але вось адкрываецца новая экспазіцыя, і пад строгімі лінагравюрамі ці пад яркімі малюнкамі зноў побач стаяць прозвішчы Любы і Яўгена Пакаташкіных.



**Люба і Яўген Пакаташкіны.**
Фота **Ф. Чаховіча.**

Чаму ўвесь час яны працуюць разам? Можа таму, што яны проста муж і жонка, а калі людзі доўга жывуць разам, у іх не толькі агульнае жыццё, але і ў многім агульныя погляды на гэтае жыццё.

Люба яшчэ ў дзяцінстве здзіўляла суседзяў сваімі малюнкамі. Суседзі радаваліся, а маці з непакоем назірала за гэтым захапленнем. Ёй падабалася, што ў дачкі ўсё так добра выходзіць, але яна баялася, што гэтае дзіцячае захапленне перарасце ў нешта сур'ёзнае і тады Люба не стане архітэктарам. А маці цвёрда вырашыла — Люба павінна стаць толькі архітэктарам, павінна прадоўжыць шлях бацькі. Бацька быў будаўнік. Ён будаваў Мінск і марыў аб тым, што яго дзеці пойдуць далей за яго. І ў памяць аб гэтых марах, у памяць аб ім, аб Міхаілу Гоманаву, аб салдаце Міхаілу Гоманаву, што загінуў пад сценамі Брэсцкай крэпасці, маці вырашыла, што Люба павінна выбраць архітэктуру.

З восьмага класа Люба пачала наведваць гурток у Палацы піянераў, і кіраўнік гуртка Леанід Дзмітрыевіч Шчэмелеў назаўсёды ўводзіць дзяўчынку ў чароўны свет фарбаў. Пасля заканчэння школы Люба паступае ў мастацкае вучылішча. І там, на першым жа курсе, пачынае дружбу з гамяльчанінам Яўгенам Пакаташкіным.

Жэня нарадзіўся ў Навабеліцы і жыў на той самай вуліцы, дзе некалі прайшло басаногае маленства народнага мастака РСФСР Георгія Рыгоравіча Ніскага. Але, вядома, не слава земляка вызначыла Жэнеў лёс. Проста Жэня любіў маляваць. Яго школьныя работы дэманстраваліся на Усесаюзнай выстаўцы дзіцячага мастацтва. А потым у Палацы культуры імя Леніна заслужаны дзеяч мастацтва БССР Барыс Фёдаравіч Звінагродскі прымусіў хлопца забыць пра футбол, стральбу, бокс, лыжы, валейбол (у Жэні па ўсіх гэтых відах спорту былі значныя поспехі) і сур'ёзна заняцца мастацтвам.

Шляхі Любы і Жэні перакрыжаваліся ў Мінску, у мастацкім вучылішчы. Шчырае каханне павяло іх сумесным жыццёвай дарогай. Ужо калі яны вучыліся на другім курсе, нарадзіўся Андрэйка. Ён патрабаваў клопату і ўвагі. Забіраў у мамы з татам увесь вольны час. Першынец заставаўся цалкам абыякавым да вялікай ісціны, якая гаворыць, што мастацтва патрабуе ахвяр. Ён сам патрабаваў іх. Але Жэня і Люба ўхітраліся паспяваць усюды. У вучылішчы яны пачалі займацца графікай. Любіны лінагравюры «Шляхі-дарогі», «Пагрузка», «Данбаскі вугаль» і Жэнева — «Гомель будуецца», якія былі зроблены ў вучылішчы, трапілі на Рэспубліканскую выстаўку 1960 года.

Успамінаючы той час, яны заўсёды з удзячнасцю называюць настаўнікаў, якія памаглі ім знайсці сваю дарогу, свой почырк, усталяваць свой погляд на свет. Акім Міхайлавіч Шаўчэнка, Леў Маркавіч Лейтман, Пятро Серапіёнавіч Крохалеў, Канстанцін Міхайлавіч Касмачоў — гэта яны памаглі хутчэйшаму творчаму станаўленню мастакоў Пакаташкіных.

Пасля заканчэння вучылішча Жэня і Люба паехалі ў Гомель. Іх першай сур'ёзнай заяўкай была серыя лінагравюр, прысвечаная дваццацігоддзю абароны Брэсцкай крэпасці. І Люба і Жэня былі ў вайну зусім малыя, але яна пакінула ў іх сэрцах балючы след. Загінуў, абараняючы крэпасць над Бугам, Любін бацька. У Красным Бары пад Ленінградам пахаваны Жэнеў бацька, снайпер Пятро Пакаташкін. Разам з болем жыве ў сэрцы гонар за подзвіг бацькоў, за іх мужнасць і гераізм. Боль і гонар вадзілі рукою кожнага мастака, калі яны стваралі свае графічныя лісты.

Аб тым, як стаялі насмерць абаронцы Брэста, яны ведалі з прачытаных кніг, з расказаў воінаў Брэсцкага гарнізона, якія засталіся жывымі. І адчувалі мастакі сябе так, быццам самі прайшлі праз агонь, прабіраліся праз руіны, знемагалі ад смагі.

На рэспубліканскай мастацкай выстаўцы, прысвечанай дваццацігоддзю гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці, дэманстраваліся чатыры работы маладых мастакоў.

Здзіраўлены асколкамі сцяг, пунсовы, як кроў... Можа нават не сцяг, а палотнішча, змочанае крывёю і прымацаванае да штыка. Вецер разгарнуў яго, і бачны гордыя словы: «Памром, але не здадзімся!» На чорным фоне за сцягам — мужныя і суровыя, быццам высечаныя з каменю твары. У вачах абаронцаў — рашучасць і непахісная вера ў перамогу. Неяк міжволі прыходзяць на памяць словы паэта: «Гвозди бы делать из этих людей, в мире не было б крепче гвоздей!» Назву гэтай лінагравюры далі словы, напісаныя на сцягу. Яна экспанавалася на Усесаюзнай выстаўцы ў Маскве.

А вось другая гравюра з цыклу «У атаку». Мы быццам пераносімся па той бок агню, у лагер азвярэлых захопнікаў. У бяссільнай злосці, страціўшы надзею авалодаць крэпасцю, яны гоняць перад сабой да сцен крэпасці палонных медсясцёр у белых халатах... Вельмі скупа і дакладна перададзены тут увесь драматызм моманту.



**Палескі пераезд. З серыі «Новабудоўлі Гомельшчыны».**

Гэтыя дзве лінагравюры ўваходзяць у экспазіцыю музея Брэсцкай крэпасці. Пакаташкіны мяркуюць прадоўжыць свой брэсцкі цыкл.

У Гомелі мастакоў адразу ж прывабіла сённяшняе жыццё землякоў. Пасляхоўай і плённай была іх паездка ў малады горад хімікаў — Светлагорск. Жэня і Люба вярнуліся з альбомамі, поўнымі замалёвак, акварэльных малюнкаў, накідаў, эцюдаў, якія сталі асновай серыі лінагравюр «Новабудоўлі Гомельшчыны». Гэтыя гравюры экспанаваліся на Рэспубліканскай мастацкай выстаўцы ў 1962 годзе, пасля якой Пакаташкіны былі прыняты ў члены Саюза мастакоў БССР.



**Нявеста Тамара.** Да фотарэпартажу **В. Ждановіча.**
«І АДЧЫНІЛІСЯ ДЗВЕРЫ ШЧАСЦЯ».



**Л. і Я. Пакаташкіны. Памром, але не здадзімся!** Лінагравюра.

**Таварная станцыя.** З серыі лінагравюр **«Новабудоўлі Гомельшчыны».**





А. і Я. Пакаташкіны. Лесарасрацоўкі.



В. Васільеў. Зімовы матыў.

Яны розныя, гэтыя работы, па настрою, па выкарыстанню святла, але іх роднiць улюбёнасць у свой край, у справы яго людзей. Ціхая задуменнасць у гравюры «Гомельскі вакзал» не выпадковая. Вакзал — гэта гудкі паравозаў, людскі вір, мітусня, рух... Але вось адышлі ўсе паязды. На плошчы застылі машыны. І цяжкі будынак у гэтым спакоі здаецца трохі бязлітасным храмам ростаняў. Яму самому быццам няўтульна ў летнім ранку, і ён чакае свайго цягніка, чакае прывычнай мітусні людзей і машын, чакае новых сустрэч.

На другой гравюры — ранак Светлагорска. Горад быццам усміхаецца новаму дню, высокаму небу і свайму абуджэнню. Ён яшчэ толькі пачынаецца, гэты юны горад, але ўжо відзён яго размах, бачны яго першыя ўпэўненыя крокі. Дынаміка працы яшчэ больш падкрэсліваецца ў чорна-белых гравюрах «Таварная станцыя» і «Пагрузка кантэйнераў». Рэльефнасць у іх спалучаецца з вострым пачуццём рытму, строгасць выканання — з імклівасцю руху.

На гэтай жа выстаўцы дэманстраваўся «Партрэт мастака Б. Ф. Звінагродскага», выкананы Яўгенам Пакаташкі-



Я. Пакаташкін. Партрэт мастака Б. Ф. Звінагродскага.

ным. Гэта не проста даніна павагі любімаму настаўніку. Тут ужо адчуваецца філасофскае асэнсаванне шляху, пройдзенага творцам, імкненне ўлавіць у яго вобліку тое галоўнае, што хвалюе цяпер мастака, за спіной якога доўгая чарада пражытых гадоў.

Шчыра кажучы, Яўгену «шанцуе» больш, чым Любе. Можа таму, што ў іх дзеці і іх не пакінеш без пільнага вока маці. Першую самастойную творчую камандзіроўку ў Прыбалтыцы Жэня правёў адзін. Асталяваўся ў Палангэ, у Доме творчасці мастакоў. Яму прыйшліся да спадобы яркая, шумная гавань у Клайпедзе, паветра, насычанае пахам рыбы, рыбакі, на тварах якіх пакінулі свае адвечныя сляды мора і вецер. Адтуль ён прывёз сорак восем работ, выкананых маслам, тэмперай, гуашшу, акварэллю. Сярод іх ёсць некалькі партрэтаў, якія сведчаць пра тое, што Жэня з усё большай сур'ёзнасцю ставіцца да гэтага жанру. «Партрэт рыбака»,

Пасёлак Фестывальны. З серыі «Новабудоўлі Гомельшчыны».



«Рыбачка Аўдра», «Партрэт мастака Л. Качалінай»... Іх аб'ядноўвае імкненне пранікнуць ва ўнутраны свет чалавека, у складанасць яго характару.

І ў наступную камандзіроўку ён паехаў адзін. На гэты раз дарога прывяла яго на Паўднёвы Каўказ. Мора здавалася яму нейкім не ў меру пышным і дэкаратыўным. Затое ён палюбіў другі Каўказ, грозны ў сваёй суровай прыгажосці, недасягальны і прывабны, як міраж. Ён прывёз з гэтай камандзіроўкі дзесяць накідаў і эцюдаў, але больш за ўсё застаўся задаволены тэмпернымі лістамі «Чырвоная Паляна», «Першы снег», «Цясніна». У іх шмат арыгінальнага, пададзенага ярка і смела, у іх адчуваецца і хваляванне ад сустрэчы з прыродай, і лёгкі сум аб леце, што адыходзіць, і трывога перад небяспекай, якая падпільноўвае чалавека ў гарах.

У юнацтве сэрца заўсёды просіцца ў нязведанае. Жэня і Люба марылі аб Поўначы, аб яе таежных прасторах, халодных рэках, аб сустрэчах з яе негаваркімі, моцнымі людзьмі. У мінулым годзе ім пашанцавала разам паехаць на Паўночны Урал, у край, дзе нават назвы гарадоў, рэк і мясцін гучаць неяк загадкава і прывабна: Ныраб, Чардань, Салікамск, Колва-рака, Вятлан-гара, гара Камгард... Край фантастычных легенд і помнікаў старажытнага дойлідства, край, дзе рэдка на дарозе сустрэнеш чалавека, дзе і дарог звычайных няма, і толькі на самалёце ці па рацэ можна дабрацца да пэўнага месца. Гэты край не кожнага прыме. Ён любіць шчырых і моцных людзей, толькі ім ён адкрывае сваё непаўторнае хараство і прыветную пяшчотнасць, схаваную пад халоднай суровасцю.

Пакаташкіных Поўнач прыняла. І яны палюбілі яе, хоць часам даводзілася нялёгка. Уражанняў было столькі, што яшчэ да гэтага часу цяжка ў іх разабрацца і многія «паўночныя» задумы яшчэ чакаюць свайго вырашэння. Найбольш дакладна і вобразна перадаць прыгажосць Поўначы мастакам памагла іх даўняя схільнасць да графікі. І хоць гэтая серыя выканана ў асноўным тэмперай і алоўкам, у ёй адчуваецца «графічнасць», якая ўласціва самому паўночнаму пейзажу, кампазіцыйная дынаміка, строгасць і лаканізм.

Белы туман засцілаў неба і ваду. З гэтай белай ранішняй цішыні выплываюць параходы. Шэры дым не растае, а вісіць у бялявым мроіве, і вось ужо прывітальныя гудкі абуджаюць халодную раніцу. Гэта — «Прывітанне» («Раніца на Каме»).

А вось «Шлюз на Камскай ГЭС». Бетонны гмах у халодным і яркім святле паўночнай раніцы здаецца лёгкім і ажурным. Нецярпліва дыміць параход, чакаючы сваёй чаргі, але шлюз яшчэ закрыты. Зусім нямнога — і ўсё навокал



Я. Пакаташкін. Партрэт мастака Л. Качалінай.

загрыміць, забурліць, зажыве звычайным будзённым жыццём, але пакуль адчуваецца толькі нецярплівасць і чаканне гэтага моманту.

Таежная вёсачка Карнічова. Ёй прысвечана цэлая серыя тэмперных работ і малюнкаў алоўкам. Вось яна, нібы астравок жыцця, закінуты ў суровае мора тайгі, а вось яе вуліца, хаты — такія цяпер убачыш, мабыць, толькі ў гэтых месцах. Карнічова недаверлівае і суровае, як суровае ўсё навокал, і Карнічова адкрытае, вясёлкавае, усмешыстае...

Гара Камгард. Хутчэй не гара, а круты ўцёс, над якім схвастаныя вятрамі дрэвы апавядаюць доўгія легенды.

«Выжарыны», «Лесарубы», «Вятлан-гара» — ва ўсіх гэтых работах, не гледзячы на іх лаканізм і графічную строгасць, адчуваецца вялікая шчодрасць мастакоў, неспакой і сардэчнае замілаванне натурай.

Пасля таго як на апошняй выстаўцы атрымалі прызнанне тэмпернае палатно «Паўночны марскі рубеж», каляровая лінагравюра «Начны палёт», тэмперныя

лісты «У непагадзь», «Аэрадром», «Верталёты» (гэта работа трапіла на ўсесаюзную выстаўку) — Пакаташкіны, як звычайна, рашылі, што гэта іх апошнія сумесныя работы...

Планы ў іх хоць і агульныя, але працаваць яны ўсё ж збіраюцца асобна. Да пяцідзесяцігоддзя Савецкай улады Люба вырашыла выканаць серыю гравюр, прысвечаных Светлагорску, Гомелю, беларускім нафтавікам. Яўген задумаў дзесяць тэмперных лістоў таксама пра жыццё маладых гарадоў, пра людзей новабудоўляў Салігорска і Гродна, Полацка і Лукомля. І, безумоўна, ужо разам яны прадоўжаць свой брэсцкі цыкл лінагравюр.

*Дзімка малюе на снезе смешныя малюнкі. Можа і ён пойдзе шляхам бацькоў? Андрэйка — той ужо малюе вунь як!* Нават паслаў свае работы ў Мінск, у выдавецтва, дзе рыхтуецца альбом, прысвечаны творчасці дзяцей. Дзімка таксама пачаў свой шлях у мастацтве, пачаў з таго, што перад самай адпраўкай на выстаўку выпэцкаў алоўкам «Паўночны марскі рубеж». І роспач, і смех можна было ўбачыць на тварах бацькоў...

Сонца паднялося вышэй — перамагае вясна, час самых яркіх фарбаў, час новых пошукаў і новых творчых хваляванняў.

**Самсон ПАЛЯКОЎ.**

*(Пачатак на стар. 108—111.)*

## 320 НЕЗВЫЧАЙНЫХ СЕКУНД

Раблю рух нагамі, які раілі ўрачы. Вярчэнне ўзмацняецца. Спыніць яго такім жа спосабам не ўдаецца. Даводзіцца звяртацца за дапамогай да рук і стойкі.

Не ведаю чаму, але вастрыня ўспрыняцця бязважкасці на гэты раз была менш уражлівая. Можа гэта тлумачыцца тым, што давялося працаваць, напружваць мускулы і волю. Хоць лёгкасць рухаў адчувалася незвычайная.

Пасля завяршэння двух абаротаў улева спыніўся, зрабіў падарожжа ад аднаго борта да другога. Раўнавагу трымаць цяжка, але можна. Аднак самае дзіўнае адбылося пры паўторным вярчэнні. Адчуваючы, што завальваюся на спіну ўправа, паглядзеў на ногі, — што за ліха! — стаю вертыкальна.

Урач эксперыментатар пасля заканчэння рэжыму ўсё растлумачыў даволі проста: «У вас з'явіліся ілюзіі, але каардынацыя рухаў была нармальная».

На наступным рэжыме мяне чакала самае прыемнае. Я бачыў, з якой асалодай «плавалі» і выконвалі заданні ў гарызантальным становішчы касманаўты. Зараз яны пайшлі ў другі салон для чарговых эксперыментаў, а мы з афіцэрам, якога ўсе называюць Сашам, засталіся ў «басейне». Нам трэба «плаваць».

Ляжым адзін супраць аднаго, але твараў пры выхадзе на горку не відаць. Каскі прыціскаюцца да мата. І вось яна — доўгачаканая бязважкасць! Цела плаўна адышло ад падлогі, павісла ў паветры. Рукі распластаны ў бакі, ногі разведзены. Раскоша! Бачу ўсмешлівы твар Барыса Васільевіча Блінова, вядучага інжынера па апаратуры медыка-біялагічных даследаванняў. У памяці праносяцца яго словы: «Калі ёсць рай, дык гэты рай — бязважкасць».

Адчуваю, што пачынае цягнуць кудысьці назад і ўлева. Зараз гэта не ілюзія: Анатоль Васільевіч падштурхоўвае мяне наперад. Адштурхнуўшыся ад матаў, раблю разварот управа. Саша верціцца крыху наперадзе. Яго цыганскі твар расплыўся ва ўсмешцы. Спыняю разварот рукамі. Іду на задняе сальта. Яно выходзіць на дзіва плаўнае і павольнае. Як у сне.

Міжволі шукаю параўнання з тымі адчуваннямі, якія былі пры выкананні фігур у вольным падзенні, калі саскокваў з парашутам. Часу траціцца амаль столькі ж, але аналогіі ніякай. Там шалёная хуткасць паветранага патоку, туг — здзіўляючая лёгкасць. Нават часовае пагоршанне настрою пасля трэцяй горкі прайшло.

Свісток Анатоля Васільевіча напамінае, што канчаецца рэжым. Займаю позу для «прызямлення», і цела налівaецца цяжарам. Упершыню за ўсе горкі пашкадаваў, што гэтае незвычайнае «плаванне» закончылася так хутка...

Перапынак паміж рэжымамі скарыстоўваю для гутаркі з Іванам Іванавічам Касьянам. Ён таксама на борце самалёта-лабараторыі. Кіруе даследаваннямі.

— Усё выдатна, — сказаў урач. — Крышачку скованы рухі. Нібы шукаеце апору.

Толькі тут да мяне дайшло, што, думаючы аб параўнанні «плавання» ў бязважкасці з вольным падзеннем, я міжволі шукаў рукамі і нагамі знаёмы струмень паветранага патоку. А яго не было. Гэта і нарадзіла скаванасць рухаў.

Апошнюю ў гэтым палёце горку правёў у пярэднім адсеку. Там адзін з касманаўтаў праходзіў трэніроўкі на стэндзе, які стварыў Анатоль Іванавіч Гаршкоў. Побач працавалі вучоныя — Алег Мікалаевіч Васільеў і Герман Іванавіч Паўлаў. Яны вывучалі вестыбулярныя рэакцыі ў кошкі, у ядро вестыбулярнага нерва якой былі ўведзены мікраэлектроды. Жывёліна маўчала. Яна была пад наркозам. Але хто ведае, можа іменна гэты эксперымент паможа знайсці яшчэ адзін спосаб павышэння ўстойлівасці вестыбулярнага апарата да бязважкасці.

Работа закончана. Маё падарожжа ў бязважкасці за два палёты працягвалася больш за трыста дваццаць секунд. На фоне мнагасутачных палётаў гэта — кропля ў моры. Але галоўнае ў іншым. Мне давялося пазнаёміцца з выдатнымі людзьмі. Пра іх самаадданую працу, няспынны пошук, сапраўдную творчасць варта расказаць асобна.

Пры заходзе на пасадку зноў дала сябе адчуць «трэцяя група». Іван Іванавіч са спачуваннем супакоіў:

— У мяне было больш за семдзесят палётаў, — сказаў ён, — але варта было зрабіць перапынак у палётах на бязважкасць, і ўсе навыкі прапалі. У першым пад'ёме мяне таксама загайдала. Вось яна якая, бязважкасць! Дарэчы, «групу» можна змяніць. Для гэтага патрэбны сістэматычныя трэніроўкі.

Пра заняткі спортам і выдатнае здароўе ўрач не гаварыў — яны першая неабходнасць пры падрыхтоўцы да палётаў у космас.

На разборы палёту касманаўты расказалі пра свае ўражанні, пра вынікі работы. Нашы думкі пра бязважкасць цалкам супалі.

**Маёр А. ХАРОБРЫХ,
майстар спорту СССР**

**(Часопіс «Авиация и космонавтика».)**

# ТАЙНА СТАРОГА ДОТА

У гэтых мясцінах працавала вышукальна-разведвальная партыя. Неяк хтосьці з хлопцаў натрапіў на зарослы мохам, пацямнелы ад часу дот.

Капянуў рыдлёўкай, адваліў нейкі камень, выцягнуў сталёвыя пруты арматуры, што тырчалі з зямлі...

— Чэрап! Хлопцы, сюды!

На момант у доце запанавала цішыня. Потым пачуліся воклічы:

— Тут былі баі...

— Капайце далей!

— Трэба добра ўсё агледзець...

За справу ўзяліся дружна. Неўзабаве знайшлі самазарадную вінтоўку, артылерыйскія і аўтаматныя гільзы, сатлелую вопратку, абутак, кулямётныя стужкі, два штыкі і... сем шкілетаў.

У нагрудпай кішэні аднаго з загінуўшых захаваўся пропуск у вайсковую часць і асабістае пасведчанне. У другога — камсамольскі білет. Як ні імкнуліся разабраць напісанае, нічога не атрымалася — вільгаць і час змылі амаль усё.

Пошукі прадаўжаліся. Прайшоў дзень, і з зямлі былі выкапаны яшчэ сем загінуўшых. У аднаго, апрача пропуска, знайшлі партыйны білет. На жаль, і на ім нічога разабраць было нельга.

Хто ж яны, гэтыя воіны, што загінулі ў старым доце?

...У 1941 годзе непадалёк ад пасёлка Сапоцкіна, што на Гродзеншчыне, пачалі будаваць абаранnetwork рубяжы.

Падпалкоўнік Мікалай Ігнатавіч Шаўчэнка, які цяпер працуе начальнікам аддзела *абласнога ваенкамата, расказвае:*

— Такія збудаванні ўзводзіла наша стралковая рота, дзе я быў тады палітруком. Прыкладна дні за два-тры да гітлераўскага нападу на Савецкі Саюз нас нечакана адклікалі, а ў новыя доты прыйшлі воіны, якіх тут і застала вайна...

Раззлаваныя стойкасцю савецкіх салдат, фашысты спрабавалі падарваць дот толам, аблівалі яго бензінам, пускалі дым і газы. Але ўсё было дарэмна. Жыхары вёсак Навасёлкі і Навінкі бачылі, як у кірунку Гродна ад дота, дзе пяць сутак не спынялася кулямётная і аўтаматная страляніна, выбухі мін і снарадаў, ішлі і ішлі грузавікі і цегачы, нагружаныя забітымі гітлераўцамі.

На шостыя суткі ў абаронцаў скончыліся боепрыпасы. Фашыстам, нарэшце, удалося падпаўзці блізка, падкласці ўзрыўчатку, і страшэннай сілы выбух страсянуў паветра. Жахары навакольных вёсак лічылі, што гэта чырвонаармейцы, адыходзячы, самі падарвалі дот.

На працягу дваццаці год ніхто не ведаў, што адбылося ў доце. Знаходкі хлопцаў з разведвальнай партыі памаглі раскрыць яшчэ адзін подзвіг нашых воінаў. Пачаліся пошукі іх імёнаў.

Знойдзеныя дакументы былі перададзены ў музей абароны Брэсцкай крэпасці. З дапамогай навейшых метадаў даследавання ўдалося ўстанавіць імя аднаго з абаронцаў легендарнага дота — Адыба Хікматулінавіча Харыбава. Эксперты прачыталі таксама, што ён родам з вёскі Будзян, якая знаходзіцца непадалёк ад сталіцы Башкірыі — Уфы.

Следапыты з Сапоцкінскай сярэдняй школы напісалі ліст на радзіму героя і запрасілі сваякоў прыехаць да іх. Неўзабаве ў Сапоцкіна прыехалі бацька і маці Адыба і яго малодшая сястра. Яны наведалі магілу свайго Адыба ў Сапоцкіне, пабылі на месцы гераічнага бою, у старым легендарным доце.

Яны расказалі, што Адыб вучыўся ў школе-дзесяцігодцы, скончыў яе, працаваў настаўнікам. Ён марыў атрымаць вышэйшую адукацыю, але перашкодзіла вайна. Адыб пайшоў абараняць Айчыну, якую любіў горача і шчыра.

Нядаўна ў Сапоцкіне пастаўлены гранітны абеліск з бронзавай фігурай салдата на ім. Залатымі літарамі высечана на граніце пакуль адно з прозвішчаў герояў легендарнага дота:

**Адыб Хікматулінавіч Харыбаў.**

Пошук працягваецца. Імёны ўсіх сваіх герояў павінна ведаць Радзіма.

**Якаў КАЎГАНАЎ.**

**Іван КІРЭЙЧЫК**

# МУЖНАЕ СЭРЦА

## Нарыс

Сонечны зайчык доўга адбіваўся ад расчыненай насцеж форткі і насцярожана краўся да чалавека: спярша па сцяне, потым па падушцы ён то падбягаў да яго, то тут жа напалохана адскокваў назад. Толькі апоўдні, нібы пераканаўшыся, што чалавек не звяртае на яго ўвагі,— ляжыць нерухома, маўчыць у глыбокім задуменні,— зайчык мякка казытнуў яго ля вуха, прайшоў па шчацэ і весела заскакаў па моцна сціснутых губах. Чалавек спрабаваў адмахнуцца рукой, але зайчык так асмялеў, што нават і не думаў уцякаць. І чалавек усміхнуўся.

— А-а, гэта ты, зайчык? Ну, здароў, здароў! — прывітаўся ён, нібы з кім жывым, даўно знаёмым. Як там, што новага чуваць? Табе, браце, добра: адразу паўсвету бачыш, а мне і за акно выглянуць не так проста. Вось, кнігамі абклаўся, газет цэлы стос... Разумееш, браце, пачатак лета, усе людзі ў полі, хто і зайшоў бы, дык няма калі...

Сонечны зайчык наскакаўся, нацешыўся і споўз кудысьці ўніз, а чалавек зноў змоўк, задумаўся. І вось так ужо каторы дзень, каторы год...

Калі прыўстаць на локцях і глядзець за акно, відны залітыя зяленівам паплавы, статкі на іх, людзі ў полі, нават даносіцца пах свежага ворыва, бо вунь, зводдалек, лапоча трактар... За рулём — нерухомая постаць чалавека. Гэта Мікола Шапялевіч. Вунь які палетак за паўдня ўзараў! А шукаў жа некалі чалавек шчасця па свеце, ледзь не ўсю хваленую Амерыку аб'ездзіў, а шчасце чакала дома. Вось яно — праца, зямля, палітая бацькоўскім потам, машына з роднай назвай «Беларусь».

На прыадчыненую фортачку села ластаўка, без усялякай цікаўнасці зазірнула ў хату і залілася такім шчаслівым шчабятаннем, што чалавек адразу, усёй сваёй істотай, памкнуўся да яе. Ластаўка недаверліва зірнула на яго, лёгка ўспырхнула і азвалася ўжо недзе над хатай.

Шчаслівая, крылы мае!

Чалавек думае. Перабірае ў памяці ўсё да драбніц... Чалавек гэты — Яўген Германовіч.

Нядаўна забягаў да яго сакратар калгаснай партарганізацыі Іван Казлекавец. Перакінуліся некалькімі словамі, і Яўген, каб упэўніцца ў сваёй думцы, запытаў:

— Як думаеш, Іване: што было б, каб я падаў заяву ў партыю?

— Я думаю, што прымуць. Адну рэкамендацыю дам я, другую Мікалай Басевіч дасць. А камуністы ведаюць цябе: агітатар, рэдактар насценнай газеты і «баявых лісткоў», ну, і, вядома, павышаеш свой адукацыйны ўзровень...

Са старшынёй Плешчыцкага сельсавета Мікалаем Басевічам размова на гэтую тэму выглядала крыху інакш.

— Ты ж — наш палескі Карчагін! — горача даводзіў Басевіч.— Я ганарыцца буду, калі і па маёй рэкамендацыі ты станеш камуністам.

На мужным, чарнявым твары гарачымі вугольчыкамі загарэліся вочы. Чалавек рашуча прыўстаў на локцях, слабымі, знявечанымі хваробай пальцамі ўчапіўся за край стала, да болю сціснуў зубы, і на даўно падрыхтаваным лістку паперы пабеглі літары:

**«У пярвічную партарганізацыю калгаса імя Максіма Горкага Пінскага раёна ад Германовіча Яўгена Ціханавіча. Прашу пярвічную партыйную арганізацыю прыняць мяне кандыдатам у члены КПСС. З Праграмай і Статутам азнаёміўся і цалкам прымаю».**

Яўген адчуваў, што трэба напісаць яшчэ нешта. Але гэтае «нешта», пра якое тысячы разоў думана і перадумана, аказалася даволі цяжкім. Нарэшце Яўген напісаў: **«Думкі мае, мэта майго жыцця належаць партыі. Хачу быць у яе радах».** Асцярожна паклаў лісток у кнігу «Як гартавалася сталь» М. Астроўскага і схаваў пад падушку.

Па вечарах у хату Яўгена Германовіча збіралася моладзь. Часам прыходзілі з гармонікам, смяяліся, спявалі, заўзята кружыліся ў танцах... Яўген ужо не адчуваў таго болю, які дагэтуль апякаў душу. Хацелася разам з усімі смяяцца, жартаваць, спяваць. Калі ж хата пусцела і ён заставаўся адзін, тады выцягваў з-пад падушкі кнігу, знаходзіў паміж старонак той незвычайны лісток, напісаны ўласнай рукой,— лісток са сваім лёсам, зноў перачытваў яго і хаваў пад падушку.

Прайшло лета, настала восень, і, нарэшце, заява лягла на стол сакратара Івана Казлекаўца.

Той лістападаўскі вечар на ўсё жыццё запомніцца, як самы светлы, самы сонечны. За акном ляпіў мокры снег, стукала ў шыбы голым галлём ліпа, а ў хаце ішла размова. Прыўзняўшыся, Яўген расказваў пра сябе, сціпла, лаканічна, а людзі, што запоўнілі хату, уважліва слухалі яго. Многіх Яўген бачыў упершыню, бо сабраліся яны з сямі вёсак. Пра яго гаварылі Іван Казлекавец, Мікола Басевіч, загадчык жывёлагадоўчай фермы Міхась Латынчык, гаварылі і незнаёмыя. А калі на пытанне: «Хто яшчэ выступіць?» хтосьці адказаў: «Ёсць прапанова: прыняць» і рукі пацягнуліся ўгару, шчасце запоўніла ўсяго яго, яму здавалася, што ўсіх гэтых людзей ён калісьці ўжо бачыў, размаўляў з імі...

Разышліся далёка за поўнач. А Яўген яшчэ доўга ніяк не мог дапытацца ў сябе, калі ён бачыў гэтых людзей, і быў пераконаны, што ўсе яны даўно знаёмыя яму і адна ў яго дарога з імі...

* * *

Быў ліпень 1944 года... На ўсходзе гула зямля ад гарматных стрэлаў, на небасхіле не гаслі водбліскі далёкіх пажараў, а тут, у Кнубаве, яшчэ лютавалі гітлераўцы. Надвячоркам яны выгналі на дарогу ўсю вёску: нават і тых, хто паспеў схавацца ў балотах, знайшлі і прывялі.



— У Нямеччыну пагоняць...— трывожна шапталіся ў калоне.

У вёсцы Статычаве застала ноч. Тут і спыніліся. Не спала сям'я Германовічаў. Бацька разведаў, што ад Прыпяці няма варты. Рашылі пераплысці на той бераг.

Па навакольных шляхах цэлымі начамі гаманіў неспакойны рух. То набліжалася, то зноў аддалялася страляніна, вохкалі цяжкія снарады. А Германовічы знайшлі сабе сховішча сярод дрыгвы, сядзелі, стаіўшы дыханне. І толькі на трэція суткі, калі збольшага супакоілася наваколле, яны, змучаныя, скусаныя камарамі і машкарой, мокрыя і галодныя, асцярожна выйшлі з балота і пабрылі да сваёй сядзібы. Замест хаты ўбачылі голы комін, які жудасна тырчаў, як помнік на могілках, ды вакол яго тлелі чорныя галавешкі.

Зямлянка стала адзіным прытулкам, клінок бульбы ды палоска стаптанага чужымі ботамі жыта — надзеяй на жыццё. Макрата, холад і голад... Жэня не выстаяў перад імі.

Праз год, калі зямля святкавала Перамогу над фашысцкай Германіяй, Жэня не здолеў ужо выбегчы на запылены шлях за вёску, каб сустрэць з вайны блізкіх, знаёмых.

— Поліяміэліт,— агледзеўшы хворага, каротка і сурова сказаў доктар.

Рыпяць даўно нямазаныя колы, сухі і жвірысты пясок трашчыць пад шынамі, мерна пакалыхваецца фурманка. Перад вачыма нерухомае блакітнае неба, трапечуць крыльцамі жаўрукі і звіняць, звіняць... Маці падганяе ламачынай гультаяватага каня. А Жэня маўчыць, маўчыць зацята, ад самага Пінска. І толькі калі конь забухкаў капытамі па масце, ён нібы прачнуўся, неспакойна заварушыўся, загаварыў:

— Мама, ну навошта ты павязеш мяне дадому? Каму я такі патрэбен? Скінь мяне ў Прыпяць. Бачыш жа, сам я не магу...

* * *

Пад акном хуценька пратупацелі босыя ногі, бразнула клямка, і парог пераступіў суседскі хлапчук. Ён прашлёпаў да століка, што стаяў пры ложку, паклаў на яго пакуначак.

— Настаўнікі прыслалі, — сказаў ён і адышоўся, прысеў ля сцяны насупраць, моўчкі стрыгучы па хаце цікаўнымі вачанятамі.

Жэня асцярожна разгарнуў пакунак — кніга. На вокладцы — юнак у будзёнаўцы і загаловак: «Як гартавалася сталь».

Жэня ў той час чытаў усё, што пад руку трапляла. Але ад гэтай кнігі павеяла нечым асаблівым, і першыя яе старонкі захапілі вельмі.

Хлапчук пасядзеў яшчэ хвілін некалькі і заспяшаўся:

— То я пайду ўжо...

— А-а... Ну, дзякуй, дзякуй табе. І настаўнікам вялікае дзякуй перадай, — папрасіў Жэня хлапчука.

У той дзень з кнігай ён не расставаўся. Так і не патухла да самай раніцы газоўка. Кніга была прачытана, яна ляжала побач, а хлопец думаў, і самі губы шапталі: «Здолей жыць і тады, калі жыццё становіцца невыносным. Зрабі яго карысным».

Стаяла яшчэ не позняя восень, але дзесьці ў блакітным небе трубілі жураўлі. У агародчыку ля хаты, прыхопленае першымі замаразкамі, трывожна шапацела лісце. У такую пару чамусьці заўсёды прыходзіць самота, і маці далёка не адлучалася з хаты, часцей заглядвала к сыну. І бачыла, што ў ім нешта перамянілася: весела свяціліся вочы, весела размаўляў, і

нельга было не заўважыць, што парываецца ён нешта сказаць, але пакуль не рашаецца.

За вячэрай, калі ўсе былі дома, Яўген паклаў на стол лыжку і нібы сам сабе сказаў:

— Вучыцца мне неяк трэба...

Бацька прамаўчаў, а маці запытала:

— А як жа ты, сынок, хадзіць у школу будзеш? — і адвяла ўбок вочы.

А Жэня нібы толькі і чакаў гэтага пытання.

— Што-небудзь прыдумаем, мама. Сам буду вучыцца. Я вось тут прачытаў: таксама чалавек хадзіць не мог, а нават сам кніжкі пісаў.— І горача пачаў расказваць пра незвычайнага Паўку Карчагіна, які ўсё перамог і які так здорава сказаў пра жыццё.

Для Жэні дасталі ўсё — і кнігі, і сшыткі, і нават дзённік. Ён дамовіўся з вучнямі Плешчыцкай школы, што тыя пасля заняткаў будуць забягаць да яго. Запісваў у свой дзённік заданні на дом, распытваў, што было ў школе, і, калі заставаўся адзін, браўся за ўрокі. Назаўтра пад вечар заходзілі вучні, зноў Жэня запісваў заданні, а пасля правяраў, ці правільна рашыў задачы, выканаў практыкаванні па мове. Заўсёды атрымоўвалася правільна, і кожны раз у хаце панавалі хвіліны добрай радасці.

А неўзабаве і перад школай пачалі забягаць да Яўгена хлопцы. Яны ніякавата пераступалі з нагі на нагу, пасля пыталі:

— Ты рашыў, Жэня?

— Рашыў. А што?

— У нас нешта не выходзіць.

І Жэня пачынаў тлумачыць.

Так прайшла восень, праляцела зіма, настала вясна. Рыхтаваўся і Жэня да экзаменаў — настаўнікі Плешчыцкай школы згадзіліся прыняць у яго за сем класаў экстэрнам...

Ля яго ложка — амаль усе настаўнікі са школы. Жэня выцягвае білет за білетам: па літаратуры, па гісторыі, па матэматыцы. Адказвае на ўсе. Пасля кожнага адказу святлеюць твары ў настаўнікаў, яны згодна ківаюць галовамі, а Жэня становіцца ўсё больш упэўнены. Праўда, на матэматыцы аж спацеў: як пачала Антаніна Сідараўна сыпаць пытанні, дык ледзь паспяваў адказваць. Нарэшце яна добра, па-сяброўску ўсміхнулася і сказала ціха, вінавата:

— Прабач, Жэня, я ўжо дзеля цікавасці задавала гэтыя пытанні. — І да настаўнікаў: — Вось вам, таварышы, і ў школу хлопец не хадзіў!..

Гэта было ў 1952 годзе. Не раз яшчэ пасля таго ў хату Германовічаў заходзілі экзаменацыйныя камісіі, бо ў 1955 годзе Яўген закончыў Пінскую завочную сярэднюю школу, у 1957 — завочны Мінскі фінансавы тэхнікум. І ўсё — на выдатна. А праз год — зноў вучоба. На гэты раз Яўген быў залічаны слухачом Цэнтральных завочных курсаў замежных моваў на англійскае аддзяленне.

— Чаму? — пыталі ў яго здзіўленыя сябрукі.— Ты ж нямецкую вучыў у школе, а цяпер — за англійскую...

— Дык так цяжэй будзе, — адказваў Яўген.

— А няўжо з цябе яшчэ мала тых цяжкасцей?..

А Яўген смяяўся.

— Дзівакі вы, хлопцы, — кожны раз гаварыў ён і пачынаў даказваць. — Гэта ж цудоўна, гэта ж здорава, калі цяжка! Калі цяжка — значыць, ёсць змаганне, калі змаганне — значыць, павінен перамагчы, а перамога — найвялікшае шчасце!..

Гэта гаварыў ужо мужны чалавек.

У той час праўленне калгаса «Шлях заможнага жыцця» часова размяшчалася ў хаце ў Германовічаў, і Яўген працаваў рахункаводам. І па сённяшні дзень ён не пакідае працы. Гэта — днём. Ночы ж ідуць на вучобу.

Неяк піянеры з Пінска прыслалі Яўгену бібліятэчку з дваццаці кніг. Ды сваіх было дзесяткаў пяць.

«А што, — падумаў Яўген, — каб стварыць бібліятэку? Да плешчыцкай тры вярсты, а тут — на месцы».

Даведаліся пра гэта ў сельскай бібліятэцы і прыслалі яшчэ сто дваццаць кніг. І вось ужо новая думка турбавала Яўгена: «У мяне застаецца шмат часу, пад рукой усе калгасныя навіны, — магу ж я выпускаць калгасную насценную газету і «баявыя лісткі»...

Аднойчы ўбачыў Яўген, як напрасткі лугам ішоў чалавек з хлапчуком. Ішлі яны, не спяшаючыся, часта спыняліся, размаўлялі пра нешта. Бесклапотныя пешаходы падыходзілі ўсё бліжэй, і Яўген не спускаў з іх вачэй, спрабуючы адгадаць, хто ж такія. Дарослы быў у светлым касцюме, у капелюшы, пры гальштуку. І вось яны пераступілі парог яго хаты, спыніліся.

— Ух, якая ў вас тут экзотыка! — перш чым прывітацца, усклікнуў малады мужчына, неяк адразу нарабіўшы вясёлага шуму ў хаце.

— Ды гэтага ў нас не пазычаць, — усміхнуўся насустрач Яўген.

— Дзень добры, — нарэшце працягнуў руку старэйшы. — Я — Яўген Маслыка.

— Яўген Маслыка? — гэта было так нечакана, што Жэня спачатку не знайшоў нічога іншага, як толькі здзіўлена перапытаць.

— Як кажуць, ён самы, — зноў засмяяўся госць. — Вось, здаў дзяржаўныя экзамены — і з пляменнікам адразу да цябе.

— Здароў, цёзка! — амаль закрычаў Яўген, але госць жэстам рукі спыніў яго:

— Пачакай, пачакай. Не ўсё адразу. Гэта вось табе ад нашых дзяўчат мінскіх, — і ён паставіў на стол вазу з кветкамі.

Яўген жыва ўявіў, як берaглі ў тралейбусе кветкі дзяўчаты, як гэты хлопец — Яўген Маслыка, з кім так даўно знаёмы, з кім раздзелена столькі запаветнага і з кім нават і не спадзяваўся калі-небудзь сустрэцца, ляцеў з імі ў самалёце, потым вёз у аўтобусе, нарэшце кіламетры чатыры, ад шашы, нёс пешшу...

Тым часам Маслыка ўжо горача расказваў пра інстытуцкія навіны, не даючы апамятацца, наступаў з роспытамі пра яго, Яўгенава жыццё-быццё.

У той ліпнёвы дзень яны ніяк не маглі нагаварыцца. Яўгена Маслыку, былога камсамольскага сакратара Мінскага інстытута замежных моваў, Яўген ведаў яшчэ тады, калі толькі збіраўся вывучаць замежную мову. Калі ж паступіў на англійскае аддзяленне Цэнтральных завочных курсаў, перапіска наладзілася самая шчырая, нарадзілася моцная дружба. І Яўген Маслыка не мог не сустрэцца са сваім мужным сябруком, якому памагаў і ў якога сам вучыўся.

Колькі ж іх такіх, у Яўгена? Многа? Не, нават больш, чым многа. Але кожная такая сустрэча помнілася, як самая непаўторная, і пра кожную з іх, нават самую даўнюю, ён можа расказваць, нібыта адбылася яна сёння ці ўчора.

Не так даўно ў госці да яго прыязджала група культасветработнікаў Столінскага і Лунінецкага раёнаў. Яны дзяліліся вопытам работы, распытвалі пра ўсё яго самога, шчыра павіншавалі з вялікай узнагародай — значком Міністэрства культуры СССР за выдатную работу.

А ўслед за імі прыязджалі да Яўгена пінскія кінамеханікі, паказвалі ў хаце кінафільм пра касманаўтаў.

Рэдка калі пустуе ў Яўгена хата. Кожны, хто заходзіць сюды, — ці то за дапамогай, ці са сваімі паслугамі, а то і проста так, — кожны добра разумее, як спявае ў такія хвіліны сэрца чалавека, прыкаванага да ложка. У гэтай хаце праведзена шмат камсамольскіх сходаў, а вечарамі пералівістыя гукі гармоніка вельмі часта склікаюць сюды моладзь на вечарынкі.

І так проста, цікава пабыць побач з Яўгенам: расказвае ён — заслухаешся, жартуе — за жывот возьмешся ад смеху...

Бывае, што па дарозе хоць на хвілінку забягуць камсамольцы-райкомаўцы, журналісты Сямён Шапіра і Уладзімір Байда, бібліятэкары Фаіна Нагібава, Ганна Зайцава і многія іншыя. І разам з добрай навіной то кнігі новыя прынясуць, то свежыя батарэі да радыёпрыёмніка, то яшчэ што прыдумаюць. Нядаўна нават раздабылі Яўгену транзістарны радыёпрыёмнік «Спідолу» і пішучую машынку. Галоўнае ж — пасядзець, пасяброўску пагутарыць.

У Яўгена кнігамі застаўлены ўсе сцены. У грамадскую бібліятэку, якую стварыў і якой загадвае Яўген, з усіх куткоў рэспублікі прысылаюць кнігі вучні і студэнты, шлюць кнігі з Акадэміі навук БССР, з абласной бібліятэкі, з раённай.

Мінулым летам лячыўся Яўген у Брэсце. Таксама не з пустымі рукамі прыехаў: работнікі бібліятэкі падарылі звыш чатырохсот кніг...

Ёсць і яшчэ ў Яўгена Германовіча добрыя сябры — пісьмы. Не, гэта не проста пісьмы, гэта прыходзяць да яго прыгожыя, цудоўныя людзі, якія раяць, падбадзёрваюць, памагаюць, самі просяць парады і дапамогі. Розныя почыркі, такія ж розныя і людзі паўстаюць за імі.

**«Масква, музей-кватэра М. Астроўскага.**

**Дарагі Яўген Ціханавіч!**

Віншуем Вас са святам 1-га Мая. Жадаем Вам цудоўнага настрою, як найбольш вясны ў сэрцы, радасці ў працы і добрага здароўя.

**Па даручэнню супрацоўнікаў музея Г. Літвінава».**

А гэта пішуць вучні:

**«Добры дзень, глыбокапаважаны Яўген Ціханавіч!**

Вам пішуць вучні 6 «Б» класа з пагранічнага горада Брэста. Мы многае ведаем пра Ваша мужнае жыццё. Але хочам ведаць яшчэ больш, таму мы вельмі жадаем з Вамі весці перапіску.

Ваша жыццё — гэта подзвіг. Мы зайздросцім Вашай мужнасці, сіле волі, розуму. Мы вельмі будзем удзячны, калі Вы больш падрабязна напішаце нам пра сваё жыццё.

У знак нашай глыбокай павагі да Вас мы высылаем для Вас і Вашых чытачоў невялічкую бібліятэку мастацкай літаратуры.

Пішыце, калі ласка, аб сваіх поспехах, аб тым, як здалі экзаменацыйную сесію.

**З павагай да Вас — вучні 6 «Б» класа».**

Сярод шматлікіх паштовак, рознакаляровых канвертаў — пісьмо пенсіянеркі з Пінска Г. А. Зайцавай:

**«Дарагі Жэня!**

На старонках «Палескай праўды» любавалася Вашым фота з выпадку здачы Вамі экзаменаў.

Віншую яшчэ з адной перамогай. Па-добраму зайздрошчу. А я такая хворая, нічога рабіць не хочацца. А трэба, бо спраў многа, і ніводная не церпіць адкладу.

Атрымала, Жэня, Ваша пісьмо. Дзякую. Прыгожы Вы чалавек, наш палескі. Карчагін. І як гэта хораша, што на свеце ёсць такія светлыя людзі, перад якімі сорамна часта бывае за сваё маладушша.

Хочацца мне Вас папрасіць: вядзіце дзённік свайго жыцця, думак і пачуццяў. Ён спатрэбіцца людзям.

Не сумуйце. Вышэй галаву! Збіраемся заявіцца, пераведаць.

Будзьце шчаслівы».

За плячыма ў Ганны Абрамаўны Зайцавай — нялёгкая жыццёвая дарога. У свой час яна крочыла па самых гарачых слядах Савецкай улады



на Палессі, як карэспандэнт рэспубліканскай газеты, прымала самы актыўны ўдзел у стварэнні «Палескай праўды», потым яна — пенсіянерка, загадчыца Пінскай раённай бібліятэкі.

Пісьмы, пісьмы... Іх — сотні. І ці патрэбны да іх яшчэ нейкія там каментарыі. За кожным — людскі лёс! Прачытаеш любое — і ўбачыш адразу, з чым ішлі людзі да чалавека карчагінскай волі, як патрэбен ім ён.

А гэта пісьмо з Чарнігаўскай вобласці, з вёскі Камароўка:

**«Добры дзень, дарагі Яўген Германовіч!**

У Вас сапраўды карчагінскі характар. Таму і пішу Вам пра сябе.

Яўген Ціханавіч! У мяне таксама хвароба цяжкая. Аднак характар у мяне не настойлівы. Вучыцца пачала завочна — кінула, як далей быць — сама не ведаю. Жыву з мамай, бацька загінуў на фронце. У дзяцінстве навучыла мяне маці шыць на швейнай машыне. У матэрыяльных сродках патрэбы не маю. Але зразумейце: мне так часам бывае цяжка са сваімі думкамі, што хочацца з кім-небудзь падзяліцца, а сяброўкі не заўсёды разумеюць мяне. У іх жа зусім іншыя думкі — пра школу, пра тое, як яны паедуць вучыцца ў горад і якое там будзе ў іх вясёлае жыццё.

Мне таксама хочацца паступіць вучыцца, хаця б на якія курсы па швейнай справе. Але зноў жа гэты мой пракляты характар... Няма ніякай настойлівасці ў мяне.

Дома ў мяне работы многа, але мне сорамна за тое, што ўсе людзі працуюць для будучыні нашай Радзімы, а я — толькі для сябе.

Спагады я не шукаю, аднак мне вельмі патрэбна Ваша парада.

Жадаю Вам самага найлепшага ў жыцці, рабоце.

З прывітаннем

**Оля Каваль».**

Немагчыма тут прывесці ўсе тыя пісьмы, якія паслаў у далёкі шлях да сваіх сяброў Яўген Германовіч. Пра гэта найлепш раскажа вось гэтае пісьмо. Я яго знайшоў у пінскага журналіста Сымона Шапіры.

**«Мілы Сымоне!**

Дзякую табе за пісьмо.

Само сабой зразумела: артыкулы твае чытаю рэгулярна. І радуюся. Расцеш.

У мяне ўсё па-ранейшаму. За паўгоддзе ў грамадскай бібліятэцы 192 чытачы. Выдана 1785 кніг і часопісаў. Вынікі былі б намнога лепшыя, каб кніг было больш.

Што яшчэ? Дастаў цудоўныя дарожныя шахматы. Гэта для аналізу. Назначылі мяне старастам турніру. Бач, карабель гэты развальваўся. Пастараюся выратаваць.

Пра экзамены ты ведаеш: «пяць» і «чатыры» (апошняя толькі адна).

Толькі што атрымаў пісьмо ад Зіны Лешчанкі з вёскі Адамава Слуцкага раёна. Яна інвалід, канчае сёлета завочна васьмігодку, марыць пра фінансавы тэхнікум. Нядаўна выдалі ёй мотакаляску. Цудоўная дзяўчына!..

Што пішу знаёмым? Рознае. Але менш за ўсё пра сябе. Як магу, імкнуся падтрымаць, падбадзёрыць (каго патрэбна), паказаць мэту жыцця (здараецца, у некаторых няма яе), практычна параіць, што рабіць, каб быць карысным Радзіме, бачыць радасць працы.

Вось, скажам, хлопчык з Ленінграда Мікалай Сідоркін. Замаркоціўся. Параіў яму вучыцца ў завочнай школе. За зіму ён скончыў пяты клас, за лета збіраецца падрыхтавацца і здаць за шосты.

Да сустрэчы, родны.

**Яўген Германовіч».**

* * *

Бяда, яна такая: за каго ўчэпіцца — не адкараскацца. У адзіночку яна не ходзіць. Уварвалася, як заўсёды, нечакана: памёр Яўгенаў бацька, літаральна праз некалькі дзён не стала і маці. Яўген застаўся ў сваёй хаце толькі з сястрой.

Як быць далей? Прасцей за ўсё было б папрасіцца ў дом інвалідаў. Гэта азначала — спыніцца на паўдарозе. А вучоба, мары?

Цяжкія думкі — яны тады, калі адзін. Але Яўген адзін не заставаўся, хата і ў гэтыя дні не пуставала. І першымі прыйшлі да яго калгасныя камуністы. Яны не супакойвалі, не ўгаворвалі, а сказалі прама:

— Ты камуніст і выкінь з галавы, што будзеш лішнім для каго-небудзь. Што трэба — паможам.

А пісьмы, як і раней, прыходзілі з многіх куткоў краіны. І аднекуль прыплыло гэтае ў жоўтым канверце:

**«Паважаны Яўген Ціханавіч!**

Разам з многімі іншымі прыміце і гэтае дзіўнае пасланне, таму што такіх пісем Вы яшчэ не атрымоўвалі.

Я даведаўся пра Ваш нялёгкі лёс з газеты, у рэдакцыю якой Вы напісалі пісьмо, выказаўшы сваё патрыятычнае пачуццё працаваць на карысць Радзіме. Усё гэта добра...

Вы, Яўген, чалавек партыйны, хаця і малады, я ж... веруючы, крыху старэйшы за Вас. З усяго відаць, што Карчагін пакінуў свой максімальны ўплыў на Вас. Вы ва ўсім хочаце быць падобны на яго — таксама нядрэнна,— але гэта толькі адзін бок жыццёвага пытання — жыць для людзей: другі ж бок — жыць для Бога...»

Бедны служка божы, у якія толькі крайнасці ён не кідаўся: і павучаў, і ўгаворваў, лістом слаўся, курыў фіміям, і да «сумлення» заклікаў, і страшным судом палохаў,— і як жа ў канцы па-сабачы трусліва падціяў хвост...

А побач ляжала яшчэ адно пісьмо.

Гэта пісалі васьмікласнікі Славянскай сярэдняй школы з Днепрапятроўшчыны.

Яўген доўга круціў у руках гэтыя пісьмы. І чамусьці выразна паўставалі перад ім і тыя светлавалосыя хлопчыкі і дзяўчынкі, што на ўкраінскай мове старанна выводзілі шчырыя словы, і той святы пакутнік, што дрыжаў і перад замагільным светам, і па гэтым ходзіць, як па вуголлі, баючыся, каб дзе не апячыся.

«Якая ж бездань пралягла паміж імі!» — з горыччу падумаў Яўген, зноў прабягаючы вачыма па радках.

Спярша ўзнікла такое пачуццё, нібыта чалавек топіцца і робіць апошнія намаганні за штосьці ўхапіцца. Потым рысы яго ўсплылі яшчэ больш выразна: топіцца і імкнецца пацягнуць на дно кожнага, за каго толькі ўчэпіцца... І ўрэшце Яўгена нібы ўдарылі: ды ён жа даўно ўжо ведае яго! О не, гэта не тая «авечка блудная», нявінная — гэта вопытны драпежнік, і позірк яго, як у каршуна, пранізлівы. Ён не раз ужо заходзіў і ў хату, спадцішка вёў разведку, але кожны раз спатыкаўся і адкрыта гаварыць не адважваўся. Але ён ведае, як і дзе падпільнаваць сваю ахвяру.

Было жаданне сесці і тут жа напісаць водпаведзь прапаведніку. Але на канверце, акрамя штэмпеля «Мінск», ні слова. Хоць Яўген добра ведаў: пісьмо пісалася недзе тут, непадалёку. І прыблізна ён мог нават назваць тыя хаты, з якіх яно было адпраўлена. Мінскі штэмпель — для адводу вачэй, напамінак пра пісьмо ў рэдакцыю — таксама, бо тое было даўно. Прыём, вядома, стары. Але спрактыкаваліся, набілі на ім руку «служкі боскія» і, на жаль, часам падкочваюцца не без карысці для сябе...

Неяк неўзабаве пасля таго заскочыў да Яўгена Сымон Шапіра, з магнітафонам рэпарцёрскім.

— А, гэта ты, Сымоне, ідэю прынёс! — аж узрадаваўся Яўген. — Тут вось мне пасланне ёсць, ад «братоў» і «сясцёр». А як адказаць ім — не прыдумаю: адрас свой «забылі» напісаць. Давай я ім па радыё, га?

І адказ ананіму-прапаведніку прагучаў па рэспубліканскім радыё:

«Многа ў мяне сяброў, шмат ад іх прыходзіць пісьмаў. Адны, што пішуць, працягваюць руку на дружбу, другія добрым словам імкнуцца раздзяліць са мной мае непрыемнасці, трэція самі просяць парады, дапамогі. Як там ні было б, а пасля кожнага такога пісьма ў мяне з'яўляецца шчыры сябрук ці сяброўка. І толькі на адно дагэтуль я не мог адказаць — ні імя, ні адрасу не было. А ў мяне стала за правіла — на пісьмы адказваць адразу. Тым больш — на гэтае, у якім столькі апякунства над маім лёсам.

Так, сапраўды пасланне ваша дзіўнае, і такіх пісьмаў я яшчэ не атрымоўваў. Вы непакоіліся, што я яго не прачытаю. Не, я прачытаў. Забягаючы наперад, скажу, што і Біблію я чытаў. Праўда, раней.

Спярша пра тое, дзеля каго жыць варта: дзеля людзей ці дзеля бога?

Прывяду адзін толькі прыклад.

Я жыў на хутары. Самі разумееце, у маім становішчы бываць у горадзе не так часта выпадае, тым больш немагчыма пахадзіць па магазінах, каб набыць па густу вопратку, свежыя прадукты. У вясковай жа краме выбар, асабліва як для мяне, не такі ўжо і багаты. І вось аднойчы ранняй вясной пад'ехала да хаты легкавая аўтамашына. Гэта былі пінскія дзяўчаты з магазіна № 8 Зіна Агафонава, Аляксандра Полазава, Аня Грабеншчыкава і Тася Пракуда, якіх дагэтуль я не ведаў. Яны самі прывезлі мне круп, мукі, тлушчаў і свежай гародніны. Я і цяпер не ведаю, дзе змаглі дастаць яны тую гародніну ў такую пару. З таго часу не праходзіла месяца, каб не наведаліся дзяўчаты да мяне. Часам здараецца, што распусціш перад тым грошы, і дзяўчаты без лішняга слова згаджаюцца пачакаць. А неяк у самае разводдзе, калі машына не магла збочыць з шашы, дзяўчаты прынеслі мне пакункі пешшу. Заўважылі яны, што частка кніг не ўмяшчаецца на стэлажах — і, таксама па сваёй добрай ахвоце, прывезлі мне цудоўную шафу.

А цяпер — пра бога.

Не ўтаю, сям'я наша была рэлігійная, хоць царкоўных прадпісанняў не прытрымлівалася. Не ведаю, чым гэта было выклікана, але памятаю, як некалі гаварыў дзед: «Поп моліцца дзеля сваёй кішэні». Я ж тады (а гэта было пры панскай Польшчы) хадзіў у школу, дзе божы закон выкладаўся з асаблівым стараннем, і верыў у бога.

І вось здарылася са мной бяда. Спачатку, калі не было сяброў, мне было вельмі цяжка, і я звяртаўся да бога, маліўся, прасіў у яго літасці. Але ён да мяне не прыходзіў, не чуў мяне. Аднойчы я не вытрымаў і закрычаў у роспачы: «Божа, за што ж ты мне паслаў хваробу? Што я, хлапчук, зрабіў табе, што ты такі несправядлівы? Ці цябе і зусім няма?» Гэта быў адчай, і я чакаў, што пасля таго загрукоча гром і ўсё будзе скончана адным узмахам божай рукі. Але і гэтага не здарылася.

Вы ўгаворваеце, каб я не верыў дактарам. Не, ім то я веру, гэтак жа веру, як і сваім сябрам. Толькі летась я двойчы лячыўся ў Пінску і двойчы ў Брэсце. Напрыклад, апошні раз у Брэст мяне нават самалётам вазілі. Так што пасля ўсяго гэтага цяпер я адчуваю сябе прама-такі здорава. А што датычыцца духоўнай хваробы... Ведаеце, скажу вам адкрыта: мне вельмі шкада вас, што вы памёрлі задоўга да таго, як вас пахаваюць. Прабачце, аднак, самі ведаеце, што бывае, калі чалавек памёр, але не пахаваны...

Калі з чым не згодны пішыце, заходзьце. Толькі не хавайцеся, называйце сябе!..»

Недзе праз месяц пасля гэтага заходзіць у хату дзяўчына, худзенькая, падобная на падлетка. Толькі вочы дзіўныя: глыбокія, аксамітныя.

Яўген з вострай цікавасцю глядзеў у твар незнаёмкі.

А дзяўчына тым часам прывіталася і нечакана сказала:

— А ведаеце, я вас памятаю.— І дадала: — Гэта было даўно, у дзяцінстве...

Яўгену таксама падказала памяць: так, даўно, у дзяцінстве. Яны былі амаль аднагодкі. Прыгадвалася, як маленькая сектантка-адвентыстка з Пінска Люба Германовіч рэгулярна прыходзіла з маці і сястрой маліцца ў Кнубава. Так, Яўген помніць гэта.

І палілася нетаропкая гаворка...

Люба Германовіч усё сваё жыццё верыла ў бога, думала, што будзе ў раі. Фанатычка-маці прымушала яе і старэйшую сястру Ліду хадзіць на малебны ў вёскі Паршавічы і Кнубава, дзе былі звілі свае гнёзды сектанты.

— Ну, і да чаго ўсё гэта прывяло? — запытаў Яўген, яшчэ не разумеючы, з чым да яго прыйшла дзяўчына.

— Да чаго? — перапытала Люба. Яна паправіла хустку-кашміроўку, задумалася і пачала гаварыць так, нібы ўсё гэта стаяла ў яе перад вачыма. — Вось так, — правяла яна рукой, — у кутку пакоя ляжыць маці. Пяты год ужо, як не ўстае з пасцелі. Вельмі хворая: малітвамі і бяссонніцамі давяла сябе да страшнага знясілення. Сястра Ліда дайшла да бяспамяцтва, некалькі гадоў была ў доме псіхічна хворых. Таксама малітвамі давяла сябе да гэтага... Начамі яны крычаць удваіх і плачуць, усё здаецца ім, што страшны суд ідзе.

— А як жа вы? — запытаў Яўген.

Усміхнулася Люба і сказала зусім нечакана:

— Я слухала, як вы выступалі па радыё. — І заспяшалася, нібы хтосьці мог яе спыніць: — Тады ў мяне нейкі пералом адбыўся. Я і да гэтага шмат думала. Адважыцца не магла. А вось паслухала і адважылася... Некалі хацела вучыцца, але маці толькі чатыры класы дазволіла скончыць. Каб чытаць умела святое пісанне. Мне хацелася працаваць сярод людзей, жыць іх радасцямі. Але мне дазвалялі працаваць толькі там, дзе б не давялося працай паганіць святы дзень — суботу. Так патрабавалі адвентысты. І я, поўная здароўя, маладая, была вартаўніком.

— Ведаеце, — зноў загарэліся вочы дзяўчыны, — паслухала я вас і больш не пайшла ў малітоўны дом.

— Што, так лёгка і адпусцілі адвентысты? — не паверыў Яўген.

— Ого, адпусцілі! — хмыкнула Люба. — Кожны дзень прыбягалі. Адны пакутліва ўздыхалі, гаварылі: «Як ты пасмела бога вырачыся?» Другія крычалі: «Вярніся!» Ну, а трэція і цяпер, як стрэнуцца, усё пагражаюць страшным судом на тым свеце. Ат, хай палохаюць. Не баюся!..

І яшчэ Люба пахвалілася:

— Ёсць у мяне сяброўка добрая — Маня Кібук. Кніжкі чытаем разам, у кіно ходзім, на маладзёжныя вечары. — І запытала: — Вы ведаеце такія словы: «Лишь тот достоин жизни и свободы, кто каждый день за них идет на бой»?

— Чаму ж не ведаю! — адказаў Яўген. — Гэта словы гётэўскага Фауста.

— Глядзі ты! — шчыра здзівілася Люба. — Цяпер яны ўжо, як і мае.

Потым яшчэ доўга Люба расказвала пра сябе. Разглядаючы граматы, якімі ўзнагароджвалі Яўгена, яна пахвалілася, што цяпер і ў яе ёсць грамата.

Яны развіталіся сябрамі.

* * *

Неяк я атрымаў ад Яўгена кароценькае пісьмо. «Віншуй мяне, — пісаў ён. — Цэнтральныя курсы — на выдатна». А ўслед за гэтым — яшчэ адно. І зноў: «Віншуй мяне. Паступіў на завочнае аддзяленне Мінскага інстытута замежных моваў. Вывучаю нямецкую. Хутка займуся перакладчыцкай справай. Трэба наладзіць сувязь з выдавецтвам. Усё астатняе — норма».

І мне зноў прыгадаліся словы, якія некалі я чуў ад Яўгена: «Колькі ведаеш ты моваў — столькі разоў ты чалавек», і зноўку паўстала перад вачыма тая зімовая сцяжынка, якая жыла, якая была мацней за мяцеліцу...

І зусім нядаўна новае пісьмо. У ім толькі некалькі слоў: «Я выкладчык індустрыяльна-педагагічнага тэхнікума ў Пінску. Ты можаш зразумець, што гэта такое?!»

Я разумею. І я бачу перад сабой новыя сцежкі, па якіх панясуць людзі багацце Яўгенавай душы.

# І АДЧЫНІЛІСЯ ДЗВЕРЫ ШЧАСЦЯ...

**Фотарэпартаж Валянціна Ждановіча**

Мне ўспамінаецца. У маленькім пакойчыку ЗАГСа святло адзінага акенца загарадзіла постаць рэгістратара. Мабыць, разоў дваццаць распісваліся ў розных кнігах, потым ён прамармытаў казённае віншаванне, і мы сталі мужам і жонкай. Сябры нас павіншавалі толькі на вуліцы.

Мы тады зайздросцілі ленінградцам і масквічам, якія мелі ўжо цудоўныя Палацы шлюбаў.

А цяпер і ў мінчан свой Дом шлюбаў. Ён па Камуністычнай вуліцы, побач з будынкам тэлецэнтра.

Вялізныя вокны глядзяцца ў Свіслач. Кожны дзень тут уступаюць у шлюб дзесяткі маладых мінчан. Асабліва мнагалюдна ў гэтым доме ў суботу і нядзелю. Мора святла сустракае маладых, калі яны пераступаюць парог шчасця. Цырымонія шлюбу стала сапраўды святочнай і ўрачыстай. Цудоўнаму настрою памагаюць і прыгожы інтэр'ер, і шампанскае, якім частуюцца госці ў спецыяльнай зале.

Я пабываў з фотаапаратам на многіх шлюбах. Пабачыў мноства шчаслівых твараў.



Незвычайная чарга: падаюць заявы на шлюб!



А дзе ж тыя маладыя бавяцца?



Морам святла сустракае маладых Дом шлюбаў.



Вось-вось адчыняцца дзверы шчасця...



А тым часам ідзе клопат пра шампанскае.

Усё вышай, і вышай, і... Як належыць сапраўдным мужчынам.







А ў жанчын па традыцыі... слёзы.

Але ўсё гэта да першага вясельнага тосту. Кахання вам, шчасця і згоды!



## У НАСТУПНЫХ НУМАРАХ:

Вершы Рыгора Барадуліна, Анатоля Вярцінскага, Яўгена Крупенькі, Марка Смагаровіча.

Інтэрв'ю з Іванам Мележам.

Дзённік матроса Віталя Луцэнкі «Праз тры акіяны».

# НЯВОЛЬНІКІ «ВОЛЬНАГА СВЕТУ»

### З блакнота пісьменніка

У наш час падарожнічаць не цяжка. Развітаўшыся з Мінскам, праз дзве гадзіны я быў у Маскве, а яшчэ праз чатыры ўжо ехаў па вуліцах Бруселя.

Вылецелі мы з Масквы а 13-й гадзіне па маскоўскаму часу, ляцелі тры гадзіны 20 хвілін на ТУ-104, а прыляцелі ў Брусель — было 14 гадзін па мясцоваму часу. Такім чынам я выйграў дзве гадзіны. Але калі лічыць час па гадзінніку гісторыі, то я вярнуўся ў той дзень амаль на пяць дзесяткаў год назад. Чаму? Зараз даведаецеся.

Едзем мы па Бруселі. З намі ў машыне маладая жанчына, актывістка таварыства «Бельгія — СССР» Жанін. Яна гэтак спакойна гаворыць:

— А ў гэтым палацы жыве кароль...

І я думаю: у нас цара скінулі ў 1917 годзе. А вось тут жывы кароль ходзіць па пакоях палаца.

Ля палаца стаіць салдат. Час ад часу ён ускідвае вінтоўку на плячо і цырыманіяльным крокам ідзе ад адной будкі да другой, стукаючы па каменных плітах тратуара каванымі абцасамі.

Так, мабыць, некалі хадзіў салдат ля Зімняга ў Петраградзе...

На працягу 16 дзён гасцявання ў Бельгіі я не заўважыў, каб хто быў у захапленні ад караля. Наадварот, я чуў іншае. Пасля вайны бельгійцы не хацелі ўвогуле пусціць караля ў краіну. І мелі на тое падставы. Калі гітлераўцы напалі на Бельгію, бельгійская армія ўступіла ў бой з захопнікамі. Яе падтрымаў народ. Кароль жа Леапольд III перапалохаўся гэтай еднасці арміі і народа, падпісаў акт аб капітуляцыі і выехаў у Англію.

Бельгійскія патрыёты на чале з камуністамі працягвалі весці барацьбу з гітлераўскімі акупантамі. Выгнаўшы іх з краіны, бельгійцы сказалі: «Кароль нам непатрэбны».

У Бельгіі запанаваў больш дэмакратычны лад. Да 1947 года ва ўрадзе, побач з прадстаўнікамі розных партый, былі і камуністы. У гэты перыяд прыняты быў шэраг дэмакратычных законаў аб прадстаўленні права голасу жанчынам, аб страхаванні і іншыя.

Рэакцыя ўстрывожылася і пры падтрымцы дзядзькі Сэма пайшла ў наступленне. У 1950 годзе быў забіты старшыня кампартыі Ж. Ляо. У Бельгію вярнуўся Леапольд III. Але абурэнне мас было такое вялікае, што ён вымушаны быў адмовіцца ад прастолу ў карысць свайго сына Бадуэна. І вось цяпер Бадуэн ходзіць па пакоях каралеўскага палаца, які ахоўваюць салдаты. Кароль атрымлівае з казны 48 мільёнаў франкаў у год. А ўся каралеўская сям'я каштуе штогод дзяржаве 98 мільёнаў франкаў.

Кажуць, што малады кароль хоча развесціся са сваёй жонкай, бо яна не здольна нарадзіць яму нашчадка. Гэта вельмі хвалюе каралеўскі двор.

— А чаго хвалявацца, узяў бы сабе кароль хлопчыка з дзіцячага дома. Мог бы ўзяць і не аднаго, палац вялікі, пакояў шмат... — жартавалі мы, праязджаючы ля каралеўскага палаца.

— А ў гэтым доме жыве мільянерша, — тлумачыць Жанін.

— Адна?

— Так. Удава.

— Маладая?

— Год, можа, за семдзесят. Але рухавая. Маладзіцца. Былы муж яе супрацоўнічаў з гітлераўцамі. Адразу пасля вайны ў яго адабралі фабрыку, а рабочыя — удзельнікі Супраціўлення — нават надавалі мільянеру кухталёў. Але потым кароль вярнуў удаве фабрыку. Муж яе памёр пасля тых кухталёў, не дачакаўшыся аднаўлення старых парадкаў.

— Што яна робіць з тымі мільёнамі?

Мая спадарожніца паціскае плячыма:

— Марнуе. Талерка супу для яе, напрыклад, каштуе тысячу франкаў. — І дадае, між іншым: — А я, сястра ў шпіталі, атрымліваю пяць тысяч франкаў у месяц.

— А колькі атрымлівае ўрач?

— Гэтага ніхто не ведае. Ён разлічваецца з кожным хворым сам. У нас лепш за ўсіх, вядома, пасля мільянераў і арыстакратаў, жывуць урачы, мяснікі і аптэкары.

— А адвакаты?

— О, гэта ўжо арыстакраты!..

— Словам, добра тым, хто нажываецца на чужым горы...

На Гранд-пляцы мы спыніліся.

— Гэта самая прыгожая плошча ў Еўропе, — сказала Жанін.

Плошча сапраўды прыгожая. Ні адзін дом тут не кранула ні бомба, ні куля. Стаяць, як стаялі некалькі стагоддзяў таму назад.

На старажытнай плошчы горы птушыных клетак. Тут прадаюцца птушкі з розных краін. Іх прывезлі сюды з былых афрыканскіх калоній, з Аўстраліі. Перапалоханыя, яны б'юцца ў клетках, просяцца на волю. У свой час на гэтай плошчы прадавалі не толькі зняволеных птушак...

Зрэшты і цяпер можна ўбачыць тут дрэнна апранутых, учарнелых туркаў, якіх прывезлі сюды, як танную рабочую сілу для работы на шахтах. Але іх ужо не назавеш нявольнікамі, бо яны завербаваліся «добраахвотна», падпісалі кантракт.

Я заўважыў, што да аднаго з дамоў на плошчы падыходзяць людзі і дакранаюцца рукой сцяны.

— Што там? — пытаю.

Мая спадарожніца ўсміхаецца:

— У нас тут можна бясплатна палячыцца.

Падыходзім да гмаха.

У сцяну ўмуравана бронзавая дошка. На ёй фігурка.

— Хто хоча быць здаровым, павінен дакрануцца рукой і пагладзіць гэтую фігурку.

Жадаючых, відаць, шмат. Бо тое месца, якое гладзяць, блішчыць, нібы начышчаны самавар.

— Можа і вы жадаеце? — прапануе мне Жанін.

— Не, дзякую. Я больш давяраю нашым урачам.

Яна ўсё ж дакранулася.

— Э, грошы за гэта не трэба плаціць. А можа...

І так кожны думае, у каго не хапае грошай на ўрача.

Грошы. Пра іх галоўная думка кожнага брусельца, як і жыхароў усёй Бельгіі. Грошы на кожным кроку. Чалавек устае з ложка і думае, колькі ён сёння здабудзе грошай. Увечары ён ацэньвае пражыты дзень колькасцю здабытых грошай. Грошы перашкаджаюць чалавеку захапляцца творамі мастацтва, думаць аб палітыцы. У «вольным свеце» грошы робяць чалавека нявольнікам.

Здабываць грошы любым спосабам не сорамна.

— Як вам падабаецца вуньтая? — раптам пытаецца Жанін, кіўнуўшы ўбок.

Па тратуары крочыць добра апранутая, прыгожая маладая жанчына. На твары яе пагардлівая незалежнасць.

— Артыстка?

Жанін усміхаецца:

— Сваім чынам...

Мы ступілі яшчэ некалькі крокаў.

— А цяпер зірніце сюды...

Я зірнуў і ледзь не ўскрыкнуў. На рэкламе кабарэ красавалася

Новы нямецкі танк «леапард» — нашчадак «тыграў» і «пантэр». 120 афіцэраў і салдат Бона «ў зімовых умовах, такіх, як на ўсходзе Еўропы», праводзілі яго выпрабаванні.

(З газет.)




Грозны напамінак рэваншыстам.

Пашыраючы «эскалацыю» вайны ў В'етнаме, Пентагон прызывае ў армію «разумова непаўнацэнных», знізіўшы патрабаванні па гэтым артыкуле з 30 да 16 балаў.

(З газет.)




— Шырэй адчыняйце браму для новага папаўнення!

Мал. А. Чуркіна.

тая ж самая жанчына, але той прыгожай вопраткі на ёй не было.

— І ёй не сорамна ісці па вуліцы?

— Яна ж робіць грошы... Стрыптыз дае ёй добры прыбытак, пакуль, вядома, маладая.

Жанін памаўчала.

— Не думайце, што так разрэкламаваным у нас стрыптызам можа дзівіцца кожны. Гэта каштуе вельмі дорага. Гэта зноў для тых, хто мае грошы...

Бельгійцы ўвогуле ветлівыя людзі. На вуліцы часта чуеш: «пардон», «сільвупле», што на нашай мове азначае «выбачайце», «калі ласка». У магазіне на чэку пішуць «мерсі» (дзякуй). А тут жа, побач, на кінарэкламе малюнкі, адзін агіднейшы за другі.

Асабліва жудасныя рэкламы амерыканскіх фільмаў. На кожным малюнку па-зверску ашчэраны твар, нож, ну, і абавязкова — голая жанчына. А людзі ідуць і глядзяць на гэта, як на нешта звычайнае, зусім зразумелае: гэта ж робіцца дзеля грошай.

У Бельгіі шмат машын. На вузенькіх вуліцах ім няма дзе прыткнуцца. І тут жа побач стаяць рамізнікі, такія, якіх я бачыў у дваццатыя гады ў Віцебску.

Рамізнікі з сумнымі, такімі ж учарнелымі, як у тых туркаў, тварамі цярпліва чакаюць свайго багатага кліента, бо бедны чалавек не паедзе: шкада на гэта і часу і грошай.

Сімвалам горада Бруселя з'яўляецца Мэнекін-піс. Бронзавая фігурка гэтага хлопчыка ўпрыгожвае адну з плошчаў сталіцы. Кажуць, гэта памяць аб хлопчыку, які некалі ўстаў з ложка, выйшаў па сваёй патрэбе голы на двор, убачыў навадненне і разбудзіў увесь горад. Фігурку тоўсценькага хлопчыка можна ўбачыць на паштоўках, у вітрынах. Калі прыязджае ў Бельгію які-небудзь высокі госць, фігурку на фантане апранаюць у такую вопратку, у якой ходзіць гэты госць. На рэкламе Мэнекін-піса робяць вялікія грошы.

І вось аднойчы Мэнекін-піс знік са свайго п'едэстала. Укралі бронзавую фігурку. Друк з абурэннем крытыкаваў паліцыю. Паліцыя рабіла катэгарычныя заявы, што Мэнекін-піс будзе знойдзены. Паліцэйскія зводкі аб пошуках украдзенай з п'едэстала фігуркі друкаваліся на першых старонках газет. Газеты гэтыя, вядома, раскупляліся. Бойка ішоў гандаль сувенірамі.

І вось праз месяц доўгачаканая заява паліцыі: «Мэнекін-піс знойдзены!» Бронзавую фігурку тоўсценькага хлопчыка ўстанавілі на тое ж месца. Праўда, злачынцаў не ўдалося знайсці. Але хай сабе. Галоўнае, Мэнекін-піс ужо стаіць на сваім п'едэстале і раз у год у дні нацыянальнага свята «спраўляе сваю патрэбу» нават він ом.

Мала хто ведаў, што ўкралі фігурку самі паліцэйскія. Арганізавала гэты крадзёж паліцыя ў змове з гандлярамі сувенірамі і газетнымі выдаўцамі. Уся гэта шуміха прынесла ім прыбытак, рэкламу і пры гэтым адцягнула людзей ад галоўных падзей палітычнага жыцця.

Крэдыт — вось пастка, у якую трапляюць працоўныя. Кожны рабочы, служачы ўвесь час за штосьці выплачвае: за дом, тэлевізар, машыну, мэблю. Умовы крэдыту жорсткія: не выплаціў у тэрмін — забяруць машыну, мэблю, выкінуць з дому, нават калі да канца выплаты засталося няшмнога, і ўнесеныя грошы не вернуць. Пакуль чалавек працуе, ён пагашае крэдыт. А страціў работу — прапаў. Кожны дрыжыць за сваё месца. Страх прымушае дагаджаць гаспадару і яго слугам, страх стрымлівае адкрытую барацьбу за сваю годнасць і правы.

І ўсё ж людзі бастуюць, выходзяць з пратэстам на вуліцы. Я быў сведкам дзвюх такіх дэманстрацый. Асабліва гнеўнай была маніфестацыя моладзі. На плакатах, якія неслі маладыя, было: «Янкі, прэч з В'етнама!», «Патрабуем нацыянальнай незалежнасці Бельгіі!», «Янкі, прэч з Бельгіі!»

У час гэтай дэманстрацыі быў забіты юнак. Паліцэйскія ўкінулі яго ў машыну хуткай дапамогі, якая з тужлівым сігналам прабівалася праз натоўп.

Цікава заўважыць, што на апошніх выбарах камуністы атрымалі на 75 тысяч галасоў больш, чым на ранейшых. Калі былі аб'яўлены вынікі выбараў, я павіншаваў свайго сябра камуніста Люсьена з перамогай.

— О, — адказаў ён, — гэта яшчэ не перамога, толькі невялікі поспех...

Трэба спадзявацца, што будзе і перамога. У «*вольным свеце*» людзі хочуць быць сапраўды вольныя.

**Леанід ПРОКША.**

Алег ЛОЙКА



# ПОШУКІ І ЎПЛЫВЫ МОДЫ

На першы погляд — ціхім, спакойным для нашай паэзіі быў 1965 год. Але гэта толькі на першы погляд. Ён быў яшчэ адным годам далейшага росту для адных паэтаў, першай спробай сіл для другіх. А ці ж развіццё, пошукі могуць ісці без сутыкненняў розных тэндэнцый, схільнасцей, густаў? Вядома, не. І хоць у мінулым годзе не было гучных крытычных баталій вакол пытанняў развіцця паэзіі, паэты спрачаліся самімі сваімі вершамі, сваімі пошукамі, і ў гэтых спрэчках даволі выразна вырысоўваюцца некаторыя напрамкі пошукаў нашай паэзіі ўвогуле, маладой у прыватнасці.

Што было, можа, галоўным за апошнія гады ў развіцці савецкай паэзіі, дык гэта шырокае, шчырае, я б сказаў, талярантнае прызнанне ўсіх творчых пошукаў, накіраваных на паглыбленае, яркае, абноўлена-свежае адлюстраванне нашай сучаснасці, на раскрыццё духоўнага вобліку чалавека — будаўніка камунізма. 1965 год яшчэ раз сцвердзіў творчую атмасферу, што вынікае сама па сабе ў сувязі з далейшым развіццём ленінскіх прынцыпаў агульнажыцця. Цікавасць і сяброўская ўвага да пошукаў сваіх паплечнікаў па пяру,— ці не гэта, напрыклад, вызначыла тон крытычных выступленняў Петруся Макаля, паэта з ярка акрэсленай творчай манерай, які па-гаспадарску, з аднолькавай раўнавагай разглядаў новыя зборнікі такіх розных, зусім не падобных паэтаў, як Ніл Гілевіч і Янка Сіпакоў?

Прынцыпова важнай падзеяй года стаў выхад у свет збораў твораў — двух тамоў Петруся Броўкі і двухтомніка Уладзіміра Дубоўкі. Яны — як бы справаздача паэтаў напярэдадні 50-годдзя Вялікага



Кастрычніка, сведчанне тых здабыткаў, што сталі магчымы толькі дзякуючы перамозе Кастрычніка. Падсумоўваннем пошукаў былі ў пэўнай ступені і чарговыя кнігі Эдзі Агняцвет, Анатоля Астрэйкі, Антона Бялевіча, Канстанцыі Буйлы, Сяргея Грахоўскага, Аркадзя Марціновіча, Аляксея Пысіна, Ніла Гілевіча, Хведара Жычкі, Еўдакіі Лось, Янкі Сіпакова. Трэба пашкадаваць, праўда, што 1965 год не даў ніводнай першай кнігі маладзейшых паэтаў. Вітаючы грунтоўныя зборы твораў, ніколі не трэба забываць пра «падлесак», трэба прымаць усе захады, каб напісанае маладзейшымі заўсёды крынічыла поруч з паўнаводнымі берагамі збораў твораў.

1965 год быў годам яшчэ двух прыемных навін. Выйшаў у свет першы беларускі «Дзень паэзіі», і выдадзены зборнік вершаў паэтаў былой Заходняй Беларусі — «Сцягі і паходні».

Мінулы год быў плённы ў паэзіі, калі ўспомніць і пра надрукаванае ў розных перыядычных выданнях.

У цэлым паэзія мінулага года трымалася вялікага дыхання, імкнучыся, кажучы словамі Аляксея Пысіна:

> На спатканне з векам і любімай,
> На спатканне з тым, што век пашле.

Яна была тэматычна шматгранная, абдымаючы праявы кіпучага сённяшняга дня, паэтызуючы гераізм народа, які дваццаць гадоў таму назад перамог у лютай барацьбе з фашызмам, апяваючы высакародства, чысціню чалавечых пачуццяў, любасць да прыроды.

Першы беларускі «Дзень паэзіі» наглядна паказаў усю разнастайнасць манер і почыркаў нашых паэтаў. Калі гаварыць адносна зместу і стылявых форм «Дня паэзіі», у якім шырока прадстаўлены, па сутнасці, усе пакаленні нашай сучаснай лірыкі, дык не так лёгка абмінуць спакусу ўхвалення таго, што па сваіх асаблівасцях бліжэй табе асабіста. Але паспрабуем.

Адно бясспрэчна, што па зместу «Дзень паэзіі» мог быць бліжэйшым да вострых надзённых праблем і пытанняў, глыбей даследаваць і абагульняць душэўны вопыт савецкага чалавека за ўсё гераічнае паўстагоддзе будаўніцтва новага жыцця. Такое выданне павінна быць палымянай трыбунай пісьменніка — актыўнага будаўніка камунізма, жывым адлюстраваннем нашага жыцця. «Дзень паэзіі», вядома, павінен быць і днём сённяшняй Беларусі, адным словам, з'явай не вузка літаратурнай, а грамадскі-рэзанансвай. Надзённай, вострай, сапраўды паэтычнай публіцыстыкі — вось чаго, на маю думку, замала было ў нашым першым «Дні паэзіі».

Можа, у раздзеле крытыкі і публіцыстыкі трэба было б узнімаць не толькі чыста літаратурныя пытанні, тэмы, але і праблемы арганізацыйнага парадку, змяшчаць даследаванні-допісы аб пашырэнні нашай паэзіі ў горадзе і сяле, павесці гаворку аб шырокай арганізацыі сеткі клубаў паэзіі, змясціць інтэрв'ю з чытачамі аб паэзіі і паэтах і іншае. Менш разліку на прафесіянала, больш клопату аб далучэнні да паэзіі самага шырокага чытача — такім мне ўяўляецца адзін з дэвізаў «Дня паэзіі».

Стылявая разнастайнасць у «Дні паэзіі» праявілася як у форме эпіграм і пародый, так і ў артыкулах-роздумах крытыкаў і паэтаў аб шляхах развіцця паэзіі.

З крытычных выступленняў звяртаюць на сябе ўвагу артыкулы Хведара Жычкі і Анатоля Клышко. Але супаставім спачатку артыкул Анатоля Клышко і адзін з вершаў кнігі Ніла Гілевіча «Бальшак». Красамоўныя нават самі іх назвы: «Спору табе ў працы, белы верш!..» —

называецца артыкул Клышко, «Не адбірайце музыкі ў паэта» — патрабуе ў вершы Гілевіч.

Анатоль Клышко ў сваіх развагах пра белы верш не рытарычны, ён спецыяльна агаворваецца, што «далёкі ад таго, каб адмаўляць якія-небудзь вартасці рыфмаванага верша». Абсалютна слушна крытык сцвярджае, што «верш белы і рыфмаваны — гэта сябры, і іх не трэба сварыць, хвалячы адзін, ахайваючы другі».

Але выбаёўваючы месца беламу вершу (а выбаёўваць, думаецца, і няма чаго, бо ён сапраўды ўжо даўно заняў адпаведнае месца ў традыцыях нашай паэзіі), крытык усё-такі больш хваліць і нават перахвальвае белы верш, выстаўляючы яго як панацэю дзеля пераадолення многіх слабасцей маладой паэзіі. Апошняя, кажучы словамі крытыка, сапраўды «больш паэзія ўражанняў, чым глыбокіх перажыванняў», але думаць, што гэты яе недахоп так адразу белы верш і здыме,— несумненнае перабольшанне. Пры гэтым крытык, мабыць, неўпрыкмет самому сабе, адным росчыркам пяра сапраўды ахаяў, па яго словах, «аднабаковую арыентацыю ў галіне формы толькі на фальклор, на песенныя традыцыі і многае іншае», якая нібыта «на гады стрымлівала здаровыя пошукі».

Хто ж тут згодзіцца?! Няўжо гэтая арыентацыя не памагала расці Танку, Куляшову, а з маладзейшых — Барадуліну, Караткевічу? Ды і ніколі не было ў нас арыентацыі толькі на фальклор. Усе нашы лепшыя паэты засвойвалі яго традыцыі, арганічна зліваючы ў сваіх пошуках формы тое, што ішло ад фальклору, і павевы, якім была падуладна сусветная паэзія ўсяго XX стагоддзя, якія ішлі перш за ўсё ад такіх паэтаў, як Уладзімір Маякоўскі, Назым Хікмет, Гарсія Лорка, Пабла Няруда, Габрыэль Містраль і іншых.

Анатоль Клышко, такім чынам, хоць і дэкларава́ў роўныя адносіны да рыфмаванага і белага верша, але сваімі заклікамі развіваць апошні і асабліва выпадам супраць песенных традыцый як бы робіць сябе непасрэдным адрасатам, да якога і звяртаецца Ніл Гілевіч у вершы:

**Не адбірайце музыкі ў паэта,**
Заканадаўцы паэтычных мод!

У той спрэчцы, якая ідзе ў паэзіі, на жаль, няма канкрэтнай адрасаванасці: паэты і крытыкі звяртаюцца да якіхсьці сваіх апанентаў увогуле, уяўляюць іх абстрактна. Думаецца, што такі від спрэчкі менш за ўсё праясняе пазіцыі апанентаў, і чым хутчэй мы ад яго адмовімся, тым хутчэй высветлім характар пошукаў.

Сучасны дзень нашай паэзіі сапраўды паказвае, што ў ім паўнапраўнае месца займае белы верш. Паэзія Максіма Танка, Сяргея Дзергая, Аркадзя Марціновіча, а з маладзейшых — Янкі Сіпакова, Міколы Купрэева абжывае яго з поспехам. Але бяда пачынаецца там, дзе пэўная форма выдаецца за найадпаведнейшую форму часу, дзе форма становіцца модай, а разам з гэтым яшчэ і меркаю наватарства, як гэта было, напрыклад, у нас у сувязі з «перахватам» некаторымі маладзейшымі паэтамі карнявых рыфм, асацыятыўнай вобразнасці, раскаванага верша і г. д. І гэта зусім слушна адзначыў у сваім артыкуле «Адказнасць за паэтычнае слова» Хведар Жычка.

Нельга не згадзіцца з паэтам Хведарам Жычкам, калі ён у сваім артыкуле сцвярджае, што «ў нас вельмі мала гавораць і пішуць пра цэльнасць светапогляду і гармонію мыслення паэта, пра яго вернасць самому сабе». Сапраўды, іменна з цэльнасці і вернасці самому сабе пачынае ў паэзіі складвацца індывідуальнасць — **грамадзянін, чалавек, паэт.** І толькі калі складзецца гэты грамадзянін, чалавек, паэт, тады ўжо можна чакаць ад яго і наватарства.



Мне не верыцца ўвогуле, што праз распрацоўку формы паэт можа прыйсці да раскрыцця, да ўсведамлення новага зместу сваёй эпохі. Колькі разоў у гісторыі павышаная цікавасць толькі да аднае формы сведчыла пра тое, што нешта не ўсё добра ў справах паэзіі. Нам перш за ўсё і заўсёды трэба дбаць пра выхаванне ў сабе грамадзяніна і чалавека, дбаць пра свой духоўны рост, які несумненна і заканамерна вядзе за сабою і рост майстэрства — шырыню выкарыстання форм, арганічнасць іх засваення. Лепшае сведчанне гэтага — заўсёды грамадзянская, высокая сваёй камуністычнай ідэйнасцю і заўсёды шматфарбная, чулая да ўсіх лепшых традыцый сусветнага мастацтва паэзія Максіма Танка.

Трымаць руку на пульсе сучаснай паэзіі як рускай, так і перадавой зарубежнай і не падпасці, як гэта ўдаецца Максіму Танку, пад зіхатлівую падманлівасць моды памагае толькі самаўсведамленне сябе як творцы, толькі вернасць сабе.

Мода — яна ёсць і на імёны, і мы, на жаль, часам да крыўднага доўга не заўважаем тых, хто не кідаўся на хвалі моды, каго яна не выносіла на свой грэбень і хто, усведамляючы недаўгавечнасць яе ўсплёскаў, заставаўся самім сабою, растучы сам у сабе. Адным з такіх паэтаў мне ўяўляецца Хведар Жычка, у якога летась выйшаў другі зборнік — «Росныя лілеі». Крытыка, якая гоніцца за «модным» у паэзіі, не знойдзе ў ім для сябе нічога. У той жа час зборнік у цэлым — цікавае сведчанне роздуму і пошукаў сталага ў сваім характары і сімпатыях паэта.

Якраз вернасць сабе, настойлівыя пошукі ў аднойчы аблюбаваных напрамках і вылучае Хведара Жычку — аўтара новай кнігі вершаў: ён крыху рацыяналістычны, схільны да афарыстычнасці і аднолькава поўны павагі да строга класічных форм народнай песні, не падуладны ніякай модзе. Асаблівая любоў у яго да ўкраінскай літаратуры, і цэлы шэраг матываў і сюжэтаў у яго паэзіі падказаны ёю. Жычку цікавяць паэты і фальклор іншых літаратур свету — цікавяць не агульнаадукацыйна, як большасць з нас. Яны нараджаюць у паэта жывы водгалас: цікавыя вершы, падобныя да яго інданезійскай легенды «Раксаса — сын гор», вершы з Рабіндраната Тагора — «Хто ён?», з Назыма Хікмета — «Смерць радавога» і іншыя. Усе гэтыя спробы — жывое сведчанне росту арганічных сувязей нашай паэзіі з літаратурамі іншых народаў, адна з тэндэнцый увогуле, якая характарызуе яе сённяшні стан.

Па-свойму расшырае яднанне нашай паэзіі з іншымі літаратурамі і Ніл Гілевіч у цыкле пра Балгарыю, супастаўляючы лёс нацыянальных герояў Беларусі і Балгарыі, непасрэдна паэтызуючы свае ўражанні аб краіне за ціхім Дунаем.

Але кантакты нашай сённяшняй паэзіі, і шмат у чым іменна маладой, ідуць таксама і за кошт засваення новых спосабаў выражэння, прыёмаў паэтызацыі. У прыватнасці, мне думаецца, што і белы верш пачаў займаць цяпер значнае месца не так ад таго, што ён быў ужо ў нас, напрыклад, у прыказках — гэтых маленькіх шэдэўрах народнай паэзіі, але і ад таго, што ён займеў вельмі шырокія правы грамадзянства ў шматлікіх сучасных літаратурах. Ён усё-такі ідзе да нас больш ад моды, чым па якіх-небудзь іншых прычынах.

Асацыятыўнасць некаторы час лічылася ў нас прыкметай наватарства. Яна была, аднак, і модай, і, як і любая мода, сышла, як дым. Але гэта не значыць, што асацыятыўнасць сышла для нас зусім. Мода напомніла аб ёй, шмат зрабіла для яе распрацоўкі, і цяпер экспрэсія

асацыятыўнай вобразнасці, якую наша паэзія ведала ўжо ад дарэвалюцыйнага Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, увайшла яшчэ глыбей і грунтоўней у арсенал вобразна-выяўленчых сродкаў нашай паэзіі.

Прыкладам такой падвержанасці ўплывам моды і яе паспяховага шмат у чым пераадолення мне ўяўляецца зборнік вершаў Янкі Сіпакова «Лірычны вырай». Ён найперш цікавы тым, што гэта не проста зборнік, а кніга вершаў, цэласная па сваёй задуме, кампазіцыі, строга развітаму ўнутранаму сюжэту. Класічны прыклад такой кампаноўкі зборніка даў нам калісьці Максім Багдановіч у сваім «Вянку». Па гэтым жа прынцыпе склаў сваю «Новую кнігу» Аркадзь Куляшоў. Кніга паэзіі адрозніваецца ад зборніка тым, што вымушае паэта мысліць ушыр, панарамна, ствараючы з верша ў верш паслядоўны замкнуты ланцуг выяўлення яго светаўспрымання і светаразумення. Нездарма ж гэтую форму так любіў Валеры Брусаў.

Павышаная ўвага да інтэлектуалізму таксама адна з прыкмет сучаснай паэзіі, а можа і мода ў ёй. Але моднае ў вершах Сіпакова, мусіць, у іншым.

Да «жаданай краіны — Паэзіі» прагне даляцець сваімі вершамі аўтар «Лірычнага выраю». У гэтым жаданні ёсць нешта ад няўпэўненасці: «А што за яна, паэзія? У чым яна?» Звужаны адказ на гэтае пытанне паэт дае ў адным з найлепшых сваіх твораў — «Сінягоры», а таксама ў вершы «Зноў я сцежку шукаю».

У маленстве чалавек глядзіць на свет вачыма паэзіі. Так, можна згадзіцца з аўтарам, што паэзія і ў тым, як глядзіць на свет дзіця. Але самых яе глыбінь паэт кранаецца не там, дзе паэтызуе дзяцінства з асаблівасцямі яго погляду на свет, а там, дзе раскрывае свой лёс дзіцяці, як гэта мы маем у вершах «Лірычны ўспамін» і «Успомненая дарога». Сапраўдная паэзія ў паэта там, дзе чутны яго хвалюючыя думкі, радасць і смутак яго перажыванняў, як у вершы пра пакутніцу Хірасімы — абвугленую вішню, пра коней на праспекце, якія абуджаюць успаміны пра родную вёску, пра Прыпяць, якая апета, каб замілавана раскрыць шчаслівы лёс усёй нашай сённяшняй Беларусі, пра кавалёў і поціскі іх дужых рук, каб па-свойму апаэтызаваць чалавека працы.

Чытаючы ўсе гэтыя вершы, мне зусім і не прыходзіла на думку, як яны зроблены. Усім — і сваім зместам і формай — яны мяне хвалявалі. Я веры́ў, што хата сапраўды была з а п л а к а н а ю, бо паэт тут жа паказаў свайго бацьку, якога забіралі ад сям'і фашысты, паказаў, як падаваў ён дзіцяці «звязаныя рукі, што, як крылы, у вяроўках біліся». І было зразумела і тое, чаму хата, «в у г л ы ў к у л а к і с а ш ч а п і ў ш ы, пагражала вінтоўкам чужацкім». Адным словам, пры паэтызацыі рэальных жыццёвых праяў і чалавечых пачуццяў я скрозь знаходзіў Паэзію. Але калі тыя ж самыя прыёмы метафарызацыі паэт пачынаў браць, каб адухатварыць увогуле творчы дзень, называючы поле — «фабрыкай жыцця», над якім «вядзьмарыць яе вялікасць Праца, і далей нагнятаў феерычна метафары і параўнанні, накшталт: мускулы напяты, як струны; рукі — у венах, нібы ў вяроўках; Праца... працірае вочы заспанаму з вечара трактару, — то пасля ўсяго гэтага мне станавілася ясна, што вядзьмарыла зусім не Праца, а сам аўтар.

Радуе ў вершах Янкі Сіпакова напружаны драматызм перажыванняў («Ужо аб вайне не могуць»), выбуховая сіла думкі («Сэрца — то спрасаваны стагоддзямі порах»). Але спакуса «павядзьмарыць» увасабленнямі, асацыяцыямі падпільноўвае паэта і пры яго паглыбленні ў псіхалогію. Так, поруч з вельмі дасціпным і псіхалагічна тонкім вершам пра мядзведзя мы знаходзім у кнізе вершы ўяўнай псіхалагічнасці і інтэлектуальнасці: «Пехатою ў вырай», «Карэнне расы», «Кроплі сонца», «Заходзіць яблык». Разгледжу адзін з іх больш падрабязна, бо думаю, што тут у мяне знойдуцца апаненты-абаронцы такіх вершаў, якія, як я лічу, якраз і прыходзяць на свет пад завейнымі павевамі моды.



І ў расы ёсць карэнне.
Я гэта сцвярджаю,
Бо глядзеў, як збірае яе салавей —
Па расіне,
Бы ягады, ён адрывае
І, упаўшы на хвост па-гусінаму,
П'е.

І ў расы ёсць карэнне...
Дзе ж тая сцяблі́на,
На якой даспяваюць ягады рос?
Павучынка, травінка?
А мо нават промень,
Што, як дзіда, удзяўбнуўся ў зямлю
І прарос.

Я згодзен, што ў цэлым гэты верш жывапісны, нават з яркімі ўвасабленнямі, параўнаннямі. Але што за змест? Банальная думка: усё жывое на зямлі — ад сонца. Такі ж «глыбакадумны» заклік: «Няхай жа ўзыходзіць кожны дзень сонца-яблык!» мы знаходзім і ў вершы «Заходзіць яблык». Усё гэта, на мой погляд, той няплённы ўхіл, які спароджаны думкай, што паэзія пачынаецца ўвогуле там, дзе ёсць увасабленні, метафарызацыя, вонкавыя прыёмы і асабліва такія, якія яшчэ ў навіну для нацыянальнай паэзіі ўвогуле.

Накладныя выдаткі кнігі Сіпакова — выдаткі росту, пошукаў. Лірык з вялікім запасам творчых мажлівасцей, Сіпакоў, напэўна, і надалей будзе займаць значнае месца ў творчых спрэчках, што чакаюць нашу паэзію.

Характэрна, што творы Сіпакова, напісаныя белым вершам, не страчваюць музычнасці, песеннай напеўнасці. Наша лірыка шмат у чым пачыналася іменна з народнай песні, і гэта яе аўтахтонная традыцыя такая моцная, што падпарадкоўвае сабе і новыя сродкі выражэння. Думаецца, што ў сувязі з трываласцю песенных традыцый, у сувязі з традыцыямі той арыгінальнай паэзіі, якая стала ўжо для нас класікай, не настолькі трывала ўсталюецца і рамантычна-асацыятыўная паэзія, як яна ўвайшла, напрыклад, з творчасцю Івана Драча і Віталя Каротыча ў маладую ўкраінскую літаратуру. Там гэтае ўваходжанне было як бы падрыхтавана ранняй творчасцю Тычыны, Сасюры. Не трэба, мабыць, таксама асабліва спадзявацца на трыумф у нашай паэзіі белага верша, бо калі ўсё-такі ўзяць гісторыю фальклору, то ў ім цяга да рыфмы выяўлена неймаверная, і яна ўзнікла, вядома, не па-за ўнутранымі законамі самой мовы, не без уплыву заканамернасцей яе развіцця.

Але ці варта займацца рызыкоўнай справай — прагнозамі на будучае? Спрэчкі развіцця няхай вырашае само развіццё, хоць мы — і не пабочныя назіральнікі, бо яно адбываецца не без нашага ўплыву. Ды творчыя спрэчкі — справа складаная, і адбываюцца яны часам не толькі паміж рознымі асобамі, але і ў адным кім-небудзь, як гэта відаць, напрыклад, у Ніла Гілевіча.

У яго кнізе «Бальшак» сапраўды ўзмацнеў голас паэта-грамадзяніна з патрыятычнай вернасцю Радзіме і яе камуністычным ідэалам. Большасць вершаў Ніла Гілевіча тут — шчыры, усхваляваны роздум і споведзь чалавека ўсётрывожнай, усёўспрыймальнай душы. Гілевіч — паэт, які ўжо склаўся ў сваіх сімпатыях, і што ён найбольш ненавідзіць — дык гэта моду.

Забівалі не рыфмаплётаў —
Нават модных-размодных самых, —

асуджаючы цемрашальства, гаворыць ён, а Пушкіна, Галана.

Але ці пазбег сам Гілевіч уплываў моды? Яго кніга «Бальшак» выявіла адну з найбольш важных асаблівасцей нашай паэзіі апошняга часу — яе паглыбленне ў раскрыццё самых істотных сацыяльна-палітычных, гістарычна-этапных з'яў і заканамернасцей жыцця. Лепшыя мясціны паэмы «Сто вузлоў памяці» («Чырвоны снег», «Перамога», «Студзёная вясна») — гэта жывыя, праўдзівыя старонкі самой нашай гісторыі ва ўсім яе гераізме і складанасці. Падобная ж праўда паэзіі напаўняе і верш «Пра дзядоў і зямлю». Думкі і перажыванні гэтых вершаў Гілевіча я смела называю першаадкрывальніцкімі, а гэта тое ж самае, што назваць іх сапраўднай паэзіяй.

Ды не ва ўсім Гілевіч застаецца першаадкрывальнікам. Бываюць часы, калі ў літаратурнай «атмасферы» цэлымі касякамі носяцца модныя тэмы і вобразы, і нават часам вельмі цяжка адрозніць, знаходзіцца паэт, узнімаючы той ці іншы вобраз, тэму, на самым пярэднім краі сучаснасці ці ён зарыентаваўся ўжо на ўспрыняцце новага касяка тэм і вобразаў. Некаторы час, напрыклад, у нас, як і ў нашых рускіх таварышаў па пяру, прамільгнула даволі шмат вершаў пра ананімшчыкаў. Ёсць такі верш і ў кнізе Гілевіча. Ідзе гэта ад непасрэднага хвалявання паэта ці проста даніна модзе — адказаць цяжка.

Але ўжо зусім відавочна спрачаецца сам з сабою Гілевіч у шэрагу іншых вершаў. Ён як бы не вырашыў яшчэ сам для сябе: рытарычная дэкламацыя, заклікі, як, напрыклад, у вершы «Рыхтуйце сэрца да палётаў» — паэзія гэта ці не? Не, не паэзія і даўно ўжо не мода, хоць некалі такая рыторыка і была ў модзе,— толькі і можна сказаць тут і заадно пашкадаваць, што поруч з сапраўды чалавечнымі, глыбокімі і новымі па думцы і тонкімі па нюансах перажывання вершамі, якіх у кнізе шмат, стаяць падобныя да «Музея ў Тырнаве» — халоднаапісальныя, рэгістратарскія творы.

Асобныя няўдачы ў творчых пошуках Ніла Гілевіча і Янкі Сіпакова знаходзяцца ў асноўным рэчышчы руху нашай маладой паэзіі. А таму тут і было аддадзена ім увагі крыху больш, чым таму, што сапраўды цешыць.

А цешыць перш за ўсё рост паэтычнай культуры маладых, той узровень паэтычнага майстэрства, з якім робяць першыя крокі нават пачынаючыя. Новыя вершы ў «Полымі» апублікавалі летась Мікола Купрэеў, Міхась Рудкоўскі, Анатоль Сербантовіч, Хведар Чэрня, Генадзь Тумас, Марыя Шаўчонак, у «Маладосці» — Мікола Маляўка, Казімір Камейша, Міхась Стрыгалёў, Рыгор Семашкевіч. Упершыню тут былі прадстаўлены нізкамі Мар'ян Дукса, Уладзімір Дзюба, Мікола Федзюковіч. Сапраўды знамянальная прыкмета часу — даволі высокі ўзровень культуры вобраза, рыфмы, рытму, з якога пачынае малодшая паэтычная змена!

Некалі ва ўмовах панскай Польшчы Максім Танк пачынаў, склаўшыся спачатку як грамадзянін, камсамолец-падпольшчык, свядомы ідэйны барацьбіт. Стыль і майстэрства да яго прыходзілі пасля. Сёння ў нас наадварот: ужо бязвусыя школьнікі ведаюць таямніцы метафар і рытмаў, вядома, яшчэ не стаўшы грамадзянамі ў высокім сэнсе гэтага слова. І першы клопат павінен быць пра тое, каб не даў сябе доўга чакаць надыход іх грамадзянскай сталасці, каб хутчэй прыйшло да іх тое найвышэйшае паэтычнае майстэрства, якое заўсёды было вытворным з грамадзянскай актыўнасці, з высокай ідэйнасці. Удачы і няўдачы крыху старэйшых таварышаў няхай жа будуць ім таксама адным з урокаў.

Падводныя рыфы моды розная даўнасці і паходжання падпільноўвалі яшчэ і летась паэзію ў яе руху наперад. І хоць паэты за іх там-сям яшчэ чапляліся, але ішлі наперад. Ішлі спрачаючыся. І хоць іх спрэчкі не вылілі ся ў адкрытую палеміку, дух яе не пакідае паэзію, а гэта красамоўна сведчыць і пра тое, што наша паэзія — у няспынным росце, уся ў творчым клопаце быць вартай нашага часу, нашага сучасніка.



# МОРА ПЕРАД ШТОРМАМ




**«СЦЯГІ І ПАХОДНІ». Творы паэтаў былой Заходняй Беларусі. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1965.**

Вершы пятнаццаці заходнебеларускіх паэтаў складаюць змест зборніка «Сцягі і паходні».

Маё шчасце ў шчасці мільёнаў,
Мая воля — у вольнасці ўсіх,
Калі сэрцы заскачучь без стогнаў
У зіянні агнёў залатых.

Пад гэтымі словамі Алеся Салагуба падпісаўся б кожны аўтар зборніка.

Тагачасная заходнебеларуская паэзія — гэта мора перад штормам. Свой спакой, волю і шчасце паэты ахвяравалі змаганню за волю і шчасце народа. Праз краты Лукішскай турмы, з засценкаў гестапа вырываліся іх вершы-заклікі і ўздымалі людзей на свяшчэнную барацьбу супраць каланізатараў XX стагоддзя.

Цяжкія выпрабаванні выпадалі тады на долю паэтаў. Этапныя дарогі, турмы, катаванні, здзекі. Аднак у вершах таго часу мы не сустрэнем роспачы, нявер'я ў перамогу. У песні невядомага аўтара гаворыцца:

*Нас пакарыцца, замаўчаць*
*Не змусяць здзекі, мукі.*
*Змагацца сэрцы ў нас гараць,*
*Хоць скуты нашы рукі.*

У зборніку змешчана толькі па некалькі вершаў кожнага з паэтаў, але ж за імі адчуваецца самае характэрнае, што было ўласціва кожнаму з іх.

Яшчэ ў дарэвалюцыйныя гады выпусціў свой першы зборнік Гальяш Леўчык. Паэзія яго блізкая да народнай песні:

Аб татульцы заяпяю
Сумну песеньку сваю:
У астрозе ён сядзіць,
На жалезе цвёрдым спіць.

У дакастрычніцкі перыяд пачаў пісаць і Леапольд Радзевіч. Вершы яго эмацыянальна ўзнёслыя і таму — заўсёды дзейсныя. Ён першы з заходнебеларускіх паэтаў стварыў вобраз камуніста, бясстрашнага змагара за народную справу, які хацеў зрабіць усіх людзей шчаслівымі, вольнымі, роўнымі.

Складаным, трагічным быў лёс таленавітага паэта Уладзіміра Жылкі. «Яго паэзія, — піша ў прадмове складальнік кнігі У. Калеснік, — люстра душэўных бур, праз якія сумленна прабіралася дэмакратычная інтэлігенцыя Заходняй Беларусі, пакуль усвядоміла чалавечнасць камунізма і ўзбагаціла свой патрыятызм ідэямі сацыялі-

стычнага братэрства ўсіх народаў свету».

Яркая, публіцыстычна-ўзнёслая паэзія Алеся Салагуба, які пасылаў свае вершы-заклікі з-за крат віленскага астрога. Паэт-камсамолец не жадае аплакваць паднявольнае і гаротнае жыццё селяніна, не можа цярпець ніякага прыгнёту. У цішы, застої, пакорлівасці паэт бачыць «загубу, канец парываў, светлых сноў». Паэт любіць вёску, калі яна ў гневе, калі яна, замест сярпоў, куе мячы:

Мы смутку, слёз, жальбы не знаем
На Новы год.
Нам радасць, радасць, што змяняем
Гісторый ход.

Больш у выгнаннях і турмах, чым на волі, быў і Сяргей Новік-Пяюн. Яго лірычны герой пакутуе, адарваны ад роднага краю, бачыць жахі фашысцкага канцлагера. Знясілены катаваннямі, ён поўны веры ў перамогу:

Але ж я надзею маю:
Восень пройдзе, і тады
Мой народ навек спаткае
Шчасныя жыцця гады.

Шлях амаль кожнага заходнебеларускага паэта пачынаўся пад сялянскай страхою. Потым — Віленская беларуская гімназія, а потым — Лукішская турма. Той, хто не паспеў павучыцца ў гімназіі, прадаўжаў сваю «адукацыю» за турэмнымі кратамі. У легальным і нелегальным друку змяшчалі свае палымяныя вершы Янка Чабор, Алесь Дубровіч, Пятрусь Граніт, Васіль Струмень, Алесь Мілюць, Міхась Явар, Сяргей Крывец.

Але былі і такія, хто нават дня не пабыў у гімназіі, не вывучаў законаў вершаскладання, тэорыю паэтыкі. І ўсё ж нельга раўнадушна чытаць верш «Беларусі», напісаны паэтам-селянінам Паўлам Сушко:

Ну, з чаго б тыя словы мне выкаваць,
У гарніле якім гартаваць,
Каб любоў сваю шчырую выказаць,
Што табе я хачу перадаць.
Ты ж уся, як вясёлка квяцістая,
Як сатканая з промняў кайма,
Залатая, святая, агністая,
Наша ясная доля сама.

Такой жа шчырай і задушэўнай была і паэзія селяніна Алеся Мілюця, рабочага Сяргея Крыўца, палітвязня Пятра Дабрыяна (Алесь Сучок).

Алесь Мілюць у вершы «Яны» расказвае пра сваіх таварышаў па камеры: хто яны, за што іх пасадзілі «на нямала гадоў», да чаго яны імкнуліся. І які б лёс іх ні чакаў, яны будуць да канца непахісныя:

«Хай загінем усе... нас прытуліць зямля,
Кінуць людзі за кроў нашу катам праклён.
Будуць помніць і помсціць за нас!» —
Такі быў іх на гэта адказ.

Бязмежнай любоўю да людзей, да Радзімы і роднай прыроды сагрэта і пявучае слова Анатоля Іверса:

Серабрыстая нітка —
Павуціна плыве.
Нехта прозалаць выткаў
Па зялёнай канве.
Гэта Верасень сёння
Пахадзіў па лістах,
Пераскочыў сасоннік,
Нібы кнігу лістаў.

Што прыйшлося перажыць Анатолю Іверсу, нават цяжка сабе ўявіць... Маці яго забіў польскі памешчык, бацька і жонка загінулі ў Калдычоўскім канцлагеры, брат загінуў у 1942 годзе ў адным з першых партызанскіх баёў на Слонімшчыне. Самога паэта тройчы аддавалі пад суд польскія паны. Ён, адзін з арганізатараў антыфашысцкага падполля ў родных мясцінах, партызанам сустракае вызваленне Беларусі ад фашысцкай нечысці. Усе гэтыя падзеі адлюстраваны ў вершах «На этапнай дарозе», «Пароль», «Сасна», «Мая песня» і іншых.

Але якімі б ні былі цяжкімі праклятыя гады, як бы «дні жыцця калючыя» ні «зразорылі» твар паэта, ён і сёння гатоў ісці ў бой:

І ў полымя палезу я
Супроць любога ворага,
І ты са мной, паэзія, —
Вось гэта мне і дорага.

І нам дарагая рэвалюцыйная паэзія былой Заходняй Беларусі, любоўна сабраная і пракаменціраваная Уладзімірам Калеснікам.

Кніжка вершаў «Сцягі і паходні» пашырае нашы ўяўленні пра творчасць паэтаў 20-х — 30-х гадоў, калі Заходняя Беларусь паднялася на барацьбу супраць польскіх магнатаў, якім было ўдалося часова захапіць «усходнія крэсы».

**Сцяпан МІСКО.**



# Кнігарня „Маладосць"

## ЖЫЦЦЁ — ПОДЗВІГ




**«Я ганаруся тым, што з'яўляюся членам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі... Вы абвінавачваеце Камуністычную партыю Заходняй Беларусі ў тым, што яна заклікала народ да ўзброенага паўстання. Але кожны павінен ведаць, што рэвалюцыя з'яўляецца вынікам развіцця класавай барацьбы і няма такой партыі, якая б магла штучна выклікаць рэвалюцыю... З'яўляючыся членам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, я добра разумею свой рэвалюцыйны абавязак... і застануся вернай гэтаму абавязку і тады, калі выйду з астрога».**

**Гэтыя словы кінула ў твар польскага санацыйнага суда выдатная дачка беларускага народа, прафесіянальная рэвалюцыянерка, Герой Савецкага Саюза Вера Захараўна Харужая ў 1928 годзе. Аб падпольнай дзейнасці Веры Харужай на «крэсах усходніх» у 1925—1928 гадах, аб яе рабоце ў Камуністычным Саюзе Моладзі польская пісьменніца Ганна МУШЫНСКАЯ-ГОФМАН расказвае ў аповесці «ВЕРА І ЯЕ ТАВАРЫШЫ». На беларускую мову аповесць перакладзена Ядвігай Бяганскай і выпушчана выдавецтвам «Беларусь» (1965). У заключным раздзеле аповесці расказваецца таксама пра апошнія гады жыцця Веры, пра яе барацьбу з гітлераўскімі захопнікамі.**

## МАЛАДОСЦЬ ТАЛЕНТУ




**Люблю агонь, што нельга патушыць,
Што свеціць іншым — непагасным бляскам.
Мне б верш такі, што можа доўга жыць,
Іскрыцца яркай цеплынёй і ласкай.
Іскрыцца думкай — светлай, як зара,
Натхненнем шчырым, сілаю вялікай,
Каб, трапіўшы да кожнага двара,
Ён мог людзей да будучыні клікаць.**

**Гэта строфы з новай кнігі вершаў старэйшай беларускай паэтэсы Канстанцыі БУЙЛЫ. Кніга называецца «МАЙ» (Выдавецтва «Беларусь», 1965). У яе ўключаны вершы рознага часу, аднак большасць з іх напісана ў апошнія гады. Тэматычны абсяг вершаў шырокі: пра палёт у космас, пра дружбу народаў, пра радасць працы і іншае. Шмат вершаў прысвечана каханню, чароўнай беларускай прыродзе, розным порам году, асабліва вясне, маю.**

## ЯК ВАС ЗАВУЦЬ?..




**Колькі асабовых уласных імён бытуе ў Беларусі? Якога яны паходжання? Якія з іх устарэлі, а якія новыя?**

**На ўсе гэтыя пытанні дае адказ «СЛОЎНІК АСАБОВЫХ УЛАСНЫХ ІМЁН», падрыхтаваны кандыдатам філалагічных навук М. Р. СУДНІКАМ і выдадзены выдавецтвам «Навука і тэхніка» (1965).**

**Аўтарам сабрана больш 2 500 уласных беларускіх імён, якія згрупаваны ў тры раздзелы: беларуска-рускі, руска-беларускі і раздзел старых і новых слоў-імёнаў, што сустракаюцца рэдка. У першых двух раздзелах падаюцца імёны ў іх літаратурным вымаўленні і ў размоўным, гутарковым варыянце.**

**Побач са старажытнарускімі і беларускімі імёнамі ў слоўніку шмат імён іншамоўнага паходжання.**

## ПЕРШЫ ТЛУМАЧАЛЬНЫ



ВЕК — 1) Прамежак часу ў сто год; стагоддзе. Дваццаты век. 2) Жыццё, перыяд існавання каго-небудзь, чаго-небудзь. Пражыць свой век. 3) Вельмі доўгі час; вечнасць. Не бачыліся цэлы век. 4) Заўсёды, вечна. Век буду помніць. 5) Перыяд часу, які характарызуецца чым-небудзь; эпоха. Век атамнай энергіі.

Так тлумачыць значэнне слова «век» першы ў беларускім мовазнаўстве «ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ» (Выдавецтва «Народная асвета», 1966). У ім сабрана каля 5 000 слоў і ўстойлівых выразаў, якія з'яўляюцца малазразумелымі ці незразумелымі.

Аўтары слоўніка — кандыдаты філалагічных навук А. Я. БАХАНЬКОЎ, І. М. ГАЙДУКЕВІЧ, П. П. ШУБА — адрасуюць сваю работу вучням сярэдняй школы, настаўнікам і ўсім, хто цікавіцца і вывучае беларускую мову.

## МОВАЗНАЎСТВУ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА...




Пытанням моўнай культуры прысвечаны зборнік «АБ НЕКАТОРЫХ АСАБЛІВАСЦЯХ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ» (Выдавецтва «Навука і тэхніка», 1965). Аўтары зборніка закранаюць шэраг важных пытанняў беларускага мовазнаўства: аб працэсе станаўлення некаторых лексічных норм (І. К. Германовіч), аб некаторых адхіленнях ад правіл сучаснай беларускай пунктуацыі (Л. І. Буран), аб правільным калькаванні пры ўтварэнні новых слоў (П. П. Шуба), аб націску ў беларускай мове (Я. М. Рамановіч, А. І. Чабарук), аб ужыванні абрэвіятур (З. Ф. Краўчанка) і іншае.

## ДЗЕ І ЯК ШУКАЦЬ ГРЫБЫ?




Хто не любіць збіраць грыбы! Аднак не ўсе ведаюць, якія з іх можна спажываць, а якія — не, якія карысныя, а якія шкодныя. І ужо, напэўна, усіх без выключэння цікавіць пытанне, як і дзе збіраць грыбы.

На ўсе гэтыя пытанні дае адказ кніга «ГРЫБЫ НАШЫХ ЛЯСОЎ», выпушчаная выдавецтвам «Ураджай».

Акрамя таго, у кнізе даюцца парады, як лепш сушыць, марынаваць, саліць і кансерваваць грыбы ў хатніх умовах, як падрыхтаваць грыбныя салаты, соусы, першыя і другія стравы, грыбныя фаршы і начынкі.

Кнігу падрыхтавалі кандыдат біялагічных навук Г. І. СЯРЖАНІНА, З. Н. КУДРАШОВА, В. М. ТУТКЕВІЧ, Ф. Ф. ЗАХАРЫЧ, а ўклаў — К. В. ШУЛЬГА.

□□□

# БЕЛАРУСЬ У ПРАЦАХ ІВАНА ПРЫЖОВА

Сярод рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў Іван Гаўрылавіч Прыжоў (1827—1885) займае хоць і сціплае, але пачэснае месца. Ён не быў мысліцель маштабу Бялінскага, Герцэна, Чарнышэўскага, не валодаў мастацкім талентам Някрасаўскай сілы, і тым не менш яго працы з'яўляюцца значным укладам у скарбніцу рэвалюцыйна-дэмакратычнай спадчыны.

Нават кароткі пералік работ Прыжова («Поп і манах як першыя ворагі культуры», «Гісторыя прыгоннага права», «Жабракі на святой Русі», «Грамадзяне на Русі», «Светлы бок паэтычных адносін прыроды і чалавека», «Гісторыя шынкоў у Расіі» і іншыя) сведчыць аб шырыні інтарэсаў вучонага, аб яго дэмакратычных пазіцыях.

У «Споведзі» Прыжоў пісаў, што мэтай яго прац было «на падставе законаў гістарычнага руху... прасачыць усе галоўныя з'явы народнага жыцця і кожную з іх — з першых слядоў іх існавання і аж да сённяшняга дня», каб «арыентавацца ў тым, што было, што ёсць, што павінна быць». Такім чынам, ён імкнуўся стварыць рэвалюцыйна-дэмакратычнае народазнаўства, метадалагічныя асновы якога былі закладзены Чарнышэўскім і Дабралюбавым.

Прыжова цікавілі жыццё і культура не толькі рускага, але таксама ўкраінскага і беларускага народаў. Украіне ён прысвяціў адну з буйнейшых сваіх работ «Маларосія (Паўднёвая Расія) у гісторыі яе літаратуры з XI па XVIII стагоддзе». Тэма Беларусі не займала так Прыжова, як тэма Украіны. Тым не менш, у яго працах можна знайсці неаднаразовыя ўпамінанні пра Беларусь, якія сведчаць не толькі аб цікавасці рускага вучонага да гісторыі і быту беларускага народа, але і аб глыбокім веданні асобных бакоў культурнага жыцця Беларусі.

Сярод кніг, якімі карыстаўся Прыжоў, былі «Акты, якія датычаць гісторыі Паўднёвай і Заходняй Расіі», «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі» П. М. Шпілеўскага, «Збор помнікаў народнай творчасці ў Паўночна-Заходнім краі» і іншыя работы і зборнікі, якія датычаць непасрэдна Беларусі.

Прыжова цікавіла гістарычнае мінулае беларускага народа, аб чым сведчаць яго даволі частыя экскурсы ў гісторыю Беларусі. У рабоце «Гісторыя шынкоў у Расіі», напрыклад, ён пісаў: «Вісла і Буг аддзялялі заходніх славян ад славян усходніх, якія насілі розныя назвы. То былі крывічы, якія суседнічалі з Ноўгарадам і Літвой і склалі цэнтр Літоўска-Рускага княства. Палачане жылі па Дзвіне, дрыгавічы паміж Прыпяццю і Дзвіной... У зямлі крывічоў з XI стагоддзя ўзніклі незалежныя княствы, і ў першай палавіне XIII стагоддзя ўвесь гэты край перайшоў пад уладу Літвы. З XV стагоддзя ён атрымаў адно агульнае імя Беларусі».

У працах Прыжова ёсць многа звестак пра беларускія народныя абрады і звычаі. Так, у рабоце «Жабракі на святой Русі» даследчык адзначае: «... захаваліся песні абрадавыя і святочныя, для спявання якіх пясняр-народ прымаў характар старажытнаславянскіх песняроў. Такімі, напрыклад, з'яўляюцца песні (калядкі), якія спяваліся ў часе каляд. Асобы, якія спявалі калядкі, называюцца ў Беларусі валачобнікамі, ад слова валачыцца, гэта значыць хадзіць з месца на месца са спевамі, інакш — перахожымі. Валачобнікі — гэта спевакі, якія ходзяць са спевамі па вёсках у ноч з нядзелі на панядзелак вялікадня... Яны прыносяць мір і шчасце дому, і гаспадары чакаюць іх, як благаславёных гасцей. Спевакі набіраюцца з сялян, ходзяць партыямі (ватагамі) ад 8 да 20 чалавек. Кіраўнік партыі **пачынальнік** — мужык заможны..., і ён пачынае песню, а **падхватнікі** падхопліваюць, ён жа атрымлівае падаянне, якое збірае спецыяльная асоба, што называецца **механошай**. Разам са спевакамі ходзяць і музыканты, адна або дзве скрыпкі і дудар...»

У сваіх працах Прыжоў не абмяжоўваўся апісаннем абрадаў і звычаяў народа, ён імкнуўся выкрыць палітыку пануючых класаў, якія трымалі народ у цемры. «Адначасова з пашырэннем на поўначы цалавальнікаў, — адзначаў ён,— у Маларосіі і Беларусі распаўсюджваліся ўсюды шынкары».

Аднак жа, як адзначае Прыжоў у нарысе «Карчма», беларусы і ўкраінцы, нягледзячы на ўсе намаганні пануючых класаў разбэсціць народныя масы, захоўваюць высокія маральныя якасці. «Па ўсёй Беларусі і Украіне,— пісаў ён,— нягледзячы на ўсе намаганні ператварыць карчму ў шынок, яна дагэтуль яшчэ служыць звычайным месцам для сходаў, гутарак і гульбы. У Беларусі бабу пасля хрысцін вядуць у карчму; вяселле, накіроўваючыся ў царкву, заязджае ў карчму. Двор карчмы або стадола (хлеў пры карчме) служыць месцам сходаў хлопцаў і дзяўчат, якія збіраюцца сюды скакаць пад музыку». Такім чынам, думкі даследчыка народнага быту падмацоўвалі думку Чарнышэўскага пра народны «маральны капітал» і былі значным укладам у справу барацьбы з рознымі «тэорыямі» рэакцыйных вучоных, якія ўсімі даступнымі ім сродкамі імкнуліся даказаць права пануючых класаў эксплуатаваць народ.

Трапілі ў поле зроку рускага рэвалюцыйнага дэмакрата І. Г. Прыжова і творы старажытнай беларускай літаратуры, а таксама іншыя помнікі культурнага жыцця Беларусі. У прыватнасці, ім адзначана выдавецкая і перакладчыцкая дзейнасць Георгія Скарыны. «Першая кніга, надрукаваная на рускай мове, была «Біблія Руска», якая перакладзена доктарам Скарынай з Полацка і выйшла ў Празе ў 1517—1519 гг. выданнем мешча-

ніна Багдана Анькова,— пісаў Прыжоў.— Яна апярэдзіла чэшскі пераклад біблії (1555) і польскія... У 1525 г. ужо ў Вільні Скарына надрукаваў у друкарні, заведзенай тады ў доме бургамістра Якава Бабіча, «Апостал», «Псалтыр», «Акафісты» і інш.». Тут рускай (заходнерускай) моваю ён называе мову, якая «развілася на глебе маларускай і беларускай» у Літоўскім княстве. Сярод помнікаў старажытнай беларускай літаратуры Прыжоў адзначыў яшчэ «Катэхізіс для простых людзей мовы рускай», які склаў кальвініст Сымон Будны з таварышамі.

Іван Прыжоў высмейваў тых «маскоўскіх вучоных», якія даказвалі, што першай друкаванай кнігай у Расіі быў «Апостал», выдадзены Іванам Фёдаравым. Ён падкрэсліваў, што «Апостал» з'явіўся пасля кніг Скарыны і Будната, а Іван Фёдараў вымушан быў пасля разгрому друкарні ўцякаць у Літву і працягваць сваю дзейнасць у Заблудаве, а потым у Львове.

У сваіх працах Прыжоў неаднаразова спасылаўся на выдатны твор старажытнай беларускай літаратуры «Прамова Мялешкі» і прыводзіў цытаты з гэтага твора. Праўда, ён не зразумеў, што «Прамова Мялешкі» з'яўляецца не гістарычным дакументам, а літаратурным сатырычным творам.

Такім чынам, нават беглы агляд выказванняў Прыжова пра Беларусь дае магчымасць сцвярджаць, што рускі этнограф і фалькларыст не проста цікавіўся гісторыяй, культурай і бытам беларускага народа, але і глыбока ведаў некаторыя бакі культурнага жыцця Беларусі. Вырашаючы пастаўленую Чарнышэўскім і Дабралюбавым задачу стварэння рэвалюцыйна-дэмакратычнага народазнаўства, Прыжоў унёс важны ўклад у вывучэнне і прапаганду культуры беларускага народа. Яго выказванні аб Беларусі складаюць яркую старонку руска-беларускіх культурных сувязей, якая да гэтага часу не прыцягнула ўвагі нашых даследчыкаў.

**Мікола МАЛЯЎКА.**

г. Гомель.

# ЛІТАРАТУРНАЯ СТУДЫЯ

**У 1930—1932 гадах у Мінску пры Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў існавала Цэнтральная літаратурная студыя. Кіравацъ ёю бюро і сакратарыят БелАПП вылучылі М. Чарота, А. Александровіча, П. Галавача і М. Хведаровіча.**

**Студыя выхоўвала моладзь, памагала ёй авалодваць тэхнікай літаратурнага майстэрства. Прыём у яе праводзіўся на агульным сходзе студыйцаў адкрытым галасаваннем. У студыі займаліся: Э. Агняцвет, Я. Васілеўскі, С. Грахоўскі, Я. Зазека, М. Ларчанка, Я. Семяжон, А. Ушакоў.**

**Цікава праходзілі заняткі. Звычайна студыйцы збіраліся адзін раз на тыдзень.**

**І кіраўнікі і студыйцы разам: Ізі Харык, Андрэй Александровіч, Міхась Чарот, Эдзі Агняцвет, Платон Галавач, Ілары Барашка, Мікола Хведаровіч і іншыя.**



**Слухалі лекцыі па тэорыі, метадалогіі і гісторыі літаратуры: іх чыталі вядомыя пісьменнікі і вучоныя. Работай студыі цікавіўся Я. Купала. Ён прыходзіў на заняткі, даваў слушныя заўвагі і парады. Пасля таварыскага абмеркавання многія творы студыйцаў траплялі ў друк.**

**Студыйцы наладжвалі літаратурныя вечары, на якіх яны выступалі разам з вядомымі беларускімі пісьменнікамі.**

**Павел ПРУДНІКАЎ,**
**былы член Цэнтральнай літаратурнай студыі пры БелАПП.**

# АНГЛІЧАНЕ ЧЫТАЮЦЬ БЕЛАРУСАЎ



Яшчэ не так даўно прамых перакладаў з беларускай мовы, выканаых майстрамі зарубежнай паэзіі, налічваліся толькі адзінкі. У гэтай сувязі заслугоўваюць асаблівай увагі непасрэдныя кантакты беларускіх пісьменнікаў з зарубежнымі цаніцелямі беларускага слова.

Перапіска Я. І. Семяжона з Уолтарам Мэем і Бэці Парвін, пачатак якой пакладзены каля года таму назад, у вышэйшай ступені цікавая. У гэтай перапісцы абодва бакі цудоўна разумеюць адзін аднаго не толькі таму, што «мова Джозэфа Семяжона дазволіла б яму прывітацца з Гамлетам», як піша Бэці Парвін, але і таму, што нашы англійскія сябры хутка знайшлі той запаветны ключ да ўзаемаразумення і сапраўднага збліжэння, якім з'яўляецца паэзія ў яе нацыянальных формах, сапраўды агульначалавечая. Яны пачалі з адкрыцця беларускага прачытання Шэкспіра, Бёрнса і Байрана, а затым, натуральна, перайшлі да адкрыццяў у той нацыянальнай паэзіі, на мову вобразаў якой і пераклаў найвялікшых англійскіх паэтаў «Джозэф Семяжон».

Перад намі лісткі з бісерным почыркам міс Бэці Парвін. Для пачатку знаёмства яна расказвае пра сваё жыццё, інтарэсы, запрашае ў госці беларускіх сяброў, абяцае паказаць ім месцы паломніцтва чытачоў і прыхільнікаў Байрана.

Для дакладнага перакладу, гаворыць міс Бэці Парвін, трэба ведаць мову паэзіі так, каб умець чытаць і між радкоў — іменна так хацела б яна перакласці М. Танка і А. Куляшова. У другім пісьме англійская перакладчыца піша, што беларускія паэты падабаюцца ёй тым больш, чым больш яна іх чытае.

Бэці Парвін паведаміла таксама, што выдавец Дж. Сілкін зацікавіўся беларускімі паэтамі, таксама як і Вера Рыч, якая выдае часопіс паэзіі.

Другі карэспандэнт Язэпа Ігнатавіча Семяжона — Уолтэр Мэй — называе М. Танка і А. Куляшова паэтамі самай высокай кваліфікацыі і паведамляе, што выдавецтва «Фрэзер» прыняло да друку 27 вершаў Аркадзя Куляшова і каля 40 — Максіма Танка. Ён, У. Мэй, спыняецца на агульнатэарэтычных прынцыпах савецкай школы мастацкага перакладу, якая яму дастаткова добра знаёма па публікацыях некалькіх зборнікаў «Майстэрства перакладу», па кнігах К. Чукоўскага, Е. Эткінда і іншых савецкіх тэарэтыкаў і асаб-

ліва па перакладах такога майстра, як С. Маршак. Звярнуўшыся да перакладаў беларускай паэзіі, У. Мэй шукае эмацыянальную сілу паэзіі між радкоў, аддае належнае ўзаемнасці сумесных перакладчыцкіх пошукаў і рашэнняў з «містэрам Джозэфам». З ім дзеліцца ён сваімі сумненнямі і ваганнямі як па агульнаэстэтычных, так і па чыста тэхналагічных пытаннях пры адборы і «ўзважванні слоў». Яму ж, Я. І. Семяжону, піша У. Мэй аб тым, як разумеюць цяпер у Англіі шатландскую, зусім не правінцыяльную, а, наадварот, самабытную паэзію, і аб тым, што схільнасць Мэя, як перакладчыка, і англійскіх пісьменнікаў і чытачоў, якія стаяць за ім, да паэзіі М. Танка і А. Куляшова не выпадковая. У той час як публіка застаецца халодная да абстрактных падробак пад паэзію, яна вельмі і вельмі чулая да агульначалавечага зместу праграмных вершаў М. Танка «Мой хлеб надзённы» і «Трактат аб паэзіі». Гэта дакладная паэзія, свабодная ад упрыгожванняў.

Англійскіх чытачоў, як піша У. Мэй, лірыка А. Куляшова прываблівае пастаноўкай і вырашэннем філасофскіх запатрабаванняў стагоддзя, калі на карту пастаўлены лёс сусветнай цывілізацыі. У. Мэй падкрэслівае, што, з аднаго боку, пераклады Я. Семяжонам англійскіх балад, а з другога — удумлівае прачытанне ім, У. Мэем, балад А. Куляшова прыводзіць да вываду, што беларускі паэт паказаў, наколькі невычэрпны гэты паэтычны жанр, які так многа гаворыць сам па сабе англійскім аматарам сапраўднай паэзіі.

Заканчваецца пісьмо У. Мэя да Я. І. Семяжона запрашэннем наведаць Англію: «У Нотынгеме мноства людзей, якія будуць вас слухаць». Да пісьма прыкладзена копія запрашальнага білета Таварыства дружбы, што абвяшчае аб паэтычных чытаннях, у праграме якіх — паэтычныя цыклы: «Народ», «Прырода», «Вайна», «Мір», пераклады Бёрнса і Шэкспіра.

**Д. ФАКТАРОВІЧ.**



# АБРАЗКІ З ЖЫЦЦЯ МІКРАСВЕТУ

## МОЦНА ПЕРАБОЛЬШАНЫЯ

Гэты нябачны ні ў якія мікраскопы свет мае незвычайныя, а часам нават і павучальныя ўласцівасці. Праўда, з яго насельнікамі — атамамі, малекуламі і элементарнымі часцінкамі — па-сапраўднаму знаёмы толькі фізікі. Але фізікі пішуць пра іх не апавяданні і аповесці, а навуковыя артыкулы і манаграфіі, дзе ўсю справу заблытваюць формуламі. У пісьменнікаў жа да мікрасвету рукі не даходзяць, ды і не возьмеш жа куды-небудзь у малекулу творчую камандзіроўку, каб матэрыял на месцы вывучаць... Вось і выходзіць, што мастацкага адлюстравання жыцця на ўзроўні асноў светабудовы ў нас да гэтага часу няма. А там жа не толькі свае фізічныя таямніцы, але і свае маральна-этычныя праблемы. Гэта значыць, матэрыял для літаратуры.

Што гэта так, можна ўбачыць з абразкоў, якія прыводзяцца ніжэй і ўяўляюць сабой моманты з жыцця атама нейкага элемента...

### 1. ХАДЖЭННЕ ЭЛЕКТРОНА ПА ІНСТАНЦЫЯХ

У гэтым атаме на арбіце, хоць і не самай высокай, але і не самай нізкай, кружыўся Электрон, пра які і пойдзе гаворка. У яго былі сапраўдныя фізічныя якасці: і электрычны зарад, і маса, і колькасць руху, і нават свой уласны вуглавы момант. * Адно толькі было дрэнна: цярпеў наш Электрон ад раздваення асобы.

— Эх, каб далі мне свабоду волі! — марыў ён. — Ад гэтых фізічных законаў проста жыцця няма...

Думаў ён гэтак, думаў, а пасля сабраўся ды і пайшоў па інстанцыях: можа і памогуць чым-небудзь.

— Глядзі ты, чаго захацеў! — сказалі яму там. Аднаму дай волю, дык іншым таксама захочацца.




Што ж атрымаецца: хочаш — падпарадкоўвайся фізічным законам, а не хочаш — як хочаш... Не-е, фізіка — навука дакладная.

І не далі яму свабоды волі.

Другі раз пайшоў Электрон па інстанцыях. Калі ўжо, думае, поўнай свабоды не даюць, можа хоць уласны воблік мець дазволяць...

— Хіба ж гэта жыццё, — стаў скардзіцца Электрон, — калі ты на свайго суседа па арбіце так падобны, што часам не ведаеш, дзе ты, а дзе ён?

— Бач, арыгінал які знайшоўся! — сказалі яму ў адказ. — Інды-

* Уласны вуглавы момант, або спін, — адна з асноўных характарыстык элементарных часцінак.

відуальнасці яму захацелася... А што ў інструкцыі наконт нераспазнавальнасці электронаў сказана, забыў?

І зачыталі яму адпаведнае месца з квантавай механікі.

Зноў вярнуўся наш Электрон ні з чым. Не, думае, так проста ў іх нічога не выпрасіш. І рашыў ён схітрыць.




Пайшоў ён па інстанцыях трэці раз.

— Хачу, — кажа, — навуковай працай займацца. Вунь мой сябар у сталіцы на паскаральніку працуе, у эксперыментах удзельнічае. А я што, горшы? У мяне, можа, таксама здольнасці!

— Якой жа работай, — пытаюцца, — ты займацца думаеш?

— Фізікай электронаў. Сябе буду сузіраць і ўсякія вывады рабіць.

— Ну што ж, займайся сабе на здароўе самасузіраннем. На гэта нават ніякага дазволу не патрэбна.

— Дык я ж хачу, каб мне для гэтага афіцыйна час вызначылі. За кошт таго, што я буду ў Атаме на паўстаўкі працаваць...

— Э, не! На гэта мы пайсці, прабач, не можам... Сам памяркуй: якая карысць ад работы на паўстаўкі, калі двух электронаў на адну пасаду прыняць усё роўна нельга? Ёсць з гэтага поваду спецыяльнае ўказанне *.

Зусім тут наш Электрон пакрыўдзіўся на ўсе інстанцыі і ў другую крайнасць кінуўся:

— Калі так, — кажа, — вы да мяне адносіцеся, дык я таксама так... Не трэба мне ваша свабода волі. Хачу класічнай пэўнасці ў сваім стане! Адмаўляюся быць квантавым аб'ектам!

Тут усе так і ахнулі:

— Як! Класічная пэўнасць?! Ды ці разумееш ты, што гаворыш? Гэта ж жыццё без усялякіх прызнакаў самастойнасці! Уся твая будучыня на векі вечныя прадвызначана тваім становішчам і хуткасцю ў...

— Ну і няхай! — перабіў Электрон. — Няхай прадвызначана. Затое не будзе ніякіх сумненняў і непатрэбных роздумаў!

— Можа гэта і добра, але мы не здолелі б табе памагчы, нават калі б хацелі. Усю пэўнасць, якая табе па інструкцыі належыць, ты ўжо атрымаў *.

І хоць, нарэшце, і адгаварылі Электрон ад гэтага неабдуманага ўчынку, усё ж ён, вярнуўшыся на арбіту, доўга не мог перайсці ў неўзбуджальны стан і непачціва адзываўся пра інстанцыі, называючы іх бюракратамі. Дзе ж яму было ведаць, што ад установы, якая стаіць на варце фізічных законаў, нічога іншага і чакаць нельга...

А зрэшты, можа і няма зусім ніякіх інстанцый у Атаме... Проста па звычцы неяк думаецца, што калі ёсць законы, то нехта павінен сачыць за іх выкананнем.

## 2. РАЗДВАЕННЕ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Потым Электрон супакоіўся крыху, да яго вярнуліся ранейшыя думкі. Пра тое, як яму абрыдлі яго палавінчатасць і яго дваістасць. Палавінчатасць вуглавога моманту і дваістасць уласцівасцей. З аднаго боку, ты нібыта часцінка: маса ёсць, зарад; а з другога боку паглядзіш — хвалевыя ўласцівасці ўбачыш. Увогуле, і да хваляў не трапіў і да часцінак не прыстаў...

— Правільна гавораць, што горш за няпэўнасць нічога няма — ніколі наперад не ведаеш, як сябе паводзіць трэба: часцінкавыя ўласцівасці праяўляць ці хвалевыя?

Электрон памаўчаў крыху, а потым зноў пачаў растрывожваць сябе:

— А работа? Хіба ж гэта работа? Носішся па адной і той жа абалонцы, ледзь у сваю даўжыню хвалі ўкладваешся... А якая карысць? Мой сябар вунь навукай займаецца, а я сяджу ў гэтай патэнцыяльнай дзіры без ніякіх перспектыў на больш высокую арбіту. І хоць бы было з кім душу адвесці! Дык і гэтага няма. Не пойдзеш жа, на самай справе, да Атамнага Ядра ў госці. Хоць усе мы пад яго сілавым уплывам знаходзімся, я асабіста плюю на яго!

І раптам Электрон асяніла:

— А мая ж хвалевая функцыя нідзе нулю не раўняецца. Значыць, і ў ядры таксама! — Ён ледзь ад здзіўлення не спыніўся, ды законы фізікі не далі. — Гэта значыць, што я паміма сваёй волі магу ў начальніка ў гасцях апынуцца!.. Я не стаў бы траціць час на кампліменты! Я расказаў бы яму, якія пра яго чуткі ходзяць. Нібыта да пераходу ў




наш Атам быў ён блізкі з нейкай часцінкай лёгкіх паводзін. Да бэта-распаду, кажуць, справа дайшла. І толькі дзякуючы знаёмству на малекулярным узроўні — гэтую справу ўдалося замяць. Тады якраз нас і ашчаслівілі новым Атамным Ядром. «Толькі ж і ў нас, — сказаў бы я яму яхідна, — ваша дадатнасць... хе-хе... (у сэнсе электрычнага зараду), вядома, ніяк да гэтага часу не праявілася: вы толькі і робіце, што лынды б'яце, з якога пункту арбіты на вас ні паглядзі...» Тут я ляснуў бы дзвярыма і пайшоў бы, не даўшы яму і слова прамовіць.

Ачывіўшыся крыху, Электрон зноў звяў:

— Нічога такога я не скажу, гэта ж ясна... Дарэмна толькі сабе душу вераджу. — Ён уздыхнуў: — Зайздросна мне глядзець на тых, каго нішто не хвалюе, ніякія сумненні не грызуць. Няўжо ўся справа ў грубасці іхняй арганізацыі? Трэба паспрабаваць высветліць... Вось, дарэчы, сусед па арбіце... Гэй, прыяцель! — звярнуўся ён да электрона, які пралятаў міма. — Як ты расцэньваеш сваё становішча?

— А чаму ты пытаешся?

— Ды так... для статыстыкі патрэбна.

— Звычайна расцэньваю... Галоўны квантавы лік — два, арбітальны — адзін, праекцыя спіна...

— Дастаткова. Можаш ісці... — перапыніў яго Электрон.

І калі субяседнік знік, пачаў разважаць так:

— Вось, калі ласка. Што ён разумее ў жыцці? Жыве, ні пра што не думае і ўсім задаволены... Але чаму я ўсё гэта так добра разумею? — зноў здзівіўся Электрон незвычайнай думцы. — Як узгадніць гэта з інструкцыяй аб нераспазнавальнасці электронаў? Бо калі толькі я гэта разумею, то інструкцыя парушаецца?! Трэба будзе яшчэ папытацца... Вось якраз другі сусед па арбіце набліжаецца... Паслухай, прыяцель, як ты расцэньваеш сваё становішча?

— Ды ты ж толькі што мне такое пытанне задаваў!

— Не можа быць!.. — здзівіўся Электрон. — Прабач, не пазнаў цябе. Ці не... я то пазнаў, але думаў, што нераспазнавальнасць электронаў мяне падводзіць... Добра... Скажы тады, як табе падабаецца твая работа?

— Што ж, я ёю задаволены. Лічу, што на сваім месцы знаходжуся. Нехта ж усё роўна павінен яе выконваць і займаць мой узровень. Не дарэмна ж пасля іянізацыі, калі электронаў у Атаме не хапае, аддзел кадраў праяўляе такую павышаную актыўнасць. Нават лішніх часам набірае.

— Так, так... Добра... — прадаўжаў наш Электрон, калі субяседнік знік. — Мысленне яўна на ўзроўні прапісных ісцін. Значыць, так: або я зусім не Электрон, або

* Прынцып Паўлі забараняе двум ці больш электронам у атаме знаходзіцца ў адным і тым жа стане.

* Так званыя суадносіны няпэўнасці паказваюць ступень прымяняльнасці класічных уяўленняў да электронаў і іншых квантавых аб'ектаў.

інструкцыя аб нераспазнавальнасці не на ўсіх пашыраецца... Вось дык я! — пахваліў ён сам сябе. — Такую дылему паставіў!.. Інструкцыя? Гэта мы пакінем. Неахвота з інстанцыямі звязвацца. Выходзіць, я не Электрон? Можа я — сам Мю-мезон?




Электрон стаў у позу і прадэкламаваў:

— Гэй, паглядзіце, электроны!
Не Электрон я, а Мезон!

## 3. ЭЛЕКТРОННЫ ПЕРАХОД У АТАМЕ

— Не, гэта ўжо занадта! — прызнаўся Электрон сам сабе. — Ёсць больш рэальная магчымасць: для электронаў прадугледжан стан павышанай інтэлектуальнасці, і я якраз знаходжуся ў ім.

І яго проста пачало распіраць ад пачуцця ўласнай годнасці:

— Што мне начальства! — сказаў ён (напаўголаса). — Яшчэ невядома, хто вакол каго павінен па справядлівасці кружыцца...




Але тут ён заўважыў, што на самай нізкай, самай маленькай, самай непрыкметнай, але затое і самай блізкай да ядра ка-абалонцы з'явілася вакантнае месца.

У мікрасвеце ўсе працэсы амаль імгненна адбываюцца. Крышачку падумаўшы, Электрон напісаў:

«У Цэнтратам
Заява.

Прашу запоўніць мною месца, што вызвалілася на ка-абалонцы. Абавязваюся лішак энергіі аддаць на гама-выпраменьванне.

Электрон».

І ім запоўнілі месца.

У хуткім часе Электрон адчуў у сабе цудоўныя перамены. Душа ў яго стала цэльная, начальствам ён стаў задаволены, пра высокія арбіты і думаць забыў, а што датычыць усякіх там інструкцый, то Электрон хоць і не парушаў іх, але пачаў лічыць, што яны не для такіх, як ён, напісаны.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

## ГУМАВАЯ ГАЗЕТА



У Парыжы нейкі Арэльен Шол пачаў выдаваць газету, якая друкуецца на гумавых аркушах. Яна прызначаецца, каб чытаць у ванне.



# ПЕРАД ЛЕТНЯЙ ДАРОГАЙ

Трыццаць год таму назад, у 1936 годзе, футбалісты мінскага «Дынама» правялі свае першыя матчы. Праўда, яшчэ не на «вышэйшым узроўні», але станаўленне калектыву пачалося іменна тады. На наступны год ён ужо «замацаваўся» сярод каманд групы «Д», а ў 1940 годзе заняў шостае месца паміж камандамі групы «Б». Перад самай вайной дынамаўцы Мінска ўпершыню выступілі ў кагорце мацнейшых, змагаючыся за тытул чэмпіёна. Пасля дзесяці сустрэч яны займалі шостае месца ў турнірнай табліцы. Дэбют быў удалы. Інакш і быць не магло: у склад каманды ўваходзілі такія «асы» футбола, як абаронца Леанід Салаўёў і паўабаронца Аляксандр Маляўкін, якія сталі потым заслужанымі майстрамі спорту. У нападзенні былі Васіль Панфілаў, Пятро Ігнатаў, Мікола Шавялянчык, Аляксандр Сявідаў, чые рэйды на штрафную пляцоўку прыносілі шмат непрыемнасцей праціўніку. Але паказаць свае здольнасці на поўную сілу калектыў дынамаўцаў так і не змог: пачалася вайна.

Па-рознаму склаўся лёс былых футбалістаў мінскага «Дынама». Адным не давялося дажыць да дня Перамогі, другім пашчаслівіла вярнуцца пасля вайны да любімага занятку. У даваенных дынамаўцаў былі свае вельмі добрыя, абавязковыя для футбольнага калектыву традыцыі — працавітасць, таварыскасць, узаемападтрымка, дысцыплінаванасць. Гэтыя якасці і выводзілі калектыў у разрад вядучых.



**Ігар Ромін** (справа) **заканчвае сёлета Беларускі політэхнічны інстытут. Кожную вольную ад гульняў і трэніровак гадзіну аддае ён вучобе.**

Імкненне да адраджэння добрых традыцый даваеннай каманды стала галоўнай задачай пры арганізацыі пасля вайны новага калектыву мінскага «Дынама». Як жа гэта рабілася?

Ужо ў 1962 годзе дынамаўцы Мінска прымусілі задумацца тых, хто спаборнічаў з імі на зялёным полі. Заняць высокае месца ў турнірнай табліцы калектыў усё ж не змог: ён рос і ў росце набываў талент і патрэбныя якасці. У наступным сезоне мінскія дынамаўцы іг-

## ЭТАПЫ КІНАСЛАВЫ

Амерыканскі камедыйны кінаакцёр Боб Гоўт такім чынам вызначае развіццё кар'еры новай (якой-небудзь) галівудскай зоркі: «Спачатку яна перамагае на якім-небудзь конкурсе хараства. Потым яе прывозяць у Галівуд, дзе яна атрымлівае ролю ў якім-небудзь фільме. Пра яе пішуць газеты, публікуюць яе фота. Ажно цяпер, калі, як кажуць, лёд крануўся, новая зорка пачынае вучыцца чытаць і пісаць».





Варатар Анатоль Глухотка.

Трэнер каманды майстар спорту Альберт Дзенісенка (злева) праводзіць з футбалістамі лёгкаатлетычны крос.



ралі ўжо мацней, больш упэўнена. Многія, праўда, скептычна ставіліся да іх поспехаў, называлі ігракоў «каліфамі на час». Але два наступныя гады штурму подступаў да п'едэстала мацнейшых паказалі, што мінская каманда мае правa на ўдзел у гэтым штурме.

У чым жа сіла калектыву сёння? Перш за ўсё — ва ўдалым падборы ігракоў, у так званым добрым ансамблі калектыву, у правільным размеркаванні роляў, у захаванні традыцый, выпрацаваных іх папярэднікамі. І сапраўды, калі браць кожнага іграка каманды паасобку, ідэалу футбаліста ў ім не знойдзеш. Напрыклад, Юры Пагальнікаў, Леанард Адамаў, Міхаіл Мустыгін маюць па 162—168 сантыметраў росту і змагацца з рослымі абаронцамі сапернікаў, асабліва за верхнія мячы, ім даволі цяжка. Але імклівасць Л. Адамава, дасканалы дрыблінг М. Мустыгіна, уменне «трымаць мяч» і прадбачлівасць Ю. Пагальнікава ствараюць такую сілу, якая здольна зламаць любую абарону. Калі ж дадаць да гэтага ўменне Эдуарда Малафеева выбіраць месца атакі на вароты праціўніка, узнікае квартэт, які прызнаецца спецыялістамі як адзін з мацнейшых.

Некаторыя гавораць, што Эдуард Зарэмба нетэхнічны, і ў гэтым бадай што ёсць доля праўды. Але самаахвярнасць, выключная пільнасць і ўменне нападаць на саперніка нечакана — якасці, выключна каштоўныя для дасканалага цэнтральнага абаронцы, які дзейнічае на далёкіх подступах абароны. І Зарэмба паспяхова выконвае сваю асноўную задачу — удала разбурае задумы саперніка. Чарга за сябрамі па абароне: яны павінны «падчысціць» пачатае ім і забяспечыць контратаку. Тады ў бой уступаюць паўабаронцы: шматвопытны Іван Мозэр і дакладны Веніямін Арзамасцаў.

Мінскія дынамаўцы — калектыў выключна працаздольны. Прыгадваецца адзін эпізод. Летась мне давялося быць сведкаю трэніроўкі мінчан на тбіліскім стадыёне «Дынама» за дзень да афіцыйнага іх матча з мясцовымі аднаклубнікамі. Паглядзець на сваіх сапернікаў прыйшоў і трэнер тбілісцаў Гаўрыіл Качалін. Ён сядзеў з секундамерам у руках і не мог супакоіцца:

— 25 мінут... 30... Гуляць «у квадрацe», на мяккім грунце, у такім бурным тэмпе і — столькі часу!.. Дзіва, дый годзе!.. Нашы, здаецца, і паловы такога не вытрымаюць!.. — шчыра прызнаўся ён.

Не вытрымалі, праўда, пад канец сезона марафонскай дыстанцыі чэмпіянату і мінчане, і прычына гэтаму — напружаныя кубкавыя матчы і — зусім не ў пару — цяжкая паездка ў Туніс. Мінчанс, каму зноў прадказалі бронзавыя медалі, аказаліся на чацвёртым месцы. Але ці ж гэта не поспех: чацвёртае месца ў чэмпіянаце краіны і выхад у фінал Кубка СССР!

Новы сезон дынамаўцы пачалі крыху пазней, чым звычайна,— 20 студзеня. Прычынай таму была паездка на Цэйлон. Але пачалі сезон з належным для іх запалам. Штодзённыя па многа гадзін трэніроўкі былі насычаны і адпрацоўкай тэхнічных прыёмаў гульні, і спецыяльнай і фізічнай падрыхтоўкай.

Як вядома, у гэтым годзе не будзе працяглых перапынкаў паміж каляндарнымі матчамі, але чэмпіянат, як і раней, будзе марафонскі. Ён пачаўся 10 красавіка, а закончыцца толькі 20 лістапада! Каб прайсці яго ўдала, патрэбен вялікі запас сіл. Апрача таго, членам каманды трэба будзе кампенсаваць выпадзенне з калектыву асноўнай ударнай сілы — цэнтральнага нападаючага Эдуарда Малафеева, які будзе выступаць у складзе зборнай каманды СССР на лонданскім чэмпіянаце свету. Ды і зноў трэба рыхтавацца да кубкавых баталій. 19 ліпеня дынамаўцы Мінска правядуць свой першы матч на Кубак СССР з адной з чатырох каманд: «Будаўнік» (Уфа), «Металург» (Запарожжа), «Рубін» (Казань), «Шырак» (Ленінакан). І калі выйграюць, наступным іх магчымым сапернікам будуць дынамаўцы Масквы.

Хто ж абараняе сёлета гонар мінскага «Дынама»? Асноўны склад каманды ранейшы. Зноў мы ўбачым на зялёным полі Ігара Фралова, Ігара Роміна, Эдуарда Зарэмбу, Івана Савосцікава, Веніяміна Арзамасцава, Івана Мозэра, Леанарда Адамава, Міхаіла Мустыгіна, Юрыя Пагальнікава, Валерыя Яромку, Юрыя Купчыка, Валянціна Калтунова, Яўгена Талейку і другіх. Прыйшло ў каманду і папаўненне: варатары майстар спорту Анатоль Глухотка (былы ігрок ЦСКА) і Аляксандр Прохараў (з гродзенскага «Нёмана»), паўабаронца Васіль Курылаў (з брэсцкага «Спартака»), нападаючыя Рыгор Нагорны (з «Нёмана»), Віталь Каберскі (з ангарскага «Старту») і яшчэ колькі маладых ігракоў. Усе яны паспяхова прайшлі курс «акліматызацыі» ў камандзе і ўліліся ў рады дружнага калектыву дынамаўцаў.



На трэніроўцы ў манежы. Мяч вядзе Міхаіл Мустыгін, за ім — Веніямін Арзамасцаў.

**Дзмітры БОЛДЫРАЎ.**
Фота **В. Бараноўскага.**



Раздзел вядзе міжнародны гросмайстар Аляксей СУЭЦІН

# ЦІ ПАТРЭБНЫ ШАХМАТНЫЯ РЭФОРМЫ?

Мы жывём у «залатую эру» развіцця шахмат: небывалага ўзроўню дасягнула шахматнае майстэрства, сапраўды народнай стала папулярнасць і любоў да шахмат. Нездарма ў нашай краіне шахматы — адна з самых масавых галін спорту, якая аб'ядноўвае ў сваіх шэрагах звыш трох з паловай мільёнаў спартсменаў.

Аўтару гэтых радкоў даводзілася шмат падарожнічаць па нашай краіне, і ўсюды — ці то ў сонечных рэспубліках Закаўказзя, ці ў Сярэдняй Азіі, ці ў гарадах Паволжа, Прыбалтыкі заўсёды хвалюе, здзіўляе і пакідае глыбокае ўражанне бескарыслівая і глыбокая любоў людзей самых розных узростаў і прафесій да шахматнай гульні.

У складзе зборнай краіны і нашай рэспублікі мне даводзілася не аднойчы пабыць і за мяжой. І там шахматы выклікаюць вялікую цікавасць простага люду: сеансы адначасовай гульні праходзяць у прысутнасці мноства балельшчыкаў. Асабліва запомнілася мне Аргенціна, дзе шахматы здавён лічацца народнай гульнёю, і сацыялістычная Югаславія, дзе шахматнаму спорту належыць пачэснае месца як народнай гульні.

Але паколькі шахматы — гульня такая ж і старая, як папулярная, дык ці не настаў час увесці ў парадак гульні змены? Пытанне гэтае ўзнікла не цяпер, у шахматным друку часам з'яўляюцца прапановы наконт гэтага. Большасць аўтараў гэтых прапаноў, на жаль, мае пра шахматы, я б сказаў, вельмі цьмянае ўяўленне. Напрыклад, адзін з іх прапанаваў увесці ў шахматы яшчэ па адной фігуры... мядзведзя.

У шахматным аддзеле газеты «Известия» аднойчы выступіў вядомы гросмайстар Д. Бранштэйн. Чамусьці, зняверыўшыся ў шляхах далейшага развіцця сучасных шахмат, Д. Бранштэйн пачаў клапаціцца пра шахматы... XXI стагоддзя. У той час як усе яго калегі перакананы, што сумесныя творчыя намаганні шахматыстаў зробяць XXI стагоддзе яшчэ больш бліскучым у сэнсе развіцця шахматнай гульні, створаць «брыльянтавую эру» развіцця іх, Д. Бранштэйн надзявае маску скептыка і прапануе «ратаваць» шахматы шляхам увядзення нейкіх надуманых новаўвядзенняў. Напрыклад, дазволіць... ракіраваць фярзя. «...было б разумна падумаць пра надзейнае сховішча для фярзя», — піша ён. Зусім незразумела, чаму трэба хаваць гэтую самую дынамічную і самую атакуючую фігуру, і якраз перад пачаткам бою?

Што яшчэ прапануе Д. Бранштэйн? «Цяпер ідзе барацьба за ачкі, асноўнае наступленне накіравана на фярзя...» — сцвярджае ён. Перш за ўсё напрошваецца пытанне, калі гэта ў шахматах не імкнуліся павялічваць ачкі?! І наогул, пры чым тут адзінка вымярэння, ці не ўсё роўна будуць гэта ачкі, або нулі, або нейкая ўмоўная адзінка? Мне здаецца, што нават самы нявопытны шахматыст не згодзіцца на такое штучнае адхіленне ад гульні. На нашу думку, наадварот, цяпер ідзе наступленне не на фярзя, а іменна пры непасрэднай дапамозе фярзя. Возьмем лепшых шахматыстаў сучаснасці: Петрасяна, Батвінніка, Кераса, Спаскага, Таля, Смыслова, Гелера і другіх, — усе лепшыя іх партыі звязаны з магутнымі прыгожымі атакамі, выключэнне з якіх фярзя наогул немагчыма.

Ды і сам Д. Бранштэйн, як вялікі знаўца камбінацый і атак, да апошняга часу карыстаўся фярзём.

Пытанне, закранутае тут, зусім не дробязнае. Шахматы маюць велізарнейшы вопыт, літаратуру, сваю мову, якая носіць міжнародны характар, свае прынцыпы, а ў апошні час і магчымасць навуковага іх пазнання пры дапамозе электронна-вылічальных машын. Усё гэта набыта на працягу стагоддзяў дзякуючы велізарнай творчай працы пакаленняў, і ўсё гэта, безумоўна, нельга перакрэсліваць.

Шахматы — гэта творчасць народнага генія. Паступова складаліся яны, каб даваць радасць людзям самых розных нацыянальнасцей і культур, аб'ядноўваючы іх інтарэсы. Дасягненні і імкненні нашай лепшай шахматнай моладзі, якая прадаўжае слаўныя традыцыі В. Стэйніца, Э. Ласкера, М. Чыгорына, А. Алёхіна, сведчаць пра неўміручасць, бясконцае багацце і невычэрпнасць непазнаных яшчэ таямніц у шахматах.



Усмешкі маладосці

# ДРОБНЫ КАЛІБР

Бясспрэчныя ісціны банальны, але і банальныя не бясспрэчны.

«Чалавек!» — гэта гучыць горда, пакуль не пачынае заплятацца язык.

У сабакі заўсёды на сэрцы кошкі скрабуць.

Жыў прыпяваючы: кіраваў адразу чатырма харавымі гурткамі.

Усё можа быць двухсэнсавым, нават бяссэнсіца.

З песні слова не выкінеш? А што тады песня без слоў?

Мужчыны ў двары стукалі костачкамі, а жанчыны костачкі перамывалі.

Калі на граніцах дружба? Калі дружба не мае граніц.

Марцін КОЎЗСКІ.

З ЗАМЕЖНАГА ГУМАРУ



Зараз паглядзім, які ў цябе варатар!


Мой муж ніяк не нацешыцца сваім новым воданепранікальным гадзіннікам.




**БРОЎКА Пятрусь.** Народны паэт Беларусі, нарадзіўся ў 1905 годзе ў вёсцы Пуцілкавічы Ушацкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Працаваў на камсамольскай рабоце, у рэдакцыях газет і часопісаў.
Аўтар многіх кніг паэзіі і рамана «Калі зліваюцца рэкі».
Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, член ЦК Кампартыі Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных і Ленінскай прэміі, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.

**МЫСЛІВЕЦ Валянцін** нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Хазянінкі Пухавіцкага раёна. Служыў на флоце ў марскіх пагранічных часцях. Працаваў на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній мадэльшчыкам.
Вучыцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна.
Цяпер літсупрацоўнік рэдакцыі газеты «Чырвоная змена».

**ПЫСІН Аляксей** нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Высокі Бор на Магілёўшчыне. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве і працуе ў рэдакцыі абласной газеты «Магілёўская праўда».
Аўтар кніг «Наш дзень», «Сіні ранак», «Сонечная паводка», «Мае мерыдыяны» і іншых.

**КАНДРУСЕВІЧ Аркадзь** нарадзіўся ў 1929 годзе ў вёсцы Ламачы Хойніцкага раёна. *Закончыў Ленінградскае мастацкае вучылішча.* Цяпер працуе мастаком у рэдакцыі абласной газеты «Магілёўская праўда».
У «Маладосці» выступае ўпершыню.

**СТАВЕР Алесь** нарадзіўся ў 1929 годзе ў вёсцы Маргавіцы на Міншчыне.
Закончыў Мінскі дзяржаўны педінстытут імя А. М. Горкага. Працаваў настаўнікам, рэдактарам у выдавецтве «Беларусь», навуковым супрацоўнікам інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору.
Выйшлі з друку зборнікі вершаў «Золак над Бярозай» (1959) і «Касцёр не гасне» (1961).

**СКАРЫНКІН Уладзімір** нарадзіўся ў 1939 годзе ў Віцебску. Скончыў Рыжскі інстытут грамадзянскай авіяцыі. Працуе інжынерам у аэрапорце.

**АЎСЕЕНКА Мікола** нарадзіўся ў 1932 годзе на хутары Чырвонамаскоўскім Касцюковіцкага раёна. Цяпер жыве ў Касцюковічах, супрацоўнічае ў раённай газеце.

**ГУБЕРНАТАРАЎ Міхась** нарадзіўся ў 1946 годзе ў Касцюковіцкім раёне.
Вучыцца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

## НЕ ЗАБУДЗЬЦЕ ПРАДОЎЖЫЦЬ ПАДПІСКУ НА НАШ ЧАСОПІС.

У другой палове года мы будзем друкаваць раман Івана Навуменкі

## «ВЕЦЕР У СОСНАХ».


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ», № 4**

*Литературно-художественный и общественно-политический ежемесячник*
*На белорусском языке*

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Ігар КРАЎЧАНКА.**
*Карэктары* **Лідзія ТАЎЛАЙ** *і* **Ніна КУЛАКОЎСКАЯ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **93-592** — аддзелы паэзіі і прозы, **93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 1.3.66 г. Падпісана да друку 22.3.66 г.
АТ 08573. Тыраж 8275 экз. Зак. 107. Цана 40 кап. Папера $70 \times 108^1/_{16}$. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі прасп. 79.


**Ю. ПУЧЫНСКІ.**

**З серыі лінагравюр**

**«ДА СВЯТЛА».**

**Апошні волатаўскі ўзмах**
**па тых іржавых ланцугах,—**
**і Сонца здзіўлена асвеціць**
**Зямлю, раскутую ў сусвеце.**

**Валянцін ТАЎЛАЙ.**

